УДК 821.161.3-31/-32
ББК 84(4Беи)-44
К30

**Качаткова, П.**
К30 Гняздо-2 : аповеды і аповесць / Паліна Качаткова. — Мінск : Галіяфы, 2016. — 338 с.
ISBN 978-985-7021-99-4.

У кнізе «Гняздо-2» аб'яднаныя апавяданні 1987–1990 гадоў, тэксты, напісаныя пасля 2012 году, а таксама аповесць «Паэт». Творы Паліны Качатковай у многім містычныя, яны апісваюць таемнае жыццё звычайных людзей, жывёлаў і рэчаў. Гэта містыка гораду, зямлі, вады, холаду. Узнікае пытанне: адкуль аўтарка бярэ сюжэты для творчасці, ці шмат у ёй прыдуманага, калі ўлічыць, што большасць герояў і месцаў выглядаюць досыць рэалістычна?

**УДК 821.161.3-31/-32**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7021-99-4**

# Цень і кароткі дзень

Дні кароткія, мутныя, халодныя. Цемра наплывае вельмі хутка. У такія дні добра пішуцца калядныя апавяданні, а душу грэюць успаміны.

Снежаньскім халодным днём хадзіла па Траецкім прадмесці ў Мінску каля музея Максіма Багдановіча — на галаве чорны капюшон ад байкі «НЕ смяротнаму пакаранню».

Раней у гэты час музей мне нагадваў домік з каляднай паштоўкі.

Ужо сцямнела, і ў некаторых музейных вокнах гарэла святло. У вокнах майго былога кабінета было цёмна.

Уявіла ў музеі свой прывід — цень дваццацігадовай даўніны. Прывіды застаюцца ў тых мясцінах, дзе мы перажывалі самыя моцны эмоцыі — так? Значыць, у музеі павінен жыць мой прывід. Неабавязкова для гэтага паміраць, за дваццаць гадоў чалавек так змяняецца, што ўжо і не пазнаць — ні ўнутрана, ні знешне.

Вось мой цень націскае кнопку званка службовага ўвахода. Адчыняе заўгас, які даўно ляжыць на Кальварыйскіх могілках. Заходжу, бяру ключы ад другога паверха і экспазіцыі. Падымаюся, на электрычным шчытку ўключаю адразу пяць тумблераў — запальваецца святло ва ўсіх пяці залах экспазіцыі. Заходжу. Экспазіцыя на месцы. Я правяраю захаванасць экспанатаў, як тады. Рэчы-рэліквіі, фотаздымкі. Браты Луцкевічы, Ластоўскі, слуцкі пас, Адам Багдановіч, Максім Багдановіч — усё, як было. Цёпла, пахне каваю і старымі кнігамі. З гардэроба па лесвіцы ўздымаецца экскурсія — дзеці.

Хадзіла па горадзе і ў думках парушала правіла: гісторыя не мае ўмоўнага ладу, а адпаведна ўсе раз-

вагі пра тое, «што было б, калі б», — бессэнсоўныя. Думала: ці магчыма было не звальняцца з музея Максіма Багдановіча? Можа, трэба было застацца? Можа, сваёй працай я магла б штосьці змяніць?

Але падзеі дваццаць гадоў таму развіваліся вельмі хутка, любая стабільнасць пачынаецца з нестабільнасці — ішло выцясненне са сферы культуры. Калі сыходзіла, думала, што вярнуся. Цяпер ведаю: не вярнуся. І няхай мой цень нікога не напалохае ў музеі, ён добразычлівы.

І яшчэ адна простая зімовая гісторыя трывожыць мяне... Пачатак 60-х гадоў. Пасля школы мая маці паступіла адразу ў Маскву ва ўніверсітэт, а дзве яе школьныя сяброўкі — не (з імі ўсё было ў парадку, яны паступілі праз год). Але першы год пасля школы яны засталіся ў Оршы. І пазнаёміліся з дактарамі, якія працавалі ў Копысі, ездзілі да іх зімой цягніком. Дактары сустракалі іх на станцыі на санях і везлі ў Копысь праз Дняпро — да цяпла, да печак з кафляй з чырвонай гліны з выявамі коцікаў. І ўсё, толькі гэтая карцінка: цягнік, мароз, сані, Дняпро, печка.

Хвалюе той момант, калі жывое жыццё ператвараецца ва ўспамін, а пасля ўсё знікае. Цяпер тут мост.

1 снежня 2015 года

# Водар свята

17 снежня ў беластоцкім гіпермаркеце жанчына зняла з паліцы маленькае шкляное начынне з надпісам «Водар свята».

Пакруціла ў руках, паспрабавала панюхаць, але абяцаны водар быў надзейна схаваны пад шклом.

Пакуль не набудзеш рэч, не раскрыеш маленькую колбачку, водару свята не адчуеш.

Як уяўляецца свята? Вось так, адразу — не думаючы. Як на каляднай паштоўцы (нездарма ж іх малююць) — дамок пад заснежнымі дрэвамі, у двары жывая ўпрыгожаная ялінка з шарыкамі. На ялінцы мігцяць агеньчыкі. На стале высокія чырвоныя свечкі... Шчырыя размовы, калі можна гаварыць пра ўсё і цябе разумеюць. Радасць. Надзея. Вера ў будучыню. Што яшчэ? Водар свята — пах елкі, мандарынаў, смачнай ежы.

Няўжо гэта ўсё тут — за тонкім шклом? Раскрыеш ці разаб'еш — і водар свята разліецца наўкола, апануе?

Дарэчы, свечкі... Побач з водарам свята на паліцы — шкляныя падсвечнікі, важкія і празрыстыя. Яна ўзяла адзін з іх. Для свята.

Снежаньскія сутонне і змрок — гэта нешта... Як правальваешся ў іх. Сяброўка кажа:

— Там ёсць нейкае абяцанне, у гэтым сутонні і мораку. Гэта голас з казкі ці цуду. А казка і цуд не бываюць добрыя. Нават пра Калабка. Гэта змрок напоўнены нечым, дакладна — чарамі. У змроку абяцанне — часам вельмі падманлівае і небяспечнае. Чары, магія, — няўлоўнае, але вельмі адчувальнае.

І вось чары. Сапраўдныя, прафесійныя.

— Дома ў цябе пустата, — гаварыла варажбітка ў Мінску, у шэрым доме каля кінатэатра «Змена».

Пустэча. Пустка.

Вакол людзі, ад якіх нічога добрага не пачуеш. Стаіш побач — і ўся энергія як пыласосам высмоктваецца. Дарэшты.

Яе ўгаварыла сходзіць да варажбіткі сяброўка, бо мела праблемы з мужам. Спачатку трэба было знайсці адрэсу, а пасля атрымалася, што трэба і схадзіць.

Знайсці адрэсу было прасцей: па панядзелках яна хадзіла ў саўну і басейн з кабетамі, якія былі звязаныя паміж сабой толькі гэтай лазняй — у асноўным прадпрымальніцы.

Але была сярод іх і жонка дэпутата, у мінулым прадавачка ў кнігарні. Цяпер яна не працавала, але ўвесь час шукала сувязі з іншасветам, які мусіў дапамагаць у вырашэнні штодзённых праблемаў, а таксама спрыяць аздараўленню.

Вось у жонкі дэпутата і атрымала кантакты варажбітак, дзве з іх жылі аж у Паўночным пасёлку, і толькі адна бліжэй да цэнтра, калі кінатэатра «Змена». Спачатку яна думала, што місія яе скончыцца толькі адрасам варажбіткі, але сяброўка сказала, што трэба ісці разам.

Гэта як гульня, у якую табе прапанавалі згуляць. Ты можаш адразу адмовіцца. І нічога не будзе. Усё спакойна. Ты можаш нават назіраць, як гуляюць іншыя. Але калі пачаў гуляць, то ці зможаш выйсці з гульні, ці будзеш гуляць да знямогі — ніхто не ведае, нават ты сам не ведаеш, чым скончыцца гульня.

Адмаўлялася спачатку, казала, што адвент, што пост перадкалядны — час утаймоўвання жаданняў і спакусаў. Ісці ў такі час да варажбіткі не варта, нядобра, бо гэта час для роздуму і спасціжэння.

Але пайшла — за кампанію.

Дом у стылі сталінскага ампіру, «сталінка», як пішуць у аб'явах па продажы нерухомасці, кватэра на першым паверсе. Націснулі на званок. З кватэры, як ці то ў фільме, ці то ў казцы, данеслася:

— Адчынена.

За дзвярыма адразу пакой, шчодра аздоблены праваслаўнымі іконамі. У пакоі нікога.

— Праходзьце, — пачуўся голас збоку.

Варажбітка сядзела на кухні. Мажная, з хімічнай завіўкай і засаленымі картамі — класіка жанру.

І вось пачался варажба:

— Дома ў цябе пустата, у душы пустата.

Зразумела. Тут не трэба і варажыць.

Вось яшчэ:

— Дарога...

Гэта таксама не навіна, вядома — трэба ехаць у Беласток.

І недавер да варажбіткі адбіваецца на твары.

І тут навіна:

— Ты паедзеш у горад, у якім нарадзілася. Надоўга. Назаўжды.

— Што? Што я там буду рабіць?

— Жыць.

— Чаму?

— Зоркі так склаліся.

Якія зоркі? Варажылі па картах.

Выйшла ў калідор. Прыйшла чарга сяброўкі.

— Змяні стаўленне да мужа — і ўсё зменіцца, а ўсе праблемы ў вас пачаліся з адной п’янкі, — даносілася з кухні.

— З якой п’янкі?!

— З п’янкі, якая была ў вас дома.

Чакала сяброўку. У вітальні ўжо былі іншыя жанчыны, якія жадалі ведаць сваю будучыню. І быў нават адзін вельмі сумны мужчына з выглядам загнанага аленя.

— Дарма схадзілі, — сказала сяброўка, калі пасля палілі ў халодным парку. — Нічога яна не распавяла.

І вось Беласток, гіпермаркет, на далоні «водар свята». Шкляны падсвечнік. Купіць чырвоныя свечкі — і ў дарогу з водарам свята ў кішэні.

— Мяне там чакаюць. Я прывязу водар свята.

Чэргі на польска-беларускай мяжы. Мытнікі трасуць торбы, узважваюць прадукты. Людзі нервуюцца. Холадна, золка. Мокры снег. Адліга.

Мінск. Чыгуначны вакзал са святочнай ёлкай, шары на ёй грукаюцца адзін аб адзін ад ветру. Толькі што з'ехаў цягнік да горада, дзе яна нарадзілася. Наступны ў чатыры раніцы.

І таксісты:

— Куды едзем, куды едзем?

— Вы туды не возіце, куды я еду.

— А вы скажыце, можа, возім.

Сказала.

— 100 даляраў — і паехалі.

Паехалі. Таксіст нават прапанаваў плед — вось яна, утульнасць. Вось дарога да свята, цяпла і супакою. А водар свята ў кішэні.

Снег. Сасна пры дарозе. Шлагбаум. Назва станцыі — Хорбарава, — ёсць у гэтай назве нейкае трывожнае абяцанне. Але назва толькі на імгненне з'яўляецца ў святле фар. І знікае.

Таксі праязджае чыгуначныя рэйкі, шлагбаум. Да горада, дзе яна нарадзілася, застаецца зусім недалёка.

Назад не павернеш. Назад таксі паедзе без яе, а цёплы плед застанецца на пустым месцы пасажыра. Яна верыць, што наперадзе свята, што праз год можна пасадзіць жывую елку ў двары, што кот будзе спяваць песенькі, вецер хістаць дрэвы каля дома, а ў доме (які яна адрамантуе — абавязкова — а як інакш?!) будзе ўтульна і спакойна. І знікне пустэча ў душы і навокал.

18 снежня 2014 года

# Кватэра № 0

— Ці жывуць тут людзі?

Маладая жанчына адчыніла шырокія, высокія і цяжкія дзверы і ўбачыла Старую жанчыну. З пад'езда пацягнула холадам, якраз у гэты момант нехта заходзіў з вуліцы, а кватэра была на першым паверсе, першай ад увахода.

— ЯК ДОБРА, нарэшце ў гэтай кватэры жывуць людзі, — працягвала Старая жанчына. — Вы жывяце тут? — удакладніла яна.

— Так, я тут жыву.

— Як добра, што вы тут жывяце, але... — яна зрабіла паўзу, як бы падбіраючы словы, — але калі вам раптам... раптам будзе, зробіцца... страшна, вы прыходзьце да мяне. Я Цыля Львоўна, і я жыву паверхам вышэй — у такой жа кватэры, як гэта, як ваша кватэра.

У пад'ездзе зусім холадна, холадна стаяць нават каля адчыненых у кватэру дзвярэй, і Маладая жанчына прапанавала Цылі Львоўне зайсці, але тая адмовілася і пайшла на другі паверх — да сябе.

Маладая жанчына зачыніла дзверы кватэры на першым паверсе. Яна вярнулася да перапыненага занятку — упрыгожвання ялінкі. Быў 1996 год, яна ўпершыню адзначала Каляды ў гэтай кватэры, таму ёй давялося схадзіць у найбліжэйшую ад дома краму (а гэта быў ГУМ), каб набыць ёлачныя цацкі. Шары і дожджык, бліскучы дожджык — вось што яна хацела набыць.

Хацела набыць шары, каб усе былі рознага колеру, і зялёны ці залацісты дожджык. Але шары ў ГУМе прадаваліся толькі ў наборах — аднаколерныя.

Падлічыўшы грошы, яна вырашыла купіць набор срэбных шароў: каб атрымаць рознакаляровыя, яна

мусіла набыць тры розныя наборы, а гэта было нерэальна. І дожджык для ёлкі прадаваўся толькі срэбны. Ад featрзнакаляровага свята давялося адмовіцца — набыла срэбныя шары і срэбны дожджык, хаця хацела штосьці зялёна-фіялетава-сіне-залацістае. Свята будзе срэбным.

Ялінка ўжо стаяла ў пакоі ў трохлітровым слоіку з вадой, пастаўленым у вядро, вядро было прымацавана да паркету скотчам. Ялінка будзе ўпрыгожаная срэбнымі шарамі і срэбным дожджыкам, быццам бы яна так захацела, спланавала, і ніхто не зразумее, што хацела яна зусім іншага.

І ялінка... Ялінка прыехала ў кватэру ў багажніку машыны яе каханка, ці, як кажуць, сябра. Хаця ці можна назваць гэта сяброўствам? Не, сяброўства — зусім іншае. У багажніку былі дзве ялінкі, толькі адна паехала далей — да сям'і яе «сябра».

А адна была занесена ў кватэру. А магло быць наадварот, тая ялінка засталася б ёй, а гэтая паехала б туды...

Думкі былі трохху блытаныя, як заўжды, яна не магла зразумець, чаму ўсё адбываецца так, як адбываецца, і, што галоўнае, — хто ўплывае на тое, каб адбылося так, а не інакш. Ведала, што чалавек, які прывёз ялінку, прыйдзе да яе на свята.

Скажа дома, што паедзе на рыбалку, і з'явіцца ў аблічча зімовага рыбака — са скрыняй, з прыладамі і ў кажуху.

А пасля ад яе сапраўды паедзе на рыбалку, бо зімовая рыбалка для яго — сапраўднае свята.

Людзі па-рознаму адчуваюць сябе ў перадкалядны таямнічы і зіхоткі час.

Хочацца быць гераіняй паштоўкі з бліскучым снегам, маленькай ялінкай і дамком са свечачкай на падваконні. Але ж хто возьме цябе на тую паштоўку?

«Сама сябе ў абдымкі — і на самую любімую паштоўку. Толькі так яно і магчыма, баюся, — так параіла ёй сяброўка. — Трэба ўпрыгожыць ялінку, паставіць свечачкі — і ўлезці ў паштоўку. Пажадана яшчэ паклікаць сяброў, відаць, у ідэале».

Накінула куртку і пайшла выносіць смецце, дом быў стары, пасляваенны, без смеццеправода.

У марозным паветры моцна адчуваўся пах кухні ад рэстарана, што месціўся ў тым жа доме. Тое, што зусім нядаўна было калюжынамі, замерзла і ператварылася ў ледзяную бугрыстую паверхню, быццам бы замерзла хвалістае мора. Ісці па такой ледзяной паверхні трэба асцярожна, каб не паваліцца на лёд.

— Стаяць!

Спынілася. Перад ёй стаяў высокі Мужчына:

— Леанід, — прадставіўся ён.

Каля Леаніда стаяў чорны пудзель.

Яна нахілілася, каб пагладзіць сабаку, і зразумела, што сабака зусім стары — уся барада ў яго была сівая і ён цяжка дыхаў.

— Ці не твае гэта сяброўкі пілі ўчора на пляцоўцы паміж першым і другім паверхам?

— НЕ.

Яна спалохалася такога пачатку размовы.

— Ладна, я жартую. На самай справе я хацеў даведацца, чаму ты жывеш тут, у самым эпіцэнтры Мінска.

— У ЭПІЦЭНТРЫ?

Згадала заняткі па пачатковай ваеннай падрыхтоўцы. І малюнак з ядзерным грыбам.

— А ты нічога не адчуваеш у гэтай кватэры?

— Што я мушу адчуваць?

— Такое... накшталт туману? Туману, які ахутвае цябе... Як ты спіш? Жахі сняцца?

Яна шмат працавала апошнім часам і практычна не думала ні пра што, апрача працы і грошай, якія мож-

на зарабіць працай. Часам думала пра свой лёс і пустую долю, але пра гэта — усё менш і менш. Стомленая, ледзь даходзіла да сваёй новай цёмна-чырвонай канапы (нізкай, амаль упоравень з падлогай), валілася і засынала. Ці былі жахлівыя сны і трызненні? Хто яго ведае, былі — не былі. Рэчаіснасць была як трызненне. Але яе сяброўка, якая заначавала ў яе аднойчы пасля карпаратыву, падхапілася пад раніцу з лямантам: «Як ты тут жывеш!» і стала ліхаманкава збірацца дадому, дзе яе чакалі муж і дзеці. Заявіла, што ўсю ноч яе нехта душыў. Але гэта больш падобна да гісторыі пра посталкагольнае пачуццё віны і прадчуванне сямейнага скандалу.

— Пакажы мне сваю кватэру, — запатрабаваў Леанід.

І яна, як загіпнатызаваная, павяла яго за сабой, за імі пайшоў і стары чорны пудзель.

Не паспелі яны пераступіць парог, як ён рэзка схапіў яе і пацягнуў да сябе.

— Вы што?

Выкручвалася ад яго як магла.

— Ты яшчэ не ведаеш, хто я на самай справе, — казаў ён ёй.

— Якая мне розніца?

— Леанід! Леанід! — пачуўся з панадворку жаночы голас.

На кухні завыў, падаў голас чорны пудзель.

— Ідзіце, вас ужо жонка шукае.

— Я яшчэ адпомшчу табе, — паабяцаў ён і выйшаў за дзверы разам з пудзелем.

Напусціла глыбокую чыгунную ванну, залезла ў гарачую ваду і глядзела, як на руках і ўсім целе праяўляюцца сінякі. Пасля дайшла да канапы і правалілася ў сон. Быў вечар, яшчэ не позна, а яна заснула.

Абуджэнне было нечаканым, прачнулася ад таго, што адчула нечую прысутнасць. Дакладней, не прысутнасць, а так — пах мужчынскай парфумы.

Рэзкі пах адэкалону, чужога, незнаёмага, але... Так пахла ад ветэранаў, якім яны ў школе на 9 Мая дарылі кветкі. І яшчэ пах тытуню. Пах быў, быццам побач знаходзіўся чалавек. Яна падскочыла. Нікога не было. Зусім нікога. Адна ў кватэры.

Закруціўшыся ў халат, з ключамі ў руках — у стылы пад'езд і да суседкі.

Яе быццам чакалі ў гэтым невялікім пакоі з пустым акварыумам, з адшліфаванымі морам каменьчыкамі і сухой марской зоркай — дыскападобнае цела, да якога прымацаваныя пяць промняў-рук.

— Ад мужа застаўся акварыум... Ён вельмі любіў акварыумы. Гэта апошні, астатнія аддала ў дзіцячы дом. Ведаеце, да вайны я працавала ў дзіцячым доме, не тут, не ў Мінску, у Гомелі, мы паспелі эвакуявацца разам з дзецьмі. Калі збіралі дзіцячы эшалон, начальства казала, што прадукты браць не трэба, што ўсё дададуць «на месцы»... Яны яшчэ шмат чаго казалі і абяцалі, але сэнс усіх прамоваў быў у тым, што прадукты не трэба браць з сабой, што дзяржава паклапоціцца...

Я была маладая, але здолела дамагчыся таго, што ў наш вагон далі прадукты. Мы доўга ехалі, ні на якім «месцы» нам нічога не далі, і з нашага вагона карміўся ўвесь эшалон.

Я працавала з наймалодшымі дзецьмі. Мы іх вучылі па сістэме Фрыдрыха Фрэбеля.

— Па гэтай сістэме выхоўвала сваіх дзяцей Марыя Апанасаўна Багдановіч, маці паэта.

— Сістэма была моднай і да вайны, яе практыкавалі і ў нашым дзіцячым доме, а пасля... Усе сістэмы зніклі і засталася адна савецкая педагогіка.

— Я прыйшла, бо вы сказалі прыйсці, калі будзе страшна. Я сапраўды адчула нешта такое... Мне стала страшна. Чаму вы спыталі, ці жывуць тут людзі, калі прыйшлі да мяне. Гэта кватэра нумар адзін, хіба ў ёй не жылі людзі?

— Што вы адчулі?

— Пахі... Пах мужчынскай парфумы, якога не павінна было быць. Рэзкі пах мужчынскага адэкалону і тытуню.

— Так, так, як раней казалі, мужчына мусіць быць чыста паголены і крыху п'яны.

— Наконт «п'яны» я не ўпэўненая. Але пах быў, быццам бы чалавек побач, а нікога не было.

Сухая марская зорка ў акварыуме на імгненне нагадала калядную зорку, але толькі на імгненне. І яна згадала, што некаторыя віды марскіх зорак выварочваюць свой страўнік вонкі, каб ахутваць і пераварваць ахвяру-малюска.

— Гэта кватэра... можна сказаць, што гэта кватэра нумар нуль, нумар адзін на ёй з'явіўся якраз перад тым, як вы з'явіліся ў гэтай кватэры.

— Кватэра нумар нуль?

— Так, былі такія кватэры... дзе людзі, якія супрацоўнічалі з КДБ, сустракаліся са сваімі куратарамі.

— У кватэрах? Навошта?

— Для таго, каб ніхто не заўважыў. Чалавек сярод белага дня не заходзіў у будынак КДБ, а паварочваў у арку, забягаў у пад'езд і — шмыг у першыя ж дзверы. Ці мала хто да каго ідзе, можа ў госці, можа па справах.

— Так, па справах.

— І гэта кватэра была менавіта такая, пакуль не з'явіліся вы, і ведаеце што, я зраблю вам падарунак.

— Ой, што вы, што вы, не турбуйцеся.

— А гэта і не зусім мае падарункі, гэта дарункі ад Фрыдрыха Фрэбеля. Для развіцця дзіцяці ў самым раннім веку Фрэбель прапанаваў шэсць «дарункаў». Першым з'яўляюцца мячыкі.

— А для чаго яны, мячыкі?

— Каб выхавацель мог паказваць дзіцёнку мячыкі рознага колеру, развіваючы такім чынам яго здольнасць адрозніваць колеры. Разгойдваючы шарык у розныя бакі і прыгаворваючы «наперад-назад», «угаруўніз», «направа-налева», выхавацель знаёміць дзіця з прасторавымі ўяўленнямі. Паказваючы шарык на далоні і хаваючы яго, прыгаворваючы пры гэтым: «ёсць мячык — няма мячыка», знаёміць дзіця са сцвярджэннем і адмаўленнем.

Суседка працягнула ёй невялікія мяккія ваўняныя мячыкі, пафарбаваныя ў розныя колеры — чырвоны, памаранчавы, жоўты, зялёны, сіні, фіялетавы (гэта значыць колеры вясёлкі) і белы. Кожны мячык-шар — на матузку.

Яшчэ з лесвіцы яна ўбачыла, што каля яе кватэры стаіць чалавек у зімовым строі рыбака са скрыняй з прыладамі і пакункам з прадуктамі. Быццам бы нічога не змянілася, усё, як запланавалі.

22 снежня 2012 года

# Школа № 26

*Маньяк у доме «Палітпроса»*

«Дом палітпроса» — дом палітычнай асветы, скарочаны варыянт ад расейскага «дом политпросвещения». У часы развітога сацыялізму, якія пасля былі названыя часамі застою, кожныя два тыдні ў Гомелі нас са школы па вечарах вадзілі ў абавязковым парадку ў Дом палітпроса — на лекцыі пра міжнароднае становішча. Доўгімі восеньскімі вечарамі туды ж заганялі яшчэ шмат дзяцей з іншых гарадскіх школ. Зала вялікая, крэслы чырвоныя, мяккія. Лекцыі найнуднейшыя — пра сіянізм, пра амерыканскую ваеншчыну і барацьбу за мір у СССР. Чыталі лекцыі памятыя дзядзечкі з трыбуны — мала што разабраць было. І слухаць нецікава — тады прамовы з такім зместам ліліся з радыё, з тэлебачання, з газеты «Правда», якую нам даводзілася чытаць, рыхтуючыся да штотыднёвых палітінфармацый у класе. Быў набор словаў, які прагаворваўся як бы міма свядомасці, але... відаць, трапляў у падсвядомасць. Шум, ідэалагічны шум.

І вось у Доме палітпроса завёўся маньяк. Сэксуальны вычварэнец. Педафіл, якога вабілі дзяўчаты-падлеткі. Уваход у Дом палітычнай асветы быў бясплатны і не надта кантраляваўся. І маньяк даведаўся пра такую зручную пляцоўку, дзе шмат дзяўчат без бацькоў. І пачалося... Маньяк адсочваў ахвяру, ціхенька-спакойненька сядаў за спінай дзяўчынкі. І як толькі лектар пачынаў нудзець пра сіянізм і агрэсію, маньяк нахіляўся над вухам дзяўчынкі і пачынаў нашэптваць непрыстойнасці з назвамі ўсіх органаў і дзеянняў. Ахвяра сядзела ў мяккім крэсле паралізаваная ад немаг-

чымасці нічога зрабіць. Лекцыя заканчвалася, маньяк сыходзіў. І мы ведалі, што кожны раз падчас лекцыі маньяк будзе ў зале. Паскардзіцца настаўнікам немагчыма, бо нават не ведалі, як сфармуляваць.

Маньяк быў брыдкі і даставучы. Але мы яго перамаглі. Перамога з'явілася вынікам супольных дзеянняў. Не памятаю, хто прыдумаў. Але ідэя была геніяльная: аб'ядноўвацца ў группы, глядзець на маньяка ва ўпор і абгаворваць яго, абсмейваць, перамагаючы страх. І гэтая публічнасць маньяка даканала — ён не здолеў быць аб'ектам кпінаў і знік з далягляду, прынамсі ў той дзень, калі прыходзіла на палітасвету наша школа № 26.

Цяпер ніяк не магу зразумець настальгіі па СССР, асабліва ў маладых людей, якія настальгуюць па тым, чаго не ведаюць, а калі нешта памятаюць — то пламбір па 20 капеек ды газіроўку па 3 капейкі. Згадваю доўгія нудныя прамовы, поўныя нянавісці да ўсяго свету, хлусню, аднастайнасць жыцця ды яшчэ шмат чаго брыдкага. Саветызацыя — гэта зло, адназначна.

*Ганаровая варта*

На 9 Мая ў Гомелі падчас параду ветэранаў мы стаялі ў гольфах і з белымі бантамі ў ганаровай варце каля помніка Леніну на плошчы, насупраць тэатра. А на 11 верасня ў нас была варта каля помніка Дзяржынскаму, насупраць КДБ, бо наша піянерская дружына была названая ў гонар Дзяржынскага.

Аднойчы пачалася бура: дождж, вецер, галюкі з дрэваў паляцелі. А класная не ведала, што рабіць. Так мы і стаялі пад дажджом. Тады з будынка выскачыў «рыцар з гарачым сэрцам» і спрабаваў зняць нас з варты.

Але мы не сышлі. Ён пабег да настаўніцы, каб паслалі наступную змену — і толькі тады мы пакінулі пост. Пасля нас, мокрых, завялі ў КДБ — паказалі музей, гарбатай напаілі.

Яшчэ ў Гомелі нас ставілі на «Почётный пост № 1», каля Вечнага агню. На тыдзень здымалі з урокаў, выдавалі паўвайсковую форму і муляжы аўтаматаў. Кармілі ў кавярні «Залатая рыбка». Там кіраваў маёр — тады яшчэ рэальны ветэран (быў 1982 год). Маёр паходзіў з Расіі і вучыў нас клятве з «оканнем»: «У Огня (націск на О) и Гранита ЮнОрмеец стОит, нет, ничто не забытО и никто не забыт! С гОлОвами пОникшими над Отцами пОгибшими станем мы...» Як мы рагаталі з гэтага вымаўлення. А потым апагей: «То, что Отцы не доделали, мы дОделаем». Апошнюю фразу мы проста не маглі паўтарыць без рогату, і працэдура падрыхтоўкі прыняцця прысягі працягвалася — у двары кінатэатра Калініна, за Вечным агнём. І яшчэ — казалі, што выбіраюць выдатнікаў на «Почётный пост № 1», а гэта была няпраўда — выбіралі тых, у каго ногі доўгія і роўныя. Ваенрук ішоў, глядзеў на ногі і казаў: «Ты, ты і ты!»

А яшчэ мы верылі ў піянераў-герояў, і шмат размаўлялі пра тое, што рабіць, калі пачнецца вайна. «А ты вытрымаеш, калі табе пілой будуць пазваночнік пілаваць? А калі зорку выразаць на спіне? А рукі ў агонь?» Быць аблітым ледзяной вадой на марозе здавался літасцю ад ворага ў параўнанні з іншымі відамі катаванняў. Як іх вытрымаць? Як не выдаць таварышаў? І выйсце бачылі адно: суіцыд, каб не стаць здраднікамі пры катаваннях.

*Экран непаспяховасці*

Даведалася, што гомельская школа, якую я скончыла, святкуе нешта накшталт юбілею — 55 гадоў. Значыць, дзверы свае для навучання школа адчыніла ў 1960 годзе. Яшчэ даведалася, што збіраюць кантакты залатых медалістаў, якія скончылі школу. Напэўна, каб запрасіць на ўрачыстасць. Паспрабавала падлічыць прыкладную колькасць медалістаў за гэты час, атрымалася дастаткова шмат — больш за 300 (хаця, можа, я памыляюся, з матэматыкай заўсёды былі нелады).

У дзясятым класе я і дзве сяброўкі патрапілі на «Экран паспяховасці», а ў нашым выпадку — на «Экран непаспяховасці», які меў падзагаловак «Как успевают неуспевающие».

«Успевают» — у сэнсе вучацца, рухаюцца да школьнага поспеху ў належным тэмпе. «Не успевают» — спазняюцца, адстаюць на шляху да мэты, гальмуюць на лесвіцы паспяховасці, выбудаванай савецкай сістэмай адукацыі.

Экран — дошка насупраць настаўніцкай, каля кабінета біялогіі.

На экране непаспяховасці нашы прозвішчы з'явіліся, бо ў выпускным 10-м класе мы мелі двойкі ў чвэрцях па алгебры і геаметрыі. А гэта значыла, што быў шанц скончыць школу не з атэстатам, а з «даведкай», якая закрыла б усе жыццёвыя перспектывы.

На экран «Как успевают неуспевающие» пераносіліся ўсе нашы адзнакі — не толькі па тых прадметах, па якіх мы «не паспявалі», але і па ўсіх астатніх. На экране можа было пабачыць усе адзнакі, якія мы атрымлівалі штодня па ўсіх прадметах — разам з фізкультурай і вайсковай падрыхтоўкай.

У чым быў сэнс экрана непаспяховасці і хто яго выдумаў? Не ведаю дагэтуль і наўрад ці даведаюся.

На юбілеі школы двоечнікаў не збіраюць, факт.

А «Дошкі ганьбы» пры СССР былі значна цікавейшымі за «Дошкі гонару» і выклікалі больш рэфлексій.

*Дзіцячы працоўны лагер*

У вёску Рудня Шлягіна, якая ўжо не існуе пасля чарнобыльскай катастрофы, нас везлі з Гомеля спачатку па рацэ — па Сажы на ракетах — «падводных крылах». Пасля на грузавіках. Калі прывезлі, патлумачылі, што ў нас быў спецрэйс, а так сюды толькі на самалётах-кукурузніках можна даляцець, таму бацькоў не варта чакаць у госці падчас працоўнага лагера.

Нам было па 13 гадоў. Мы палолі моркву. Капаніцамі капанічылі траву і выдзіралі рукамі.

Мы жылі ў былой царкве, дакладней капліцы, якая стаяла пры могілках. Справа ад царквы былі могілкі з крыжамі. На крыжах — белыя вышытыя ручнікі. Яны варушыліся ўначы пад ветрам. У 1981 годзе я, страшна далёкая ад народнай культуры, была ўпэўненая (і не толькі я), што ручнікі адмыслова навязалі на крыжы, каб палохаць нас, каб страшна было ісці ў прыбіральню ноччу. А прыбіральня была, нават не ведаю як сказаць… збоку, каля… могілак, але яна была практычна на саміх могілках.

Каля ўвахода ў царкву была яшчэ адна асобная магілка — за агароджай. Мне мясцовая дзяўчынка патлумачыла, што тут падчас вайны чалавека бомбай забіла. І так забіла, што пахаваць тое, што засталося, давялося тут, адразу на месцы. Пахавала адна добрая жанчына, якая і да гэтага часу даглядае (на момант 1981 года).

З мясцовых жыхароў я закантактавала з адной дзяўчынай, якая размаўляла быццам бы па-руску (яна так сама думала), але так, што я не ўсе словы разумела. Яна паведаміла мне ўрачыста, што ў іх школе ёсць настаўнік, які «говорыць толькі па-беларуску» і так «смешна». І, магчыма, ён нават паэт. Хто б гэта мог быць? Хто гэты беларускі паэт? Хто гэты адважны чалавек сярод балот? Падумайце — вёска Рудня Шлягіна, 1981–1982. Хто з адраджэнцаў апошняй хвалі там настаўнічаў?

Па начах мясцовыя лезлі ў вокны царквы, як героі «Вія». Мы спрабавалі бараніцца. Пад канец працоўнай змены ўсе вокны нашай капліцы былі забіты дошкамі. Шкла не было ўжо.

Увесь гэты час з намі была класная — выкладчыца ангельскай мовы. Спала яна таксама з намі ў адным памяшканні. Па начах я класную палохала: прапаноўвала ўявіць, што яе раскладушка стаіць якраз на тым месцы, дзе ў царкве ставілі труну. І, відаць, так яно і было. Класная вішчала, падскоквала і спрабавала перасунуць раскладушку. Марна.

А калі падумаць — у нас маглі быць і летнія моўныя курсы. А маглі б вывучыць мову, ці нават мовы — беларускую і ангельскую. Вёска Рудня Шлягіна стала ахвярай глабальнай тэхнагеннай кастрофы СССР. І ангельскую мову з нашага класа ведаюць толькі тыя, хто з'ехаў за мяжу. А такіх у нас шмат. Дырэктар нашай школы — фізік Раальд Зянонавіч Грахоўскі — памёр ад анкалогіі, вярнуўшыся пасля працоўнага дзіцячага лагера, які адбыўся адразу пасля красавіка 1986 года.

Навошта гэта было? Хто прыдумаў дзіцячыя працоўныя лагеры, падобныя на «хімію»? Не разумею настальгіі па СССР.

А ў інтэрнэце ў інфармацыі пра жыхароў вёскі Рудня Шлягіна напісана: «2010 год — жителей нет».

*Урок за зялёнай фіранкай*

Лічылася, што ў школе, у якой мы вучыліся (а было гэта ў Гомелі на вуліцы Савецкай), — добры матэматык.

Урок алгебры ў нас пачынаўся наступным чынам: клас дзяліўся на два варыянты, кожны варыянт атрымліваў сваю задачу. Адначасова настаўнік выклікаў двух вучняў да дошкі, яны таксама атрымлівалі ўмовы тых жа задачаў. Вучні станавіліся з двух бакоў дошкі, а настаўнік, як кулісай у тэатры, захінаў іх светла-зялёнай фіранкай.

Часам да дошкі даводзілася выходзіць і мне. Так я апыналася за зялёнай фіранкай з аркушыкам паперы — з умовай задачы і белай крэйдай у руцэ. Упэўненымі рухамі з націскам запісвала ўмовы задачы на дошцы. Напрыканцы ставіла дзве паралельныя рыскі — раўняецца...

І ўсё. Ужо адпачатку, калі запісвала ўмовы задачы, я ведала, што мне яе не рашыць, бо зусім і абсалютна нічога не разумела ў алгебры. І ўсе гэта ведалі. Але мусіла заставацца за фіранкай і чакаць, калі выпрабаванне скончыцца.

Звонку, за фіранкай, дыхаў, перашэптваўся клас, — там хтосьці ведаў, як рашыць задачу, а нехта — не.

За зялёнай фіранкай, калі паглядзець угору, можна было бачыць над дошкай толькі партрэт матэматыка Лабачэўскага — вельмі падобнага на паэта Блока.

Час сыходзіў, і настаўнік адшморгваў фіранку, я заставалася стаяць перад усімі з нявырашанай задачай — толькі дзве рыскі пасля. Ніхто і не чакаў ад мяне іншага. Фінал быў вядомы адпачатку.

У класны журнал настаўнік ставіў мне кропку, аналаг самай нізкай адзнакі — адзінкі. Меркавалася, што здольная буду выправіць кропку на іншую адзнаку.

Можна спытаць — як я вучылася? Як скончыла школу? Мне дапамагла Каця — сяброўка-выдатніца і шахматыстка, з якой мы сядзелі за адной партай. Гэта Каця рашала за мяне задачы ў тых выпадках, калі гэта было магчыма — не за зялёнай фіранкай. На выпускных іспытах Каця зрабіла і свой, і мой варыянт кантрольнай. Толькі дзякуючы сяброўцы я атрымала атэстат і скончыла школу.

Калі віншавала Кацю з новым 2015 годам, сказала: «Жадаю паспяховага рашэння жыццёвых задач».

— Як ты сфармулявала! — адказала Каця.

І... у прынцыпе, тэкст не толькі пра жахі школьнага жыцця, гэта аптымістычны тэкст. Бо калі сам нечага не можаш і не ведаеш, то заўсёды ёсць той, хто ведае і дапаможа.

Жыццё штодня ставіць перад намі розныя задачы. І часам здаецца, што яны невырашальныя. Але гэта не так. Кожная задача мае сваё рашэнне. Калі мы рашэння не ведаем, тое зусім не значыць, што яго не існуе.

*Размаляваныя кнігі: злачынствы і пакаранні*

Тата аддаў мне кнігу — біяграфію Чэзарэ Бекарыа — гуманіста, які ў XVIII стагоддзі абгрунтаваў абсурднасць, неэфектыўнасць і непатрэбнасць смяротнага пакарання. Разгарнула кнігу, а яна ўся ўсярэдзіне пакрэсленая алоўкам, аж да дзірак. Падумала, што кніга была набыта ў букіністыцы, але ж не — тата сказаў, што кніга стала такой пасля таго, як ён даваў яе студэнтцы, якая пісала дыплом па Бекарыа (даўно-даўно, калі інтэрнэту яшчэ не было). Як можна не баяцца пакрэсліць кнігу, якую даў выкладчык, і вярнуць яму

ў такім выглядзе? Зразумець не магу. Адважныя і нахабныя палескія студэнткі былі ў часы позняга СССР.

Дарэчы, праца Бекарыа называецца «Пра злачынствы і пакаранні». Размаляваная кніга засталася злачынствам без пакарання.

У 1975 годзе, калі я вучылася ў 1 «Б» класе сярэдняй школы № 26 г. Гомеля, у аднаго вучня ў хрэстаматыі для чытання настаўніца знайшла размаляваную выяву маленькага Леніна — Валодзі Ульянава. У маленькага Валодзі-анёльчыка былі намаляваныя чорныя рогі, барада і асліныя вушы. Настаўніца пачала правяраць кнігі ўсяго класа і — жах-жах-жах — знайшліся яшчэ чатыры кнігі, у якіх маленькі Ленін быў з рагамі. Кнігі былі не бібліятэчныя — у першы клас мы пайшлі з падручнікамі, набытымі асабіста. Наша першая настаўніца — вельмі добры педагог і чалавек. Ветэран Другой сусветнай вайны, на правай руцэ мела татуіроўку «Жэня» з росчыркам — я як цяпер памятаю гэтую руку, якая ставіць мне ў дзённік адзнаку. Настаўніца выходзіла часам з урока, каб пакурыць «Беламор» у прыбіральні для дзяўчынак малодшых класаў. Але ці можна было ў той час заплюшчыць вочы на сапсаваныя чытанкі і апаганенага Леніна? Нельга. І тут такая сітуацыя — у першым класе апаганілі Леніна. Была створаная мінілледчая камісія, выкліканы дырэктар. Вінаватыя плакалі, а іх пыталі: хто першым пачаў, хто навучыў размалёўваць маленькага Леніна, маляваць рогі? Увесь клас быў сведкам разбіральніцтва. І цяпер памятаю прозвішча таго, хто першым намаляваў Леніну рогі ў нашым класе, — ён прызнаўся. Чаму размаляваў менавіта Леніна — засталося невядома. Не памятаю, якім было пакаранне. Але кнігі больш не размалёўвалі.

Нядаўна маладая сяброўка-сацыёлаг сказала, што не ўспрымае кнігу як прадмет, як каштоўнасць, а толь-

кі як тэкст. Шмат думаю апошнім часам, што кніга як рэч усё адно застанецца, але як прадмет раскошы.

*Камсамольскі білет і красоўкі*

У 1983 годзе ў Гомелі на вуліцы Кожара ў доўгім доме, які называлі «Кітайская сцяна», адчынілі новую краму — спартыўныя тавары. Падчас адкрыцця я праходзіла побач; ішла ў кінатэатр «Юбілейны», зайшла ў новую краму, і — цуд — там прадавалі красоўкі! Бела-чырвоныя. Купіць красоўкі было рэальна, але грошай з сабою не мела. Пасля фільма зайшла дахаты — узяла грошы ў бацькоў, прыйшла ў краму — красовак ужо не было. У мяне характар такі, што ўвесь час на нешта нерэальнае спадзяюся — на працягу года хадзіла ў тую краму, чакала, што зноў будуць красоўкі. Марна.

У 1984 годзе тата паехаў на працу ў Славакію ў горад Нітру. На вясновыя канікулы мы з мамай сабраліся да яго ў госці. Мне афармлі замежны пашпарт, савецкі здалі ў АВІР. І перад самым ад'ездам даведаліся: камсамольскі білет трэба таксама пакінуць на тэрыторыі СССР, здаць яго ў Гомельскі абкам камсамола, у сейф. У абкамаўскім кабінеце з сейфам высветлілася, што камсамольскі білет нельга здаць так проста: няма пячаткі — адзнакі пра сплачаныя ўнёскі. Унёскі па 2 капейкі, плацілі іх кожны месяц, але пячаткі ставілі звычайна пасля, адразу за некалькі месяцаў. А ўжо вечар. Мы тэлефанавалі ў школу. Сейф з пячаткай пра выплату ўнёскаў знаходзіўся ў піянерскім пакоі. Выклікалі школьную піянерважатую, штампавалі білет, я зноў бегла ў абкам камсамола — і здавала камсамольскі білет з пячаткамі. Камсамольскі білет зачынілі ў сейфе, а мы паехалі ў Славакію.

Ехалі праз Чоп. Памятаю дэталі начнога пераезду праз мяжу — таямнічая малазразумелая змена колаў у вагонах. Мне здавалася вельмі важным адчуць сам пераход — з адной рэальнасці ў другую, той момант, калі заканчваецца наша краіна і пачынаецца іншая. Іншая краіна як іншая планета. Зыркія пражэктары, узараная зямля на нейтральнай паласе. І вось наш вагон на новых колах коціцца праз цемру, але цемра гэта ўжо не наша — іншая. Замежжа.

Нітра ўразіла — замкам, апельсінавым сокам, касцёлам, дзе стаялі на каленях людзі. І крамай, у якой мне адразу купілі дзве пары красовак — без чаргі ды блату.

Не памятаю, як вярталі камсамольскі білет пасля прыезду. Эпізод сцёрты з памяці, але вярнулі — факт.

У лютым 1991 года ў Вільні каля будынка парламента пабачыла слуп, на якім цвікамі былі прыбітыя камсамольскія і партыйныя білеты — так людзі развіталіся з важнымі дакументамі савецкага часу, з савецкім мінулым. У Вільні мы былі ў камадзіроўцы — працавалі ў архіве, жылі недалёка ад парламента. Некалькі дзён падыходзіла да гэтага слупа, думала, ці не прыбіць і свой камсамольскі білет — ён быў са мною. Вырашыла не прыбіваць, пачакаць, зрабіць гэта ў Беларусі, калі прыйдзе час. Час прыйшоў, не было такога слупа. Камсамольскі білет дагэтуль у мяне.

2014–2015

# Каляровы дзень

Дзяўчынка выйшла з дому, спусцілася з заснежанага пагорка, падышла да ракі.

Левы бераг быў вышэйшы за правы... Пэўна, раней — у далёкія часы — рака была большая і той пагорак, па якім ішла дзяўчынка, быў дном ракі. А дом, у якім жыла дзяўчынка, месціўся ў былым рэчышчы ракі.

Свяціла сонейка. Снег на пагорку блішчэў, зіхацеў, але дзяўчынку вабіў зялёны лёд і тое, што пад ільдом.

Праз зялёны лёд, які здаваўся празрыстым, яна спрабавала разгледзець жыццё ў вадзе — рыб і водарасці, але нічога не бачыла, толькі адчувала плынь пад лёдам.

Лёд без снегу, і тонкі, бо недалёка з трубы выцякала гарачая вада. Адкуль яна цякла, ніхто не ведаў. Санстанцыя рабіла спробы высветліць — па ўсіх заводах і фабрыках горада прайшлі супрацоўнікі станцыі і непрыкметна закінулі фарбавальнікі розных колераў: чырвоныя, зялёныя, сінія, жоўтыя і нават чорныя.

Па колеры вады, якая пойдзе з трубы, хацелі даведацца, хто злівае гэта ў раку. Але вада з трубы палілася рознакаляровая — то жоўтая, то сіняя, то малінавая, то фіялетавая. Значыць, усе карысталіся трубой.

Дзяўчынка ведала пра санстанцыю, бо там працавала яе бабуля. Дзяўчынка хадзіла разам з бабуляй па школах і дзіцячых садках, дзе бабуля адмысловым апаратам рабіла «замер святла». Аднойчы правяраць святло прышлі ў дом дзіцяці, і там дзяўчынка ўбачыла пакінутых дзяцей, пра якіх ёй патлумачылі: «Калі яны падгадуюцца, адвязуць у дзіцячы дом».

Ведала дзяўчынка і пра слоік з матылямі, які знайшлі ноччу на чыгуначным вакзале. І ніхто не ведаў, што рабіць з тым слоікам і з матылямі.

Гаварылі, што, магчыма, дыверсія, што слоік мог быць прывезены на цягніку Берлін–Масква, што матылі са слоіка прынеслі з сабой нябачаную дагэтуль пошасць.

Слоік спачатку збіраліся везці ў Маскву, а пасля перадумалі, бо, можа, менавіта гэта частка хітрага плана дыверсантаў: каб у руках супрацоўнікаў санстанцыі слоік з белымі матылямі трапіў у Маскву, дзе шмат людзей. Размовы пра пошасных матылёў у слоіку ішлі доўга, а чым скончылася справа — таямніца. Можа, нават дзяржаўная таямніца. Яшчэ яна ведала пра мышэй, якія залазяць у пустыя піўныя бутэлькі на бровары... І яшчэ шмат такога ўсяго ведала.

А падзяліцца сваімі ведамі не было з кім. Дзяўчынка марыла пра сяброўку.

Ва ўсіх кнігах, што ёй чыталі, ва ўсіх дзяўчынак былі сяброўкі. А на іх вуліцы, якая спускалася да ракі і называлася «вуліца Касманаўтаў», дзеці не жылі.

У доме ўжо ўпрыгожылі ялінку розныя, самыя розныя цацкі: на ніжніх галінках цяжкія нямецкія шышкі — важкія, зялёна-ружовыя, а на верхніх галінках шары, якія свецяцца, калі ў пакоі выключыць святло. І яшчэ — празрыстыя шары, яны падобныя на мыльныя і здаюцца вельмі крохкімі — страшна ў рукі ўзяць, але насамрэч яны з тоўстага шкла, толькі шкло гэтае празрыстае. І яшчэ — жабкі, Дзяды Марозы, касманаўты, парашутысты...

На Новы год да дзяўчынкі ў госці прыехалі тата і мама. І дзяўчынка была вельмі радая...

Дзяўчынка паспрабавала прылегчы на лёд, наблізіла твар да зялёнай паверхні. Штосьці быццам пачала бачыць і тут пачула голас — яе клікаў тата.

Дзяўчынка хутка падхапілася — было важна, каб ніхто не заўважыў яе на лёдзе.

Падбегла да таты. Ён стаяў ля брамкі, што выходзіла на бераг, і трымаў у руках памаранчавы цацачны шрубалёт. Гэта цацка такая — калі шморгнеш за матузок, шрубалёт зрываецца і ляціць — амаль як сапраўдны. І дастаткова далёка ляціць.

Дзяўчынка запусціла шрубалёт, і ён паляцеў... паляцеў... і сеў на лёд.

Дзяўчынка пабегла да ракі, але тата спыніў:

— Не трэба, я сам. Табе нельга на лёд.

Ён асцярожна спусціўся на лёд і ўзяў памаранчавую цацку. Дзяўчынка стаяла, чакала тату.

— Чаму мне нельга на лёд? — спытала, калі тата вярнуўся.

— Бо можна праваліцца. А гэта самае страшнае. Ты ведаеш, што бывае з тымі, хто праваліцца пад лёд?

— Не... Што?..

— Чалавека пад лёд зацягвае, ён б'ецца знізу галавой, але лёд не прабіваецца, яго цягне далей, і чалавек задыхаецца.

Яны пайшлі ў дом. Дзяўчынка з'ела пару мандарынаў пад ялінкай, пагуляла з коцікам і зноў пайшла на бераг. Сонца ўсё яшчэ свяціла, снег блішчэў, лёд вабіў. Але нешта змянілася. На беразе з'явіўся чалавек.

Каля трубы, з якой выцякала гарачая вада, стаяла незнаёмая дзяўчынка ў зялёнай вязанай шапачцы і з белымі валасамі да плеч. Стаяла і глядзела на каляровую ваду.

Над гарачай вадой уздымалася пара. Дзяўчынка падышла да незнаёмай і стала побач. Доўга яны стаялі моўчкі і глядзелі ў каляровую брыдкую ваду. Пасля дзяўчынка спыталася:

— Як тваё імя?

— Юля.

Яна сказала, што яе бацькі здымаюць маленькую хатку ў суседзяў.

Дзяўчынка зразумела: гэта яе сяброўка. І праўда. Яны будуць сябраваць цэлы год. Летам у бацькоў Юлі будзе «ружовае» вяселле, і дзяўчынцы патлумачаць, што трэба прыходзіць ва ўсім ружовым.

Бабуля скажа, што гэта глупства — і само «ружовае» вяселле, і тое, што трэба прыходзіць у ружовым... Але дзяўчынка прыйдзе ў ружовым. І ўсе будуць у ружовым. Яны будуць сядзець на даху гаража і есці ружова-зялёныя яблыкі...

А пасля бацькі Юлі атрымаюць кватэру. А яшчэ праз пару гадоў бабуля будзе замяраць святло ў той школе ў далёкім раёне, дзе будзе вучыцца Юля, і настаўніца скажа, што Юля — рэдкі чалавек, што для кожнага ў яе знойдзецца добрае слова.

Снежань 2013 года

# Зялёны сон

Ноччу глядзелі фільмы з Джорджам Клуні. Пра кілераў, пра спецслужбы, пра барацьбу за рэсурсы, пра здрады сяброў і калегаў дзеля кар'еры і дабрабыту, а таксама пра дробныя (на першы погляд) дробязі, якія ўплываюць на лёсы. Глядзелі фільмы і пілі мятную гарбату з лімонам. Маладую мяту ўзяла ў садзе.

Пачыналася лета. У садзе квітнелі кусты белай шыпшыны і зацвітаў язмін. Крыкі жабаў... Мятны напой дае зялёны травяны супакой. І за акном зялёная цемра, у ёй свецяцца белыя кветкі.

Фільм спаўзаў у сон... І гэта я ўжо бараніла дэмакратыю і правы чалавека, і гэта мне перашкаджалі бюракраты, якія праз адсутнасць у іх гуманізму наймалі бяздушных кілераў. І кілеры былі падобныя да бюракратаў, а бюракраты да кілераў. І шанцаў уратавацца ў мяне не было зусім.

У зялёнай цемры за акном блытаўся вецер, хістаў голле ліп, крычалі каты. Дзікі бела-руды, як поўня, кот скочыў на фортку, але напалохаўся і зваліўся. Усё гэта прыглушана праз зялёны мятны сон.

Зранку тэлефонны званок і грукат у брамку пачаліся адначасова. Прыехала Ленка — сяброўка дзяцінства. Стаяла перад брамай у чорным складскім халаціку, набірала мой нумар на сотавым і грукала ў браму, побач стаяла яе сіняя машына. Я так даўно не бачыла Лену.

Сяброўства заўсёды цікавіла больш, чым каханне. З каханнем усё зразумела. А сяброўства больш тонкае. Роднасную душу знайсці складана. Каханне звязанае з целам, сяброўства — толькі з душой. Каханне мае матэрыяльны грунт. Што ні кажы, але з целам звязанае яно. Не веру я ў бесцялеснае каханне. Віва сяброўства!

Як кажа адна вельмі разумная журналістка з Астраўца, «у сяброўстве не раствараешся так, як у каханні, — застаешся сабой. У сяброўстве няма таго магнетызму, як у каханні, калі без «прадмета» і не дыхаецца. Сяброўства — гэта дадатковая ступень свабоды, таму што ты ведаеш: на свеце ёсць чалавек, які дакладна за цябе. І ты за яго таксама».

Вось так, «сяброўства — гэта дадатковая ступень свабоды», гэта ж як добра сказана! Менавіта ступень свабоды, а не яшчэ адна ступень эмацыйнай залежнасці.

І яшчэ — з сяброўкамі дзяцінства агульнае застаецца на ўзроўні падсвядомасці. І яшчэ яны памятаюць пра цябе тое, чаго не памятаеш ты пра сябе.

— Ці не бачыла ты сабаку? — спытала Лена.

Я яшчэ не зусім адышла ад зялёнага мятнага сну. Стаяла на панадворку ў піжаме. Не разумела, пра што яна кажа.

— Сабака, пабег у твой бок. Ці бачыла ты яго?

І яна пачала распавядаць пра сабаку. Што некалькі дзён, дзе б яна ні ехала па горадзе, трапляўся ёй на вочы непрыкаяны вялікі сабака, які бег то па ходніку, то па праезнай частцы.

— Быццам яму ўсё роўна — жыць ці памерці. Бяжыць без ежы, без вады, — сказала Лена. — Я пачала думаць, што гэта, можа, знак мне... Куды я, туды і ён. Калі ўбачыш сабаку, скажы мне. Ой, я так даўно не была ў вашым садзе, засумавала. Пакажы мне сад.

Мы прайшлі ў сад. Там Лена адразу знайшла сабе ў траве галіны ад канадскага клёна, якія добра падыходзяць, каб падвязваць памідоры, і папрасіла падрыхтаваць іх для яе — пасячы сякерай. А яна забярэ пазней.

— А як твая дачка? — спытала я ў яе. Дачка выйшла замуж у Амерыку. Пазнаёмілася з мужам, марскім афіцэрам, у Эміратах, дзе спявала ў бары.

— Запісалася на кастынг... Паедзе голас спрабаваць, упершыню самастойна 500 кіламетраў да Лос-Анжэлеса. А правілы руху адрозніваюцца ад нашых, там на чырвонае зусім нельга паварочваць. Гэта дачка мне сказала: «Мама, прыблудныя сабакі забіраюць усё кепскае, калі іх прытуліць».

Лена распавяла, што цяпер працуе на фірме, якая гандлюе сілікатнымі блокамі, а ў музычнай школе толькі на 0,5 стаўкі.

І слушна зрабіла: працу трэба мяняць час ад часу; калі нехта кажа пра працу «мы адна сям'я», гэта насцярожвае і хочацца сказаць: «Праца — не сям'я, так не бывае». Гэта проста маніпуляцыі, каб знішчыць дыстанцыю, каб пасля на правах «блізкага чалавека» лезці ў душу і там таптацца.

І яшчэ я паказала ёй мансарду, там гарышча раней было, а мы падлогу зрабілі.

— А вось тут мы з табой шукалі патаемныя куткі... Тут васількі сушылі.

Была ў нас такая гісторыя з васількамі. У 1978 годзе ў аптэцы мы прачыталі аб'яву, што за кілаграм здадзеных васількоў даюць 10 рублёў. Яшчэ там быў таямнічы «лікаподзій», за кілаграм якога давалі 15 рублёў. Цяпер можна набраць слова ў Google і даведацца, што такое лікаподзій, а тады такой магчымасці не было, і мы заняліся нарыхтоўкай васількоў. Васількі раслі ў полі на другім беразе Дняпра. Кожную раніцу мы адчаплялі лодку ад цяжкога ланцуга, пераплывалі на той бераг, збіралі васількі. Пасля сушылі на гарышчы. Так прайшло лета. У выніку было расчараванне. У аптэцы нам сказалі, што, каб атрымаць грошы, трэба здаць кі-

лаграм пялёсткаў васількоў... На гэтым усё. Я і цяпер не ведаю, ці магчыма набраць кілаграм сухіх пялёсткаў васількоў. А расчараванне зрабілася нашым спадарожнікам назаўжды.

— Вось тут мы сушылі васількі, — прамовіла Лена, — як мне цяпер адсюль спусціцца? Баюся вышыні.

На развітанне яна яшчэ раз нагадала:

— Пабачыш сабаку — тэлефануй.

— А што ты ад яго хочаш?

— Накармлю хаця б, а можа, і сабе вазьму, калі ён са мной пойдзе.

Вось так — літасць і лютасць, розніца ў адну літару.

У мяне на дыску засталося чатыры непрагледжаныя фільмы з Джорджам Клуні. І яшчэ меліса на градах. Меліса пахне лімонамі, і сны ад яе чароўныя, зялёныя, як ад мяты, але з больш фантастычнымі сюжэтамі.

3 чэрвеня 2013 года

# Віленскі каменны кот — надзейны і трывалы

Вільня. Час, калі квітнее ліпа.

— Гэта вельмі файныя рэчы, яна вельмі любіла добра апранацца і набывала адзенне толькі ў добрых крамах, — кажа мне жанчына ў сэканд-хэндзе. — Вось, — працягвае яна і паказвае рукой на цэлы шэраг адзення.

«Ну вось, — думаю я, — любіла добра апранацца, а пасля… Што адбылося?»

— І што здарылася з ёй? Чаму так шмат рэчаў?

Гандлярка сэкандам глядзіць на мяне, як ацэньвае — ці варта казаць тое, што ёсць, ці варта выдаваць таямніцу… І ці можа быць таямніца ў сукенкі? Ці рэчы і адзенне звязаныя нейк са сваім першым уладальнікам? Пра люстэркі гэта дакладна вядома, а вось пра сукенкі?

Але гэта ўжо ў Вільні.

А перад гэтым было жаданне адпачыць.

Пашырыць прастору.

Летнія віленскія канікулы я сабе прыдумала сама.

З Мінска ў Вільню — на аўтобусе, не на цягніку. Аўтобус — там ёсць магчымасць заняць месца так, каб побач ніхто не сядзеў, каб ніхто не лез, каб ніхто не задаваў пытанняў. У аўтобусе, які ідзе на Вільню, лягчэй застацца незаўважанаю. Выбіраю аўтобус.

Дарога маляўнічая і падзяляецца на два этапы: да Ашмянаў і пасля Ашмянаў.

Кожны раз уражвае колькасць паветра ў вежах касцёла ў Ашмянах.

І неба мяняецца пасля Ашмянаў, як пад'язджаеш да Вільні.

Вільня. Час, калі квітнее ліпа. Дождждык. Вільгаць. Мокрая дахоўка. Бліскучы брук — чорны, чырвоны, ружовы.

Людзі, якія жылі ў Вільні раней, пра іх ведаеш з кніг і чужых успамінаў. Свае ўспаміны пра людзей, якія жылі ў Вільні, і ўжо не жывуць тут, і наогул не жывуць... Нідзе. І застаецца толькі спадзявацца на жыццё вечнае.

І не ўсе анёлы на дахах адразу бываюць заўважныя. Каб убачыць таго, што не бачна было раней, трэба глядзець на купалы і шпілі. І тады — глядзіш і бачыш анёла на касцёле святой Тэрэзы. Трэба зварочваць на вуліцы, на якія звычайна не звяртаеш увагі і праходзіш звыклымі шляхамі. А звыклыя шляхі ёсць і ў Вільні. Пачынаецца дождж. Ціхі, цёплы, пасля — цёплы, але моцны і без пяшчоты. Адскокваеш ад водных плыняў пад балкон, але вада падае, і ад ветру залівае пад балконы, мушу з-пад балкона перабегчы ў бліжэйшую краму.

Маленькая крама. Гэта адзін з віленскіх сэканд-хэндаў — не той, што Humana, якая працуе па гуманітарнай праграме «Людзі людзям»: набудзеш рэч — і накорміш галодных на афрыканскім кантыненце. Дык не ў такі сэканд «людзі людзям» я зайшла, а ў прыватны, на вуліцы Sodu.

Спытала, ці ёсць адзенне вялікіх памераў, і мне ветліва адказалі:

— Вельмі шмат у нас такога адзення, якое вам падыдзе.

І вось тут і адбылася размова пра адзенне і жанчыну, якая любіла прыгожа апранацца. А цяпер вось яе адзенне тут, у сэкандзе на вуліцы Sodu.

Я спытала:

— Што адбылося?

— Адна жанчына вельмі схуднела і здае вопратку. Калі набудзеце, то дапаможаце ёй. Яна здае адзенне, каб жыць — набываць ежу і плаціць за кватэру.

— Чаму схуднела?

— У яе памерлі бацькі. Яна жыла з імі, вельмі любіла добра апранацца. Ёй падабалася выглядаць прыгожа. Калі бацькі ў яе памерлі, яна пачала здаваць нам тое, што ў яе ў шафах.

— А колькі ёй гадоў?

— За пяцьдзясят... Можа, пяцьдзясят пяць ці пяцьдзясят шэсць, недзе так.

Так я набыла сукенку, пакуль ішоў дождж.

Два разы ўсяго пасля апранула — нешта не тое ў ёй было. Так і вісіць.

Вільня. Ліпа. Дождж. Залева. Вада вырываецца з вадасцёкаў. Фатаграфую, як вада вылятае з вадасцёка, пасля на фотаздымку вада будзе выглядаць падобнай на лёд. Так і бывае зімой — вада замярзае і лёд з вадасцёкаў дугой сягае да прамерзлага асфальту. Але тут не асфальт — брук. На старых вуліцах брук пакладзены адмыслова — так, што вада сцякае хвалямі.

А на вуліцы святога Сцяпана — асфальт, ідзеш — ногі ў вадзе, каламутнай, цёмнай. Брудная вада віруе ля ліўнёвак. Як у нядобрым сне ўсё выглядае. Так зробіш крок у нябачны падводны люк — і панясецца цела ў брудных тунэлях да ракі. А ўсе падумаюць, што ты ўцякла — у сэнсе з'ехала, не захацела быць з імі, а цяпер сама жывеш у прыгожым горадзе і не дбаеш ні пра каго. Але ж не — лёс твой зусім іншы: каналізацыя, водаканал, аслізлыя тунэлі з хуткаплыннымі стокамі. А на выхадзе — станцыя перакачкі, вадзяны трыснёг, хмызы, андатры і сінія, жвавыя паласатыя малькі акуня, якія тут, каля берага цікуюць свае першыя

ахвяры. Сінія паскі на рыбках-драпежніках блішчаць у вадзе, калі на іх трапляе сонечны прамень. Зіхцяць на дне ракі і перламутравыя аскепкі ракавін рачных малюскаў-бяззубак.

Людзі эмацыйна з'ядаюць адно аднаго, заглытваюць, як вялікая рыба маленькую, цалкам. І быццам бы так і трэба.

Хачу верыць, што шмат хто са зніклых без следу не становіцца ахвярай маньяка і не ляжыць на дне ракі, а з'ехаў, каб жыць сваім жыццём, тым жыццём, якое нарэшце здолеў абраць для сябе. Самотны, вольны, незалежны. І гэта не толькі мая сфера фантазіі — гэта сцвярджае і крымінальная хроніка разам са статыстыкай. І фільмаў пра гэта шмат — дакументальныя і мастацкія, кшталту «Без следу». Людзі ўцякаюць, каб быць вольнымі, уцякаюць, як з турмы. Ад іншых людзей уцякаюць. Часам доўга рыхтуюць уцёкі, рыхтуюць план, плануюць кожны крок. А бывае, што і спантанна: раз — і ўсё. Віктар Цой спяваў: «Закрой за мной дверь, я ухожу». Але лепей не прасіць зачыніць дзверы, лепей не папярэджваць пра сыход. Але не варта і ўцякаць. Уцёкі маюць непрадказальныя вынікі. Не ўцякаць — сыходзіць.

А да гэтага трэба навучыцца зусім не крыўдаваць і не плакаць. Ставіць рэальныя мэты і пазбыцца ілюзій, развітваючыся з імі па чарзе: звечара пазбаўляешся, зранку прачынаешся — і на адну ілюзію менш. Ілюзіі пэўны час дапамагаюць жыць, а пасля абцяжарваюць. Вельмі моцна абцяжарваюць. Адкідаеш іх, яны адлятаюць — і позірк ясны. Лёгкасць і мудрасць. Ілюзіі патрабуюць энергіі для падтрымання. Бывае, што раптам ілюзіі зноў вяртаюцца — вылятаюць з цемры, злятаюцца, як начныя матылі на вулічны ліхтар. А яшчэ ілюзіі могуць вяртацца пакрысе — прасочваюцца, як вада.

Вада, вада цячэ па віленскіх вуліцах: па бруку, па плітках, па асфальце.

І вось перада мною помнік — агромністы кот з ружовага граніту.

Каменны кот — надзейны і трывалы.

Вільня, Aguonų g. Тут, адразу за будынкам старога, савецкага яшчэ Палаца культуры, скульптура — вялізны кот, які мае вельмі сумны выгляд. Ён як бы плача.

І нездарма плача каменны кот. Плача, бо ў яго памерла гаспадыня — пісьменніца і мастачка Юрга Іванаўскайце.

Пра ката і яго гаспадыню-пісьменніцу мне распавядае віленская мастачка Хрысціна Балаховіч. Кветкі, якія малюе Хрысціна, неверагодна жывыя. Асабліва падабаецца мне карціна, якая мае назву «Свята званочкаў».

— Гэты кот пастаўлены ў памяць пра пісьменніцу і мастачку Юргу Іванаўскайце (Jurgi Ivanauskaitė), скульптура так і называецца — Jurgos katinas (кот Юргі). Пісьменніца памерла ад анкалогіі.

— А чаму скульптура стаіць менавіта на гэтай вуліцы?

— Бо пісьменніца доўгі час жыла на вуліцы Aguonų. Любіла катоў і мела вельмі прыгожага ката, якога пасля забрала яе маці.

— Помнік вялізны...

— Так. З валуна ў 15 тон атрымаўся кот вагой у 10 тон, яго вышыня 2,7 метра, шырыня 1,5, таўшчыня 1,5 метра. Мае на спіне 13 паскаў. На вялікі жаль, вандалы час ад часу спісваюць гэту скульптуру. Яе ўжо адмывалі некалькі разоў. Але ёсць людзі, якія падыходзяць і гладзяць фігуру ката.

Вільня, Aguonų g. Вельмі сумны і самотны выгляд у гэтага ката — ён плача, бо гэта кот, у якога памерла гаспадыня.

— Хто рабіў скульптуру?

— Аўтарка сульптуры Ksenija Jaroševaitė. А сквер называецца скверам Jurgi Ivanauskaitė. А ката вырашылі не падпісваць, бо каты гуляюць самі па сабе. Ён і выглядае так, быццам выйшаў пагуляць.

— А дзе ўзялі вялізны валун?

— Валун знойдены амаль на другім канцы Літвы, у Келмскім раёне (Kelmė), ля вёскі Pašiaušė.

— А пра што творы Юргі?

— У двух словах цяжка пераказаць. Сюжэты складаныя, з жыцця мастацкай і калямастацкай багемы, рок-музыкаў і г. д. У цэнтры самага вядомага рамана «Вядзьмарка і дождж» гісторыя кахання дзяўчыны і ксяндза. Апроч усяго, Юрга напісала дакументальную трылогію пра Тыбет. Зрэшты, Тыбетам і будызмам прасякнуты ўсе яе творы.

«Бывайце, жывіце свабоднымі!» — жадае мне Хрысціна.

Чэрвень–верасень 2014 года, Вільня–Мінск–Адэса

# Гульні з морам

Восень у Адэсе — на беразе мора. Я фатаграфавала, але не ўсё. Распавяду пра тое, што не фатаграфавала. Медуз дакладна не фатаграфавала, бо яны былі ўжо нежывыя, хаця і ў мёртвым стане захоўвалі прыгожосць.

Медузы, шмат медуз, вялікіх, дарослых і нават старых, з прыкметамі былой дасканаласці і свабоды, якую мелі ў глыбіні мора.

Спачатку не адрознівала мёртвае ад жывога — спрабавала закідваць, вяртаць у мора медуз, якія захавалі, яшчэ не страцілі колер — блакітны і фіялетавы. Не дапамагала, яны ўжо не плылі. Пасля зразумела: вялікая дарослая медуза на беразе — ужо нежывая. Хвалі марскія, хвалі жыцця забілі яе. А можа, яна спакойна памерла ў моры і хвалі толькі выкінулі яе на бераг, канстатуючы канец жыцця, завяршаючы цыкл?

Марскі вецер выносіць — рэальна выносіць з галавы рэшткі ілюзій, рэшткі шматгадовых падманаў і самападманаў. Разумееш: можна жыць і з кракадзілам у ваннай, галоўнае — кантраляваць сітуацыю самой, каб не кракадзіл дыктаваў умовы.

Мора пасля начной навальніцы мутнае, адступіла, і дзеці збіраюць мідыі і рапанаў. Варона дзяўбе ракавіну малюска, выцягвае мяккае цела.

Мора адступіла, і я пагуляла па дне марскім. Упершыню ў жыцці знайшла на пяску ракавіну рапана, ружовую ўсярэдзіне. Раней іх толькі ў акварыумах бачыла і ў наборах, што прадаюцца, каб пасля прыкладаць да вуха і «чуць шум мора». І яшчэ некалькі знайшла жывых рапанаў — кінула ў мора.

Вучылася рабіць надпісы на пяску і разлічваць інтэрвалы паміж хвалямі — паспяваць напісаць так,

каб хваля прыгожа злізала тэкст. Зрабіць надпіс перад хваляй не заўсёды паспяваеш.

І зноў думала пра ілюзіі: яны дапамагаюць жыць на пэўны час, але пасля псуюцца, як малюскі-рапаны ў сваіх ружовых ракавінах, выкінутыя на бераг. Сапсаваныя ілюзіі — харч для варон.

Бераг мора — памежжа стыхіяў.

Ішла ў закатаных джынсах ды ў цяльняшцы па краі мора, і пара — мужчына і жанчына з фотапаратам, відаць, вырашылі, што я мясцовая, запыталіся:

— Чаму так шмат мёртвых медуз?

— Час іх прыйшоў. Можа быць, так... Я не ўпэўненая.

Ці можа медуза ўратавацца? Ці можа не ляжаць нежывой, разлезлай на пяску, а працягваць плаваць, жыць? Ці гэта лёс, прадвызначанасць?

Ну, і Google у дапамогу:

***Медуза** — ад старажытнагрэцкага Μέδουσα — «абаронца, валадарка». Жыццёвы поспех медуз у тым, што імі ніхто не харчуецца. Само слова «медуза» паходзіць ад імя старажытнагрэцкай міфічнай істоты гаргоны Медузы, валасы якой былі пучком змей. Медуза дыхае ўсім целам. У празрыстым целе медузы 24 вокі. Рот медузы прызначаны і для ўжывання ежы, і для яе вывядзення. Медуза ў асноўным складаецца з вады, яе жыццё на сушы немагчымае. Калі медузу выкідвае на бераг, яна гіне, высыхае на сонцы.*

Не фатаграфавала мёртвых медуз.

Не фатаграфавала і людзей, якія жылі ў хмызах абляпіхі за цэлафанавай заслонай. Праходзіла, адводзячы позірк, але штосьці ўсё адно назірала. Там былі два мужчыны — адзін паранены ў нагу, другі ў пля-

чо. Яны выходзілі, калі на беразе мора амаль нікога не было. Адзін з іх — высокі, лысаваты, немалады, з вайсковай выпраўкай. Я разгледзела яго, калі ён нёс прэсную ваду ў пластыкавых бутлях. Другі быў маладзейшы. Спачатку іх раны былі ў бінтах, пасля бінты змяніла медыцынская сетка. Пасля шторму яны зніклі. На месцы іх жытла засталася занесеная пяском чырвоная куртка.

Калі я распавяла пра іх сваёй прыяцельцы з Адэсы, яна спытала толькі адно:

— Цікава: яны нашыя альбо з ДНР?

І я яшчэ адно прыдумала, пакуль хадзіла па беразе: каб не стаць старой медузай, выкінутай на бераг, трэба быць медузай Гаргонай. Медузай, якая выжыла і стала моцнай, і ўсе камянеюць ад яе позірку.

А калі глядзіш па карце на Адэсу — бачыш, што яна патрэбная расейцам. І гэта палохае, трывожыць.

Верасень 2014 года, Адэса

# Люстэркі

Сяброўкі, якіх выбіраем мы, сяброўкі, якія выбіраюць нас, сяброўкі, якіх для нас выбірае жыццё ці лёс.

Ёсць такія, якія ўвесь час «дастаюць», чапляюцца, лезуць, падстаўляюць эмацыйныя падножкі. Ёсць сярод іх і «змагары за праўду з мяшчанскім ухілам» (была такая фармулёўка ў 60-я гады). Гэта штосьці накшталт хатняга пракурора ці злоснага следчага.

Абвінавачваюць, вядуць бясконцыя блытаныя маналогі. Гнеўныя шукальніцы праўды. Гаварыць можна ўсё, што заўгодна. Галоўнае — зрабіць балюча. Ступень блізкасці і сяброўства вымяраецца болем. У адказ на шчырасць — сама вінаватая і таму будзеш пакараная. Бязлітасныя Эрыніі — дэманы помсты на крылах кажана, з пугаю ды паходняй у руках. Такія «дзеля праўды» могуць лёгка патэлефанаць мужу сяброўкі і распавесці пра яе каханкаў... Бязлітасныя, носяцца ў цемры і асвятляюць сабе шлях паходнямі, каб ніхто не схаваўся. Яны жахліва крычаць, пераследуюць і караюць іншых, тых, хто не такі, як усе. Яны прагнуць зрабіць усіх аднолькавымі. Пачвары. З іх доўгіх языкоў кроплямі падае кроў ахвяраў. Бясконца абвінавачваюць усіх ва ўсім. Ім патрэбныя гледачы і ўвага, і яшчэ — як мага больш людзей уцягнуць у сваю вар'яцкую гульню і пакараць.

І вось што падказалі мне разумныя людзі: спыніць гэтыя гульні можа толькі высвятленне крыніцы ўласнага мазахізму. «Крыніца мазахізму» — паэтычна гучыць. Ды як яе шукаюць?

Але ёсць іншы варыянт, ёсць іншыя сяброўкі, якіх бачыш, можа, не так часта, але да якіх можна звярнуцца з любым пытаннем і не адчуць сябе... не адчуць сябе кепска пасля гэтага.

Хачу распавесці пра Кацю. Каця — нашчадак вядомага доктара-фізіёлага, лаўрэата Нобелеўскай прэміі за 1904 год у сферы медыцыны, стваральніка тэорыі пра вышэйшую нервовую дзейнасць.

З Кацяй пазнаёміліся ў Адэсе ў кватэры яе бабулі. Я зайшла і... адразу ўбачыла люстэрка. Вялізнае, высокае, пад столь, а столь у кватэры таксама высокая. Пра такія кватэры можна прачытаць толькі ў кнігах пра дарэвалюцыйнае дзяцінства прафесарскіх дзяцей. Я прайшла з вітальні ў вялікі пакой, а там яшчэ адно люстэрка. Ручкі на дзвярах старыя, медныя, на вокнах таксама медныя ручкі. У вялікім пакоі ля сцяны стаяў ровар, ён губляўся ў вялікай кватэры, здаваўся зусім маленькім.

Прайшло пару гадоў. Мы сустрэліся з Кацяй у Крыме на пляжы, недалёка ад руін старажытнага Херсанеса. Пачатак кастрычніка. Бліскучае, блакітнае, празрыстае і спакойнае мора і такое сама блакітнае і ціхае неба. Сонца грэе, мы ляжым на драўляных насцілах і гаворым.

Кажуць, каб супакоіцца, трэба ўявіць сябе на беразе мора, пачуць шэпт хваляў. Музыка для рэлаксацыі — піяніна, шум мора, чайкі. Не трэба нам піяніна. Не трэба напружвацца і нешта прыдумляць. Мы і так на беразе мора, мы адчуваем і яго пах, і лёгкі ветрык, і восеньскі холад, які прабіваецца праз сонечнае цяпло.

— Скажы, ты ў магію верыш?.. У такую, народную, што можна сурочыць і праклясці — чалавека ці дом? — пытаюся я ў Каці.

— Канечне, веру.

— Ды ты што?!

— А што? Не мушу?

— Ты ж нашчадак вялікага доктара-матэрыяліста. Таму... раз ты верыш, значыць, праўда, ёсць яно.

— Так і што? Усе вялікія навукоўцы ўпіраліся ў містыку, розум чалавека абмежаваны.
— А як з гэтым змагаюцца? Напрыклад, калі ў доме жыць цяжка.
— Наколькі я ведаю, ёсць розныя шляхі. Першы — рэлігійны: дом асвяціць, гэта як чалавека пахрысціць, — новае жыццё ў дома пачынаецца. Але калі ты пра свой дом, пытанне ў тым, у што ты верыш. Мая сяброўка пры цяжкіх адчуваннях, альбо калі ўсе пачынаюць хварэць, прыбірае ў хаце, мые падлогу з зёлкамі. Я веру, што ў кожнага чалавека ёсць магія, і, калі ты сама сабе рытуал прыдумаеш, які цябе абароніць і чужыя ўплывы прагоніць, — ён можа спрацаваць. Ці ёсць у доме старыя рэчы, напрыклад, люстэркі?
— Не надта старыя... Саракавыя-пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя.
— Я адчуваю энергетыку ад рэчаў, таму, калі мне ад бабулі кватэра засталася, я найперш люстэркі прадала: яны энергетыку вельмі добра захоўваюць. Перад тым як кватэру прадаць, я спачатку рэчы прадавала, а то ў мяне было адчуванне, што бабуля з кватэры не сышла і што яна б не дала мне кватэру прадаць.
— Я памятаю гэтыя люстэркі, яны па чатыры з паловай метры вышынёй.
— Так, вялізныя былі. Я ўжо не памятаю, прадала ці то ў музей, ці то ў тэатр. А можа, і бясплатна аддала.
— Фантастычныя люстэркі былі.
— Ну, гэта не клас, там усяго чатыры-шэсць свечак адбівалася, а класныя лічацца пасля дзесяці-дванаццаці адбіткаў.
— А ты адлюстроўвала ў люстэрках свечкі?
— Вядома. Запалі свечку і паднясі да люстэрка, у сучасным люстэрку ты ўбачыш адзін-два адбіткі. А старыя люстэркі — тоўстыя, там больш пераламленняў адлюстравання выявы.

— А што, для гэтага свечку ставіць насупраць люстэрка, ці як?

— Свечку ставіш перад люстэркам, а глядзіш троху збоку, як бы ў перспектыву...

— Я праверу, калі застануся вечарам адна ў доме. Можа, нават перад Дзядамі.

— Так... вяртаемся да твайго дома. Мне здаецца, гэта пытанне кошту, які ты сама заплаціш. Калі ты маеш магчымасць паўсюль замяніць падлогу і абнавіць сцены — гэта дапаможа. Гэта не кансультацыя, гэта парада з практыкі.

— Я так думаю, што ад дома, у якім нарадзіўся і жыў у дзяцінстве, трэба трымацца далей. З'ехаць кудынебудзь і заязджаць зрэдку, а яшчэ лепей — у снах. Я табе таксама распавяду гісторыю пра раптоўную смерць жанчыны і люстэрка... Пачула ў цырульні... Адбылася гісторыя ў раённай паліклініцы імя Сямашкі, там паставілі новыя камеры-назіральнікі. І здарылася, што адна жанчына ішла па лесвіцы ў паліклініцы і памерла. Супрацоўнікі паглядзелі гэта ў запісе і ўбачылі наступнае: ідзе жанчына па лесвіцы, а за ёй нешта цёмнае — ці то цень, ці то пляма цягнецца. Жанчына падае, гэта цёмнае аддзяляецца ад жанчыны, пачынае мітусіцца, а пасля шугае ў люстэрка. Запіс з камеры паказалі галоўурачу, ён загадаў люстэрка замяніць і запрасіць святара. А размова пачалася з таго, што «камеру не падманеш».

— Новая гарадская легенда.

Каця пазбылася сваіх люстэркаў, прадала кватэры ў цёплай Адэсе і з'ехала ў Пецярбург, дзе працуе ў арганізацыі, якая займаецца экспертызай старых будынкаў.

Дом як дамавіна. Гэта аднакарэнныя словы — так? Калі мы клапоцімся пра захаванне старых дамоў, можа,

гэта не зусім пра архітэктуру, можа, мы дбаем пра прывіды, каб ім было дзе існаваць.

І яшчэ кажуць, што сапраўдных сяброў чалавек можа знаходзіць толькі ў юнацтве. І тыя, што з юнацтва, яны сапраўдныя. Няпраўда, чалавек можа знаходзіць новых добрых сяброў у любы момант свайго жыцця.

Красавік 2012 года

# Субота

— Валя, што мы будзем сёння есці? Валя, звары супчыку! — просіць Лена.

Пачынаецца новы дзень у 548-м пакоі ў інтэрнаце нумар чатыры па праспекце Машэрава ў Мінску. У інтэрнаце жывуць філолагі і юрысты Беларускага дзяржаўннага ўніверсітэта імя Леніна.

«Які супчык зранку? Яны здурнелі, здзекуюцца? — думаю. — Не даюць спаць, а ўчора ўвечары не давалі чытаць, абзываліся «аспіранткай», скінулі настольную лямпу, яна перастала гарэць».

Вокны шчыльна занавешаныя, у пакоі шэрае каламутнае святло, брудныя міскі на стале і чорны жаночы капялюш сярод іх.

Валя ўстае, робіць некалькі крокаў, трапляе ў кампотную, з яблыкамі, лужыну.

— Звары супчыку...

Сонная Валя з учарашнім супам цягнецца на кухню, тапкі ліпнуць да падлогі, даводзіцца мыць падэшвы пад кранам у агульнай умывальні ў канцы калідора.

Лена ўключае маленькі чорна-белы тэлевізар з антэнай, узяты напракат. Тэлевізар шыпіць.

Пакідаючы мокрыя сляды на каменнай падлозе, Валя вяртаецца ў пакой, дзе Лена ўжо глядзіць фільм, таксама ўчарашні, як і супчык, — паўтор.

Адчыняюцца дзверы, заскокваюць суседкі:

— Вы ўжо ўсталі? А цыгарэты ёсць?

— Няма.

— А можна кіно паглядзець?

— Глядзіце...

З калідора даносяцца пахі. Хтосьці ўжо смажыць зранку сала. Пачатак сакавіка, Вясна, ўжо ручаі пацяк-

лі па асфальце, паказалася на газонах леташняя трава, прымятая і парыжэлая, як поўсць. Вецер расчыняе фортку.

Валя нясе супчык, тапкі зноў ліпнуць, і зноў іх даводзіцца мыць. Суседкі, якія прыйшлі па цыгарэты і засталіся глядзець фільм, пачалі нешта шукаць у пакоі: адна пад ложкам, другая ў шафе, трэцяя ў маёй шуфлядцы.

— Вы штосьці згубілі?

— Кансерву, — адказвае за суседак Лена.

Тыя ж злосна маўчаць і не губляюць надзеі знайсці кансерву.

— Ці не бачыла ты бляшанку? Гавораць, была ў іх, калі прыйшлі да нас кіно глядзець, — Лена гаворыць так, быццам бы не з'ела яшчэ ўчора тую кансерву.

Пошукі працягваюцца. На экране тэлевізара — вайсковая драма: фашысты б'юць па твары жанчыну.

Вясной хочацца на вуліцу, вясновы вецер, прага пераменаў. Іду гуляць адна, без сяброўак. Гуляць — на могілкі.

Плывуць празрыстыя хмары над Кальварыйскімі могілкамі, крычаць вароны ды іншыя вялікія птушкі, здаецца, сарокі, з зялёнымі хвастамі, скачуць па надмагіллях. На паваленым дрэве сядзяць жанчыны, адна трымае вялізнага шэрага ката.

— Вы не скажаце, колькі цяпер часу? — пытаюся ў іх.

— Не скажам, бо не ведаем.

— А які ў вас кот прыгожы!

— У нас не кот, а котка: ёй ужо сем месяцаў.

А ўвечары ў сутарэнні чацвёртага інтэрната па праспекце Машэрава — дыскатэка, б'ецца музыка ў цесных калідорах. Ладзяць дыскатэку юрысты — былыя воіны-інтэрнацыяналісты з Афганістана. Галоўны на дыскатэцы — былы воін з прозвішчам, як у канцлера

Вялікага Княства Літоўскага. І дыскатэка ў сутарэнні мне нагадвае пекла.

А ў пакоі нумар 548 — супакой. На стале ўжо няма чорнага капелюша, а з'явіўся букет ружаў у трохлітровым слоіку, і нікога няма, толькі стаіць пасярэдзіне таз, а ў ім белая з зялёнымі плямамі на крылах курыца. Навошта яна тут? Калі варыць з яе супчык, то трэба забіваць. А хто ж у нас гэтым займацца будзе? І няма нікога, паразбягаліся...

Цёмна ў пакоі, і музыка сціхла ўжо. Адсоўваю таз з курыцай падалей ад свайго ложка. Курыца хвалюецца, б'е крыламі, пратэстуе. Глядзіць на мяне круглым жоўтым вокам. Праз акно з вуліцы свеціць ліхтар.

У цемры букет ружаў на стале пачынае пахнуць мацней. Кветкі ў адбітках ліхтаровага святла нагадваюць істот неспазнанага, змрочнага свету. А адкуль кветкі? Гэта ж Лена збіралася на вяселле ехаць. Чаму кветкі не забрала, і Валі няма, і курыца нейкая з плямамі зялёнымі на крылах, а сама белая. Робіцца непамысна. Запальваю святло, падыходжу да курыцы, крышу ёй хлеба. Яна пачала была дзяўбсці, але раптам кінула і зноў утаропілася на мяне круглым усхваляваным вокам. Што ёй трэба? Доўга я сядзела з нагамі на сваім ложку, гарэла святло, курыца была як нежывая: і не варушылася, і хлеб не дзяўбла. Хацела даць ёй вады, але ўжо страшна было падыходзіць.

Радзела цемра, прабівалі шчыльны туман промні сонца, калі курыца выбралася з таза і пайшла да дзвярэй. Я паціху адчыніла дзверы і хуценька захлопнула іх, як толькі курыца апынулася на калідоры. Адразу зрабілася лёгка, можна было спаць. Прыехала ад сястры Валька, увалілася ў пакой з торбай, а ў торбе яблыкі і каўбаса.

— Прывітанне! Што ты сядзіш такая? Дзе Ленка?

— Яна ж на вяселле паехала.

— Паехала? А во ж яе кветкі, і сукенка яе вісіць.

А я ўжо бачыла і Ленчыны боцікі, і яе новую чырвоную сумку. Не з'ехала Ленка. Я выбегла на калідор, паўсюль, дзе толькі можна, шукала белую з зялёнымі плямамі курыцу. Шукала і не знаходзіла, яна згубілася ў калідорных лабірынтах. І калі ўлічыць, што дом пяціпавярховы, а на кожным паверсе па дзве кухні, то лепей не думаць аб яе далейшым лёсе.

Я стаяла ля акна, сцякалі па шкле кроплі, ішоў дождж, змываў апошнія рэшткі снегу. Тхнула дэзынфекцыяй: труцілі мышэй, клапоў і тараканаў. Праз туман выступалі стромкія вежы былога касцёла, спяшаліся некуды людзі з рознакаляровымі парасонамі. Вярнулася ў пакой, а там ужо дзікая качка білася крыламі ў шыбу, яблыкі раскаціліся з торбы. Я адчыніла акно — і згубілася ў тумане дзікая качка. На кухні рабілі рамонт, аббівалі са сцен старую кафлю, кафля падала на падлогу і білася, як нашы цьмяныя надзеі. Стук кафлі і пах дэзынфекцыі даймалі да немагчымасці. Навошта я іх павыпускала? Можа б, яшчэ зрабіць нешта можна было?

«Клапы-тараканы не турбуюць?» — калі ў пакой зазірнулі жанчыны ў белых халатах, толькі сухі дубовы лісток ляжаў на падлозе. Яго можна было б вынесці на двор, але ўсё заліў раствор дэзынфекцыі. Рыпела адчыненае акно, у ім была дзірка, як ад кулі.

23 сакавіка 1987 года

# На вакзале

Юрасю здавалася, што яго сустракаюць. Ён марудзіў на платформе, у падземным пераходзе пільна ўглядаўся ў твары людзей, што стаялі ўздоўж сцяны. І нават на аўтобусным прыпынку Юрась азіраўся, шукаючы некага вачыма.

Было холадна. Вецер гнаў сыпкі снег, намятаў гурбы. Круцілася, пералівалася рознакаляровымі агеньчыкамі ёлка на прывакзальным пляцы.

У кватэры Юрася сустрэў кіслы, застаялы пах нежылога памяшкання. І Юрась, не распранаючыся, кінуўся адчыняць форткі: «Хай сабе скразняк, абы не гэты пах», — думаў ён, ужо здымаючы пажоўклыя газеты з кніжных паліц. Уключыў у разеткі тэлевізар і халадзільнік і сеў задаволены ў крэсла. Нарэшце дома, праўда, ненадоўга, але ўсё ж такі... У сваёй кватэры Юрась адчуваў сябе вольным, ад чаго — сам толкам не ведаў.

У дзверы пазванілі. Юрась пайшоў адчыняць, але спыніўся. Відаць, нехта памыліўся. Каму трэба званіць у пустую кватэру? Але званілі доўга і настойліва, не адрываючы рукі. Юрась мусіў адчыніць. На парозе стаяла дзяўчына ў чорным футры.

— Праходзьце. Я сам толькі што прыехаў, яшчэ нічога да ладу не давёў, — тлумачыў ён, дапамагаючы ёй распрануцца, і ўсё не мог згадаць, што гэта за дзяўчына. Ён правёў яе ў залу, пасадзіў у крэсла, дзе толькі што сядзеў сам.

— Марыя Вітольдаўна памерла, — прамовіла дзяўчына.

— Гора якое! Калі? — сказаў Юрась толькі дзеля таго, каб нешта сказаць і выгадаць час, бо зусім не памятаў, хто такая Марыя Вітольдаўна.

— Сёння днём, — адказала дзяўчына і заплакала.

Юрась паківаў галавой: ён усё ж прыгадаў, што Марыя Вітольдаўна — яго швагерка, а дзяўчына, відаць, яе ўнучка Вера.

— Яшчэ сёння глядзела, як я шары на ёлку вешала, — гаварыла Вера скрозь слёзы. — Але, ведаеце, цяпер свята, дык усе крамы пазачыненыя і кантора гэтая... Вы, Юра, прыйдзеце заўтра?

— Я заўтра ад'язджаю. А то прыйшоў бы. Я магу зранку падысці да маёй цёці. Яна дакладна прыйдзе.

Юрасёва цётка жыла на другім канцы горада. Юрась адчуў, што, схадзіўшы туды, ён ужо зробіць добрую справу.

Вера пайшла. Але спакой быў парушаны. Юрась без мэты блукаў па кватэры, разглядаў змалку знаёмыя карціны на сценах, браў з паліц кнігі толькі для таго, каб паставіць іх на месца. Было прыкра і цяжка. Юрась падышоў да акна. Глядзеў, як вецер бесперастанна круціў дробны, сухі снег у чорным вечаровым паветры. У акне насупраць успыхнула ліхтарыкамі ёлка. «І мне трэба было б хоць якіх лапак у слоік паставіць. А то які ж Новы год, а тут яшчэ гэта... — думаў Юрась. — Я ж Марыю Вітольдаўну, можа, раз у жыцці бачыў — заносіў ёй вазоны, каб летам кветкі палівала». У памяці ўсплыла думка, якая калісь вельмі турбавала Юрася: «Чаму чалавек ніколі не можа адчуць ці хаця б уявіць чужое гора, боль? Ніколі. А калі ён прыходзіць, агортвае цябе, ты, адарваны ад усіх, застаешся з ім сам-насам, пазіраеш на свет, бы з глыбокай студні...»

Спаў мала і неспакойна, думкі пераліліся ў трывожныя сны: то бітыя вазоны з высыпанай зямлёю, то калядная каза бегала па кватэры і біла капытамі.

Раніцай пацішэла. Замятуха скончылася, паказалася сонейка. Юрась павольна ішоў ціхай старой вуліцай на ўскраіне горада, уздоўж аднапавярховых дамкоў з чырвонай цэглы. Пры яго набліжэнні з дрэў узляталі сініцы, атрэсваючы з папрыгінаных галін снег. Сняжынкі зіхацелі, пераліваліся на сонцы. Юрась усміхаўся, ён прыгадваў той час, калі ездзіў сюды кожны дзень пасля школы. Яго цётка вельмі любіла і пеставала катоў. У яе заўсёды было іх не менш як пяць, акрамя гэтага каля яе дома збіраліся прыблудныя і суседскія каты, якіх яна таксама час ад часу падкормлівала. А ўласна хатнія мелі на дзіва дагледжаны выгляд: тоўстыя, пухнатыя, з бліскучай поўсцю. Да цёткі яны не адчувалі ніякай удзячнасці: ні за сырызну, ні за супы, ні за цёплую печку. Юрась знаходзіў на печцы сабе пацеху: ён асцярожненька праводзіў рукой па тлустых каціных спінах, тады па хвастах, дакранаўся пальцам да вільготных насоў. Каты злосна пыхцелі, білі хвастамі, паказвалі вострыя кіпці з-пад пульхных падушачак на лапах.

— Юра, што ты робіш з маімі катамі? — крычала цётка.

— Што ж ты ім такім зробіш? — смяяўся Юрась.

Потым прыходзілі бацькі і забіралі Юрася, каты скручваліся ў клубок, вярталіся да звыклага спакою на цёплай печцы. З такімі ўспамінамі Юрась падышоў да цётчынага дома. Брамка была зачынена, і ён пагрукаў у акно. За фіранкаю мільгануў цень.

— Юра! А няўжо гэта ты? Зусім ты на мяне забыўся!

Цётка выбегла на двор, адчыніла брамку і пацягнула Юрася ў хату, не даючы сказаць слова.

— Сядай во сюды, да акенца, распавядай, — казала яна.

Юрась сеў, тужліва глянуў на заснежаныя дрэвы і прамовіў:

— Марыя Вітольдаўна памерла.

— Гора якое! А калі?

— Учора днём. Яшчэ зранку глядзела, як Вера шары на ёлку вешала, днём стала кепска — і ўсё.

Цётка ківала галавой.

— Ты пойдзеш да іх? — спытаў Юрась.

— А як жа я, Юра, пайду? Да мяне зараз госці прыйдуць. Я пірагоў напякла. Можа, і ты есці хочаш? — усхвалявалася цётка.

Юрась спакойна адказаў: «Хачу». І сам сабе падзівіўся, бо прыйшоў усё ж такі паведаміць аб смерці.

Яны селі за стол. Юрась зноў каля акна, а цётка насупраць.

— І калі ты, Юрась, скончыш свой інстытут?

— Яшчэ год вучыцца.

— А тады?

— А тады буду працаваць.

— А дзе?

— Хто ж ведае, куды накіруюць. А як, цётка, твае каты? Колькі іх у цябе?

— Тры.

— Нешта мала!

— А паглядзі якія.

На печы Юрась знайшоў толькі аднаго ката. Ён ляжаў выпраставўшыся, як дарагі каўнер, і не падаваў ніякіх прыкмет жыцця. Юрась правёў рукою па яго спіне, па пухнатым хвасце, дакрануўся пальцам да носа. Патурбаваны кот злосна мяўкнуў, скруціў дугой хрыбціну.

— Юра, што ты яму зрабіў? — закрычала цётка, пачуўшы мяўканне.

— Хіба яму што зробіш?

Юрась саскочыў з печкі.

— Добра, я пайду. Вы, можа, усё ж такі сходзіце да Веры?

— А ты пойдзеш?

— Я ж сёння ад’язджаю.

На вакзале Юрась паспрабаваў уявіць, што яго праводзяць, але не здолеў.

1987

# Белая поўня

Слава любіла Рыгорку, калі ён маўчаў. Тады можна было глядзець у акно і ўяўляць, што Рыгоркі не існуе. Проста не існуе ў прыродзе. Так прыемна было глядзець на шашу, на цёмны лес. Рух і мігценне агнёў на шашы заварожвалі, а над лесам узыходзіла белая поўня. Калі Рыгорка гаварыў, месца для фантазіяў не заставалася.

— Слава! Слава, ты мяне слухаеш?

— Слухаю!

— Ты мяне добра слухаеш?

— Лепш за ўсіх.

— Слава, мы будзем займацца з табой бізнесам!

— Я не хачу бізнесу.

— А што ты хочаш? Як наогул ты збіраешся жыць? Ты толькі паслухай мяне, табе гэта спадабаецца.

З чырвонай папкі Рыгорка выцягнуў зашмальцаваную кнігу без пераплёту, разгарнуў і пачаў чытаць. Чытаў, як заўсёды, павольна, расцягваючы словы амаль па складах.

— Калі чорны певень пражыве сем год, то ў канцы сёмага года знясе яйка. Гэтае яйка трэба трымаць у цяпле і насіць увесь час з сабою. Тады вылупіцца з яго маленькі цмок. Цмока трэба гадаваць, ніколі не нерваваць і карміць яечняй. Цмок выгадуецца, навучыцца лётаць і будзе адшукваць скарбы, прыносіць свайму гаспадару золата і грошы. Усё! — Рыгорка скончыў чытаць. — Зразумела?

— Ты хочаш набыць чорнага пеўня, каб праз сем год ён знёс яйка?

— Дурная! Чорны певень сем год жыў у маёй маці, ён ужо знёс яйка, і яно ў мяне. Праз месяц вылупіцца цмок!

— Яшчэ скажы, што будзеш цэлы месяц насіцца з яйкам, як курыца!

— А я даручаю гэта табе...

— А я не буду!

— Слава, ты падумай: мы выгадуем цмока, і ён пачне насіць нам скарбы!

— Я думаю: я выгадую цмока, і ён пачне насіць табе скарбы.

— О божа, Слава, я паважаў цябе за шчырасць, я думаў, ты любіш жывёлін... А ты, ты, ды ты ведаеш?.. Ты яшчэ горшая за ўсіх іншых... Ну добра, хай будзе так: ён нікому не прынясе нічога.

Рыгорка выцягнуў з кішэні прадмет, які зусім мала нагадваў яйка, — чорная закручаная чарупіна з дробнымі светлымі плямкамі. Выгляд чарупіна мела далікатны і вельмі крохкі. Рыгорка падкінуў яе некалькі разоў на далоні.

— Зараз выкіну праз акно... — Рыгорка кінуў на Славу хуткі позірк, размахнуўся і на нейкі момант знерухомеў у дэманстрацыйнай позе. Слава глядзела на Рыгорку. Бачыла чарнявага хлопца спартовага тыпу з пакатымі плячыма, светла-шэрымі выцвілымі вачыма, прамым носам і жорсткім ротам. Хлопец гэты стаяў з выцягнутай рукой, рабіў выгляд, што зараз шпульне ў акно чорны прадмет — увасабленне сваіх даўніх мараў. Шпульне, праб'е акно на варыўні, разаб'е свае блакітныя мары.

— Чакай, — Слава затрымала Рыгоркаву руку, — дай сюды.

Чарупіна нечакана аказалася цёплай, амаль гарачай. І Слава зразумела, што цяпло ідзе адтуль, з сярэдзіны, ад схаванай пад чорным шкарлупіннем істоты.

— Мы выгадуем цмока! — сказаў Рыгорка. — Толькі не салі яму яечню.

«Добра, а калі гэта жарт?» — думала Слава на працы. Яна была мастачкай у архітэктурна-археалагічным атрадзе «Верхні горад». Яйка ляжала ў яе левай кішэні. Рыгорка любіў жартаваць. Падабраў дзе-небудзь у пяску на будоўлі камень — выкапнёвага смаўжа і падсунуў ёй. Яна будзе месяц цягаць яго ў кішэні, звыкнецца, паверыць, што вылупіцца цмок, будзе чакаць. А ён прыйдзе з сябрамі і скажа: «А зараз Слава пакажа нам, што ў яе ў кішэні». І ўсе будуць смяяцца. Ці ж гэта першы раз? Проста новая пастка.

Слава замалёўвала кафлю — прыгожую паліхромную, знойдзеную летам пры раскопках замка. На кафлі два чалавечкі трымаюцца за рукі. «Шляхціц з паненкаю менуэт танчаць», — сказала пра кафлю Валянціна Браніславаўна, кабета, якая сядзіць са Славаю ў адным кабінеце. Валянціна Браніславаўна любіла пагаварыць са Славаю на тэмы філасофскія.

Слава замалёўвала кафлю і ўяўляла замкавую залу з вялізнай цёплай печкай — шэраг паліхромных шляхціцаў з паненкамі танчаць менуэт ля столі.

Цёплая чорная чарупіна ляжала ў левай кішэні.

— Слава, — сказала Валянціна Браніславаўна, — як вы ставіцеся да такога выказвання: «Чалавек — гэта тое, пра што ён думае на працягу дня»?

— Не ведаю, — Слава паціснула плячыма, — можа быць, так яно і ёсць. — На працы Слава любую фразу пачынала словамі «не ведаю» і заўсёды паціскала плячыма. — Я не захапляюся цытатамі.

— Мне гэта нецікава, — так Слава пачынала тэлефонныя размовы з Рыгоркам. — Мне нецікава, калі ты прыйдзеш дахаты... Калі заўгодна... Добра, я зраблю табе амлет, калі прыйдзеш. Толькі не тэлефануй болей. Усё... Пакуль.

Слава паклала трубку. Вось так. Шэрая, мокрая восень. У кватэры яшчэ не ўключылі ацяпленне — холадна і сумна. Так, сем год гадавала чорнага пеўня Рыгоркава маці. Сем год таму Рыгорку было дваццаць два гады, і ў гэтым узросце ён задумаў выгадаваць цмока. Ці гэтага захацела маці? Нядрэнна — цмок да канца жыцця будзе насіць яе любімаму сыночку скарбы. А Слава? Сем год таму вучылася ў восьмым класе, займалася валейболам, хадзіла на трэніроўкі. Яна не збіралася гадаваць цмока. Усё так брыдка і нудна, ні на што не стае моцы. Слава не магла знайсці сабе месца. Не пакідала адчуванне страты — быццам згубіла што. Ці, хутчэй, не згубіла, а проста ўкралі. Толькі што? Чорная чарупіна на месцы, ляжыць у кішэні і грэецца. Ці грэе? А Славе здаецца, што яна ўжо перастала быць сама сабой: рукі і ногі нямеюць, як чужыя, вочы круглыя, пагляд палахлівы. І застаецца адно — пашкадаваць сябе. Усё-такі заўсёды застаецца месца для жахлівага, і абавязковае месца — для пакарання. Прыціхлі ў змроку цені жаданняў, якія немагчымаператварыць у цярпенне, дзіўныя намеры шчэмяцца ў душу. І спынілася ў вышыні белая поўня.

Цмок вылупіўся ўвечары, калі Рыгоркі не было дома. Слава думала, што цмок будзе падобны на вужаку. Але не, малы, ён нагадваў яшчарку, а калі падгадаваўся, дзіўным чынам змяніў аблічча — зрабіўся падобным на сабаку. Слава праводзіла з ім шмат часу, карміла яечняй, мыла і называла Крыланам. Яна звыклася з яго вострай мордаю з чорным носам і маленькімі бліскучымі вачыма, звыклася з тым, што замест пярэдніх лапаў у яго крылы. Рыгорка забараняў называць цмока Крыланам.

— Гэта Цмок — і ўсё!

— Ён занадта тоўсты для Цмока.

— Ён нармальны, такі, як трэба. Гэта ты тоўстая.

Рыгорка паглядзеў уважліва на Славу, пасля на цмока і дадаў: «Хутка будзеш вучыць яго лётаць». Крылан большасць часу хаваўся за лядоўняй, усяго баяўся, і Слава сумнявалася, што ён калі-небудзь паляціць.

Славу цікавіла ўсё, што тычылася выхавання цмока. Калі Рыгоркі не было дома, яна шукала кнігу, якую не бачыла ні разу з таго самага першага дня. Знайшла яе, бо вельмі хацела знайсці, на шафе, загорнутую ў паперу, зверху на кнізе стаяў прас — стары і цяжкі, ім ніхто не карыстаўся. Пра гэты прас Рыгорка казаў, што яго падаравалі маці на вяселле.

«Цмок нікому не паказваецца. Кожны дзень гаспадар ці гаспадыня носяць яму свежую яечню. Але яечню нельга саліць: пасаліўшы яечню, угневіш цмока. За гэта ён спаліць усе скарбы, гаспадара і паляціць прэч», — прачытала Слава ў кнізе.

«Субота. 21 снежня. Даўж. дня 6:57. Поўня» — падкрэсліла Слава ў перакідным календары, што ляжаў на яе працоўным стале. Сёння Рыгор збіраўся выпускаць цмока, сказаў, што скіне яго з балкона — пара ўжо. Крылы мае — значыць, паляціць.

— А як вам, Слава, здаецца, — спытала Валянціна Браніславаўна, — што лепей: быць паслухмяным ці заўсёды кіравацца сваёй воляй?

— Галоўнае — ведаць правілы.

— Што?

— Прабачце, я не ведаю, Валянціна Браніславаўна.

«Самая бязглуздая гульня мае сэнс, калі ведаць правілы», — сказала Слава сама сабе ўжо на вуліцы і ўсміхнулася. Як на цуд, глядзела яна на зіхатлівы, парушысты снег у святле ліхтара. Снег нагадваў ёй тоўчаныя шкельцы на калядных паштоўках, якія дасылала ёй бабуля з Амерыкі. Хутка Каляды. І, здаецца, на пустой вуліцы ўжо пахне елкаю і мандарынамі. Сакавітымі аранжавымі мандарынамі. На высокім небе мігцелі чыстыя, халодныя зоркі, кацілася над горадам сумная поўня. І падала знічка. «Памёр нехта», — паспела падумаць Слава. Але знічка не ўпала, шугаючы зыркім полымем, праляцела над Славаю і скіравалася на ўсход, туды, дзе канчаўся горад. Туды, куды трэба было ехаць і Славе. Спачатку на метро, потым аўтобусам, амаль гадзіну. Пакідаючы за сабой доўгі залаты след, вяртаўся дадому выгадаваны Славай Цмок-Крылан. Матэрыялізаванае Рыгоркава жаданне.

«Галоўнае — не спяшацца ў дзеяннях, — падумала Слава, — пасаліць яечню я паспею заўсёды».

Набліжаліся Каляды, а гэта было любімае Славіна свята. Самае вясёлае свята.

Лістапад 1992 года

# Да сустрэчы ў Сінгапуры!..

— Бамбёжка! — сказала Ленка.

Металёвыя абцугі ўздымалі ў паветра і ставілі на машыну кантэйнеры са смеццем. Кантэйнеры грукалі і ляскалі.

— Бамбёжка! — сказала Ленка. А Янка, лежачы ў ложку, уявіла цяжкі смурод, што распаўзаўся зараз ад кантэйнераў. Пасля іх на асфальце звычайна застаюцца мокрыя плямiны, якія высыхаюць за дзень, а вечарам зноў выразна адчуваецца пах новай працоўнай раніцы. І так штодня.

— Бамбёжка, — паўтарыла Ленка і пайшла на працу. Янка зноў заснула.

Янка прачнулася, калі паміж высокімі дамамі распаўзліся прыцемкі, канчаўся восеньскі дзень. Янка пасунулася на кухню, папіла вады з-пад крана, запаліла цыгарэту. Цыгарэта пакідала на вільготных вуснах непрыемны смак, і Янка заела яе малінавым сочывам. Па радыё перадавалі джазавую музыку. Думкі распаўзаліся, што тыя плямiны на асфальце, перад вачыма круціліся знаёмыя твары, дамы, вуліцы, парканы з перадвыбарчымі плакатамі. Усё круцілася, круцілася, але хвалявала не больш ад пустой пляшкі, пушчанай на рачныя хвалі.

Янка ўзяла кніжку, але чытаць не магла. Пачаўся дождж, яна сядзела і слухала яго нервовы рытм.

У дзверы пазванілі, гэта прыйшоў Жэнік.

— Ты адна? А дзе Ленка?

— Не ведаю... А дзе твой парасон?

— Які парасон?

— Ты без парасона? На вуліцы ж дождж.

— Які дождж?!

— Хіба не чуеш, як шуміць?
— Шуміць? Гэта галубы топчуцца па карнізе.
— Галубы ўжо спяць.
Аранжавая лямпа напаўняла пакой роўным нязыркім святлом. Дождж падаў за акном, буйныя кроплі біліся аб цынкавы карніз. Жэнік плюхнуўся на канапу і сказаў:
— Жыццё такое дурное...
— Жыццё дурное, — паўтарыла Янка. — Але апошнім часам у мяне пачынае ўзнікаць сумненне: ці гэта жыццё дурное, ці ўсё ж такі я дурная.
— Чаго?
— Мне нядаўна распавялі трагічную гісторыю пра каханне, я рагатала, не магла супакоіцца.
— Раскажы.
Жэнік выцягнуў з вазы засушаны гваздзік і па адным абдзіраў яго пачарнелыя пялёсткі.
— У гэтай дзяўчыны быў хлопец. Літовец. Вельмі разумны. Разбіраўся ў філасофіі, вучыўся ў політэхнічным інстытуце. Яны цалаваліся на вуліцы.
— Гэта ўжо натуралізм, — Жэнік выцягнуў з вазы яшчэ адзін засушаны гваздзік.
— Так, але гэта яшчэ не ўсё. Ёй казалі, што ў яго шмат «дзяўчат», але яна «не верыла».
— Чаму?
— Не ведаю. Аднойчы вечарам яна ішла па вуліцы і пабачыла, як ён у падваротні цалуецца з іншай дзяўчынай. Яна падышла і сказала па-руску: «Девушка, не верьте ему, он вас обманет!» А мужчына сказаў: «А, прывітанне, і ты тут?» Клас?
Жэнік засмяяўся і сказаў, што ва ўсім гэтым выразна праглядаюцца фальклёрныя матывы, што сюжэт гэты можа спакойна вандраваць ад адной трагічнай гісторыі да другой. Але ўсё роўна смешна.

Янка пайшла на кухню гатаваць каву. Пакуль грэлася вада, яна глядзела ў акно. Было цёмна, густы дождж барабаніў у шыбу. Двор быў пусты, белыя ліхтары свяціліся ў халодным змроку. Чорныя вадзяныя патокі несліся па асфальце да закратаванага люка. Вада каля люка віравала, у віры круцілася нешта белае, як падалося Яне, ануча.

«У кагосьці бялізну з балкона знесла», — падумала яна. Праз двор да тэлефона-аўтамата прабегла жанчына ў светлым плашчы. Можа, хуткую трэба выклікаць? Пры такім жахлівым надвор'і каму хочаш можа зрабіцца блага. На кухні пахла кавай. Жанчына ад тэлефона вярталася да свайго пад'езда. Каля люка яна крыху памарудзіла. Хацела пераскочыць? Кава закіпела, вылілася на пліту. Янка хуценька выключыла газ. І калі зноў глянула ў акно, жанчына знікла, толькі ў віры над люкам вада круціла нешта светлае. Дождж шапацеў, заглушаў усе іншыя гукі. Янка, якая заўсёды сумнявалася ў рэальнасці навакольнага свету, не знайшла ў гэтым здарэнні нічога дзіўнага. Разліла па філіжанках каву і панесла яе ў залу.

На сцяне была налеплена паштоўка: заснежаны пляж, мол, халоднае мора.

— Што гэта? — спытаў Жэнік.

— Мой любімы краявід.

Паштоўка вісела на сценцы даўно, таму ніхто ніколі не мог бачыць надпісу на яе адваротным баку. «Да сустрэчы ў Сінгапуры!» — было напісана там. Янка заўсёды помніла пра гэта; калі глядзела на любімы краявід, то паўтарала ў думках: «Да сустрэчы ў Сінгапуры... Да сустрэчы ў Сінгапуры...» Гэту фразу можна было прагаворваць на розныя лады, у залежнасці ад настрою.

— У мяне таксама ёсць любімы краявід, — гаварыў Жэнік. — Рэклама насовак: сонца заходзіць, а на скале стаяць чырвоныя сосны, пад імі чорныя цені. Ён у мяне дома ў кнігах ляжыць.

— Чаму ты яго не дастанеш?

— Навошта? Гэта ж толькі рэклама насовак.

Жэнік пайшоў, Янка зноў засталася адна. Яна стаяла з цыгарэтай каля акна на цёмнай кухні. Бачыла, як Жэнік выйшаў з пад'езда. Ліў дождж, а ён не зважаў на яго, як бы дажджу не было зусім. Бачыла, як Жэнік на хаду азірнуўся, глянуў на іх вокны, махнуў рукой і знік. Гэта было каля таго люка. Янка стаяла, глядзела на дождж, больш глядзець не было на што — двор быў зусім пусты. Свяцілі белыя ліхтары.

— Да цябе Жэнік прыходзіў, — сказала Янка Ленцы, калі тая вярнулася дахаты.

— Што ён хацеў?

— Не ведаю... А дождж яшчэ ідзе?

— Скуль ты ўзяла? Суха. А з Жэнікам мы ўсё роўна пабачымся заўтра.

— Магчыма.

Янка глядзела на свой любімы краявід: мора, мол, зярністы снег на пляжы. Яна падумала, што Ленка таксама не ведае таго надпісу на адваротным баку паштоўкі:

«Да сустрэчы ў Сінгапуры!..»

1989

# Магіла

Сяргей вёў запісы ў фіялетавым сшытку, але гэта не быў дзённік, хутчэй звароты да вышэйшае істоты, якая павінна назіраць за намі. «Няхай я буду вольным ад самалюбства, ад нечыстаты сэрца і думак на шляху да дасканаласці», — было запісана на першай старонцы ў фіялетавым сшытку.

На цёмнай вуліцы Стэфан нечакана пачуў крокі і схаваўся за рог, прытуліўся спінаю да цаглянай сцяны. Але яго ўсё роўна заўважылі. «Прабачце, можа, у вас знойдзецца дзве капейкі?» — спытаў у Стэфана чалавек у чорным (ці цёмна-сінім?) плашчы — адзенне, трэба заўважыць, даволі дзіўнае для цёплай жнівеньскай ночы. Стэфан аддаў чатыры капейкі па адной і моўчкі павярнуўся тварам да сцяны. Праз хвіліну яму падалося, што чалавек усё яшчэ стаіць у яго за плячыма, азірнуўся — вуліца была пустая. Стэфан правёў рукою па шурпатай паверхні сцяны — пасыпаліся дробныя каменьчыкі.

Вокны кватэры, у якой Стэфан жыў разам з Сяргеем, выходзілі на могілкі. Сяргею падабалася глядзець на магілы, яны яго супакойвалі.

Стэфан сваім ключом адчыніў дзверы. Пастаяў на калідоры. «Ціха, — падумаў ён, — ціха, як... як у труне». Цішыня ў кватэры, цішыня на вуліцы і на могілках, дзе белымі калонамі выступалі з цемры бярозы, чарнелі мармуровыя пліты, соладка пахлі кветкі на магілах, дзе цяжка было разабрацца, што ўжо аджыло сваё, а што яшчэ жыве. Дзынкнула бітае шкло. Пабілі пустую пляшку? Ці гэта толькі падалося?

Стэфан разглядаў свой твар у круглым люстры, пра якое Сяргей казаў, што яно ўсё скажае. Што ў яго з вачыма? Адно — зусім нармальнае, блакітнае, другое — мутна-жоўтае, пачырванелае, як падбітае. Алергія?

Лямпа ў Сяргеевым пакоі свяцілася мяккім зеленаватым святлом. Зялёнае святло таксама павінна супакойваць.

«Хай я буду лепшым, чым цяпер, больш шчырым з сабой і чулым на патрэбы іншых», — пісаў Сяргей.

— Сяргей! — Стэфан адчыніў дзверы ў пакой.

— Што?! — Сяргей схаваў пад стол фіялетавы сшытак.

— Са мною нешта робіцца, глядзі, вока якое страшнае стала.

— Такое, як табе трэба.

— Ды не гэтае, а другое.

— А я пра другое і кажу.

— Навошта мне такое? Ты здзекуешся!

— З табой інакш немагчыма. Ты ўлез у свой неўроз па самыя вушы, толькі ім і жывеш.

— Ты мог бы мне дапамагчы...

— Дапамагчы? Набяры верасу, запар сабе гарбаты. Можа, дапаможа — супакоішся.

Стэфан марыў быць незаўважным, каб яго зусім ніхто не бачыў, бо самі людзі ўжо даўно здаваліся яму ценямі, пазбаўленымі канкрэтнасці. Ён гадзінамі хадзіў па цёмных вуліцах, і калі на нейкі момант узнікала адчуванне спакою, то пасля нянавісць да самога сябе апаноўвала ім з новаю сілаю.

— Прабачце, вы не маглі б мне дапамагчы? — чалавек у плашчы спыніў Стэфана каля тэлефона-аўтамата.

— Дапамагчы? А што трэба зрабіць?

— Трэба затэлефанаваць. Я скажу нумар.

Чалавек аддаў Стэфану грошы — чатыры капейкі па адной.

— Тэлефануйце: 54-31-32.

Стэфан паслухмяна набраў нумар. Доўгія гудкі.

— Паспрабуйце яшчэ.

Стэфан зноў, ужо па памяці, набраў нумар. Да тэлефона ніхто не падыходзіў.

— Варта паспрабаваць яшчэ.

Фары машыны, якая з'явілася неяк раптоўна, асвяцілі ўсё навокал. Стэфан пачуў у сябе за плячыма кароткі ці то смех, ці то стогн. Машына праехала, на вуліцы зрабілася яшчэ цямней. Стэфан павярнуўся, каб сказаць, што не збіраецца болей тэлефанаваць, але чалавек знік. Па вуліцы праехала яшчэ адна машына.

Стэфан не ведаў, што верас расце на пясчанай, неўрадлівай глебе, не ведаў, што яго не варта шукаць зранку на гарадскіх могілках, дзе ад магілы да магілы ў пошуках пустых пляшак блукае бабка з абшарпанай торбай, а з-за кустоў бэзу чуецца:

— Мікола! Мне з табой сумна...

— Ну, скаціна, ну, скаціна...

— Мне сумна з табою...

— Скаціна!

«Класныя хлопцы, — падумаў Стэфан, — а хто скаціна?» На магільных агароджах, а там, дзе іх не было, проста на крыжах былі прымацаваны таблічкі. Металёвыя таблічкі, чорныя, з надпісам, зробленым белаю фарбаю:

> «Спецкомбинат сообщает Вам, что
> Ваша могила подлежит переносу,
> справки по телефону 54-31-32».

Стэфана проста паралізавала, ён перачытаў абʼяву некалькі разоў і заплюшчыў вочы, але цёмна не стала, адразу забегалі аранжавыя кругі, замітусіліся зялёныя кропачкі, потым цемра загусцела і з гэтае цемры вылецеў павучок. Зялёны павучок з чырвоным вокам. Павучок падскокваў на сваіх васьмі нагах, падміргваў, круціў вокам і не збіраўся знікаць. «Мікола! Мікола!» — рэзкі крык вывеў Стэфана са стану сузірання павучка. Ён расплюшчыў вочы. Усё паплыло, захісталася, магільныя агароджы і крыжы пачалі выгінацца. «Спецкамбінат ноччу зачынены, туды проста немагчыма датэлефанавацца», — падумаў Стэфан і стаў прабірацца да цэнтральнай алеі. Вельмі хутка ён выбраўся на асфальт. Перад ім таропка ішоў, амаль што бег хлопец у блакітных джынсах і цёмна-брунатным швэдры.

— Мікола! — нечакана для сябе паклікаў Стэфан.

Хлопец спыніўся.

— Хто скаціна? — спытаўся Стэфан.

— Скаціна! — адказаў Мікола.

«О Божая вечнасць! Прымі нас да ціхага спачынку свайго», — пісаў Сяргей у фіялетавым сшытку.

1989

# Замена фону

29 лістапада — у Оршы галалёдзіца, проста голы лёд на асфальце. Я завалілася на цэнтральнай плошчы насупраць помніка Леніну. Так і ляжала на чорным лёдзе, пасярод плошчы, — вырашыла не ўставаць рэзка, пераканацца, што косці цэлыя. Цікавы досвед — ляжаць пасярод плошчы. Вось так плануеш, плануеш, і раптам — на! — ляжыш на халоднай зямлі і ледзь варушышся.

*Дом фота*

У верасні вітрына з прыкладамі паслуг Менскага дома фота мяне ўразіла і напалохала. Па сутнасці, прапануецца фальсіфікаваць сямейную гісторыю — спалучаць на здымках людзей, якія ніколі разам не фатаграфаваліся, альбо прыбіраць са здымкаў тых, хто па нейкіх прычынах няўгодны. Гэта мана сабе і людзям. А «замена фона» — яшчэ тая паслуга. Змрочны фон калідора ў «хрушчоўцы» замяняецца на прыгожае зялёнае футбольнае поле. Я раней не ведала, што людзі такое робяць. Была перакананая, што толькі палітычную гісторыю фальсіфікуюць. Так паступова знікалі паплечнікі Сталіна з фотаздымкаў — і зразумела, чаму знікалі. Яны знікалі не толькі з фотаздымкаў, але і з жыцця.

Вось два фота — малады вайсковец і маладая дзяўчына. І вось яны ўжо разам на адным фота. Навошта? Не сфатаграфаваліся разам? Значыць, была на тое прычына. Альбо жанчына немаладая каля аблезлага плота сфатаграфаваная, а ёй фон змянілі — жытнёвае поле. Навошта? Каб «красіва было»?

Мая сяброўка рэжысёрка і грамадская актывістка Вольга Мікалайчык лічыць: чалавек прагне аднолькава як самападману, так і не існуючай вакол яго гармоніі альбо не заўважанай своечасова прыгажосці. Імітацыя, ілюзія сёння актуальныя як ніколі: не важна рабіць у сваім жыцці нармальны фон — яго можна будзе памяняць на фота ў фоташопе ці ў фотаатэлье. Калі путана вешае на сцяну свой партрэт у касцюме Беласнежкі, яна не робіцца больш шчаслівай. Можа, у гэтае фота павераць ейныя чыстыя сумленныя нашчадкі — мы ж не ведаем. Мараль грамадства пакуль яшчэ патрабуе адрэтушаваных фотак на сцяне дома, сцяне Фэйсбуку...

Гэта, напэўна, добра, што ёсць мяжа маралі ў соцыуме, але страшна, што яе часам няма ў самім чалавеку. А я так думаю: хочаш добры фон — дык зрабі яго ў сваім жыцці добрым.

*Негатывы*

Апошні раз фатографа Уладзіміра Сапагова бачыла ў 2000 годзе на офісе Таварыства беларускай мовы ў Мінску, дзе ў той час адзін пакой арандаваў праваабарончы цэнтр «Вясна». Уладзімір Сапагоў, як звычайна, зайшоў на ТБМ з фотаздымачом Canon. Ён паўсюль хадзіў з фотаздымачом і фатаграфаваў усё: падзеі, людзей, акцёраў, палітыкаў, пісьменнікаў. І ў той раз на ТБМ было каго фатаграфаваць. Спачатку пісьменніка Кастуся Тарасава, пасля на ТБМ зайшоў паэт Анатоль Сыс. І Сапагоў фатаграфаваў і Кастуся Тарасава, і Анатоля Сыса, і мяне, і маю сяброўку і калегу Аліну Палаўнёву. І ўсіх разам. Вясёлыя, мы пазіравалі ў тэбээмаўскіх фатэлях. Фотаздымкаў мы не пабачылі,

фатографа Сапагова таксама больш не бачылі, прынамсі я. На сённяшні дзень з усіх удзельнікаў той фотасесіі ў жывых толькі я.

У 2015 годзе пра фотаздымкі Уладзіміра Сапагова ўзгадалі ў Фэйсбуку мы з Марынай Сідаровіч. Марына напісала, што «трэба знайсці Сапагова», бо ў васьмідзясятыя ён фатаграфаваў усе Купаллі. Я тады адказала, што ў наш час, калі чалавека доўга не бачыш, ёсць вялікая верагоднасць, што ён ужо і не жыве.

Уладзімір Сапагоў ніколі не развітваўся з фотаапаратам. Жыў у інтэрнаце Трактарнага завода, быў самотным чалавекам — гадаваўся ў дзіцячым доме. Я пачала яго шукаць, і аказалася, што яго ўжо тры гады няма ў жывых. Пахаваны на вясковых могілках пад Мінскам. Пахавалі сябры, на магіле — помнік з вывявай галубкі. Фатограф Уладзімір Сапагоў (1952–2012) памёр ад інсульту ў пятай бальніцы. Пра гэта стала вядома ад яго сябра Міхаіла Мякіша, які дапамагаў яму ў апошнія гады і сам адвёз у бальніцу.

У інтэрнаце рабілі рамонт і выкінулі ўсе фотаздымкі на сметнік. Але Міхаіл Мякіш здолеў уратаваць негатывы і пазітывы, якія аддала камендантка інтэрната.

Узгадваецца верш Міхася Скоблы, напісаны падчас навучання ва ўніверсітэце напрыканцы васьмідзясятых. Верш мае назву «У апошнім музеі Беларусі». У вершы такія словы: «Страчана, страчана, страчана — надпіс на кожным цэтліку. З памяццю спячаю спадчыну не зберaглі мы цэлаю». Тады і ўявіць было немагчыма, што гэты верш можа быць датычны і да таго, што стваралася ў той час. Здавалася, што «страчаная спадчына» — гэта тое, што было даўно і не з намі. Між тым праблема знікнення асабістых і прафесійных архіваў пасля смерці іх уладальнікаў і стваральнікаў — вельмі актуальная. Людзі паміраюць — архівы знікаюць.

*Гімн СССР у аўтобусе «Вільня–Мінск»*

На мяжы ў салоне аўтобуса «Вільня–Мінск» нечакана загучаў гімн Савецкага Саюза. Я нават стукнулася каленкай аб сядушку — у неўсвядомленым парыве ўстаць, — так да ўзроўню рэфлексу навучылі нас уставаць пры гуках гімна. Гэтаму ўставанню пад гімн былі прысвечаныя цэлыя ўрокі спеваў — гімн і спявалі, і слухалі, і ўставалі пад яго. З гімна СССР пачынаўся дзень: а шостай ён гучаў па радыё — спачатку гімн СССР, а пасля гімн БССР. Пад гімн я ўставала і пачынала збірацца на ранішнюю трэніроўку — яйка на сняданак, гарбата — і наперад. Такая асацыяцыя — халодны цёмны ранак і гімн.

У салоне аўтобуса «Вільня–Мінск» гімн СССР гучаў з мабільнага кіроўцы — званок. Сам кіроўца ў гэты час адсутнічаў — адлучыўся ў краму беспадатковага гандлю. Аўтобус стаяў на мяжы. Званок гучаў доўга. І да тэлефона стаў падбірацца чарнявы малады хлопец, які да гэтага гучна распавядаў пасажырам, што ён уцякач з Луганскай вобласці, атрымаў прытулак у Літве і мае ў Вільні бізнес, а яго сястра жыве вельмі добра ў Мінску. Гукі гімна абарваліся. Уцякач ускінуў рукі ў стылі КВНа і загаласіў:

— Как хорошо, я думал, что заплачу!

Пасля пачаліся размовы. Удзельнічалі чатыры чалавекі: чарнявы, жанчына з Мінска, уцякачка з Усходняй Украіны, якая жыве ў Італіі, і такая самая з Германіі. Яны жаліліся на «бесчалавечных еўрапейцаў»: на адну з іх нямецкі кіроўца сказаў «швайн» за тое, што яна без дадатковай аплаты везла чатыры чамаданы. Яны жахаліся ўцекачам з Сірыі і прадракалі «канец Еўропы», клялі Гарбачова («сучка») і Парашэнку. Жанчына з Мінска казала пра тое, як добра было

без нацыяналізму, як яна зайздросціла ўкраінцам, бо ў іх памідоры растуць без цяпліц. Хлопец з Луганшчыны кляў віленскіх дзяўчат і, крыўляючыся, чытаў беларускія назвы ўздоўж дарогі:

— Манькаўшчына. Ха-ха-ха.

Жанчына з Мінска зрабіла яму заўвагу:

— А если бы я приехала в Украину и смеялась над вашими названиями?

— А я бы смеялся вместе с вами.

*«Москвы нет! Надо про мОсквы забывать»*

У Оршы 17 кастрычніка, у суботу мы выбраліся на прагляд містычнага трылера ў кінатэатр «Перамога» на 21.50. І выбраліся неяк зарана, таму заставаўся час, каб прайсці да езуіцкага калегіума па ярка асвечанай ілюмінацыяй вуліцы Леніна. Надвор'е добрае, настрой таксама лагодны.

На пераходзе, на перакрыжаванні вуліц Леніна і Камсамольскай на нас практычна наехала машына.

З белага-белага аўтамабіля высунулася зусім чырвоная морда і пракрычала спачатку так:

— Эй ты!!!

А пасля (перадаю даслоўна):

— Как на Москву ехать?

Паказалі, махнулі рукой — прама і... Адчулі, што сітуацыя анекдатычная. Хто ж так дарогу пытае? У нас любы гопнік ведае, што, калі пытаешся дарогу, трэба быць ветлівым.

«Эй ты...» Добра, што без мата.

На наступны дзень распавяла пра гэты анекдатычны выпадак у цырульні. Цырульніца адрэагавала імгненна:

— А я б адказала: голай ж… па пяску. Паводзяць сябе тут, як паны.

…сказала — «паны».

І праўда, быў такі вершык дзіцячы пра Маскву, пясок і голую ж…

— У мяне тут кліент прыходзіць, ён у Пецярбургу працуе, дык такое распавядае — усяго там наглядзеўся.

І ў той жа дзень чую ў гандлёвым цэнтры, як адзін прадпрымальнік крычыць другому:

— Москвы нет. Какая Москва? Надо забывать про эти мОсквы.

Вось такая візуальная антрапалогія ў кастрычніку 2015 года ў Оршы — апошнім вялікім беларускім горадзе на мяжы з Расіяй.

*Адэская цемра*

Адэса… Напрыканцы красавіка 2015 года, калі мы вырашылі пашпацыраваць па вечаровай Адэсе, нас папярэдзілі, што адэская цемра небяспечная. Нам параілі лепей зняць завушніцы і пакінуць торбы ў гатэлі, бо ў горадзе шмат узброеных людзей і «проста галодных». Прыяцельніца з Адэсы распавяла, што перастала шмат з кім кантактаваць — як з прарасійскага боку, так і з украінскага. Крытэр адмовы ад камунікацый — агрэсіўнасць. Адна з яе знаёмых бачыць сябе выключна з томікам Ясеніна на Арбаце, яе ідэал мужчыны — Пуцін. Іншая закопвае фотаздымкі Пуціна пад акацыямі — робіць сімвалічныя пахаванні. Дадала:

— Але ён, відаць, абмазваецца барсучыным тлушчам ці яшчэ нешта такое.

— Для чаго?

— Каб не дзейнічала бытавая магія.

Па надпісах на бетонных агароджах на пляжах Адэсы можна вывучаць палітычную гісторыю за мінулы год: «Слава Украіне!» (а зверху «Амерыканскія шакалы!»), «Героям слава!», «Помнім 2 мая!». А знізу надпіс, які тычыцца купання ў гэтым месцы, але вельмі пасуе і да палітычнай гісторыі: «Небяспечна!». А яшчэ ніжэй малюнак: украінскі трызубец замаляваны, а зверху намаляваны чорным колерам савецкія серп і молат. 26 красавіка ў 14.33 па дарозе з Адэсы на трасе каля Смалявічаў мы пабачылі расійскіх байкераў, якія ехалі са скручанымі скотчам сцягамі, азіраючыся па баках, у суправаджэнні двух бусікаў тэхнічнага абслугоўвання. А пазаду ехала міліцэйская машына. На павароце іх чакалі пяць байкераў са сцягамі Рэспублікі Беларусь і СССР.

*Сны на праспекце Машэрава*

У 1986–1987 гадах мы жылі ў інтэрнаце БДУ па праспекце Машэрава каля «Рамонка». Пяціпавярховая жахлівая будыніна — адзіны дом, пра знос якога я не шкадую ані разу. У інтэрнаце жылі студэнты філфака і юрфака (сярод іх было вельмі шмат воінаў-афганцаў). Атмасфера ў інтэрнаце была нездаровая — ва ўсіх сэнсах. А па-за межамі інтэрната віравала насычанае культурніцкае жыццё. У той час я далучылася да беларускага руху і спрабавала пісаць апавяданні, якія не хапала мне смеласці зачытаць ні на адным з літаб'яднанняў — ні на фармальных, ні на нефармальных. Кожны дзень тады, у часы перабудовы, быў цікавы і прыносіў навіны, але ў васямнаццаць гадоў я была не гатовая занатоўваць рэчаіснасць. І запісвала свае сны. Як цяпер разумею, і ў снах адбівалася рэчаіснасць. Вось фрагмент

сноў тых часоў: «Душа, загартаваная ў пакутах, вырвалася на волю і памкнула на бойку з Цмокам. Цмок сядзеў у логвішчы, падціскаў свае курыныя кіпці і выпускаў з носа дым. Душа спачатку спынілася на зялёнай траве каля ручая, дзе на дрэве вісеў меч. Душа ўзняла меч і знерухомела над празрыстай, хуткаплыннай вадой, углядалася ў яе, пакуль з дрэва не зваліўся вялізны апельсін. Зваліўся і паплыў. А душа ўсё ўглядалася ў ваду — чакала, каб яшчэ што ўпала ці, наадварот, вынырнула. Не дачакаўшыся, уздыхнула цяжка і паляцела да жытла Цмока. Шлях да яго выпалены, заліты атрутнымі цмокавымі кроплямі — не прайсці, толькі даляцець можна. У Цмока камфортнае жытло: зверху горны валун, пад ім пячора. Дзверы жалезныя, і ўсё ў самой пячоры металёвае. Глыбока ў сутарэннях цмок хаваў скарбы авіякатастроф, якія сам і арганізоўваў. І яшчэ захоўваецца там каністра з ВЕРАЙ У АГУЛЬНУЮ СПРАВУ ў выглядзе вадкасці. Душа выпакутавала права на адкрытую сутычку з Цмокам. Цмок адчуў, што ў паветры лунае штосьці нязведанае, ён рушыў наперад. Тут меланхалічная душа апынулася над цмокам і ўжо занесла меч, але хваля расчаравання, якая сыходзіла ад яе, узняла Цмока ў паветра, патрымала некалькі імгненняў і адпусціла, кінула на зямлю. Ён спрабаваў устаць, яшчэ шкрабаў пясок кіпцямі, пускаў дым, але хутка зразумеў, што ўжо не давядзецца таптаць яму курынымі лапамі траву і арганізоўваць авіякатастрофы. І тады запытаўся Цмок у самотнай душы: «Хто ты? Якога роду? Бо трэба мне ведаць, праз каго скончылася жыццё маё». А душа адказвала: «Невядома мне імя маё, роду не маю я і нічога не чула пра продкаў сваіх». Тады Цмок сказаў так: «Навошта хлусіш мне? Ужо канаю я. Кожны мае імя і род. Адкуль ты?» Бязважкая душа апусцілася на траву: «Я памяці

не маю...» І апошні раз сказаў Цмок: «Я ведаю, што толькі моцны дух мог перамагчы мяне. Дзіўна, што гэта ты, хто жыве без памяці, але, відаць, слаўны род маеш, бо я канаю...» У бязмежным нябесным прасторы праплыла хмара, скончылася Цмокава жыццё. Душа блукала ў падземных сховішчах, скарбы авіякатастроф яе не цікавілі, яна шукала тую самую каністру. Знайшла, выцягнула на свет і паляцела. Душа ляцела, вярталася, было шэсць гадзін раніцы, па радыё зайгралі гімн СССР».

*Сацыяльны сертыфікат і Пекла*

— Ты ездзіш сама на машыне? — пытаюся ў сяброўкі.

— І не збіраюся. Навошта мне, я роварніца і цягнікоўка.

— Ёсць жа людзі... А то цяпер як не на машыне — то не чалавек.

— Ай, навошта ў гэта гуляць? Гэта такі сацыяльны сертыфікат. Калі за трыццаць — хата, дача і машына. За сорак — кіроўная пасада. У пяцьдзясят — пышны юбілей з морам кветак і шырокія сувязі. Шэсцьдзясят–семдзесят — вялікая пенсія. Восемдзесят — вялікі помнік на Маскоўскіх могілках.

— Можна скараціць і зрабіць помнік у пяцьдзясят, ці ў трыццаць — яшчэ лепей, не трэба імкнуцца нават да кватэры — дамавіна.

А яна мне:

— Я так і думала, што дамавіна будзе маім першым уласным жытлом.

Сацыяльныя ролі і сацыяльныя маскі. За празмернай весялосцю і жартаўлівасцю хаваецца ўнутраная іс-

тэрыка. За стрыманасцю — шалёнасць. Часцей за ўсё сканчаюць жыццё самагубствам людзі знешне паспяховыя і забяспечаныя, пакідаючы пасля свайго сыходу толькі пытанні, чаму і як такое магло здарыцца. Сыходзячы, сваё ўнутранае пекла яны забіраюць з сабой.

Яшчэ адна мая сяброўка тлумачыць самазабойствы паспяховых людзей так: «Нейкія моцныя пакуты адчувае чалавек такі — і прыемныя моманты для яго не маюць ні сэнсу, ні ўражанняў, — яны не памятаюць прыемных момантаў, як новароджаныя — чыстыя ў сваёй смяротнай шызе. Суіцыд для іх і быў тым самым прыемным момантам жыцця, як катарсіс альбо аргазм, напэўна». Што адбылося на самай справе — ніхто і ніколі не зразумее. І тлумачэнне пра выпрацаваны рэсурс здаецца самым прымальным.

*Тапачкі для афіцэра*

«З расійскага боку на Данбасе ваююць пераважна рэканструктары», — кажа ўкраінскі калега. Гэта тыя самыя людзі, якія ў дарослым узросце кампенсавалі сваю экзістэнцыйную пустэчу гульнямі ў вайну з пераапрананнем ды праглядамі ваенных кінадрам. Гульня ў вайну выйшла з-пад кантролю — пераўтварылася ў вайну сапраўдную, — такія парадоксы свядомасці ды рэальнасці.

Травень 2015 года. Чарговы патрыятычна-шавіністычны аўтапрабег у Оршы — ад помніка «Кацюшы» даносіцца па Дняпры палымяная прамова: «Наше Союзное государство от Бреста до Владивостока. И никакие НАТО нам не страшны». Бу-бу-бу-бу… «Луганская Народная Республика» і музыка «Там, за туманами». Псеўдарэканструкцыя… Па тэлевізары транслюецца

чарговая расійская ваенная драма — салдаты бягуць у атаку з крыкамі «Мачыце немцаў!» (гэта ж слова якое падабралі рэжысёр са сцэнарыстам). І зноў: паказваюць па тэлевізары ваенную драму «Застава Жыліна» — пра савецкую мяжу напярэдадні нападу Германіі на СССР. Час, калі адбываецца дзеянне, — травень 1941 года. Месца дзеяння — памежная зона пад Берасцем. Бачым: на рэчцы чырвонаармейцаў спакушаюць мясцовыя дзяўчаты, якія гавораць па-расейску чамусьці з яўным балтыйскім акцэнтам, а ідэйныя чырвонаармейцы называюць іх «дуры польские». Пра Беларусь — ані слова. Беларускага акцэнту таксама няма. У фільме ёсць Расія (нават не СССР і «былая Польшча»). І тое, што гэта «былая Польшча», падкрэсліваецца паказам мясцовых палякаў з дзіўным акцэнтам і пабытовымі звычкамі. Сям'ю савецкага афіцэра засяляюць да адной такой пані. Яе разам з сынам-падлеткам кватаранты пасля заб'юць, але пакуль яна гэтага не ведае і ставіць умову — нікога не прыводзіць у госці і здымаць абутак пры ўваходзе. Вядома, у госці прыходзіць савецкі афіцэр, абутак не здымае, гаспадыня галосіць: «Як можна было не зняць абутак?» Савецкія афіцэры пагражаюць пісталетам. Сцэнарыст фільма яўна гадаваўся ў маскоўскай кватэры з абавязковымі тапачкамі ля ўвахода як праявай найвышэйшай культуры. Цяжка выйсці за межы сучаснай маскоўскай рэальнасці і падумаць пра тое, што ў 1941 годзе ўсё было не так, і афіцэры (у форме!!!) не сцягвалі боты, заходзячы ў памяшканне, і не абувалі тапкаў. І ўвогуле, здымаць абутак — усходняя традыцыя.

*Зло, якое прыкідваецца дабром*

Ёсць такое зло, якое прыкідваецца дабром, на яго тле зло, якое нічым не прыкідваецца, выглядае зусім бяскрыўдным: бачыш, што зло, — абыдзі. Іншая справа — зло, якое прыкідваецца дабром. Я называю гэта Тры Х — хітрасць, хцівасць, хіжасць. Адэпты такога зла наскрозь прытарныя і фальшывыя. А яшчэ вельмі часта практыкуюць модную цяпер аптымістычную псіхалогію і радасна супрацоўнічаюць з уладай. І «сонечна» (а як для чалавека, які разумее, — нацягнута) усміхаюцца. Гэта не ўсмешка — грымаса.

Ёсць знакаміты фільм «Залатая ліхаманка» з Чарлі Чаплінам, дзе галодны барадаты злыдзень глядзіць на Чапліна, які ператвараецца для яго ў велізарную курыцу. Гэта значыць, Чапліна як чалавека есці нельга, але ў барадатага ўзнікае замена рэальнай рэчаіснасці ідэалагічнай мадэллю — гэта не чалавек, гэта курыца, якую можна з'есці. Раз гэта курыца, значыць, з'есці яе гэта нармальна, бо я ж есці жадаю, я паміраю з голаду. Для гэтага і існуе прапаганда, яна падмяняе рэальнасць вобразам, патрэбным уладзе.

Існуюць розныя варыянты. Можна спаслацца на той жа фільм, калі Чарлі Чаплін есць чаравік і ўяўляе, што шнуркі — гэта спагеці, а цвічкі — костачкі. Ён паводзіць сябе не як людажэр. У яго іншая ідэалогія. Але любая ідэалогія замяняе сабой рэальную рэчаіснасць, каб апраўдаць паводзіны чалавека, паводзіны ўлады, паводзіны партыі, паводзіны лідара. А ў Беларусі прапагандысты падмяняюць рэальнасць вобразамі па прынцыпе «Беларусь сёння. Правільны выбар» («мы самыя лепшыя, усе нам зайздросцяць і так трымаць»). Усё гэта цяжкімі штампамі ўпрасоўваецца ў свядомасць праз дзяржаўнае радыё, тэлебачанне, газеты.

І яшчэ праз людзей, якія з аптымізмам пераконваюць блізкіх, што зло ёсць дабро.

### *«Пінгвін» і Верхні горад*

Снежань 1987 года. На вуліцы Леніна ў Мінску — кавярня «Пінгвін», і ніхто нават не думае, што некалі яе не будзе. І яшчэ чатыры гады да развалу СССР. У 1987-м развал СССР уяўляецца слаба, як і знікненне кавярні «Пінгвін». Зрэшты, яшчэ ёсць час, ні пра тое, ні пра другое асабліва ніхто не задумваецца.

Верхні горад рыхтаваўся да адсялення і рэстаўрацыі. Будынкі пакрыліся чырвона-брунатнымі плямамі архітэктурных зондаў.

Зонды выкрывалі змены, якія перажывалі будынкі, пераробкі і пераўтварэнні, схаваныя пад тынкоўкай. Зменаў хапала: на месцы дзвярэй узнікалі вокны, на месцы вокнаў — дзверы, замест брамы паўставала глухая сценка.

У той час я сябравала з вельмі разумнай дзяўчынай — Наталькай. Мы працавалі ад Акадэміі навук у архітэктурна-археалагічным атрадзе «Верхні горад»: замалёўвалі фасады дамоў — вулічны і дваровы. На намаляваных фасадах дамоў адзначалі архітэктурныя зонды — месцы, дзе адмыслова знята тынкоўка, каб можна было бачыць цэглу. У зондах замяралі цэглу: лажок, тычок, шырыня швоў, колер чырвона-брунатны. Старая цэгла распавядала гісторыю будынка і яго перабудоў, што павінна было спрыяць якаснай рэстаўрацыі.

А каву хадзілі піць у «Пінгвін». Цяпер пра гэтыя халодныя дні засталіся толькі ўспаміны.

Вуліцы: Інтэрнацыянальная, Музычны завулак, вуліца Герцэна, вуліца Бакуніна. Усе яны скіраваныя

да Ратушнага пляца. Ратушы на той час няма, але ёсць спадзяванне, што яе адновяць.

Музычны завулак, дом, наступны за Домам масонаў.

Малюю абрысы фасада на вузкай вуліцы, якая калінебудзь прывядзе да ратушы.

Мераю цэглу, а калі робіцца зусім сумна, пішу на сценах алоўкам вершы маладых беларускіх паэтаў, якія мне падабаюцца. Спадзяюся — нехта прачытае.

Рукі мерзнуць — ад цэглы. Туман густы, у некалькіх кроках улева і ўправа нічога не разгледзець. У доме на першым паверсе гарыць святло. Праз запацелае шкло бачу стол са сняданкам, венскае крэсла, на ім — паласаты кот.

Хутка, зусім хутка жыццю ў Верхнім горадзе прыйдзе канец, і нічога не будзе. З'едуць гаспадары. І хто ведае, ці забяруць венскае крэсла і коціка ў новае жыццё. Адбудзецца рэстаўрацыя. І ўсё навокал зменіцца.

У снежні 1987 года за вокнамі «Пінгвіна» ў мінскім тумане праплывалі цені мінакоў... Здаецца, і цяпер я калі-некалі бачу тыя цені.

*Брылі*

Ехалі на поле Аршанскай бітвы (Крапівенскае поле) на аўтобусе «Орша–Дуброўна». Каб трапіць на поле, трэба выйсці на прыпынку «Паварот на Гацькаўшчына», а перад гэтым прыпынкі — «Брылі» і «Крапіўна».

У аўтобусе «Орша–Дуброўна» перад намі сядзелі жанчына гадоў шасцідзесяці і хлопчык з яркім школьным ранцам. Хлопчык уголас чытаў назвы ўсіх прыпынкаў.

— «Брылі»... Бабушка, а что такое «Брылі»?

— Брылі?.. Брыль — это старинное слово, твой прадедушка носил брыль.

Цікавы адказ. Слова старое. А што такое «брыль», як і дзе яго насіў прадзед хлопчыка — не патлумачыла. Быццам бы і так зразумела, што брыль — гэта брыль. Старажытная назва, якая называе прадмет, якога ўжо няма. І насіў яго чалавек, якога ўжо няма.

Хлопчык працягваў чытаць назвы прыпынкаў:

— Кра-піЎ-на, — амаль выкрыкваў ён назву наступнага прыпынку, вылучаючы «Ў», — «Крапіўна» — это по-белорусски?

Бабуля не адказвала, глядзела ў акно з тварам каменным, напружана-задуменным. Такі выраз твару бывае на прыёме ў псіхатэрапеўта, калі доктар нарэшце задае пытанне, якое закранае балючы момант з мінулага, які не хочацца чапаць. Траўматычны момант.

Старыя словы. Словы з мінулага. Недзе там, у мінулым, засталося жыццё, дзе мужчыны хадзілі ў брылях. Там быў свой побыт і прадметы побыту, адзенне — і усё гэта мела свае назвы — не расейскія. Іншы свет, іншы погляд на свет. Іншыя рэчы, іншыя словы.

Напрыклад, брылі ці Брылі — з вялікай літары — назва вёскі.

Аўтобус ехаў уздоўж поля Аршанскай бітвы. Сёлета — 500 год Аршанскай бітвы, да наступнага юбілею ніхто з нас не дажыве — факт. Як адсвяткавалі юбілей? Як здолелі адсвяткаваць, так і адсвяткавалі.

І вось вёска Брылі. Мала хто ведае, але 6 верасня 2014 года ў Брылях адбыўся Фэст бардаўскай песні, прысвечаны Аршанскай бітве. Фэст зусім невялікі — удзельнікаў разам са слухачамі было 16 чалавек. Кажуць, што ў свой час бардаўская песня дапамагла разваліць СССР, але час той мінуў...

— Кра-піЎ-на! Па-беларуску? Па-беларуску? — звініць пытанне на ўвесь аўтобус. І цішыня ў адказ. Маўчала бабуля. Маўчалі і астатнія пасажыры... Хто яго ведае, што ў нас па-беларуску, а што — не?

У красавіку гэтага года ў Вільні мне давялося пагаварыць з Хуанам — псіхатэрапеўтам з Парыжа. Хуан працуе з людзьмі — ахвярамі катаванняў, узброеных канфліктаў і войнаў. Хуан казаў пра тое, што траўма разрывае не толькі жыццё чалавека, але і яго асобу на дзве паловы — на тое, што было да траўмы, і тое, што атрымался пасля. І для таго, каб вярнуць чалавека да жыцця і да самога сябе, трэба аб'яднаць гэтыя дзве часткі асобы. Спачатку пракласці паміж імі сляды, а пасля — уз'яднаць часткі разарванага. А пасля можна атрымаць супакой, упэўненасць, раўнавагу ды здольнасць самому выбіраць дарогі, па якіх рухацца.

*Помнік воіну, падобнаму на касманаўта*

Незвычайны помнік можна пабачыць у цэнтры мястэчка Копысь. Надпіс сведчыць, што помнік ушаноўвае памяць людзей, якія нарадзіліся ў Копысі і загінулі падчас Другой сусветнай вайны.

Скульптура мемарыяльнага воіна ўражвае сваім падабенствам да касманаўта. Зараз мала хто памятае, але пасля вайны ў Беларусі было вельмі шмат магіл воінаў — у лясах і ўздоўж дарог, з невялікімі кранальнымі помнікам ахвярам вайны, якія ўсталёўвалі мясцовыя жыхары і даглядалі магілы.

У 70-я гады «недзяржаўныя» магілы нішчыліся ў межах кампаніі «Никто не забыт и ничто не забыто». Частка парэшткаў звозілася ў раённыя цэнтры, дзе ўсіх перахоўвалі ў агульных магілах і ставілі стандартны помнік.

Былі адмысловыя скульптары, якія займаліся вырабам помнікаў. Адначасова ў СССР ухвалялі касманаўтаў, магчыма, на гэтай хвалі і з'явіўся помнік воіну, падобнаму на касманаўта.

Жыццё ў Беларусі да апошняга часу будавалася на звычках жыцця па-савецку, у тым ліку жыцця ў савецкай сімвалічнай прасторы. Савецкія назвы і манументы, «леніны» працягваюць «упрыгожваць» плошчы беларускіх гарадоў, у тым ліку і плошчу Незалежнасці ў Мінску.

Ідэю пад назвай «манументальная прапаганда» прапанаваў сам Ленін у 1918 годзе, гэта была адна з чарговых задач Савецкай улады. Сваёй ідэяй Ленін падзяліўся з Луначарскім.

— Манументальнае мастацтва — мастацтва дарагое, — засумняваўся Луначарскі.

А Ленін супакоіў:

— Калі ласка, не думайце, што я пры гэтым уяўляю сабе мармур, граніт і залатыя літары. Пакуль мы ўсё мусім рабіць сціпла. Хай гэта будуць якія-небудзь бетонныя пліты, а надпісы на іх па магчымасці больш выразныя. Пра вечнасць ці хаця б доўгатэрміновасць я пакуль не думаю.

Але пасля з'явіліся мармуровыя помнікі Леніну з залатымі літарамі, можа і не вечныя, але дакладна доўгатэрміновыя.

Пасля 1917 года бальшавікі пераназвалі ўсё, што нагадвала пра ранейшы, дарэвалюцыйны лад жыцця, — вуліцы, гарады. Толькі рэкі захавалі свае назвы. Гэта рабілася з мэтай пазбавіць аўтарытэту «старую» ўладу, а таксама сцвердзіць у свядомасці людзей новыя каштоўнасці і арыенціры. У сучаснай Беларусі савецкая манументальная прапаганда працягвае сцвярджаць, што ўсё спакойна, — арыенціры, каштоўнасці заста-

юцца ранейшымі і шлях у будучыню нам дагэтуль паказвае Ільіч — з нязменнай мятай кепкай у руцэ.

На мітынгу 7 лістапада 1990 года на плошчы Незалежнасці (а тады Леніна) у Мінску народ, які сабраўся на плошчы, вярнуў «правадыру» яго «дары» — ватоўку, якая была амаль што «нацыянальным адзеннем» савецкага чалавека, ды калючы дрот. Гранітны ідал спакойна прыняў «дары» і застаўся на сваім пастаменце ў цэнтры беларускай сталіцы.

Верасень 2014 — верасень 2015 года

## *Прадмова, напісаная праз шмат гадоў*

Упершыню верш Максіма Багдановіча я пачула ў пад’ездзе дома 106 па вуліцы Савецкай у Гомелі. На сёмым, апошнім, паверсе. Мне прачытала яго суседская дзяўчынка. Мы сядзелі на прыступках, якія вялі на гарышча. І Лена (тады амаль усе дзяўчынкі былі альбо Лены, альбо Наташы) сказала, што зараз прачытае мне верш, сказала, што ён па-беларуску, але хай мяне гэта не бянтэжыць, бо хаця звычайна беларускія вершы «непрыгожыя» (быў тады ўстойлівы стэрэатып пра беларускае як пра другаснае), але гэты верш — выключэнне. Яна прачытала мне верш «Слуцкія ткачыхі». Сяброўка была старэйшая, у школе мы пакуль не праходзілі Багдановіча — пра праграме не дайшлі. 1978 год. Мы жылі ў Гомелі ва ўніверсітэцкім гарадку ў доме для выкладчыкаў і студэнтаў. Сяброўка Лена жыла з маці і айчымам, які разводзіў птушак. Іх у яго было больш за 30, і яшчэ ў яго атрымалася скрыжаваць зябліка і канарэйку. Птушка, якая атрымалася ў выніку, то спявала, як канарэйка, то пачынала пранізліва рыпець.

Пасля было знаёмства з Максімам Багдановічам у межах школьнай праграмы, але наша школьная настаўніца, Кудраўцава Клаўдзія Аляксандраўна, больш любіла Янку Купалу і Францішка Багушэвіча — у вольны час яна чытала нам паэмы «Кепска будзе» і «Бандароўна» — па памяці.

Пасля маці прачытала мне рандэль «На могілках» («Амур і сумны і прыгожы стаіць з павязкай на вачах ля склепу»). Верш быў у зборніку, набытым у 60-я гады ў Маскве ў кнігарні, дзе прадавался літаратура народаў СССР. Мае бацькі вучыліся ў Маскоўскім

універсітэце, дзе навучаліся студэнты з усіх рэспублік, і ў 60-я гады ў гэтым асяродку ўзнікла мода на ўсё нацыянальнае. Моднымі былі літоўскія мастакі — Чурлёніс, Шымоніс, а таксама студэнты імкнуліся падкрэсіць сваю нацыянальную адметнасць і мелі ў сябе кнігі на нацыянальных мовах. Так першы зборнік Максіма Багдановіча, які трапіў да мяне, быў набыты ў Маскве.

У 1985 годзе, у 10-м класе, перад самымі выпускнымі іспытамі пачала чытаць кнігу Міхася Стральцова «Загадка Багдановіча». Кніга захапіла: постаць Багдановіча была прыцягальнай, таямнічай і містычнай, а ўсё загадкавае, таямнічае і містычнае вабіла мяне. І тады з'явілася мара: вось бы не рыхтавацца ні да якіх іспытаў, а ўвесь час толькі чытаць Багдановіча, ці пра Багдановіча, ці ўсё, што звязана з Максімам Багдановічам і ягоным бацькам Адамам Багдановічам. Вось так неўсвядомлена загадала я тады жаданне. Жаданне спраўдзілася — праз пяць з паловай гадоў. Пасля заканчэння беларускага аддзялення філфака БДУ Алесь Бяляцкі запрасіў на працу ў Літаратурны музей Максіма Багдановіча ў Мінску.

У кастрычніку 1990 года я стала навуковым супрацоўнікам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску. Але гэта не значыць, што тады я ўпершыню пераступіла парог музея. На пятым курсе я атрымала дазвол на працу ў фондах музея, бо дыплом мой быў пра міфалагічныя матывы ў творчасці Максіма Багдановіча, і я хадзіла ў музей, каб чытаць «Перажыткі старажытнага светаўспрымання беларусаў» Адама Багдановіча (тады яшчэ не быў выдадзены факсімільны варыянт). Музей у той час знаходзіўся ў стане пабудовы экспазіцыі. Адкрыццё музея мусіла адбыцца ў снежні 1991 года — да стагоддзя з дня нараджэння паэта.

У 1990 годзе я выйшла на працу. І адчула сябе, як у цыкле вершаў Максіма Багдановіча «У зачараваным царстве».

Для наведвання музей адчыняўся ў снежні 1991 года, а пакуль музей быў Домам паэта — напоўнены незвычайнымі рэчамі, кнігамі, рэліквіямі (напрыклад, гадзіннік, які быў падараваны Максіму Багдановічу бацькам пры заканчэнні гімназіі і адлічыў апошнія хвіліны зямнога жыцця паэта ў Ялце). Музей быў сам сабе — таямніца, яшчэ не адкрытая для наведнікаў. У тэматычна-экспазіцыйным плане музея было напісана наступнае:

*«Выпадковы дом, пазбаўлены мемарыяльнай абаяльнасці, напоўніўся новым зместам, у ім створаны музей Паэта. Літаратурны музей Максіма Багадановіча знаходзіцца непадалёк ад таго месца, дзе нарадзіўся паэт. З вялікай спадчыны Максіма Багдановіча ўласна мемарыяльных прадметаў засталося няшмат: чатыры асобнікі зборніка «Вянок», арыгінальныя здымкі, рукапісны зборнік вершаў «Зеленя», некалькі аўтографаў. Гэта каштоўныя здабыткі музея. Вялікі архіў паэта быў страчаны падчас Другой сусветнай вайны. Зборы музея — гэта здымкі, дакументы, рукапісы, кігі, якія належалі сваякам і знаёмым Максіма Багдановіча, яго сябрам».*

Пра Максіма Багдановіча мы дагэтуль вельмі мала ведаем. Жыццё яго — таямніца. Архіў паэта быў страчаны падчас Другой сусветнай вайны. Багдановіч так і застаўся загадкай, хаця і зразумела, што я ведаю пра Багдановіча значна больш, чым шараговы чытач. Вядома, што ў 20-я гады, калі ў Інбелкульце апрацоўвалі архіў паэта, перададзены ягоным бацькам, Адамам Багдановічам, праца была не скончаная. Людзі, якія займаліся архівам, былі рэпрэсаваныя. Не выйшаў і запланаваны трэці том Збору твораў, у якім мусіла быць перапіска паэта...

У 2015 годзе споўнілася 100 гадоў з часу напісання Максімам Багдановічам Крымскага дзённіка, які зараз часцей называюць «інтымным дзённікам». Спачатку Крымскі дзённік знаходзіўся ў драматурга і палітыка Язэпа Дылы разам з іншымі дакументамі, перададзенымі бацькам паэта Адамам Багдановічам. Язэп Дыла ў свой час быў сябрам камісіі Інбелкульта па прыёмцы спадчыны Максіма Багдановіча. Ужо тады, у 20-я гады, Язэп Дыла абмяркоўваў мэтазгоднасць друкавання дзённіка з Адамам Багдановічам, і абодва прыйшлі да высновы: друкаваць не варта. Перапіска ёсць у адкрытай крыніцы — зборніку «Шлях паэта» (1976). Язэп Дыла быў рэпрэсаваны і высланы ў Саратаў. Пра далейшы лёс Крымскага дзённіка распавядае бібліёграф Ніна Ватацы, зборы якой, дарэчы, ляглі ў аснову фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску. У кнізе Ніны Ватацы «Шляхі» (Мінск, 1986) на старонцы 128 чытаем: *«Беларускі драматург Язэп Дыла прыслаў з Саратава ў Акадэмію навук БССР амаль нечытэльны алоўкавы аўтограф Крымскага дзённіка Максіма Багдановіча 1915 года. Літаратуразнаўчага значэння гэтыя інтымныя накіды не маюць. Захоўваецца дзённік у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (Рукапісны фонд Сектара тэатра і кіно, фонд 1, агульны раздзел, спр. 13)»*. І ўсё. А што пасля? Як дзённік трапіў з архіва ў музей Максіма Багдановіча? У той жа кнізе «Шляхі» чытаем: «У пачатку 1968 года пачаў збіраць біяграфічныя звесткі для напісання лібрэта оперы пра Максіма Багдановіча паэт Алесь Бачыла. На аснове тых матэрыялаў А. Бачыла напісаў цікавую кнігу «Дарогамі Максіма» (Мінск, 1971)». Опера называлася «Зорка Венера», і для працы над лібрэта аўтар карыстаўся дзённікам. У кнізе «Дарогамі Максіма» Алесь Бачыла

піша: «*Пра існаванне гэтага дзённіка ведала вельмі абмежаванае кола людзей. Нават многія з даследчыкаў творчасці Максіма Багдановіча, калі я напамінаў пра дзённік, дзівіліся: «Няўжо ёсць такі дзённік?» Так і ляжаў ён, амаль нікім не чапаны, у інстытуцкіх шафах. Я ўжыў слова «амаль» не выпадкова. Бо ўсё ж да дзённіка — уцалелых рукапісаў паэта няшмат — дакраналіся цікаўныя рукі тэатральнага даследчыка Алега Саннікава. Больш за месяц праседзеў ён з павелічальным шклом у руках над невялікім аркушыкам паперы, спісаным бісерным почыркам, каб прачытаць тэкст. Расшыфраваныя словы і цэлыя сказы ён старанна заносіў у асобны сшытак. Але да канца расшыфраваць тэкст так і не ўдалося. Паколькі дзённік пісаўся не для пабочных людзей, таму яго аўтар не клапаціўся пра выразнасць почырку, і шмат якія словы падаваў у скарачэннях, зразумелых толькі самому. І ўсё ж месяц карпатлівай працы не прапаў марна. Нават на тым, што расшыфравана, а расшыфравана крыху больш за трэць тэксту, мы можам скласці ўяўленне пра паэтаў характар, пра яго погляды на жанчын і пра адносіны з Клавай, якую ён сустрэў улетку 1915 года ў Старым Крыме. (...) Дзённік падрабязна расказвае пра іх інтымныя адносіны, і таму мы не маем права цытаваць тое, што пісалася для сябе, што з'яўляецца таямніцаю за сямю пячаткамі*».

Вельмі важнай старонкай біяграфіі паэта застаецца сяброўства з Дзіядорам Дзябольскім, якому прысвечаны верш «Быць можа, пуціна жыцця / лягла пярсцёнкам, друг. / І я ў краіне забыцця / не раз раджаўся, як дзіця, / прайшоўшы поўны круг». Дзіядор Дзябольскі захапляўся астраноміяй, яны з Максімам Багдановічам часта гаварылі пра зоркі, і таму ў вершах паэта Багдановіча шмат зорак і каметаў. У часы сталінскіх

рэпрэсій Дзіядор Дзябольскі быў арыштаваны як сябра таемнай асветніцкай суполкі, у абвінаваўчым рашэнні было напісана, што ён з'яўляецца сябрам філасофска-містычнага ордэну ілюмінатаў (ад лацінскага *illuminatus* — асвечаны, прасветлены).

Пасля вызвалення з лагера Дзіядор Дзябольскі напісаў вельмі кранальныя ўспаміны пра Максіма Багдановіча, але шмат што засталося і па-за ўспамінамі. Менавіта пра гэтае сяброўства я і паспрабавала распавесці ў аповесці «Паэт».

Аповесць «Паэт» была завершаная ў 1996 годзе ў музеі Багдановіча, была надрукаваная ў часопісе «Бярозка».

Снежань 2015 года

## *Слова да чытача*

Кнігі бываюць розныя.

Сярод іх ёсць, напрыклад, кнігі, напісаныя мужчынамі ад імя жанчын і наадварот. Вы калі-небудзь думалі пра гэта?

Яраслаўскі паэт А. Цітоў сведчыў аб тым, што Максім Багдановіч імкнуўся пісаць ад першай асобы пад жаночым прозвішчам: *«Максім Адамавіч прымаў блізкі ўдзел у яраслаўскай газеце «Голас», дзе мы нярэдка сустракаліся. Аднойчы я прачытаў у газеце невялікі верш пад назвай «Осенью» за подпісам «Ек. Февралева». Вершы мне спадабаліся, і я пры сустрэчы з Максімам Адамавічам спытаў яго, ці не ведае ён, хто аўтар гэтага верша.*

*— Гэта напісаў я, — адказаў мне Максім Адамавіч і дадаў: — Я вельмі люблю бачыць цяжарных кабет і заўсёды гатовы ўкленчыць перад такой кабетай, якая рыхтуецца нарадзіць на свет новага члена грамадства — чалавека. Сапраўды, яна выконвае найвялікшае прызначэнне жанчыны!*»

Не дзіва, што тэма нараджэння ў творчасці паэта займае такое значнае месца: у яго бацькі ад трох жонак было ў агульнай колькасці дзесяць дзяцей (з іх толькі адна дзяўчынка). А гэта значыць, што з дзіцячага ўзросту Максім увесь час бачыў перад сабой цяжарных кабет і народжаных імі немаўлят — сваіх братоў. Калі ўвесь час бачыш адно і тое ж, ёсць два выйсці. Першае: не звяртаць увагі і не думаць пра гэта, абстрагавацца цалкам і жыць сваім жыццём. Другое: увесь час думаць пра гэта, суперажываць, імкнуцца зразумець, уявіць сябе на месцы іншага, што і зрабіў Максім.

Цяпер я паспрабую растлумачыць іншае: ці маю я права пісаць гэтую кнігу, пісаць менавіта так, як задумана. Кніг пра Максіма Багдановіча напісана дастаткова. Можна было б і спыніцца. Але, як я ўжо заўважыла, кнігі ёсць розныя.

Такім чынам, я паспрабавала давесці магчымасць напісання кнігі ад мужчынскага імя. Здаецца, атрымалася, бо пытанне гэтае тэарэтычнае і вырашаецца яно лёгка — праз прывядзенне прыкладаў. А прыклады пераконваюць.

Другое пытанне, якое можа ўзнікнуць, больш складанае: ці маю я наогул права пісаць гэтую кнігу? А дзе выдаюцца такія правы?

Кніга напісана ад імя сябра Багдановіча. Чаму так? А хіба ў яго не было сяброў? Былі! Яны нават напісалі ўспаміны, якія бацька Максіма перадаў у Інстытут беларускай культуры ў 1923 годзе. Вось толькі не былі надрукаваныя тыя ўспаміны цалкам — архіў Максіма Багдановіча знік у час Другой сусветнай вайны, і ніхто цяпер не ведае, што з ім. Ці то згарэў, калі гарэла Акадэмія навук, ці то знаходзіцца цяпер на Захадзе ў адной з прыватных калекцыяў. Лёс архіва Максіма Багдановіча — яшчэ адна загадка Другой сусветнай вайны.

Цалкам захаваліся толькі мемуары Адама Багдановіча, якія маюць прысвячэнне «Прызначаецца для майго рода і маёй радні». Ад успамінаў сяброў засталіся ў асноўным толькі фрагменты, якія былі выкарыстаны ў якасці вытрымак у грунтоўным даследаванні «М. Багдановіч. Крытыка-біяграфічны нарыс».

Такім чынам, мы маем толькі фрагменты ўспамінаў, якім нават пры самым вялікім жаданні не можам давяраць. Яны вельмі супярэчлівыя.

Чаму? Зноў звернемся да прыкладаў. Самы блізкі сябра Максіма па гімназіі, вучань паралельнага класа

Дзіядор Дзябольскі пісаў у сваіх успамінах: «*Чутка аб тым, што навічок вельмі начытаны і «во як» ведае літаратуру, зараз жа дайшла да нашага класа. Некаторыя ўжо даўно насіліся з думкаю арганізаваць літаратурны самаадукацыйны гурток. Запрасілі, вядома, Багдановіча. Звычайна гэтыя гурткі пачыналіся і заканчваліся выданнем часопіса. Але тут пра часопіс чамусьці гаворка не зайшла, і з гуртка нічога не атрымалася. Больш мы і не збіраліся. Пасля гэтага першага нашага сходу Максім зайшоў да мяне. Затым ён пачаў бываць у мяне ўсё часцей і часцей. Агульным нашым інтарэсам аказалася літаратура, асабліва паэзія*».

А аднакласнік Максіма Ц. Годнеў пісаў пра літаратурны гурток зусім іншае: «*Прагрэсіўнымі для таго часу былі погляды выкладчыка геаграфіі і гісторыі Парфірыя Іванавіча Мізінава. Парфіры Іванавіч, нягледзячы на нязгоду дырэкцыі гімназіі, арганізаваў для вучняў старэйшых класаў літаратурны гурток. Мы наведвалі яго некалькі гадоў. Гэта быў цікавы гурток. Гімназісты чыталі рэфераты пра класічную рускую літаратуру.*

*Але асабліва ажыўлена стала на занятках гуртка, калі ў 1908 годзе ў наш клас прыйшоў новы вучань, які прыехаў з Ніжняга Ноўгарада. Навічка звалі Максім Багдановіч.*

*Сціплага, выхаванага і таварыскага, яго адразу палюбіў клас. Ён уразіў нас веданнем літаратуры, разуменнем літаратурных і грамадскіх з'яў.*

*У пытаннях літаратуры ён быў на галаву вышэй за ўсіх нашых медалістаў.*

*На занятках гуртка Максім прачытаў многа рэфератаў. У маёй памяці захавалася толькі некалькі з яго шматлікіх дакладаў: «Новыя павевы ў рускай літаратуры», «Сучасная літаратура і народны рух», «Сімвалізм і дэкадэнцтва»*.

*Мы як зачараваныя слухалі яго жывую, цікавую гутарку аб прыгажосці твораў Талстога, Тургенева, Пушкіна, Лермантава і іншых волатаў рускай літаратуры».*

Дык ці быў у Яраслаўскай казённай гімназіі літаратурны гурток?

Успаміны Дзябольскага, які сцвярджае, што ідэя літаратурнага гуртка загінула марна, напісаны ў 1958 годзе. А ў 1966 годзе Годнеў піша пра гурток, які існаваў на працягу некалькіх гадоў, і нават называе тэмы рэфератаў Максіма Багдановіча. Назвы гэтых рэфератаў, узятыя ў двукоссе, здзіўляюць найбольш.

Мінула больш за пяцьдзясят гадоў, а назвы засталіся ў памяці?

Шмат што знікла, а гэта захавалася?

Феномен памяці ці нешта іншае?

Каму верыць?

Нашчадкам застаецца толькі легенда, створаная ў лепшым выпадку сучаснікамі, у горшым — даследчыкамі, якія на свой лад пераасэнсоўваюць успаміны сучаснікаў. Колькі людзей, столькі і вобразаў.

Аб рупнай працы паэта распавядаў беларускі палітык Лявон Заяц: *«М. Б. дужа ахвотна гутарыў аб паэзіі і апрацаванні вершаў. Я разглядаў яго некаторыя заметкі, дзе ён старанна «правяраў матэматыкай», як пушкінскі Сальеры, свае вершы-музыку; цікавіўшыя яго вершы іншых аўтараў ён тут жа на кніжцы размяраў на стопы і правяраў іх па ўсіх правілах вершавання. Чытаючы верш М. Б. «Песняру», я ўсягды прыпамінаю гэтую цярплівую «анатомію» над вершамі, усе гэтыя значкі, рыскі і раздзелы, якія мне ў свой час паэт паказваў і раз'ясняў: "Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш, абрабіць яго трэба з цярпеннем"».*

Ён хацеў не толькі глыбока спасцігнуць свет душы свайго далёкага і загадкавага суайчынніка-беларуса, але і пашырыць яго да межаў сусветнага духу. «*Намагаючыся зрабіць нашу паэзію не толькі мовай, але і духам і складам твораў шчыра беларускай, мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала сусветная (найчасцей еўрапейская) паэзія. Гэта апошняя праца павіннаісці поўным ходам. Было б горш чым нядбальствам нічога не ўзяць з таго, што сотні народаў праз тысячы год збіралі ў скарбніцу сусветнай культуры*».

Адсылаючы ў рэдакцыю «Маладой Беларусі» нізку сваіх вершаў «Старая спадчына» (1911), паэт кіраваўся, паводле ягоных слоў, «*жаданнем прышчапіць да беларускай пісьменнасці здабыткі чужаземнага паэтычнага труда, памагчы атрымаць ёй больш еўрапейскі выгляд*». І вельмі ганарыўся, што яму ўдалося «*давесці здатнасць нашай мовы да самых строгіх вымог вяршоўнай формы*». І шчыра жадаў, «*каб гэтыя вершы мелі дзе-якой культурны ўплыў на нашых песняроў*».

Я прыйшла на працу ў Літаратурны музей Максіма Багдановіча ў 1990 годзе, адразу пасля заканчэння ўніверсітэта. Музей быў яшчэ не адчынены для наведвання — былі гатовыя толькі дзве з паловай экспазіцыйныя залы. У першы ж дзень (магчыма, я ўжо таксама памыляюся, дзень мог быць не першым, а другім ці трэцім) мне далі прачытаць музейны ТЭП (тэматыка-экспазіцыйны план), дзе сярод усяго іншага было адзначана: «Літаратурны музей Максіма Багдановіча — гэта храм паэта, напоўнены яго рэлквіямі». «Я павінна ўзяць удзел у пабудове храма паэта?» — такая думка (гэта я памятаю дакладна) з’явілася ў мяне. Але ж я ведала, што ўсе людзі роўныя перад Богам і ствараць «храм» аднаму з роўных —

гэта парушэнне Божага прыказання «не стварай сабе куміра».

Я зразумела асноўнае: музей — культавая ўстанова.

Што ж рабіць? Адмовіцца ад музейнай працы?

Я падумала, што буду адносіцца да яго як да сябра. Ды ўзнікла пытанне: ці захацеў бы ён са мною сябраваць? Але сяброўства — не каханне, у яго аснове ляжаць агульныя інтарэсы, а ідэя развіцця беларускай нацыянальнай літаратуры магла б стаць гэтым самым агульным інтарэсам.

У фондах музея я падоўгу разглядала здымкі даўно памерлых людзей — далёкія і блізкія сваякі паэта, людзі з ягонага атачэння, сваякі сваякоў, знаёмыя знаёмых, іх жонкі, дзеці і г. д.

З 9 гадзін раніцы да 17.00 думкі супрацоўнікаў музея былі заняты асобаю Максіма Багдановіча. Самыя блізкія сваякі не думалі пра яго так шмат. Сведчанне таму — сціплыя радкі з лістоў накшталт: *«Ещё беда, сейчас Максим задавил на кухне гусака, будет теперь от Франца» (Марыя Багдановіч, маці паэта, 1895 год, ліст да мужа); «Он сам крайне неуравновешенный, настроен эгоистически, как многие слабые люди, воззрения его крайне односторонни и вследствие этого непреоборимо упорны, а сверх того он ненавидит свою тётку и ея детей, и особенно тех, которые по натуре наиболее близки к его характеру»* (Адам Багдановіч, бацька паэта, 1915 год, ліст да сына Лёвы);*«Максім заболел воспалением лёгких, а присматривать за ним, по словам Ад. Ег., некому»* (Саша Секяржыцкі, стрыечны брат паэта, 1915 год).

Вы скажаце, што гэта фразы, вырваныя з кантэксту. А я магу сказаць, што гэта тое, што было. А хіба можна па такіх выказваннях уяўляць вобраз паэта? Не варта! Лепш чытаць вершы, бо, па словах Адама Багдановіча:

*«У ягонай творчасці адлюстравалася лепшая частка яго душы, а можа быць, і ўся яна цалкам»*. А лісты будуць надрукаваныя ў зборніках архіўных матэрыялаў і будуць прачытаныя ўсімі, хто пажадае.

Вось бачыце, музейнікам даступна нават тое, да чаго не маюць доступу сябры, — гэта лісты і інтымныя запісы, якія, у прынцыпе, не варта чытаць староннім людзям.

8 снежня 1991 года Літаратурны музей Максіма Багдановіча адчыніўся для наведвання. На экспазіцыі, пабудаванай па ўзоры ВЯНКА, распачалася дзейнасць — пайшлі экскурсіі. Экскурсіі ішлі па колу — кожны наведнік праходзіў сімвалічны жыццёвы шлях паэта ад нараджэння да смерці. Рух быў супраць гадзіннікавай стрэлкі. Ззялі зробленыя па музейным заказе жырандолі, са сцен і з шафаў пазіралі вочы памерлых, фрагмент слуцкага паса ў 2-й зале нагадваў пра былую славу...

Кожны дзень па некалькі разоў мы распавядалі пра лёс паэта, у якім нічога ад гэтага не мянялася. Бо паэт быў мёртвым, а мы жывыя, а таму змены адбываліся ў нашым жыцці — за гады працы Багдановіч стаў асобай, блізкай і роднай для кожнага супрацоўніка музея.

Захацелася, каб старыя фотаздымкі ажылі, каб людзі пачалі рухацца, гаварыць, спрачацца, хадзіць адно да аднаго ў госці. А як гэта зрабіць? Толькі напісаць кнігу. Толькі ў кнігах ажывае мінулае.

У кнізе выкарыстаны паэтычныя і празаічныя творы Максіма Багдановіча, мемуары Адама Багдановіча, лісты і ўспаміны людзей, блізкіх да іх.

## *Тое, што адбылося...*

Кажуць, «што патрапіла ў цэль, то гісторыя, а дзе туман, там тайна».

Лепш усё забыць, знікнуць у тумане, а пасля выйсці з туману. Туману можна давяраць.

Дзве прыкрасці адбыліся ў адзін дзень. У аўторак... Хаця, відаць, не варта называць тое, што адбылося, прыкрасцямі. Гэта не зусім тое... Хутчэй, гэта былі кепскія, ці нават сумныя, навіны.

Па-першае, у гэты аўторак я заўважыў, што мой любімы кітайскі клёнік пачаў сохнуць. Я здзівіўся, бо, здавалася, клёніку не было з чаго сохнуць. Я лічыў гэтае дрэўца сваёй найлепшай раслінай. А што атрымалася? Трэснуў вазон, і ўся вада, якой я паліваў клёнік, лілася проста за буфет. Гэта адно...

Другое — праз гэтае здарэнне з любімай раслінай я даведаўся пра смерць чалавека, якога лічыў сваім сябрам, і заўсёды верыў, што ён жывы. Чаму? Цяпер мне цяжка адказаць на гэтае пытанне.

Якая сувязь паміж раслінаю і смерцю майго сябра? Вазон трэснуў, вада цякла за буфет, прыгожае лісце клёніка скруцілася, жыццё стала пакідаць яго. Я падставіў вазон з клёнікам пад кран і ўключыў ваду — не губляю надзеі, што дрэўца аджыве. Палез за буфет, каб паглядзець, што там рабілася. Нічога добрага. Мокры шматгадовы пыл ды брудная вільготная газета з некралогам. Вось у гэтай жахлівай газеце я і прачытаў наступнае: «*Беларускі Нацыянальны Камітэт у Менску атрымаў сумнае паведамленне: 12 мая ў Ялце памёр ад сухотаў Максім Адамавіч Багдановіч, малады паэт, з імем якога былі звязаны вялікія надзеі ў Беларусі*». Некралог быў падпісаны прозвішчам яраслаў-

скага рэпарцёра. Я працягваў чытаць: «*Чалавек — мізэрная пясчынка ў бязмежным акіяне. Маса — рухавік жыцця. Але гэтая маса і гэты рухавік прыгожы і велічны толькі тады, калі ёсць у ягоным асяродку людзі «нетутэйшыя», людзі вялікія духам, надзеленыя «іскрай Божай». Ён глыбока пакутаваў за народ свой — беларусаў*». Так я даведаўся з газеты за 1917 год пра смерць майго сябра. Вось так!

Хай зведаюць усё патомкі праз паперу!
Яно забудзецца, умрэ, з вадой сплыве, —
І вось у спомінах устане, ажыве.

Дзіўна чытаць слова «нетутэйшы» пра чалавека, які жыў побач. Цяпер сядзі і думай, як яно было на самай справе.

І ўраз пра прошлае згадаю;
У даль вядуць мяне сляды
Да вас, дзіцячыя гады.

Можна жыць побач з чалавекам і асабліва не задумвацца. Кожны думае пра сябе... Ці не так я кажу?

А пасля пачнеш узгадваць — і ўсё роўна па-свойму. Нездарма ж кажуць: у кожнага свая праўда.

З часу, пра які я збіраюся расказаць, мінула больш за пяцьдзясят гадоў. Магчыма, тое, што захавалася і просіцца на паперу, — толькі фрагменты.

# *Глава 1. Лесвіца*

> У аповедзе маім словы «забыўся» і «не памятаю» мусілі б сустракацца на кожным кроку, і тычыліся б яны самага цікавага: размоваў, цікавых развагаў і ацэнак, што найбольш поўна характарызавала б і чалавека, і час.
>
> Дзіядор Дзябольскі. Успаміны пра Максіма Багдановіча

У тыя часы мяне вабіла ўсё новае. Жыццё ўяўлялася мне калейдаскопам. Нешта зварухнецца — і ўся карціна мяняецца. Я прагнуў зменаў...

*«Няўлоўна хутка круціцца і не ведае спачыну кола жыцця. Ледзь даступныя воку, мільгаюць дні, тыдні, месяцы, гады... Паступова мяняюцца на ім контуры, формы, фарбы, постаці. Няспынна рухаецца ў адным і тым жа напрамку дзівосная цацка і — кіруецца нябачнай рукой. Прагна ўтаропіліся ў яе вачыма людзідзеці. Зачараваныя, аслепленыя, глядзяць — і чакаюць: што пакажа ім новы паварот чароўнага дыска, чым яшчэ запалоніць іх позіркі? Чым уразіць? Чым спатоліць іх ненасытную прагнасць у вечнай пагоні за новым? Што дасць ім дзень? Што дасць ім гадзіна? Што дасць ім жыццё?»*

Я таксама ставіўся да ўсяго новага і нябачанага дагэтуль з асаблівай увагай — яно вабіла і абяцала змены. І вось у той час, калі я быў у палоне такіх настрояў, у нашым класе з'явіўся маўклівы навічок з Ніжняга. Нічога пэўнага я не мог сказаць пра яго, але ён быў НОВЫМ. А кожную навінку хочацца паказаць сябрам — падзяліцца. А сябраваў я тады з Додзікам Дзя-

больскім, які вучыўся ў паралельным класе. Усе класы ў Яраслаўскай гімназіі былі падвоеныя.

На шырокай мармуровай гімназічнай лесвіцы я піхнуў Додзіка пад бок і паказаў на хлопца, які стаяў у нейкай задуменнай нерашучасці, як быццам бы не ведаў — падымацца яму па прыступках уверх ці спускацца ўніз. Як я думаю цяпер, у гэтым не было нічога дзіўнага, бо для нас новым быў толькі ён, а для яго — усё новае.

— Паглядзі, — сказаў я Додзіку. — Ён будзе вучыцца ў нашым класе.

Додзік паглядзеў і сказаў:

— Бачу. Ён прыехаў з Ніжняга Ноўгарада?

— Так, — адказаў я.

Хлопец на лесвіцы стаяў згорбіўшыся і нават не здагадваўся, што яго абмяркоўваюць. Было відаць, што адчувае ён сябе няёмка.

Додзік — астраном і гімназічны філосаф — працягваў разглядаць новенькага праз свае акуляры ў тонкай металёвай аправе.

— А як яго клічуць? — нарэшце спытаў ён.

— Максім, — сказаў я. — Максім Адамавіч Багдановіч.

Максім пільна ўзіраўся на дзверы. Я падумаў, што нехта да яго мусіць прыйсці. Нехта такі, каго Максім вельмі чакае, хто можа яму дапамагчы.

— Значыць, бацька ў яго — Адам, — вымавіў задуменна Додзік. — Дзіўнае імя, дастаткова рэдкае. Ён католік?

— А ў цябе імя не рэдкае, — засмяяўся я. — Дзіядор Сіцылійскі.

Часта ў размовах з сябрамі мы называлі Дзіядора Сіцылійскім па аналогіі са старажытнагрэчаскім гісторыкам, пра якога даведаліся на ўроках. Мая маці заўсёды сварылася на мяне за такія асацыяцыі. «Дзе б

што ні пачулі, — казала яна, — усё на сябе прымяраюць. Слова знаёмае на ўроку пачулі — узрадаваліся, як маладыя малпы. Сорам».

— Трэба падысці да яго і пагаварыць, — прапанаваў я.

Дзіядор згадзіўся.

— Як табе першы дзень у нашай гімназіі? — запытаўся я ў новенькага.

— А вам самім ваша гімназія падабаецца? — адказаў ён пытаннем на пытанне.

Дзіядор хацеў нешта адказаць, але якраз у гэты момант Максім кінуўся па прыступках уніз насустрач высокаму чалавеку, які зайшоў з вуліцы.

— Здаецца, нас пакрыўдзілі, — сказаў я, бо нешта не спадабалася мне ва ўсім гэтым.

— Гэта пан Адам, — здагадаўся Додзік.

Пан Адам агледзеў свайго сына з галавы да ног, ласкава пагладзіў яго густыя каштанавыя валасы. Яны адышлі да акна.

Калі мы з Дзіядорам абмяркоўвалі новенькага, то неяк не закраналі таго, што найперш кідалася ў вочы пры поглядзе на яго. Гэта тычылася яго вопраткі. Усе гімназісты Яраслаўскай гімназіі мелі вельмі прыстойную форму. Курткі і штаны былі з добрага сукна і захоўвалі свой першапачатковы выгляд.

Незвычайны пакрой гімназічнага строю Максіма кідаўся ў вочы. Ён быў яўна пашыты ў хатніх умовах з нейкай мяккай тканіны з начосам — з такой звычайна робяць дзіцячае адзенне. Тканіна гэтая называецца, калі я не памыляюся, мультан. Карацей, форма не мела ніякага выгляду. І гэта ў першы дзень у гімназіі!

Але хлопцам не варта абмяркоўваць чужую вопратку. Мы добра гэта ведалі, таму маўчалі. Ды ўрэшце не стрывалі.

— А як табе гэта... — пачаў Дзіядор.

— Мятая форма, — падхапіў я.

Ён кіўнуў.

— Ты думаеш, гэта — сведчанне беднасці? — запытаўся я.

— Неабавязкова.

— Як?

— Можа, гэта прыкмета спартанскага выхавання, — падумаўшы, адказаў Дзіядор. — Можа, у Ніжнім усе так ходзяць у гімназію. А можа...

— Што?

— Можа, яшчэ што-небудзь. Мама такі пашыла — вось і ходзіць.

— А раптам у яго няма мамы?

— Тады тым больш няма чаго здзіўляцца. А чаму яны пераехалі з Ніжняга?

— Не ведаю, — развёў рукамі я.

На апошняе пытанне найлепшым чынам мог бы адказаць пан Адам, які размаўляў ля акна са сваім сынам. Служачы Сялянскага пазямельнага банка Адам Ягоравіч Багдановіч мог бы паведаміць двум цікаўным юнакам наступнае: «*Я быў вымушаны зрабіць гэта пад націскам з боку ніжагародскага дваранства, якое імкнулася прадаць свае землі сялянскаму банку па высокіх коштах. Я вёў барацьбу з тэндэнцыяй павышэння ацэнак, і не без поспеху. Канечне, на мяне сыпаліся скаргі і даносы міністрам, нават Трэпаву, нацкавалі на мяне губернатара-чарнасоценца Шрамчанку, і ў рэшце рэшт я быў вымушаны падаць прашэнне аб пераводзе і быў прызначаны ў Яраслаўль з 1 кастрычніка 1907 года.*

*Пераезд сям'і, у тым ліку і Максіма, адбыўся толькі ў пачатку чэрвеня.*

*Дырэктар Яраслаўскай гімназіі Вярыгін мне сказаў, што, канечне, месца для іх знойдзецца. Але калі атрымаў водгук аб іх з Ніжагародскай гімназіі, то ў пераводзе маіх дзяцей было адмоўлена ў сувязі з перапоўненасцю класаў звыш нормы. Я быў вымушаны адправіць і яго брата Лёву зноў у Ніжні да цётак (старэйшы брат Вадзім памёр 7 красавіка 1908 года).*

*Сам я пачаў барацьбу з дырэктарам, патрабуючы іх пераводу. Дырэктар, спасылаючыся на пастанаўленне педагагічнага савета, упарта адмаўляў у прыёме. А мне ён шчыра заяўляў, што баіцца, што мае дзеці прынясуць з сабой «дух Ніжагародскай гімназіі»».*

Напэўна, Адам Багдановіч, гледзячы на свайго сярэдняга, а пасля смерці Вадзіма — старэйшага сына, міжволі параўноўваў яго з іншымі гімназістамі. Што адбываецца з чалавечай асобай, калі яна трапляе ў масу сабе падобных? Няхай гэтае падабенства будзе нават вельмі ўмоўным...

Што будзе з ягоным па натуры вельмі жвавым сынам Максімам? Максім рэдка ўважліва слухаў словы выкладчыкаў, а тым больш адказы аднакласнікаў. Падчас заняткаў ён звычайна круціўся, размаўляў з суседзямі, смяяўся з чужых адказаў, рагатаў з усялякай недарэчнасці, гуляў у шашкі на маленькіх кардонках, чытаў. Класныя журналы адзначалі, што ён спазняўся, сыходзіў з урокаў альбо займаўся «староннімі справамі».

Урокі былі яму ў цяжар.

Бацька, як ніхто іншы, ведаў характар свайго сына. Што чакае яго ў новай гімназіі?

Адам Багдановіч быў спакойны за свайго сына Льва. Той быў больш паважны, моцны, смелы, лепш ладзіў з людзьмі. Яго ўсе заўсёды любілі.

А Максім? Адаму Багдановічу часам успаміналіся словы з ліста нябожчыцы жонкі: «...*усё такая ж мямля разлезлая, ледзь што-небудзь — усё енчыць. Таму з ім і гуляць ніхто не хоча*». Праўда, было яму тады чатыры гады, але ці не ў гэты самы час фарміруецца асоба?

Па вялікім рахунку, гімназіі Адам Багдановіч надаваў чыста фармальнае значэнне, успрымаў яго як свайго роду выпрабаванне для сваіх дзяцей, праз якое трэба абавязкова прайсці. Гімназія — прыступка да вышэйшай школы — універсітэта. Так думаў і гаварыў Адам Багдановіч, які сам ніколі не наведваў гімназію.

Адам Багдановіч меў самавіты выгляд адукаванага чыноўніка. І хто б мог падумаць пра сялянскае паходжанне пана Адама? А пра тое, што прага да ведаў вывела яго на жыццёвыя прасторы і давяла з далёкага краю да горада Яраслаўля? Можа, хто-небудзь і мог пра ўсе гэтыя абставіны здагадацца, ды толькі не два навучэнцы Яраслаўскай казённай гімназіі, якія ўвесь перапынак назіралі за сваім новым таварышам з бацькам.

А ці маглі два цікаўныя яраслаўскія гімназісты ўявіць тыя карціны, якія паўставалі ў памяці пана Адама? Не, не маглі, бо школа Адама Багдановіча засталася вельмі далёка ад іх роднага горада, у краіне, якая ў той час не мела нават сваёй назвы, у мястэчку Халопенічы. А ўжо вучылі там! Хаця скардзіцца грэх, бо мела некалі Халопеніцкая школа свае гмахі і муры і вучыліся там нашчадкі слаўнай тутэйшай шляхты. Але, як казаў класік, «усё прайшло, мінула, як і не было, у капцах паснула, зеллем зарасло».

Адам Багдановіч помніў свой першы дзень у школе, як цяпер! Ён казаў: «*Я не радаваўся, а баяўся, ідучы насустрач невядомаму.*

*Школа была недалёка, у трох кроках ад бабінай хаты. Месцілася яна ў былым шпітальным будынку*

*часоў графа Храптовіча. Гэта быў даволі вялікі для сельскай школы будынак: раней у ім было тры палаты. Дзве малыя і адна паболей — аптэка і пакой для фельчара. Усё гэта было аддадзена пад школу, так што частка пакояў была пустая.*

*Вучыліся ў адной вялікай палаце і ў адным меншым пакоі, а трэці быў накшталт настаўніцкай, дзе стаялі стол і шафа з кнігамі.*

*Ужо на вуліцы чуўся меладычны гоман мноства галасоў, як у патрывожаным пчаліным вуллі. Калі я зайшоў з бацькам, гоман перайшоў у гаману на розныя галасы, гаману, якая, здавалася, не сціхала ні на хвіліну: усе дзяўблі ўрокі. Гэта было абавязковым. Гэта была сістэма.*

*Усё, што я ўбачыў і пачуў, здавалася вельмі дзіўным. Па сценах стаялі даўгія парты, за якімі сядзелі і малыя хлопцы і зусім дарослыя, і дзяўчынкі і дзяўчаты, а пасярэдзіне стаялі стол і класная дошка. Тут я быў здадзены з рук на рукі Івану Баранку. Так яго называлі за кучаравыя валасы — асаблівасць рэдкая ў беларусаў, а таму і адзначаная мянушкай.*

*Гэта быў яшчэ хлопчык гадоў 17–18, у лапцях, з вельмі аспаватым тварам. Звалі яго, уласна, Іван Ігнатавіч Баркоўскі. Гэта быў мой першы і самы важны настаўнік, бо ў ягоных дапамозе і ўказаннях я, без сумніву, меў патрэбу, а што тычыцца астатніх настаўнікаў, якіх у мяне было няшмат, то я імкнуўся па магчымасці абыходзіцца без іх.*

*Працэс навучання быў вельмі просты. Баранок спачатку выслухоўваў зададзены ўрок. Калі вы памыліліся, ён надае пстрычак, спецыяльна пацэліўшы ў адно і тое ж месца. Гэта лёгкае пакаранне. Альбо накруціць за вушы ці надзярэ за валасы — гэта сур'ёзней. Альбо нахлопае лінейкай па руках, альбо паставіць на калені. Гледзячы*

*на свой настрой ці на ступень нашых няўмеласці і няведання. Затым яшчэ раз перакажа і пойдзе далей.*

*І можна сказаць, што за адну зіму я стаў «граматным», але не быў «пісьменным» — пісаць на паперы яшчэ не спрабаваў.*

*Маім поспехам у параўнані з аднагодкамі найбольш садзейнічала тое, што іх больш за мяне выкарыстоўвалі для гаспадарчых работ, так што яны па паўгода не браліся за кніжку. Мяне менш прыстасоўвалі для работы.*

*Мяне ўсяляк заахвочвалі і прымушалі: сядай за кніжку ці «грамзоль» што-небудзь. Я і чытаў, я і «грамзоліў» што-небудзь. Галоўным чынам спісваў з кніг. Гэта быў адзіны сродак навучыцца пісаць, які практыкавала школа і які карыстаўся прызнаннем і папулярнасцю. Хочаш навучыцца пісаць правільна — спісвай з кніг. Такім было агульнапрызнанае правіла».*

Званок абвясціў канец перапынку, і ўся карціна змянілася.

Усё на лесвіцы замітусілася ў паскораным тэмпе. Здавалася, што ўсім, хто быў наверсе, тэрмінова спатрэбілася ўніз, і наадварот...

Бацька развітаўся з сынам.

— Ты павінен прывыкнуць, Макс, — сказаў ён, згадаўшы, што так і не паспеў пабачыць свайго малодшага сына. Адама Багдановіча чакалі банкаўскія справы.

Цяжкія дзверы гімназіі зачыніліся за панам Адамам.

## *Глава 2. Дух гімназіі*

Кожная праява вальнадумства строга каралася.

Ц. Годнеў. Браты Багдановічы

*«Кожны, хто ўпершыню пераступаў парог гэтай установы, адчуваў сябе спачатку як бы прыгнечаным празмернасцю прыстойнасці і нават неяк злёгку задыхаўся ад яе. Міжволі звяртаўся да самога сябе і, канстатуючы поўны дысананс паміж сабою і ўсім навакольным, адчуваў няёмкасць і прыніжэнне».*

Тое самае можна было сказаць пра Яраслаўскую казённую гімназію.

Але як часта прыстойнасць бывае толькі знешняй і часовай!

Ідзе ўрок, і гімназічныя калідоры пустыя і велічныя, здаецца, за кожнымі дзвярыма вырашаецца штосьці надзвычай важнае. Калі не лёс Радзімы, то, прынамсі, лёс яе грамадзян.

Звініць званок на перапынак, і зноўку ўсё мяняецца.

*«З восьмага класа выходзіць «слон». Чацвёра дужых гімназістаў дзеля гэтага сталі гуськом, прычым рукі задніх моцна ўчапіліся ў плечы пярэдніх, на руках у іх сядзяць тры вісусы ростам паменей, у іх на руках — два другія, і ўсю гэтую велічную пабудову вянчае сабою «прынц» — гімназісцік маленькі, але спрытны. Прайшоўшы некалькі сажняў, «слон» чамусьці спыняецца, хістаецца, з вышыні яго бокам ляціць «прынц», услед за ім абрушваюцца некалькі чалавек. Раздаецца лаянка, смех, навокал гудуць размовы».*

А што рабіць навенькаму, калі на яго абрушыцца «слон»? Застаецца адно — цярпець, пакуль не вызначылася тваё становішча на новым месцы.

Перад наступным урокам у аўдыторыі з'явіўся наш класны настаўнік Спаскі — чалавек хваравіты і неўраўнаважаны. Побач з ім стаяў Максім.

— Вось! — менавіта так звярнуўся да нас Спаскі. Ён быў перакананы, што да звароту «спадары» мы яшчэ проста не дараслі, а звяртацца да нас «дзеці» ўжо не выпадала. — Вось! — сказаў Спаскі. — У гэтым годзе ў вас з'явіўся новы сябра. Я хачу прадставіць вам Багдановіча Максіма Адамавіча.

З гэтымі словамі класны настаўнік падштурхнуў наперад сутулаватага хлопца з задуменным тварам і густымі каштанавымі валасамі. Клас з цікавасцю разглядаў яго. Урок усё не пачынаўся, і гэта цешыла гімназістаў.

— Багдановіч жыў і вучыўся ў Ніжнім Ноўгарадзе. Цяпер яго сям'я пераехала, ён будзе жыць недалёка ад гімназіі ў раёне Лясной пляцоўкі, а займацца ён будзе ў вашым класе.

Спаскі зрабіў паўзу і агледзеў аўдыторыю.

— Вось вы, — ткнуў ён у мой бок рукою. — Я ведаю вас як сур'ёзнага гімназіста. Я хачу, каб Багдановіч сядзеў з вамі за адной партай.

— А я? — падскочыў на месцы А. — мой сусед па парце.

Я нават не хачу называць поўнае імя гэтага чалавека. Ён ніколі мне не падабаўся. Але я не лічыў патрэбным гэта дэманстраваць адкрыта. Мая маці заўсёды казала: «Калі чалавек не падабаецца табе асабіста, гэта яшчэ не сведчыць, што ён кепскі. Можа быць, ён лепшы за цябе». А мне ўсё роўна здавалася, ды і не проста здавалася, я быў цалкам перакананы, што А. яшчэ сябе праявіць у горшых формах.

Таму і лічылі мяне гімназістам сур'ёзным — не меў я нікога, каб нават пагаварыць на ўроках.

Але ж сядзелі мы за адной двухмеснай партай, якую гімназічны народ ахрысціў «двухспальнай».

— Вы перасядзеце на апошнюю парту ля акна, — абыякава адказаў класны настаўнік.

А. быў не ў захапленні ад такой пастаноўкі пытання. Апынуцца на апошняй парце ля акна значыла трапіць на «камчатку» ў кампанію да «камчадалаў», ужо маральна гатовых да выключэння з гімназіі.

На «камчатцы» адчулася ўзрушэнне, раздаліся вясёлыя воклічы «камчадалаў». Яны былі рады пасмяяцца з заўсёды правільнага А.

Вочы ў А. зрабіліся шклянымі, ён стрымліваўся, каб не заплакаць, а таму засяродзіў свой позірк у адной кропцы.

Гэта было так несправядліва ў адносінах да яго. Ён быў заўсёды паслухмяным і сам ведаў пра гэта. Ён заўсёды хацеў быць дарослым, а значыць — дысцыплінаваным. «Правілы існуюць для таго, — сказаў ён у хвіліну шчырасці мне, — каб іх выконваць, а не парушаць».

І вось за ўсю сваю стараннасць ён трапляе на «камчатку»! Дзе сэнс, дзе справядлівасць? Магчыма, гэта быў чарговы педагагічны эксперымент Спаскага. Хутчэй за ўсё, ён хацеў, каб А. сваім станоўчым прыкладам уплываў на нахабных «камчадалаў» і садзейнічаў іх перавыхаванню. Такі ж самы прыём шырока ўжываўся пазней, у перыяд савецкай індустрыялізацыі, калі перадавікоў перакідвалі ў адсталыя брыгады. Але А. не мог ведаць усяго гэтага, таму і захаваў крыўду і злосць. Толькі не ясна, на каго: на класнага настаўніка ці на нас з Максімам? Наўрад ці, каб на настаўніка...

А «камчадалы», у сваю чаргу, весяліліся, бо ўяўлялі, як будуць перавыхоўваць недасяжнага раней А.

А якая публіка на «камчатцы»? Сядзіць там, напрыклад, Васька Вярблюд. *«Вася — чалавек з разбітым сэрцам, а разбілі яго сэрца двойчы: спачатку Шурачка, а затым Мурачка».* На заўвагі пра збаўленне ад падобных ранаў Вася ніякай увагі не звяртае, а тым больш на просьбы бацькі кінуць пакутаваць і заняцца вучобай.

— Ну што, Вася, як адзнакі?

— Ставяць там... Адзінкі ўсё больш ставяць, — адказвае абыякавым голасам Вася і ў далейшыя размовы не ўступае.

Тупа пазірае ён на парту, машынальна прачытвае выразаны там якімсьці філосафам надпіс: «Vanitas vanitatum et omnia vanitas». Адсюль яго параненае сэрца магло б нешта запазычыць, але перакласці гэтую фразу Вася не мае моцы. Побач два іншыя выслоўі, таксама біблейскія: «Вкушая, вкусих мало меду и се аз умираю»; «Веселися, юноша, во юности твоей».

Пад надпісамі ў парце наскрозь прарэзана нешырокая адтуліна для выкарыстання падчас класных работ усялякіх падручнікаў, «ключоў» і іншага дабра. Усё такое бачанае-перабачанае... Вася зазірае ў парту, ці няма там чаго-небудзь цікавейшага.

Вось сшытак для лацінскіх слоў. На ім красуе дыверш:

Юноша, слушай меня, умудренного опытом старца:
Выучив весь перевод, можешь ты слов не учить.

Вася рве сшытак на дробныя кавалкі і пасыпае ім галаву таварыша, які сядзіць наперадзе і мае мянушку «Сонька». Услед за ёй настае чарга нямецкай граматыкі. Трэба ж нечым заняцца на ўроках!

Новенькага пасадзілі за маю парту. Змены, якіх я так прагнуў, пачалі адбывацца. Магчыма, думаў я,

з’явіўся ў мяне суразмоўца. А я меў так шмат усяго, каб расказаць...

Напрыклад, пра літаратурны гурток, які арганізаваў, нягледзячы на нязгоду дырэктара, Парфіры Іванавіч Мізінаў. Я ў той час быў захоплены і самім гуртком, на занятках якога гімназісты чыталі рэфераты пра класічную рускую літаратуру, і арганізатарам гуртка.

Парфіры Іванавіч Мізінаў быў чалавекам прагрэсіўных поглядаў, якія не баяўся выказваць пры нас. Так, аднойчы, калі гімназіст адказваў словамі падручніка: «Прагрэс Еўропы абумоўлены манархічнай сістэмай», Мізінаў зазначыў: «Ну, гэта, дапусцім, яшчэ невядома!»

Я палічыў, што літаратурны гурток — цалкам прыстойная тэма для пачатку знаёмства. Таму я ўзяў кавалак паперы і напісаў: «А ў нас ёсць літаратурны гурток. Вельмі цікава». Гэтую цыдулку я падсунуў навенькаму.

Ён хутка прачытаў яе, павярнуўся да мяне і сказаў:

— Якога ён накірунку?

— У сэнсе? — здзівіўся і нават пакрыўдзіўся я. Мне здавалася, што тут усё ясна і зразумела: ёсць літаратурны гурток! А хіба яны бываюць розныя?

Багдановіч здзівіўся ў сваю чаргу.

— У сэнсе? — перапытаў ён. — Я хацеў спытаць: чым вы там займаецеся?..

Спаскі заўважыў, што мы размаўляем, і істэрычным голасам закрычаў:

— Багдановіч! Ідзіце прэч з класа! Гэта ж трэба, у першы дзень у нашай гімназіі!

Чаму ён накінуўся на Багдановіча? Пачынаў размову я. Але, відаць, мая слава «сур’ёзнага гімназіста» адыграла сваю ролю. Да гэтага я ніколі не размаўляў на ўроках. А раз так, то ініцыятарам, безумоўна, быў новенькі.

Багдановіч устаў. Мне зрабілася сорамна: з-за мяне чалавека выганяюць з класа. А мы ж нават ні пра што не дамовіліся!

— Я пратэстую супраць грубага абыходжання! — нечакана для ўсіх заявіў новенькі.

Спаскі ў знямозе апусціўся на настаўніцкае крэсла.

«Зараз пачнецца прыпадак!» — данеслася з «камчаткі».

Багдановіч больш нічога не дадаў да сваіх словаў. У класе завісла цішыня, якая праз пару секунд была парушана істэрычным воплем выкладчыка:

— Вы хочаце забіць мяне!

Трэба адзначыць, што такіх выпадкаў, каб навучэнцы забівалі выкладчыкаў, у нашай Яраслаўскай казённай гімназіі ніколі не было. Можа, такое і здаралася, але ў іншых гімназіях!

Спаскі рэзка падскочыў са свайго месца і вылецеў з аўдыторыі. З апошніх партаў данёсся пераможны свіст.

Але асноўны пераможца стаяў унурыўшы галаў, ні на кога не гледзячы.

Мне было страшна чапаць яго, бо я сам быў вінаваты ва ўсім. Можа, ён і не хацеў гаварыць са мною, а проста баяўся сапсаваць адносіны з новым суседам па парце?

— Штосьці будзе! — канстатаваў Вася Вярблюд.

— Супакойся! — заклікаў яго да парадку новы сусед па «камчатцы» А.

— Супакойся сам! — не доўга думаючы, адказаў Вася і заехаў яму па галаве рэшткамі нямецкай граматыкі.

А. схапіўся за галаву.

— Будзеш выступаць — яшчэ атрымаеш, — папярэдзіў Вася.

— Не бойся, я нікому нічога не збіраюся казаць, — адхіснуўся ад яго А.

— Бойся сам! — параіў Вася. І А. яшчэ раз атрымаў па галаве рэшткамі падручніка.

Дзіўна, але ніхто не кранаў Максіма, які па-ранейшаму стаяў, унурыўшы голаў.

Дзверы расчыніліся, і ў класе з'явіўся абражаны Спаскі ў суправаджэнні дырэктара Вярыгіна.

*«Дырэктара называлі «Како Апельсінчык». Гэта быў кругленькі, добразычлівы чалавек, але, зрэшты, не зусім шчыры. Прыехаў ён у гімназію падчас усялякіх хваляванняў.*

*Напачатку ён дазволіў вучнёўскія сходкі — і на іх ніхто не стаў хадзіць. Зразумеўшы павевы часу, ён завёў у сябе бібліятэчку з твораў мадэрністаў, з ахвотай дазваляў доступ да яе сваім гадаванцам; праз некалькі месяцаў шматлікія гімназічныя Пляханавы і Чарновы абвясцілі сябе ніцшэанцамі і заняліся пераацэнкай каштоўнасцяў.*

*Рэзкасцяў ён пазбягаў, быў памяркоўным, гуманным, ліберальным, вельмі любіў паразважаць перад вучнямі пра новую эру ў гісторыі Расіі і пра неабходнасць выхоўваць у гімназіі пакаленне, годнае гэтай эры».*

У гэтым жа духу пачаў ён і сваю прамову, звернутую да новенькага. А скончылася ўсё адназначна:

— Пакіньце клас, калі гэтага патрабуе выкладчык. Пасля я знайду час, каб пагаварыць з вамі асобна... і не толькі з вамі, але і з вашым бацькам.

Багдановіч падпарадкаваўся. Пад словы дырэктара: «Я ж так і ведаў, я гэтага чакаў, я гэтага баяўся!» ён пакінуў клас.

## *Глава 3. Глыбокі ўнутраны пагляд*

Тыя гады былі часам «новай паэзіі», яна цалкам і без якіх-небудзь падраздзяленняў называлася «дэкадэнцкай».

Дзіядор Дзябольскі. Успаміны

На калідоры другога паверха гімназіі — поўны вэрхал. У кожнага свае размовы, свае праблемы.

— ...Ваня, дай ножыка.

— Праспявай вожыка, — адказвае плюгавы гімназіст, але ў кішэнь усё ж такі лезе.

— ...Учора Верачцы на бульвары праходу не давалі. У іх у класе была зададзена байка «Ларчык», дык ва ўсе вушы крычаць: «А Ларчык проста адчыняўся». Бо ўжо які месяц Ларчык каля яе круціцца.

— Які гэта Ларчык?

— Ну, Ларывона хіба не ведаеш?

— ...А я, браткі, столькі пёраў выйграў, — захлынаецца ад паўнаты пачуццяў нейкі малы. — І жабак, і васьмістушак, і казачкоў, два напалеоны, адно з гусінай шыяй — залатое.

У іх шумна. У адным куце з віскатам і вухканнем кагосьці гайдаюць. Чалавек дзесяць гарэзнікаў, схапіўшыся за рамяні, нясуцца чарадой па партах, пераскокваючы з адной на другую. Сюды кідаецца наглядчык, але ў гэты час з сёмага класа раздаецца песня — улюбёная рэч гімназістаў, але забароненая. Спяваюць старую, усім у нашай гімназіі вядомую песню:

Каля рэчкі, каля броду
Дзве галубкі пілі воду.
Напіліся, паляцелі —
Толькі крылы заблішчэлі...

— Ну што? — ляснуў мяне па плячы Вася Вярблюд. — Ты што цяпер, з новенькім? Цікава, як ты з ім ужывешся?

— Я што, па-твойму, такі няўжыўчывы?

— Не крыўдуй, не пра цябе кажу!

— А пра каго?

— А пра яго!

— А што ён?

— Як што? Яго не разабраць: ён то спіць на хаду, то арганізуе дэманстрацыю. Пасадзілі яго да цябе, а можа быць, варта было адразу да нас на «камчатку».

Вася скончыў свае разважанні, нягледзячы на тое, што некіруемы гімназічны натоўп вынес да яго новенькага. Свае апошнія словы Вася прамовіў яму проста ў твар. Тактоўнасць ніколі не была рысай, характэрнай для Васі Вярблюда. Выказаўшы сваё меркаванне, ён з незалежным выглядам знік у бурлівым натоўпе. А я падышоў да Багдановіча і сказаў:

— Не звяртай увагі на Васю, ён часам кажа абы-што, але, зрэшты, ён вельмі добры сябра.

Максім усміхнуўся, і я магу пакляcціся, што твар ягоны ў гэты момант расквітнеў. А я думаў, што ён не захоча са мной гаварыць! Так я ўпершыню ўбачыў усмешку Максіма, якая з’яўлялася так жа хутка і нечакана, як і знікала.

— Я не крыўдую зусім, — адказаў ён, паціснуўшы плячыма. — Чаму ты так падумаў?

А мне падалося, што ў вачах ягоных стаялі слёзы. І ва ўсім вінаваты я! Я хацеў, каб мне даравалі.

— Ды я не думаў... Але ж у цябе сапраўды ёсць падставы для крыўдаў.

— Ты так лічыш?

— Канечне! Спачатку я падсунуў табе запіску, пасля цябе ніхто не падтрымаў, калі ты запярэчыў Спаскаму, пасля Вася...

Ён перапыніў мяне рэзкім рухам рукі.

— Ніхто мне тут нічога не вінен і не павінен. А тым больш вы з Васем.

Гэта было вельмі высакародна сказана, але ж ён дадаў:

— Пакуль што...

«Нічога сабе, — адзначыў я, — а што ж будзе пасля? Няўжо ўсе будуць яму нешта вінны?»

Ён казаў «пакуль што», а сам меў такі выгляд, як быццам бы вось-вось заплача. У такія моманты чалавека лепш не чапаць, але ж я тады гэтага не разумеў і не адступаўся, хацеў апраўдацца.

— Я не маю нічога супраць цябе, — загаварыў Максім. — Справа ў тым, што я вельмі люблю свайго бацьку. І ты проста не ўяўляеш, колькі праблем я яму часам ствараю.

Я змоўк, вырашыў, што зараз абавязкова пачую нешта важнае.

— Я вельмі любіў свайго бацьку. Я... — тут ён перапыніўся і выправіўся: — Я хацеў сказаць, што любіў і люблю. А ён мяне апошнім часам зусім не разумее. Яму цяжка зразумець, што я ўжо не маленькі. Хаця і ў самых маленькіх ёсць свае пачуцці і жаданні. Але мой бацька апошнім часам проста не хоча заўважаць, што я жывы чалавек, што ў мяне павінна быць сваё жыццё. Толькі ж я сам даю яму падставы так лічыць... Ён не дазваляе нам з братам наведваць кінематограф...

— Шмат каму забараняюць, але ж усе ходзяць, — падзяліўся я ўласным вопытам.

— Ды не ў кінематографе справа, — ён закрыў твар рукамі. — У майго бацькі ўсё распісана на дзесяць гадоў наперад. Ён кіруе нават колам нашага чытання. У нашай хатняй бібліятэцы няма «нічога пошлага». Ой,

нешта не тое я кажу, — зноў перапыніўся ён. — У нас цудоўная хатняя бібліятэка, у ёй ёсць усё істотнае, што толькі з'яўлялася ў сусветнай літаратуры. Мы з дзяцінства праходзілі гэтую школу...

— Гэта ж цудоўна! — сказаў я.

— Ты не разумееш! Майго бацьку нішто на свеце не зменіць. Мне застаецца толькі адно: выкарыстоўваць кожны момант, калі яго няма побач і ён не можа кантраляваць мой кожны крок. А многія мае ўчынкі таксама не вядуць да лепшага. Урэшце аказваецца, што бацька заўсёды мае рацыю.

Новенькі быў у адчаі.

Я слухаў моўчкі, адчуваючы, што перада мной паўстае штосьці невядомае.

— На перапынку бацька прасіў мяне не паўтараць таго, што было ў Ніжнім. Нагадваў, што дабіцца майго пераводу сюды было цяжка... І на табе... на першым жа ўроку.

— А што было ў Ніжнім?

— Даруй, — адказаў ён мне, — у Ніжнім было шмат чаго. Рознага. Давай пагаворым лепш пра літаратуру.

Пасля наш агульны сябра Дзіядор Дзябольскі напіша ў сваіх успамінах: *«Чытаў Максім шмат, больш, чым хто-небудзь з нас. Ён ведаў гэта і ніколі не адмаўляў сабе ў задавальненні падлавіць каго-небудзь з гімназістаў, якія лічыліся «вельмі развітымі», у няведанні той ці іншай кнігі альбо твора і распавядаў пра гэта з рогатам, ляскаючы сябе кулаком па калене. З поўным задавальненнем і без усялякай зласлівасці».*

Але тады, у самы першы дзень, я не мог усяго гэтага ведаць. І ўсё ж такі на гэтае «пакуль што» я нічога не адказаў. У юнацтве ў мяне быў цікавы характар. Гэта я ўжо магу сцвярджаць з вышыні пражытых гадоў... Гэта старасць робіць усіх аднолькавымі, мы ўсе чакаем

аднаго. Жыццё не вечнае, і ўсе мы добра ведаем, чым яно заканчваецца. Толькі ў юнацтве мы мала думаем аб тым, што:

Шмат у нашым жыцці ёсць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы.

Але ёсць у старасці і свае прывілеі. Гэта ўспаміны. Вось яны якраз ва ўсіх розныя — каму што згадаецца... Кожнаму сваё! Люблю я гэты выраз, калі абстрагавацца ад таго, што так пісалі на брамах канцэнтрацыйных лагераў.

Так што ўспаміны застаюцца розныя...

Як там? Вось так:

Мінулае сваё прыпамінаю я!
Між цёмных абразкоў прайшоўшага жыцця
Шукаю сквапна штось трывожнаю душою,
І здаранне адно ўстае перада мною.

Што тычыцца здарэнняў, то я іх любіў і паважаў адназначна.

Мой нелюбімы былы сусед па парце сцвярджаў, што правілы створаны для таго, каб іх выконваць, а не парушаць. У душы я быў згодны з гэтым ягоным выслоўем. Згодны цалкам. Але ж правілы, якія існавалі ў грамадстве, тыя самыя правілы, па якіх мы мусілі жыць, мяне не задавальнялі! Я быў згодны жыць па правілах, але па іншых! Па якіх? Я спрабаваў фармуляваць іх сам — гэта адно. Другое — мне дапамагалі сябры.

Нам хацелася сваіх правіл. Вось каб былі яны, то іх выконвалі б абавязкова. Дысцыпліна была б бездакорная! Толькі дзе ўзяць такія правілы, якія маглі б задаволіць усіх?

Новенькі сваім «пакуль што» насцярожыў мяне і прымусіў задумацца: пашырыцца кола нашых сяброў ці ворагаў?

— Дык у вас ёсць літаратурны гурток? — вярнуўся Багдановіч да тэмы, узнятай мною на ўроку.

Я кіўнуў. А што мне трэба было рабіць, калі я ўжо напісаў у цыдулцы: «У нас ёсць літаратурны гурток. Вельмі цікава». Што я яшчэ мог дадаць? Я чакаў іншых пытанняў.

— А як праходзяць заняткі? Вы чытаеце свае творы?

— Творы? — перапытаў я. — Свае творы? Адкуль яны ў нас? Іх няма!

— Няма?! — у сваю чаргу здзівіўся Максім. — А чым тады вы займаецеся ў сваім гуртку? Хіба не выдаяце свой часопіс?

Думка пра часопіс падалася мне адначасова вельмі смелай, прываблівай і недасягальнай.

— А ў цябе ёсць свае творы? Ты сам пішаш?

Узнікла нечаканая паўза.

— Ты пішаш нешта? — мая цікаўнасць заўсёды перамагала ўсе правілы этыкету.

— Мая маці пісала, — задуменна прамовіў Максім.

— А цяпер яна не піша, а прымушае пісаць цябе?

— І не піша, і не прымушае, — спакойна адказаў Максім, — яна памерла.

— Даруй! — ад жаху і ад сораму за сваю нетактоўнасць я закрыў рот далонню.

— Гэта было вельмі даўно і не тут...

— У Ніжнім? — спытаў я і тут жа спахапіўся, што мае новыя пытанні двойчы нетактоўныя і недарэчныя пасля таго, як я ўжо папрасіў прабачэння.

— Не, не ў Ніжнім, — не выказаў крыўды новенькі. — У Ніжнім памерлі мае сястра, мачаха і брат...

Я зусім зніякавеў. Наша сям'я была поўнай і шчаслівай. Я тады яшчэ не ведаў страт. Усё было наперадзе...

Мой новы сусед па парце глядзеў на мяне, але здавалася, што ён мяне зусім не бачыць. У яго з'явіўся нейкі глыбокі ўнутраны пагляд. Такі пагляд пасля часта з'яўляўся ў яго, тады рабіўся адсутным, а можа «нетутэйшым», як урэшце напішуць у ягоным некралогу.

Гледзячы як бы ўнутр сябе, Максім працягваў гаварыць, звяртаючыся да мяне.

— Сястра была зусім маленькая. Бацька называў яе «дзяўчынай, ад прыроды разважнай». Нарадзілася яна ў маі, а ў лютым захварэла — і ўсё. А маці памерла ў кастрычніку... А Вадзіма пахавалі ў красавіку гэтага года. Гэта быў мой старэйшы брат. Адно вока ў яго было косае, і цікавіўся ён марксізмам. Пра марксізм, можа, я і дарма кажу, але ж цяпер гэта не мае значэння... Таму што — усё. А можа, мае? Улады баяліся, што пахаванне майго старэйшага брата ператворыцца ў дэманстрацыю. Таму было загадана хаваць яго ноччу. Перад домам сабраўся вялізны натоўп гімназістаў, але ж дом быў акружаны пешай і коннай паліцыяй. У дом дапускаліся толькі асобы, якія прыносілі вянкі... Але ж выносілі труну Вадзіма на сваіх плячах сябрыгімназісты. Быў у мяне яшчэ адзін маленькі брат. Ён каштаваў жыцця маёй мачысе, але таксама памёр... На поўдні, паехаў са сваёй бабуляй у Крым — і ўсё.

Я пасля чытаў ягоныя вершы пра каханне і смерць.

Белы крыж, пліта, пад ёй — магіла;
Мілым кветам рожа зацвіла.
Тут калісьці ты, мой друг, спачыла, —
Спарадзіла ў муках і лягла.

Я зразумеў, чаму ён не прызнаўся мне тады, што піша сам, а сказаў толькі пра маці. Але разуменне гэтае прыйшло пазней.

А тады я проста не ведаў, што рабіць.

Гэтае паўторанае шмат разоў «і ўсё» давяло мяне да стану, з якога я не ведаў, як выйсці. Але ж Максім раптам вярнуўся да пачатку нашай размовы, якая нечакана ператварылася ў пералік магіл.

— Дык чым вы займаецеся ў сваім гуртку?

— Чытаем па чарзе рэфераты. Пасля абмяркоўвем. Дакладней, задаём пытанні дакладчыку. А ён, калі можа, на іх адказвае. Часам з пытання нават вырастае тэма для новага даклада.

— Я б хацеў наведаць ваш гурток! — сказаў Максім. — Але не ведаю, што з гэтага атрымаецца.

— Усё будзе добра, — запэўніў я.

— Толькі ніколі не кажы мне гэтую фразу, — уздыхнуў ён. — Калі кажуць так, то ўсё бывае наадварот.

— Што не казаць? — не зразумеў я.

— Ніколі не кажы мне: усё будзе добра!

На гэтым мы і развіталіся.

## *Глава 4. Магічнае святло фантазіі*

> Іх бляск нагадвае метэор. Ён толькі мільгануў ва ўяўленні і розуме і знік назаўсёды, пакінуўшы, аднак, чароўныя сляды, так, як кароткі прамень сонца, злоўлены на шкле фатографа, пакідае сталую выяву на ўспрымальнай паперы.
>
> Чарлз Уільям Гекерторн. Тайныя саюзы ўсіх стагоддзяў і краін. 1876 год

Паседжанне гуртка адбылося, як заўсёды, у чацвер.

Кафедру заняў гімназіст Ціхаміраў. Усім было вядома, што ён марыць аб акцёрскай кар'еры. З тэатральнай дыкцыяй ён чытае рэферат на тэму «Сэнс і ўласцівасці тайных суполак».

Кіраўнік гуртка заняў месца ў класе сярод гімназістаў. Магчыма, з Ціхамірава і мог бы атрымацца акцёр, бо чытаў ён выразна:

*«Для сапраўдных філосафаў, якім гісторыя ўяўляецца шэрагам дзівосных мэтаў, няма нічога выпадковага ў свеце. Для іх узнікненне і дзейнасць тайных саюзаў не дзіўныя і невытлумачальныя з'явы, не часовая форма, не хуткацечнае і нечаканае дзеянне, але цалкам ясны і прадбачаны вынік вядомых прычынаў.*

*Некалі тайныя саюзы былі такія ж неабходныя, як адкрыцці: дрэва павінна мець корань. Побач з уладарствам Сілы, ідалаў багацця, фетышаў цемрашальства павінна быць ва ўсе стагоддзі і ва ўсіх дзяржавах месца, дзе заканчваецца ўладарства Сілы, дзе кумірам не пакланяюцца болей, дзе фетышы асмяяны. Такім месцам з'яўляліся кабінет філосафа, храм жраца, падзямелле сектатара.*

*Кожны тайны саюз з'яўляецца вынікам развагі, а значыць — сумлення. Разважанне, якое вызначылася, і ёсць сумленне. У гэтым сэнсе тайныя саюзы ў некаторай ступені служаць выражэннем сумлення ў гісторыі. У кожным чалавеку ёсць НЕШТА, што належыць яму, але як быццам бы знаходзіцца не ў ім, а, так бы мовіць, па-за ім. Гэта цьмянае Нешта мацнейшае за яго. Ён не можа ні абурацца супраць яго ўлады, ні бегчы ад яго. Гэтая частка нашай істоты неадчувальная, яе не дасягне ні кінжал забойцы, ні сякера ката; яе не спакусіш, мальбамі не змякчыш, пагрозамі не настрашыш. Яна і стварае ў нас падвоенасць, якую мы адчуваем у выглядзе згрызотаў. Калі чалавек знаходзіцца ў згодзе з самім сабой, то цьмянае НЕШТА не чапае яго.*

*Цьмянае НЕШТА выяўляецца ў выглядзе тайных саюзаў. Згодна з вечнымі законамі яно адраджаецца праз смерць, а святло выклікае са змроку праз агонь.*

*Ніхто не бачыць святла, але кожны адчувае. Можна параўнаць яго з нябачнаю зоркаю, святло якой даходзіць да нас; з цяплом з той вобласці, куды ніколі не ступіць нага чалавека, якое мы, аднак, адчуваем і можам даказаць з дапамогай тэрмометра».*

Гімназіст Ціхаміраў падняў вочы ад тэксту, для большай выразнасці агледзеў аўдыторыю і сабраўся зноў чытаць свой даклад, але ж з падваконня, якое ён дэмакратычна займаў падчас чытання даклада, лёгка саскочыў кіраўнік гуртка Парфіры Мізінаў.

Ён прайшоў паміж партамі, крута развярнуўся і пакінуў класны пакой. Гімназісты пераглянуліся. Ці значыла гэта, што даклад Ціхамірава выклікаў незадавальненне ў выкладчыка?

— Ну і тэму ты выбраў для даклада, — падаў голас мой былы сусед па парце А. — Самы час разважаць

пра тайныя саюзы, калі і без таго па ўсёй вялікай Расійскай імперыі хапае рознага...

— Цікавы даклад, — запярэчылі яму, — толькі малазразумелы...

— Вы ўсё яшчэ седзіце на сваіх месцах? — выкладчык зноў з'явіўся ў класе. — Хадземце!

У аўдыторыі ўсчынілася мітусня, гімназісты ўставалі і выходзіілі з-за парт.

Я з упэўненасцю сказаў Максіму:

— Адчуваю: сёння нешта будзе.

Гімназісты прайшлі доўгі калідор і спыніліся перад зачыненымі дзвярыма.

— Сябры, я папрашу хвіліну ўвагі! — звярнуўся да гурткоўцаў выкладчык. — Зараз мы ўсе разам зойдзем туды, куды я прывёў вас.

Парфіры Мізінаў дазваляў сабе зварот «сябры» ў адносінах да гімназістаў, і нікога гэта не бянтэжыла і не здзіўляла.

— А куды вы нас прывялі, пан прафесар? — запытаўся Максім.

Я падумаў, што ён з гэтым пытаннем мог бы звярнуцца і да мяне, бо я ведаў, куды нас вядуць.

— Момант цярпення, малады чалавек, вы занадта нецярплівы. Зараз дзверы зачынены, але яны адчыняцца, і вы ўсё ўбачыце самі.

З гэтымі словамі настаўнік расхінуў цяжкія дзверы. Удзельнікі гуртка апынуліся ў гімназічным музеі — самым нежылым пакоі ва ўсім будынку. Мёртвы пакой з пахам сухога дрэва, з густым ад пылу паветрам. Мой былы сусед па парце А. паспяшаўся да акна і расхінуў парцьеры. Незлічоная колькасць пылінак замітусілася ў промнях святла. Я быў уражаны гэтым відовішчам — музейным пылам у сонечным святле. А памятаеце гэты верш Максіма:

...светла сонца
Стаўпамі падае праз вузкае аконца,
І круціцца у іх прыгожы, лёгкі пыл;
Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл.

Пыл у музеях і бібліятэках можа быць прыгожым!

Пылінкі скакалі ў сонечных промнях. Промні асвятлялі сцены з фотаздымкамі ў рамках і без рамак, віншавальныя стужкі, які абвяшчалі заканчэнне навучальных гадоў, бальнікі, атэстаты сталасці, карткі з вывамі выдатнікаў і першых выпускнікоў Яраслаўскай казённай гімназіі, якія склалі гонар і годнасць імперыі.

З першага стэнда цікаўны наведнік мог атрымаць поўную інфармацыю пра будынак гімназіі. Гісторыя будынка была нядаўняя, фактычна, яна толькі пачыналася, і скласці славу Яраслаўскай казённай гімназіі мусілі мы. І не хто-небудзь іншы! Гімназія адчынілася толькі ў 1900 годзе. Таму частка экспанатаў был пазычана з губернскай гімназіі, якая дзейнічала з 1809 года і мела шмат здабыткаў — не шкада падзяліцца. Новая мужчынская гімназія, такім чынам, мела перад сабой добры прыклад.

Мы ўсе таксама ў перспектыве маглі трапіць у музей. Для гэтага нам дастаткова было быць у меру лаяльнымі ў адносінах да ўладаў, у меру разумнымі і выявіць свае таленты таксама ў меру, каб яны паслужылі на карысць імперыі.

Настаўнік спыніўся ля музейнага стэнда з фотаздымкамі. Гімназісты абступілі яго.

— Каго вы бачыце перад сабой? — пры гэтым пытанні рука настаўніка ўказала на стэнд, на якім мацаваліся самыя старыя здымкі — дагератыпы.

Я глядзеў на выяву пяці хлапцоў, зробленую ў шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя, яны выглядалі

надзвычай сур'ёзна. Мабыць, менавіта з такімі засяроджанымі тварамі рыхтаваўся замах на Аляксандра Другога. Я падумаў пра тое, што ўсе гэтыя хлопцы цяпер вельмі старыя, калі наогул жывыя.

Усе астатнія таксама пільна ўглядаліся ў здымкі.

— Гэтыя маладыя людзі так падобныя на вас, — сказаў настаўнік. — А між іншым, большасць з іх ужо не жыве. Іх карткі — у пыльных рамках.

Настаўнік зрабіў паўзу. Сонца, напэўна, схавалася за хмары, бо ў музеі зрабілася змрочна, перапыніліся танцы пылінак у промнях святла.

— Так, яны ўжо дыхаюць разам з зямлёй, — з некаторай тэатральнасцю загаварыў настаўнік. — Але калі мы памаўчым і прыслухаемся, то пачуем, што яны звяртаюцца да нас...

Апошнія словы былі прамоўленыя з пераходам у шэпт.

— Ён нагадвае мне прыхільніка разенкрэйцараў, — нахіліўся да мяне Максім.

— Каго?

— Як? Хіба не ведаеш?! — зашаптаў Максім. — Брацтва магаў. Адзін немец, яго звалі Хрысціян Разенкрэйц, заснаваў гэты ордэн у чатырнаццатым стагоддзі. Разенкрэйцары сцвярджалі, што не адчуваюць ні голаду, ні смагі, не падуладны старасці і хваробам, яны кіруюць духамі і прыцягваюць да сябе жамчужыны і каштоўныя камяні, могуць рабіцца нябачнымі. Яны ведалі таямніцу доўгага жыцця. Адной з задач брацтва было стварэнне магічнай мовы і пісьменнасці.

— Адкуль ты ведаеш пра іх?

— З кнігі, а кніга — у бібліятэцы майго бацькі. Там шмат кніг. Розных.

Нехта штурхнуў мяне ў бок.

— Цішэй. Не нагаворацца ніяк...

З-пад пыльных рамак на нас пазіралі вочы тых, хто задоўга да нас думаў аб тым, што за сценамі гімназіі іх чакае нешта іншае. Што яны прычакалі? А што будзе з намі?

Настаўнік адышоў ад сцяны і стаў за нашымі спінамі.

— Паслухайце, — заклікаў ён, — не бойцеся, вы абавязкова пачуеце...

— Што? — не вытрымаў Вася.

— Папярэджанне. Тыя, хто аджылі сваё, папярэджваюць наступнікаў. Толькі не ўсе здольны зразумець...

Настаўнік захоўваў сур'ёзнасць. Жахлівую сур'ёзнасць.

— Я нічога не чую! — абурыўся мой былы сусед па парце А. — Мусіць, усе яны даўно ў пекле! Я не хачу іх слухаць. На ўроках Закону Божага айцец Іван нам расказвае зусім іншае.

— Ты сам будзеш у пекле! — даў яму пстрычку Вася.

— Давайце памаўчым!

Я прыслухаўся, і мне здалося, што я пачынаю нешта чуць.

Першы пачуты мною гук можна было параўнаць з гукам удару тонкім дубцом аб шкло, пасля штосьці зашамацела... «Гэта дворнік мяце пляц перад гімназіяй, — паспрабаваў пераканаць я сябе. — Гэта асядае стары падмурак, гэта ўсыхаюць музейныя шафы...»

Але ж апрача ўсяго я стаў разбіраць асобныя словы...

Я нахіліўся наперад: галоўнае — зразумець сэнс.

— Усё прайшло, і гэта пройдзе... Гэта пройдзе, бо ўсё прайшло...

Словы шамацелі, як сухое восеньскае лісце на бруку.

Такія галасы часам пачынаюць гучаць сярод ночы, і няясна — ці то ў сне, ці то наяве.

Але што гэта за словы? Вельмі знаёмыя. Ці не яны былі напісаныя на на цудадзейным пярсцёнку мудрага

цара Саламона, на тым самы пярсцёнку, якім ён заклінаў дэманаў? Зрэшты, мае веды ніколі не вызначаліся дакладнасцю.

Я агледзеўся вакол — твары гімназістаў былі сур'ёзныя. Яны таксама чулі?

— Што кажуць вам вашы старэйшыя таварышы? — запытаўся настаўнік.

Усе пераглянуліся.

— Яны кажуць, што жыццё не вечнае... — прамовіў Максім.

— Вы маеце рацыю, — настаўнік з асаблівай увагай паглядзеў на яго. Усё гэта нагадвала гульню з удзелам замагільных сіл.

— Жыццё кароткае, мастацтва вечнае! — добра вядомы ўсім нам лацінскі афарызм па-новаму гучаў з вуснаў новенькага.

— Так! А што значаць для вас гэтыя словы? — у настаўніка з'явіўся праўдзівы інтарэс да Багдановіча.

Але адказу ён не пачуў. Дарэчы, гэта было вельмі характэрна для Максіма — выказваць нейкую цікавую думку, але не даводзіць яе да канца, замыкацца на паўслове.

І тут настаўнік нечакана змяніў тэму. Ці, прынамсі, нам толькі падалося, што ён яе змяніў.

— Хто з вас ведае на памяць верш Верлена?

— У арыгінале? — падаў голас вечна правільны і дакладны А.

— Можна і ў перакладзе, — настаўнік не звярнуў асаблівай увагі на гэты выпад. — Галоўнае, каб захоўваўся дух паэзіі.

Ніхто ў нас вершы на памяць не ведаў. Чыталі — гэта было, захапляліся, але ж навошта вучыць? Хаця б справіцца з праграмай.

— Я ведаю, — нечакана для ўсіх нас і для настаўніка адказаў Максім.

Выступіўшы наперад, ён пачаў чытаць.

Ноч. Дождж. Нябёс імгла. Абрысам цёмным рэжа
Гатычны горад іх. Стаяць скразныя вежы
І дахі гострыя, знікаючы ў далі.
Пляц. Слупы шыбеніц трымаюць ля зямлі
Гурт мерцвякоў. Вятры вясёла іх гайдаюць.
Як у танцы. Крукі ўжо хціва раздзіраюць
Цела ім. Ногі іх — здабыча для ваўкоў.

Максім перапыніўся. Ці то для таго, каб набраць паветра, ці то забыўся.

— Дзякуй, гэтага дастаткова, але ж верш вы, спадар... — настаўнік задумаўся.

— Багдановіч, — падказаў я.

— Але ж не самы вясёлы верш вы, спадар Багдановіч, выбралі. Зрэшты, усё добра.

Пасля Дзіядор Дзябольскі напіша ў сваіх успамінах: *«Вершы Максім чытаў нараспеў, нават з невялікім завываннем, што нам усім здавалася вельмі новым і незвычайным, але ж і не ўсімі было ўхвалена.*

*У бліжэйшую нашую сустрэчу Максім распавёў мне, што ў Ніжні Ноўгарад прыязджаў нейкі маскоўскі паэт, які чытаў вершы менавіта так. Але ўсё ж такі ў далейшым Максім ужо ніколі ў такой манеры вершаў не чытаў.*

*Чытаў ён вершы нядрэнна, і вялікую колькасць, асабліва паэтаў XIX стагоддзя, ведаў на памяць. Памяць у яго была рэдкасная, — прачытаўшы два, самае большае тры разы вялікі верш, ён ужо добра яго запамінаў».*

Верш Верлена ўсе слухалі ўважліва, ніхто нават не зварухнуўся. Магчыма, верш і сама атмасфера музея дзейнічалі гіпнатычна. Гімназісты ў адпрасаваных суконных строях стаялі маўклівай групкай і ў гэты мо-

мант былі вельмі падобныя на стары фотаздымак — тая ж маўклівасць, нерухомасць і засяроджанасць.

Максім скончыў чытаць, і ўсе ажылі. Чары адыходзілі.

— А чаму вы ўсе так уважліва слухалі гэтыя вершы? — задаў пытанне настаўнік.

Усе зноў сціхлі. Ніхто не ведаў, проста не думаў пра гэта. Цікава было, калі слухалі верш, з'явіўся перад вачыма змрочны гатычны горад, дзе ва ўсіх дамах шчыльна зачыненыя нанач аканіцы, а за гарадской брамай — шыбеніца, на якой па даносе суседа можа апынуцца любы жыхар. Уяўлялі ўсё гэта — вось і маўчалі, вось і слухалі.

Але ж ніхто нічога не адказаў настаўніку. Мусіць, саромеліся: а раптам такі адказ няправільны? А які тады правільны?

Не забывайце: гэта была гімназія. А ў гімназіі ўсе адказы дзеляцца на правільныя і няправільныя. Таму калі пытаецца настаўнік, то лепей, каб адказ быў правільным. А галоўнае правіла ў гэтай справе: лепш памаўчаць, чым сказаць глупства.

— У якім годзе памёр Поль Верлен? — не дачакаўшыся адказу, настаўнік змяніў сваё пытанне на больш канкрэтнае.

— Поль Верлен нарадзіўся ў 1844 годзе, а памёр у 1896, — адказаў мой былы сусед па парце А. Трэба адзначыць, што лічбы ён запамінаў выключна, а словы — наадварот: вывучыць самы кароценькі верш — цэлая праблема. А даты жыцця паэта — калі ласка!

— А ў 1870 годзе — ажаніўся, — усміхнуўся настаўнік.

— Ніхто не пытаўся ў цябе, калі ён нарадзіўся, — наступіў прыкладнаму вучню на нагу Вася. — Спыталі толькі, калі памёр!

— Так, Верлен памёр у 1896 годзе, — паўтарыў настаўнік. — Вы былі зусім малыя ў той час. Дык чаму ж, — зрабіў ён раптам нечаканы пераход, — чаму ж вы слухалі вершы таго, каго даўно няма на гэтым свеце? Чаму вы ўсе, якія за рэдкім выключэннем удзяляеце мала ўвагі паэзіі, слухалі гэтыя вершы, стаіўшы дых, забыўшыся на ўсё? Вы не ведаеце?

— Не, — выдыхнулі гімназісты.

— Я паспрабую вам растлумачыць, — настаўнік гаварыў ціхім голасам, які сам па сабе заклікаў да ўвагі, хочаш нешта пачуць — маўчы і лаві кожнае слова. — Кожны з нас ведае, чым заканчваецца жыццё…

За маёй спінаю нехта цяжка ўздыхнуў, мне падалося, што гэта быў Максім.

— Мы ўсе не вечныя, — працягваў настаўнік, — як бы нам таго ні хацелася. На гэты конт існуе анекдот пра старажытных дэспатаў, якія пісалі ў сваіх тастаментах: «У выпадку, калі я памру…» Яны сумняваліся нават у магчымасці сваёй смерці, бо мелі неабмежаваную ўладу пры жыцці. Але ж, але… Вы яшчэ вельмі маладыя і не думаеце пра смерць, але ж у іншым пласце свядомасці ў кожнага ёсць адчуванне сваёй смяротнасці. Можа, вы не задумваецеся над гэтым адчуваннем, але яно ёсць.

Мы слухалі Мізінава і не столькі разумелі, колькі адчувалі слушнасць таго, што ён кажа.

Тут я зноў хацеў бы звярнуцца да ўспамінаў Додзіка — Дзіядора Дзябольскага: «*Максім не любіў гаварыць пра сваю хваробу, гаварыў вельмі рэдка і толькі тое, што ўжо было неабходна сказаць, але па некаторых ягоных словах было ясна, што адчуваў ён яе ўвесь час і ў нейкім другім слоі свядомасці ведаў, што канец жыцця не такі далёкі. І таму, можа быць, яму неабходна было гэтае жыццё зра-*

*зумець, і зразумець з самых першых момантаў яго ўзнікнення».*

А мы ў тыя самыя першыя дні і не ведалі, што ён хворы!

Настаўнік працягваў гаварыць усё тым жа сцішаным голасам.

— Кожны адчувае незваротнасць часу, імклівы рух ад нараджэння жыцця да скону. Толькі звычайна гэтае адчуванне спіць, яно прачынаецца, калі мертвыя паэты звяртаюцца да вас...

Пры апошніх словах нават у Васі вочы сталі круглымі ад жаху. А мы ўсе лічылі, што вершы проста прыгожыя і гэтая прыгажосць заварожвае сэрцы!

— Што гэта значыць? — не стрываў я. — Ці тое, што паэзія вучыць думаць пра смерць?

— Не! Гэта значыць тое, што паэзія вучыць думаць пра жыццё і пра тое, што кожны чалавек павінен пакінуць пасля сябе на зямлі след...

— Нашчадкаў?

— Не толькі. Гэта могуць быць і думкі, а дакладней — ідэі. Ідэі працягваюць жыць, калі іх стваральнікі адыходзяць.

— Дзеці таксама працягваюць жыць, і дзеці дзяцей — таксама, — запярэчыў я.

— На вялікі жаль, — уздыхнуў наш кіраўнік, — вельмі часта здараецца так, што дзеці паміраюць раней за бацькоў... Мойры — багіні чалавечага лёсу. Старажытныя грэкі лічылі, што ўсё залежыць ад іх. Памятаеце, іх тры: Клота прадзе нітку жыцця чалавека, Лахесіс праводзіць яе праз усе зменлівасці лёсу, а Атропас пераразае нітку, абрывае жыццё...

І гэтым сказаным тады словам я знаходжу пацверджанне ў загадкавым лёсе Максіма. Бо будзе суджана напісаць ягонаму бацьку Адаму ў сваіх мемуарах:

*«Так шмат было ракавога ў ягоным заўчасна згаслым жыцці, што міжволі прыходзіць на памяць вобраз старажытнай Мойры, якая была да яго выключна бязлітасная і груба насмяялася з усіх ягоных募 мараў і надзеяў, прынамсі з тых, якія тычыліся яго асабіста. Нават сціплая надзея памерці на роднай зямлі, і тая была падманутая. І якая недарэчнасць, што не ён пра мяне, а я пра яго мушу пісаць свае ўспаміны».*

## *Глава 5. «Залаты шлях да блізкага шчасця»*

Прыйшоў са свайго пакоя Адам Ягоравіч і, ласкава пагладзіўшы яго густыя, тады доўгія каштанавыя валасы, зачэсаныя назад, любоўна і жартаўліва сказаў: «Беларускі Гамер».

Дзіядор Дзябольскі. Успаміны

Прыемна прайсціся вясновым вечарам па набярэжнай, паглядзець на вызваленую ад ільду Волгу. *«Залацісты стоўп ад поўнага месяца ўжо лёг на люстраную гладзь шырокай Волгі. Ён увесь дрыжыць, зыбаецца, пераліваецца агнямі і, папаўшы раптам пад хвалі, узнятыя параходам, шырыцца, драбіцца... Тады здаецца, быццам на вадзеззяе залатая кальчуга калісьці ўтопшага тут велікалюда або быццам залаты невад калышацца на цёмнай гладзі ракі, а ім кішма кішыць залатой жа рыбы. Але патроху рассыплюцца залатыя звенні кальчугі, распадзецца залаты невад на безліч паблытаных, узвіваючыхся светлых ніцей ды зліюцца паміж сабой пераліўчатыя ніткі — і ізноў будзе дрыжаць на рацэ ясны, бліскучы стоўп, быццам залаты шлях да блізкага шчасця».*

Ад халоднай ракі павявае нездаровай вільгаццю, але ж мала хто дбае пра здароўе ў сямнаццаць гадоў да такой ступені, каб звяртаць увагу на такія моманты.

Мы ішлі па набярэжнай.

— А што ты казаў такое пра разенкрэйцараў? — запытаўся я ў Максіма. — Ты ўсё пра іх ведаеш?

— Усяго пра іх не ведае ніхто. Проста немагчыма ведаць, гэта быў тайны саюз.

— Што з таго?!

— Як што?! — Максім засмяяўся і нават прыпыніўся. — Тое, што тайныя саюзы для таго і ствараюцца, каб пра іх ніхто нічога не ведаў.

— Але ж усе ведаюць!

— Гэта ўжо іншае пытанне. Штосьці падобнае адбываецца з дзённікамі. Іх пішуць як быццам бы для сябе, а ў выніку чытае нехта іншы. Як ні хавай, як ні шыфруй, як ні маскіруй — усё роўна знойдуць і прачытаюць! Нават самае-самае...

— Іншы раз дзённікі нават друкуюць.

— Гэта ў знакамітасцяў, — адзначыў Максім. — А мае дзённікі сталі б чытаць хіба што малодшыя браты. Чытаць і рагатаць, як чарцяняты. Вось так.

— А што з тайнымі саюзамі? Іх выкрываюць? Ці знаходзяцца здраднікі?

— Было па-рознаму. Напрыклад, удзельнікі гэтых саюзаў набывалі цікавыя веды, якімі спяшаліся падзяліцца з людзьмі. А як гэта зрабіць? Яны пісалі кнігі...

— Ты гаворыш зусім як кіраўнік нашага гуртка!

— Кіраўнік гуртка? — ён усміхнуўся. — Я гэтага нават не заўважыў. Можа быць... Паслухай лепш пра разенкрэйцараў.

Мне было цікава.

— Хрысціян Разенкрэйц быў немцам, жыў у чатырнаццатым стагоддзі. Ён падарожнічаў па Аравіі і там даведаўся пра шматлікія тайны, сярод якіх была тайна даўгога жыцця. Пасля ён вярнуўся ў Еўропу, дзе набыў шмат вучняў і памёр ва ўзросце 150 гадоў. Памёр не таму, што прыйшоў час паміраць, а таму, што надакучыла яму жыццё, — пры гэтых словах Максім уздыхнуў. — Яго пахавалі ў гроце. На пачатку сямнаццатага стагоддзя адзін з ягоных паслядоўнікаў трапіць у гэты грот, які вельмі нагадваў пячору мітраікаў...

— Каго?

— Мітраікі былі прыхільнікамі культу Мітры — старажытнаіранскага боства, якое забяспечвала на зямлі згоду, мараль і парадак. У трэцім стагоддзі гэты культ быў сур'ёзным супернікам хрысціянству. Мітраікі збіраліся ў пячорах, дзе стаялі скульптурныя выявы Мітры ў выглядзе юнака, які забівае быка альбо стаіць на ім. А ў гроце, у якім быў пахаваны Хрысціян Разенкрэйц, знайшлі рукапіс, напісаны залатымі літарамі. Гэта быў закон ордэна.

— А ў чым заслугі разенкрэйцараў?

— Яны імкнуліся да адкрыцця ў чалавека духоўнага вока, якое можа бачыць іншы — звышнатуральны свет, які натхняе душу для праўдзівых ведаў. Разенкрэйцары прытрымліваліся наступных законаў: бясплатна лячыць хворых; насіць вопратку той краіны, у якой жылі; штогод з'яўляцца на сход ордэна; перад смерцю пакідаць наступніка; захоўваць тайну сто гадоў.

— Сто гадоў — гэта вельмі шмат, — запярэчыў я, — чалавек не можа столькі пражыць.

— Гэта звычайны чалавек не можа, а яны жылі столькі, колькі хацелі, — пакуль не надакучыць, а пасля выбіралі сабе наступніка і паміралі па ўласнай волі... Па свайму жаданню.

— А хіба можа надакучыць жыць? — у юнацтве я быў перакананы, што жыццё вельмі цудоўнае.

— Мне здаецца, што не, але, відаць, такое здараецца...

— Вядома, самагубцы...

— Я іх не разумею!

Магчыма, пазней Максім здолеў зразумець і гэтых людзей, якія добраахвотна падводзілі рысу пад сваім жыццём. У 1910 годзе ў Кіеве скончыў жыццё самагубствам пачынальнік прафесійнай беларускай крытыкі дваццацігадовы Сяргей Палуян, які напісаў у сваім

пасмяротным лісце: «Я паміраю пошла, павесіўшыся, бо не маю магчымасці набыць рэвальвер. Не хачу жыць з вамі, людзі». Максім здолеў зразумець гэтага чалавека і напісаў на ягоную смерць два вершы, адзін з іх — гэты трыялет:

Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.
Хоць свет і людны, і шырокі, —
Ты быў, як месяц, адзінокі.
Красу, і светласць, і прастор
Шукаў — і, ад усіх далёкі,
Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.

Менавіта ў самоце, у гэтым стане, якому нават не ва ўсіх мовах знаходзіцца адпаведнік, бачыў Максім Багдановіч прычыну смерці Сяргея Палуяна. Самота — спалучэнне суму і адзіноты. І свой адзіны прыжыццёвы збонік «Вянок» Максім, па парадзе Вацлава Ластоўскага, таксама прысвеціць Сяргею Палуяну. Гэта сімвалічны жалобны ВЯНОК на магілу маладога знаўцы літаратуры.

Вазьміце ў рукі зборнік «Вянок», паглядзіце, што напісана на авантытуле. Вы ўбачыце маленькі чорны крыжык і надпіс «Вянок на магілу С. Палуяна».

Але ж будзе ўсё гэта пазней. У вечаровай цемры мы шпацыравалі па волжскай набярэжнай і гаварылі пра доўгае жыццё разенкрэйцараў.

Я з захапленнем слухаў пра таямнічы ордэн разенкрэйцараў, але, як заўсёды, не забываўся на тое, што хвалявала асабіста мяне. А хвалявалі мяне ў той час запросіны ў госці. У госці запрасілі не каго-небудзь, а мяне! І не проста зайсці да гімназічнага сябра па-

гуляць у шашкі, а на вечар з пачастункам і танцамі. І мне, з аднаго боку, не хацелася перабіваць паэтычны настрой, а з другога — так карцела падзяліцца сваёй радасцю і некаторымі сумненнямі.

Мяне запрасілі на вечарыну ў сям'ю да чалавека паважанага ў нашым горадзе, ён быў сябрам майго бацькі. Мне было шаснаццаць гадоў — самы час паказаць сябе годным. Мы якраз ішлі каля таго дома, ён быў двухпавярховы з высокім падмуркам, парадным пад'ездам, а вокны выходзілі на набярэжную. Вокны свяціліся, і я ведаў, што заўтра я буду там. Я змагу нават, адхінуўшы цяжкую парцьеру, паглядзець на набярэжную і нічога не ўбачыць, бо нельга глядзець са святла ў цемру. А мяне ўбачаць, бо глядзець з цемры на святло можна. Але, хутчэй за ўсё, я не стану гэтага рабіць. Што гэта такое — запрасілі маладога чалавека ў госці, а ён адразу суне нос за парцьеру.

Там будзе шмат людзей, і радасць перамяжалася ў мяне са страхам і трывогай. І мы праходзілі міма гэтага дома, а мой новы сябра працягваў разважаць і не ведаў, што заўтра я буду там, унутры.

— Ты ведаеш, — перабіў я не зусім дарэчна свайго новага сябра. — Я заўтра іду ў госці. Вось у той дом.

Я паказаў на дом, які зацікавіў Максіма.

— Цябе запрасілі?

— А як жа!

— Там будзе шмат люду?

— Так. Таму я вельмі хвалююся.

Я гаварыў вельмі шчыра. Часта бывае, калі мы выказваем вялікую даверлівасць у адносінах да маламаёмых людзей, а пасля даводзіцца шкадаваць. Але гэта быў не той выпадак. У той вечар проста праявілася адна істотная рыса Максіма, пра якую напіша пасля Дзіядор Дзябольскі: «*Максім вызначаўся адной вельмі*

*характэрнай для яго асаблівасцю — да людзей, якія хоць чым-небудзь звярнулі на сябе яго ўвагу, ён падыходзіў проста і адразу неяк вельмі ўважліва, амаль мінаючы непазбежны перыяд знешняга знаёмства.*

*Ён заўсёды пачынаў з таго, што можа быць выяўлена ў гэтага чалавека самага цікавага, самага лепшага. Ён зусім не патрабаваў, каб іншы чалавек быў сваімі інтарэсамі, захапленнямі, розумам падобны на яго, Максіма Багдановіча. Максім умеў знаходзіць у самай простай, іншы раз зусім немудрагелістай душэўнай гаспадарцы суразмоўцы самае для іх абодвух важнае і патрэбнае. І гэта зараз жа і міжволі дазваляла людзям паказаць самае каштоўнае, чалавечае, што ў іх было.*

*Максім умеў за вельмі кароткі час стаць блізкім да людзей, зусім непадобных на яго*».

— Першы выхад у свет? — спытаў Максім, гледзячы на дом з вокнамі на набярэжную.

— Нешта накшталт таго. А першы раз усё страшна.

Максім задумаўся. Як я даведаўся пасля, праблема «выхаду ў свет» стаяла для Максіма найбольш востра. Мы ўсе зразумелі гэта, а Додзік нават напісаў у сваіх нататках: «*Сярод блізка знаёмых сарамлівасць яго знікала, але сярод незнаёмых ён рабіўся вельмі сарамлівым. З-за гэтага ён ніколі не бываў на вечарах у гімназіі. Пайсці туды для яго было проста немагчыма, а на які-небудзь танцавальны вечар — і ўявіць нельга было, таксама, як гуляць увечары на бульвары — звычайным месцы шпацыру гімназістаў і гімназістак*».

Максім усведамляў свае цяжкасці.

— Мы нядаўна ў гэтым горадзе, — прамовіў ён крокаў праз дзесяць. — Як ты лічыш, мяне таксама будуць запрашаць у госці?

— Канечне, будуць. Я, напрыклад.

Максім глядзеў перад сабой і зноў-такі працягваў нейкі ўнутраны маналог, не зважаючы на мае словы.

— Бацьку будуць запрашаць — гэта дакладна. Мачаху — нікуды і ніколі, гэта таксама зразумела. А мяне?

— Мне здаецца, — перабіў я яго, — што ў цябе вельмі добры бацька. Ён жа прыходзіў да цябе, мы з Додзікам усё бачылі. Ён клапатлівы, ён думае пра цябе.

— Ён думае не толькі пра мяне, на ім вялікая адказнасць, ён думае пра ўсіх нас. Ты ведаеш, колькі ў мяне братоў?

— Колькі?

— Шмат. Але ў гімназію ходзім толькі мы з Лёвам.

— Чаму?

— Яны пакуль малыя. Ды да таго ж... — ён не дагаварыў і нечакана змоўк, як быццам бы з ягонымі братамі была звязаная чарговая таямніца.

— Што «да таго ж»?

— Нічога, хутка і яны пойдуць у гімназію. Будуць набываць веды... Я хацеў сказаць, што майму бацьку не так лёгка жывецца. А ён хоча, каб усе мы выраслі годнымі. Ён мне ні ў чым не перашкаджае, проста кантралюе.

— Вось бачыш, — падхапіў я, — табе грэх скардзіцца. А памятаеш Ціхамірава, які чытаў сёння рэферат?

— З такімі акцёрскімі інтанацыямі?

— Менавіта! Вось у яго з бацькам сапраўдная трагедыя.

— Так?

Максім спыніўся, і нават у цемры было заўважна, што паглядзеў ён на мяне надзвычай уважліва. А я, па шчырасці, пачаў ужо шкадаваць, што завёў гэтую гаворку. Навошта выдаваць чужыя сакрэты? А яшчэ сам пытаўся, як выкрываюцца тайныя саюзы! Вось так гэта і адбываецца — праз надзвычай шчырыя размовы.

Але адносіны Ціхамірава з бацькам не былі тайнай, прынамсі ў нашым класе. Шмат каму гэта здавалася троху смешным: Ціхамідаў бачыў сябе ў будучым драматычным акцёрам, хай сабе не вялікім, але ж на сцэне! А ягоны бацька бачыў свайго адзінага сына ў будучым юрыстам. А кім яшчэ? У Яраслаўлі была адзіная вышэйшая ўстанова — Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй. Так што ўсе мы з'яўляліся яго патэнцыяльнымі навучэнцамі. Каб стаць не юрыстам, а некім іншым, трэба было пакінуць наш любімы Яраслаўль.

Але ж апрача Дзямідаўскага юрыдычнага ліцэя ў горадзе быў знакаміты драматычны тэатр. Менавіта ў Яраслаўлі арганізаваў Фёдар Волкаў аматарскую акцёрскую трупу, з якой у 1756 годзе ў Пецярбургу сфарміраваўся прафесійны тэатр.

Тэатр быў сапраўднай славутасцю ў Яраслаўлі, і гімназістам старэйшых класаў афіцыйна дазвалялася наведваць спектаклі — бясплатныя месцы на галёрцы. Але ж не ўсім! Ціхаміраву не дазваляў хадзіць у тэатр родны бацька.

Апрача таго, аднакласнік Багдановіча Годнеў пісаў у сваіх успамінах, што «*ў нашай гімназіі была лепшая ў горадзе зала. Таму яе часта наймалі для канцэртаў. Гімназісты мелі права ўваходу на канцэрт па кантрамарках і слухалі стоячы*».

— Бацька не дазваляе хадзіць Ціхаміраву ў тэатр! — выпаліў я.

— А мне ў кінематограф! — не выказаў здзіўлення Максім.

— Гэта не адно і тое ж...

— Я сам разумею. Мяне бацька ў тэатр пускае. Нават мая мачаха любіць там бываць.

— Бацька Ціхамірава проста ненавідзіць тэатр, — тлумачыў я.

Нам варта было б ужо разыходзіцца па дамах, але размова была не скончаная. А мне чамусьці вельмі хацелася абараніць Адама Багдановіча, прадэманстраваць ягоныя вартасці ў параўнанні з бацькам Ціхамірава. Я быў вельмі саманадзейным у гэты момант. Якая бязглуздзіца — Максім ведаў свайго бацьку, любіў і паважаў, а я толькі бачыў яго на лесвіцы некалькі хвілін. І ўсё ж такі Адам Багдановіч мяне ўразіў. А пра бацьку Ціхамірава я ведаў шмат і спяшаўся падзяліцца сваімі думкамі з Максімам.

— Ціхамiраў кажа, што ягоны бацька хоча загнаць яго ў магілу.

— Напэўна, замоцна сказана?

— Магчыма, бо бацька яго па-свойму любіць і ўяўляе, канечне, не ў магіле, а ў зале суда, дзе ён паспяхова праводзіць справы супраць іншародцаў усіх гатункаў і калібраў.

— Пачакай, — спыніў мяне Максім. — Дык кім ён мусіць стаць: суддзёй, адвакатам, пракурорам?

— Без розніцы, галоўнае, каб бараніў праўдзівыя рускія інтарэсы, каб быў апірышчам Расійскай імперыі, каб рускія патрыёты не пакутавалі ад уплываў розных…

— А як Ціхамiраў ставіцца да палітычных поглядаў свайго бацькі? — надзвычай сур'ёзна запытаўся Максім.

— Яму ўсё роўна. Ён проста рвецца ў тэатр, ад гэтага ён і пакутуе. А каб бацька пры тых жа самых палітычных поглядах пускаў яго ў тэатр, то праблемы не было б ніякай.

— А вось тут ты памыляешся, — рэзка абарваў мяне Максім. — Чалавеку з такімі поглядамі галоўнае не пускаць, не важна куды! У гэтым яго сутнасць. Я спачуваю Ціхамiраву!

Адчувалася, што яго засмуціў мой аповед пра тэатр і бацьку Ціхамірава.

— А ў чым ты пойдзеш на вечар? — Максім узгадаў пра тое, што я запрошаны ў госці.

— Як у чым? — здзівіўся я. — У форме. Гімназіст паўсюль абавязаны хадзіць у форме, за гэтым сочаць. Ды і выглядае яна дастаткова прыстойна.

Я ўзгадаў пра форму Багдановіча і падумаў, што ў такім выглядзе, канечне, ісці ў госці немагчыма. Але ж знешні выгляд не галоўнае! Мая маці заўсёды казала, што пад самым лепшым адпрасаваным строем можа хавацца духоўнае ўбоства і што з такіх людзей таксама смяюцца. І невядома, што лепей.

Мы развіталіся з Максімам.

— Шчасліва схадзіць у госці! — крыкнуў ён мне наўздагон.

— Пачакай, скажаш мне тое самае заўтра! Гэта будзе пятніца, і яшчэ ўбачымся з табою ў гімназіі.

— Я і зусім забыўся, — засмяяўся Максім. — Так і зраблю. І прынясу яшчэ табе заўтра цікавую кнігу з бібліятэкі бацькі.

У цемры нашы крыкі, відаць, гучалі дастаткова дзіўна.

А дома я чытаў вершы Поля Верлена.

## *Глава 6. Дэпутацыя*

Я вельмі мала цікавіўся, ці паспяваюць мае дзеці, ці вучацца пасрэдна, ці нават адстаюць. Я даваў магчымасць ім ісці сваім крокам.

Адам Багдановіч. Матэрыялы да біяграфіі Максіма Адамавіча Багдановіча

Пятніца была днём, напоўненым падзеямі звыш меры. Апошняе пасяджэнне гуртка збудзіла ў душах гімназістаў прагу дзейнасці. Захацелася праявіць сябе на словах і на справе.

У мяне ў тую пятніцу ў галаве былі адны думкі — пра вячэру. Як я пайду і што там будзе. А Вася падышоў да мяне перад першым урокам і сказаў:

— Ну дык што рабіць будзем?

— У сэнсе?

— Ты памятаеш, што казаў нам нам настаўнік у музеі?

— Ён казаў, што трэба разумець і любіць паэзію.

— Ты так гэта зразумеў?! — абурыўся Вася.

— А можна было неяк па-іншаму зразумець?

— Настаўнік вучыў нас жыць годна і, пакуль маладыя, праявіць сябе!

— Якім, выбачай, чынам?

*«Прайшлі гады палітычнага ўздыму, і мы, гімназісты, адразу адчулі наступленне чорнай рэакцыі. Кожная праява вальнадумства строга каралася.*

*Міма вокнаў гімназіі часта праязджалі казацкія патрулі. Адчыніўшы вокны, гімназісты крычалі ўслед: «Апрычніна! Апрычніна!» Сярод педагогаў нашай гімназіі былі людзі ліберальна і нават рэвалюцыйна*

*настроенья. Іх ідэі ўспрымалі многія вучні».* Так пісаў аднакласнік Максіма Ц. Годнеў.

А чым яшчэ можа праявіць сябе гімназіст? Толькі пакрычаць з акна!

— Дык што мы будзем рабіць? — запытаўся ў мяне Вася, а я не ведаў, што адказаць.

— Твайго новага суседа па парце пазаўчора выставілі з класа. І да таго ж — незаслужана.

Падышоў да нас задуменны Ціхаміраў, напэўна, яго галава была занятая думкамі пра прэм'еру ў Волкаўскім тэатры і выпрацоўкай тактыкі непрыкметнага пранікнення ў тэатр.

— Мы тут гаворым, што выкладчыкі часам паводзяць сябе абуральна, — звярнуўся да яго Вася.

— Я з вамі цалкам згодны! — скінуў з сябе ўсялякую задуменнасць Ціхаміраў. — А асабліва не выкладчыкі, а наглядчыкі.

Ціхаміраў гаварыў горача, з запалам.

— Напрыклад, Казёл — спецыяліст па шпіянажы за навучэнцамі гімназіі. Яго працоўны дзень — дваццаць чатыры гадзіны ў суткі. А мой бацька яшчэ даплочвае яму дадаткова, каб сачыў за мной. Казёл ужо пачаў наведваць усе спектаклі ў тэатры. Казлу можна пазайздросціць! Ён хутка ўсе ролі вывучыць на памяць!

— За Казла не хвалюйся, — супакоіў я аднакласніка. — Ніводнай ролі на памяць ён ведаць не будзе. Ён нават не глядзіць у тэатры на сцэну.

— Як? А куды ён глядзіць? — выгляд у Ціхамірава быў збянтэжаны.

— Казёл аглядае публіку, бо ходзіць у тэатр не на спектаклі, а высочваць цябе. За гэта яму і плацяць. Дарэчы, раю не забывацца пра тое, што яго сапраўднае імя не Казёл, а Мікалай Іванавіч. Бо ведаю цябе — задумаешся і скажаш у твар: «Шаноўны Казёл!»

Вася засмяяўся, а дакладней — зарагатаў.

— Не скажу, — пакрыўдзіўся Ціхаміраў. — Вы дарма так думаеце...

— Усе ведаюць, што ты як не з гэтага свету, — гаварыў Вася.

— Не ўсе ведаюць, а так сказаў наш матэматык, калі я нічога не мог яму сказаць. «Прыйдзе яна ўвечары, прыйдзе!» — дадаў ён яшчэ. Ён думаў, што я мару пра нейкую «яну», а я ж зусім не пра гэта...

— А ты памятаеш, што ён у цябе спытаў спачатку? — не здаваўся Вася.

— Не памятаю...

— А пасля? — працягваўся допыт.

— А пасля, — сумна прамовіў Ціхаміраў, — ён запытаўся: колькі будзе, калі ад рубля адняць паўрубля.

— І што ты адказаў?

— Паўтара рублі, — вінавата адказаў Ціхаміраў. — Вось тады ж ён і сказаў, што я як не з гэтага свету.

— А пра што ты думаў?

— Пра новую пастаноўку ў тэатры. Я думаў, што ліцэісты маюць права прымаць удзел у масавых сцэнах, а чаму гімназісты не могуць?

— А якая там новая пастаноўка? — я таксама часам любіў наведаць наш знакаміты тэатр. Толькі фанатызму тэатральнага ў мяне не было, як, зрэшты, і фанатызму наогул.

— Сцэны з Кальдэрона. Наш тэатр узяўся за «Жыццё ёсць сон». Пакуль што ставяць асобныя сцэны, у якіх ліцэісты чамусьці могуць прымаць удзел, а гімназісты не могуць. А чаму? Яны ж не настолькі за нас старэйшыя!

— І гімназісты могуць прымаць удзел, але ж толькі не ты, Ціхаміраў! — зрабіў жорсткую выснову Вася.

Мае святочныя думкі пра вячэру знікалі, як вадзяныя лілеі знікаюць у гарачы дзень, каб зноў з'явіцца ўвечары. Для Васі было характэрна, ухапіўшыся за нейкае слова, цалкам мяняць рэчышча размовы.

— Па-мойму, ты прагнуў нейкіх подзвігаў і збіраўся распачынаць змаганне, — нагадаў я Васю. — А замест гэтага мучаеш Ціхамірава. Пакрыўджанага не крыўдзяць, — дадаў я, у сваю чаргу абразіўшы свайго сябра. Я спахапіўся, але, як заўсёды ў такіх выпадках, было позна, — ён захаваў крыўду, але ж застаўся з намі.

— Дзякуй, што нагадаў, — удзячнасць Васі не была падробнаю. — Мы павінны выступіць супраць недарэчных выхадак выкладчыкаў!

— І наглядчыкаў, — падказаў Ціхаміраў.

— Выкладчыкаў і наглядчыкаў, — паўтарыў Вася. — А таксама абараніць нашага новага таварыша Максіма Багдановіча.

— А ён гэтага хоча? — засумняваўся я.

— Я і сам магу пастаяць за сябе! — раздаўся раптам голас Максіма, які, відаць па ўсім, ужо даўно стаяў побач і прыслухоўваўся да нашай размовы. Падслухоўваннем гэта назваць было нельга, бо мы яго проста не заўважылі.

— Справа не ў тым, што мяне пакрыўдзілі, — працягваў Максім, — а ў тым, што гэта — сістэма. Пакрыўдзілі раз, пакрыўдзілі два, пасля — тры. І так да бясконцасці. Яны будуць крыўдзіць, а мы — трываць. А варта зрабіць так, каб яны, перад тым як сказаць, думалі.

— А хто гэта «яны»? — уступіўся я. — У нашай гімназіі дастаткова цудоўных выкладчыкаў. Ты бачыў Парфірыя Мізінава. Зараз пачнецца ўрок, і ты пазнаёмішся яшчэ з Уладзімірам Уладзіміравічам Белавусавым. Ён выкладае ў нас лацінскую мову. І ўрокі ў яго,

дарэчы кажучы, часам ператвараюцца ў лекцыі па сусветнай літаратуры. А вершы, ведаеш, якія ён нам чытае? Са старажытнарымскай паэзіі! Вось, напрыклад, мой любімы: «Бяры, што даюць, раз не даюць жаданага. Жыві, як можаш, калі нельга, як хочацца».

— І хто гэта напісаў? — пацікавіўся Максім.

— Не ведаю... Якая розніца?! — я быў глыбока перакананы, што імя аўтара не мае ніякага значэння.

— Ты памыляешся, — вельмі сур'ёзна запярэчыў Максім. — Імя аўтара трэба ведаць заўсёды. Гэтым якраз і адрозніваецца чалавек дасведчаны ад прафана.

— Ад прафана ў галіне літаратуры?

— Не толькі.

Мяне здзіўляла тая акалічнасць, што ўрок усё не пачынаўся. Ці гэта я так рана падняўся і прыйшоў у гімназію? Мне сапраўды не спалася ў прадчуванні вячэры, але ж ад таго, што раней устанеш і прыйдзеш у гімназію, дзень хутчэй не пройдзе. Наадварот, ён будзе даўжэйшым.

Мы гаварылі і пра тое, і пра другое, а ўрок лацінскай мовы усё не пачынаўся і не пачынаўся. Гэта пасля я зразумеў, што час таксама з'ява адносная. Ён неаднолькавы, ён то цячэ вельмі марудна, то нясецца імкліва, як плынь Волгі. Толькі здаецца, што ён роўны.

Званок усё ж празвінеў, урок лацінскай мовы пачаўся. Наш паважаны настаўнік Уладзімір Уладзіміравіч Белавусаў адчуваў сябе кепска.

*«Уладзімір Уладзіміравіч быў чалавекам надзвычайнай далікатнасці. Паставіць двойку для яго было сапраўднай пакутай, ён ставіў іх у рэдкіх выпадках. Зрабіць вучню заўвагу для яго было амаль немагчыма, і калі які-небудзь бамбіза, падняўшы нагу, развальваўся на парце, настаўнік, крыху адкінуўшыся назад, гаварыў з некаторым жахам: «Мілы мой, прыміце менш фатаграфічную позу».*

*Вечарамі ж ён часта самотна і маўкліва піў.*

*Мы ведалі пра гэта, таму што калі лацінская была першым урокам, то настаўнік быў асабліва змрочным і сядзеў за сваім сталом, прыкрыўшы рот рукою, каб пах перагару не даляцеў да першай парты.*

*Прыклады на розныя граматычныя канструкцыі, якія ён дыктаваў, былі заўсёды такога роду: «Ты гаворыш мне, што я жывы, але я жыву так, што не хочацца жыць», «Рэчаіснасць — пакуты, ідэал — мара».*

*Неяк раз ён з нейкай нагоды распавёў, што звычайна не прымае ўдзелу ў агульных размовах у настаўніцкай падчас перапынкаў, а толькі з цікавасцю адзначае памылкі, якія дапускаюцца ў гутарцы.*

*Усё гэта было Максімам заўважана, мы з ім не адзін раз гаварылі пра Белавусава».* Так пісаў у сваіх успамінах Дзіядор Дзябольскі.

Пакуль мой былы сусед па парце А. старанна выводзіў крэйдай на дошцы чарговы граматычны прыклад — праяву выкладчыцкай меланхоліі, мы аднавілі нашу гутарку ў пісьмовым выглядзе.

«Мы выкажам свой пратэст. Трэба яднацца!» — цыдулка з такім зместам была перададзена мне з «камчаткі». Я, не адказваючы, падсунуў яе Максіму. Ён згодна кіўнуў.

«А з кім мы будзем яднацца?» — адпісаў я на «камчатку».

Адказ ад Васі быў такім: «Я, ты, Максім, Ціхамілаў». — «Мала!» — напісаў я, параіўшыся з Максімам. «Тады трэба запрасіць твайго сябра Дзіядора Дзябольскага з паралельнага класа. Ён хаця і ціхі, але ж разумны. І возьмем з сабой А. для прадстаўнічасці». — «А ён пойдзе?» — «Прымусім. У яго няма выбару. Я бяру яго на сябе».

Я здзіўлена азірнуўся на Васю. Вася ўпэўнена ківаў галавою. Выглядала гэта пераканаўча.

«А куды мы пойдзем?» — спытаў я ў Васі самае істотнае. Адказ прыйшоў: «Да дырэктара».

Так была сфармавана наша дэпутацыя, увайсці ў якую не адмовіўся ніхто. Нават А., якому гэта вельмі хацелася зрабіць, але ён не ведаў як.

Зранку я думаў, што асноўныя падзеі пятніцы прыпадуць на вечар, але памыліўся. Дзень гэты застаўся ў памяці нават у занятага шматлікімі справамі Адама Багдановіча.

*«Усе вучні былі абураныя грубымі альбо бязглуздымі выхадкамі настаўніка Спаскага (накшталт выкрыкаў «Вы хочаце мяне забіць!»), то было вырашана ў выглядзе пратэсту супраць апошняй выхадкі забаставаць цэлым класам.*

*Максім раіў першапачаткова перагаварыць з дырэктарам і заявіць яму скаргу на грубасць і недарэчныя выхадкі выкладчыка. Была выбрана дэпутацыя з шасці чалавек на чале з Максімам.*

*Толькі дэпутацыя з'явілася перад грознымі вачыма дырэктара, толькі Максім адкрыў рот, каб заявіць скаргу на грубае абыходжанне выкладчыка, як дырэктар, тупнуўшы нагамі, накінуўся на яго з крыкамі:*

*— Гэта ўсё вашыя інтрыгі! Вы хочаце дзейнічаць гуртам! Я гэтага не дазволю! Я адвучу вас дзейнічаць гуртам!*

*— Дазвольце, але мы прыйшлі вам заявіць...*

*— Ні слова! Ад такой банды ніякіх заяваў не прыму! Ідзіце! Я дакладу савету!*

*Пасля гэтага я быў выкліканы для тлумачэнняў. Перагаварыўшы дома з Максімам, я пераканаўся, што ён ні ў чым не вінаваты і дзейнічаў вельмі карэктна.*

*Вечарам быў скліканы савет з нагоды гэтай гісторыі. Я паведаміў пра гэта свайму калегу П. Д. Урусаву, а той адразу накіраваўся да настаўніка Мізінава*

*і паведаміў яму ўсе абставіны гэтай справы. На савеце гэты заслужаны і паважаны ўсімі выкладчык здолеў паставіць гэтую справу так, што гісторыя не мела ніякіх наступстваў ні для Максіма, ні для яго таварышаў».*

Нашая дэпутацыя была сфармавана недарэмна, яна сапраўды з'яднала нас, і ўсе астанія падзеі адбываліся менавіта ў гэтым коле.

## *Глава 7. Хто мы такія?*

Так, па перакананнях беларусаў, вясной, разам з ажываннем прыроды, з абуджэннем яе ад зімовага сну, ажываюць і душы памерлых і выходзяць са сваіх цесных дамавін на вольны свет.

Адам Багдановіч. Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў

Яраслаўль быў маім родным горадам, тут нарадзіліся мае бацькі, тут нарадзіліся і памерлі мае бабуля з дзядулем. Кім я мог быць? Толькі яраслаўцам. Імперскімі маштабамі я не мысліў, дзякаваць Богу, мне было не да таго.

*«Яраслаўль быў горадам незвычайнай прыгажосці і мастацкай вартасці. Спакойная шырокая гладзь Волгі з прыгожай вельмі высокай і прамой набярэжнай, цудоўная архітэктура цэркваў XVI–XVII стагоддзяў (а іх было вельмі шмат) — усё гэта надавала гораду асаблівае, непаўторнае аблічча.*

*Яраслаўль у старой сваёй частцы, ад Стрэлкі да бульвара, мог быць тады названы сапраўдным творам мастацтва. Гэта быў вельмі ціхі і спакойны горад з прасторнымі плошчамі і доўгімі пустымі вуліцамі.*

*Набярэжная заканчвалася Стрэлкай — месцам сутоку рэчкі Котараслі з Волгай, і замыкалася будынкам Дзямідаўскага юрыдычнага ліцэя.*

*Гэта быў доўгі двухпавярховы белы будынак з калонамі. Архітэктурныя абрысы яго былі бездакорныя. Ліцэй увесь патанаў у зеляніне».* Такім бачыў свой родны горад Дзіядор Дзябольскі і ўсе мы.

У пятніцу ўвечары я выправіўся на вячэру ў дом з вокнамі на набярэжную. Бацькі казалі мне, што там будзе кампанія моладзі прыкладна аднаго са мною ўзросту. Я быў падрыхтаваны да новых знаёмстваў.

Вокны ў доме ярка свяціліся. Я крыху памарудзіў перад парадным пад'ездам — заўсёды мне трэба пачакаць перад тым, як нешта зрабіць. Не люблю рэзкіх рухаў. Я пастаяў, паслухаў, як на Волзе гудзяць параходы — ужо пачалася навігацыя. Вецер хістаў чорнае голле ліп, на якіх вельмі хутка з'явіцца зялёнае лісце. Пакуль я так стаяў, мне зусім расхацелася ісці ў ярка асветленую гасцёўню. Я падумаў, што добра было б цяпер пагуляць па набярэжнай з сябрам, пагаварыць пра тайныя саюзы, паэзію, абмеркаваць апошнія падзеі ў гімназіі, нашу дэпутацыю...

Вось так заўсёды: да нечага імкнешся, чакаеш, а калі яно (тое, што чакаў) робіцца блізкім і дасягальным, то хочацца нечага іншага. Але ж стаяць доўга пад чужым пад'ездам маладому чалавеку таксама нельга. Папершае, непрыстойна; па-другое, могуць прыняць за тэрарыста і затрымаць для высвятлення асобы. І якія тады ўжо госці?!

Я ўздыхнуў, зрабіў чатыры крокі наперад і ўзяўся за шнурок — у той жа момант за дзвярыма адгукнуўся меладычны званочак. І мне нават падалося, што я чую гук паспешлівых крокаў.

Дзверы адчыніліся, і я, зняўшы гімназічную фуражку, хацеў зрабіць той апошні крок, які аддзяляў мяне ад гасціннага дома.

Я быў упэўнены, што ва ўсіх багатых дамах гасцей сустракае прыдзвернік, але ж на парозе стаяла дзяўчына.

Цяпер бы я змог спакойна сказаць: гэта была прывабная высокая дзяўчына з вялікім шэрымі вачыма.

Але тады я знямеў і не ведаў, што рабіць, бо ўбачыў перад сабой «ідэал». «Рэчаіснасць — пакуты, ідэал — мара»? Але ж вось мой ідэал — перада мною!

Калі ж я неяк з ёй спаткаўся,
Загаварыўшы, як у сне, —
Яна зірнула на мяне,
І раптам з вуст яе сарваўся
Такі бязвінны, чысты смех,
Што на яго злавацца грэх.
Смех гэткі маюць толькі дзеці
Ды людзі з яснаю душой.

Я так і застаўся на месцы з гімназічнай фуражкай у руцэ.

Дзяўчына глядзела на мяне вялікімі цёмнымі вачыма.

— Даруйце, ці тут жыве... — я назваў прозвішча сябра свайго бацькі.

— Так! — дзяўчына засмяялася. Смех гэты быў для мяне прыемнейшы за любую музыку. — А вы ўжо думалі, што памыліліся, і збіраецеся павярнуць назад? Я яго дачка!

— Не! — адказаў я, заклікаўшы на дапамогу ўсю сваю смеласць, і зрабіў рашучы крок наперад.

Мне паказалі месца, дзе я магу распрануцца і пакінуць свой форменны шынель. А пасля мы разам з дачкой гаспадара, якую, як высветлілася, звалі Варварай, падняліся на другі паверх у гасцёўню з бліскучым паркетам, малінавымі фатэлямі, канапай і раялем. Па дарозе мы абмяняліся некалькімі фразамі, з якіх вынікала, што Варвара вучыцца ў жаночай гімназіі, а таксама ведае некаторых маіх аднакласнікаў.

Я ўсё пераблытаў — гэта была не вячэра, а музычная вечарына! Музыку я не любіў, але падчас канцэрту

менш шансаў скампраметаваць сябе — не трэба думаць пра сталовыя лыжкі, нажы, відэльцы і блытаць рукі, у якіх іх трэба трымаць. А, барані божа, упадзе што-небудзь пад стол — што рабіць? На канцэрце прасцей. Галоўнае — рабіць задуменны твар з засяроджаным позіркам, каб выглядаць паглыбленым у свет чароўнай музыкі. Думкі можна адпусціць на волю — да дэпутацыі, да разенкрэйцараў, да цікавых кніжак. Музыка мяне не кранала.

Так я і рабіў, пакуль змяняліся выканаўцы і творы. Я зразумеў, што ўсе музыкі — блізкія сваякі гаспадара, якія атрымалі музычную адукацыю ў хатніх умовах. Я не мог разглядаць публіку, бо паводзіў сябе вельмі стрымана, не круціўся ваўчком, як на ўроках у гімназіі, паспеў толькі заўважыць бацьку нашага Ціхамірава і нават прывітацца з ім. Наўрад ці ён мяне пазнаў, але ж важна кіўнуў.

Сустрэча здзівіла мяне, я абдумваў яе, пакуль гучала музыка: «Вельмі дзіўна, што чалавек, які не дазваляе сыну хадзіць у тэатр, наведвае музычныя вечарыны. Аб чым гэта сведчыць?»

Вядома, я думаў і пра Варвару. У маёй галаве ўсё перамяшалася.

Гучала музыка, са сталовай даносіліся смачныя пахі — значыць, вячэра ўсё ж прадугледжана.

Са свайго месца я меў магчымасць назіраць за бацькам Ціхамірава. Ён выглядаў сур’ёзным, важным і паглыбленым у свет гукаў. А можа, ён таксама ведаў тыя ж самыя правілы паводзінаў на канцэртах, якіх прытрымліваўся я? Сядзеў, як быццам бы слухаў музыку, а сам быў далёка-далёка — рыхтаваў прамову пра згубу, на якую асуджаны ўсе мастакі-паэты-акцёры-музыкі...

Канцэрт быў толькі пачаткам вечарыны, пасля яго ўсім прапанавалі прайсці ў сталовую. За сталом я

апынуўся побач з Варварай, насупраць бацькі Ціхамірава. Я не мог звязаць трох слоў, а праз стол на ўсю моц ішла гутарка.

— Мы яшчэ выйдзем з Чорнага мора ў Міжземнае, — дэкляраваў бацька майго сябра. — Мы заваюем пралівы і вернем Канстанцінопаль.

— Пралівы будуць нашыя. Над Сафіяй зноў узнясецца праваслаўны крыж, — падтрымаў яго барадаты сусед.

— Нашыя ворагі зазнаюць ганьбу! — працягваў старэйшы Ціхаміраў.

— Малыя нацыі не маюць будучыні, яны — этнаграфічны матэрыял для нацыі велікаросаў, — ён знаходзіў разуменне ў свайго суразмоўцы.

— Палякі, маларосы, беларусы могуць стаць рускімі, калі вельмі пастараюцца. Сапраўды, гэта толькі матэрыял.

Яны разлівалі, пілі гарэлку поўнымі чаркамі і не забываліся закусваць.

— Цяпер развялося столькі разумнікаў, што пераканаць іх можна толькі адным сродкам — ударам у лоб, — сцвярджаў адзін, кажучы аб нечым, што было зразумелым для двух прыхільнікаў «Саюза Міхаіла Архангела», а ўсе астатнія маглі толькі здагадвацца.

— Толькі ўдарам у лоб, — згаджаўся ягоны сябра па арганізацыі. — Інакш ім не растлумачыш — яны не разумеюць.

Мне прапанавалі наліць чырвонага віна, але я адмовіўся. Я ўвесь час думаў, пра што ж пагаварыць са сваёй суседкай — не пра Басфор жа з Дарданеламі і не пра Турцыю! А пра будучыню палякаў, маларосаў і беларусаў у мяне не было ніякіх уласных меркаванняў і перакананняў.

— Аднакласнік майго сына, — кіўнуў у мой бок Ціхаміраў.

— Ага! — барадаты паглядзеў на мяне як на нешта малазразумелае. — А ці праўда, што твой сын сабраўся ў акцёры? Кажуць, не прапускае ніводнай прэм’еры, а на некаторыя спектаклі ходзіць па два-тры разы!

— Плявузгаюць! — злосна адазваўся бацька будучага акцёра. — Мой сын цвёрда вырашыў адразу пасля гімназіі паступаць у Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй.

— А калі не?

— А калі не, — ён ужо пачырванеў ад злосці, як спелы тамат, — то ў Маскву — у Аляксандраўскую вайсковую вучэльню. Будзе артылерыстам!

«Дык вось які лёс чакае аднаго з лепшых маіх сяброў!» — пранеслася ў мяне ў галаве. На нейкі момант я нават забыўся на сваю чароўную суседку, з якой так і не знайшоў тэмы для размовы.

— Вы любіце музыку? — спытала яна ў мяне.

— Не надта, — шчыра адказаў я.

— Чаму? — здзівілася яна. — Вы былі так уражаны канцэртам.

«Я быў уражаны Вамі і атмасферай гасціннага дому», — так захацеў сказаць я, але прамовіў:

— Я люблю паэзію.

— Так?! А хто з паэтаў вам найбольш падабаецца?

— Поль Верлен.

Я прачытаў яго вершы пасля таго, як Максім лёгка цытаваў Караля паэтаў у музеі.

— Вы ведаеце вершы Верлена на памяць?

— Так! — узрадаваўся я, бо паспеў ужо вывучыць. — Толькі не ў арыгінале, а ў перакладзе. У яго, дарэчы, ёсць цудоўныя вершы пра музыку. Паслухайце:

Раяль цалуе тонкая рука
У час вячэрні шэра-ружаваты;
І на крылах, цішэй ад вецярка,

Ў паветры мяккім, пекным паплыла ты
Пужліва, песня — і срэдзь комнат хаты
Шчэ доўга веяў пах, як ад цвятка.

— Верлен — самы музычны паэт, — дадаў я.

— І я адчула цудоўную музыку верша, — вочы Варвары былі шырока раскрытыя і глядзелі на мяне з асаблівай увагай.

Вось тады я і вынайшаў новы для сябе закон: веданне паэзіі дапамагае ў жыцці. На душы ў мяне пасвятлела, і праблемы малых нацыяў і гаротны лёс майго сябра адступілі на другі план. Я адчуў сябе здатным да «свецкіх размоў».

Прыйшоў час развітвацца, але жыла ў маёй душы надзея — не апошні раз я ў гэтым доме. Яшчэ давядзецца мне дакрануцца да шнурка, пачуць гук меладычнага званочка і яшчэ больш мілы смех маладой гаспадыні.

Я накіраваўся дадому. Я не спадзяваўся, што гэты насычаны падзеямі дзень рыхтуе мне яшчэ адну нечаканую сустрэчу.

У канцы бульвара мяне паклікалі, я спыніўся, азірнуўся і ўбачыў Максіма. Ён стаяў як цень якраз на мяжы асветленага бульвара і цёмнай вуліцы. Я звярнуў увагу, што ён не ў шынялі — зверху на гімназічную форму быў накінуты чорны плашч.

— Не хацелася сядзець у хаце, — патлумачыў ён.

— А я быў у гасцях...

— Як вячэра?

— Там была не толькі вячэра. Быў яшчы невялікі канцэрт.

— І якія творы там выконваліся?

— Не ведаю. Штосьці такое дастаткова сумнае.

Я думаў, што Максім зноў, як у выпадку са старажытнарымскай паэзіяй, папракне мяне, але гэтага не адбылося.

*«Максім быў дастаткова абыякавы да музыкі, але адна рэч, якую я выконваў, надзвычай падабалася яму, і ён не аднойчы прасіў выканаць яе. Гэта была «Песня без словаў» № 43 Мендэльсона. Гэта вельмі сумная песня»,* — узгадваў Дзіядор Дзябольскі.

— А вячэра? — распытваў Максім.

Мы ішлі па цёмнай вуліцы ў бок майго дома.

— Вячэра ўдалася.

Я не хацеў пакуль што гаварыць пра Варвару. Не таму, што не давяраў Максіму, проста мне трэба было абдумаць усё сам-насам.

— Вячэра ўдалася, — паўтарыў я. — І ведаеш, каго я там бачыў?

— Незнаёмку?! — засмяяўся ён.

Максім быў блізкі да праўды, але ж не пра тое збіраўся я распавесці.

— Бацьку Ціхамірава!

— Ён наведвае музычныя вечарыны?!

— Вячэра цікавіла яго значна больш! Смачныя стравы і размовы, пад якія ежа адпраўляецца ў страўнік.

— Пра што гаварылі?

— Пра баганосны рускі народ, пра яго прызначэнне і гістарычную місію, — я ўзяўся старанна пераказваць усё пачутае за сталом. — Пра тое, што мы заваюем пралівы, Канстанцінопаль будзе наш, над Сафіяй узнясецца праваслаўны крыж, а палякі, маларосы і беларусы не маюць гістарычнай будучыні. Яны толькі этнаграфічны матэрыял…

— І як табе ўсё гэта спадабалася?

— Ніяк не спадабалася. Мне ўсё роўна.

— Усё роўна ці не спадабалася? — Максім быў абураны.

— А ты хіба супраць, каб Расія выйшла ў Міжземнае мора? — у сваю чаргу здзівіўся я.

— Я не пра тое... Ты таксама лічыш, што палякі, украінцы і беларусы не маюць будычыні як нацыі?

— Не магу гэтага ведаць. Бацька Ціхамірава казаў, што яны здолеюць стаць рускімі, калі вельмі пастараюцца.

— І ты думаеш, што ім варта да гэтага імкнуцца?

— Да чаго?

— Каб стаць рускімі! Ты ж сам толькі што гэта сказаў, — Максім пачынаў выходзіць з сябе.

— Не сказаў, а толькі паўтарыў тое, што чуў, — пакрыўдзіўся я.

Мы ішлі па зусім бязлюдным горадзе. Гэта ўражвае, калі я нават цяпер узгадваю нашы шпацыры і размовы, — мы амаль ніколі нікога не сустракалі. Нашыя крокі гучалі на пустых вуліцах.

— Не крыўдуй, мне проста вельмі часта даводзілася чуць такія меркаванні... Існуюць людзі з пэўнымі поглядамі... Бацька Ціхамірава чарнасоценец?

— Уваходзіць у «Саюз Міхаіла Архангела».

— Тады ўсё зразумела. І мне было непрыемна чуць такія словы з тваіх вуснаў. Нават калі ты іх проста паўтараў, — ён паспакайнеў. — Ёсць такая казка, дзе ў адной непрыемнай асобы замест словаў вылятталі з рота жабы. Дык вось, усе гэтыя развгажанні пра адсутнасць гістарычнай перспектывы для адных і вялікую баганосную місію для другіх для мяне і ёсць тыя самыя жабы. І за адным сталом з чарнасоценцамі я б не выседзеў. Уяўляеш: толькі ты ўзяўся за відэлец, а табе на талерку скача вялізная рапуха з пукатымі вачыма.

— А мне жабы зусім не брыдкія!

— А што табе брыдкае?

— Прусакі!

— Тады ўяві, што табе на талерку валяцца прусакі — маладыя і старыя, зусім маленькія і вялізныя.

Мяне перасмыкнула. Я яшчэ помніў словы пра разумнікаў, якіх трэба выхоўваць ударамі ў лоб, але пераказваць не стаў.

— А чаму цябе так хвалююць гэты праблемы? — звярнуўся я да Максіма. — Хіба мы не належым да той нацыі, для якой гістарычная перспектыва не праблема?

— А я не рускі, я — беларус! — з асаблівай інтанацыяй сказаў Максім.

— Не падобны, — з сумненнем адказаў я.

Ён засмяяўся.

— А як павінен выглядаць беларус? Нізкарослым, азызлым, з зямлістым тварам? Ці як у Някрасава — з каўтуном у валасах?

— Не, не, не, — напалохаўся я. — Ты проста нічым не адрозніваешся ад нас. Вось і ўсё.

— Нічым не адрозніваюся? Гэта яшчэ невядома, — адчувалася, што я зноў знайшоў няправільныя словы. — Да таго ж у мяне тыпова беларускае прозвішча.

— А ў заснавальніка «Саюза Міхаіла Архангела» прозвішча Пурышкевіч. Яно таксама беларускае?

Пра Пурышкевіча я чуў на вячэры.

— Табе ж бацька Ціхамірава растлумачыў, што калі беларусы вельмі пастараюцца, то становяцца рускімі.

— Ён тлумачыў гэта не мне, ён проста гаварыў са сваім суседам.

— А ты проста чуў! І ў тым, што метамарфозы ў гэтым кірунку магчымыя, я не сумняваюся. Гэта трагедыя...

— Можа, ты католік? — пацікавіўся я, згадаўшы словы Дзіядора на лесвіцы падчас спаткання бацькі з сынам.

— Не, праваслаўны. Мяне хрысцілі ў мінскім Петрапаўлаўскім саборы. Праўда, хросныя мае былі нарада-

вольцамі. А ў бацькі майго сапраўднае імя не Адам, а Адольф.

Я быў здзіўлены звыш меры!

Адам Багдановіч пісаў у сваіх мемуарах: «*Мне падаравалі аловак. Трэба было пусціць яго ў справу. А што пісаць — я не ведаў. Вось бабуля і кажа: «Напішы сваё імя — Адольф Багдановіч». Тут я ўпершыню даведаўся, што я таксама Багдановіч. Я лічыў, што гэта прывілея майго бацькі, так пышна называцца. Я ўсцешыўся, што — таксама Багдановіч*».

А бабуля, задаволеная поспехамі ўнука, працягвала:

— Вот мой унучак! Цяпер ён і пісьмо дзядзьку напіша, а тады і прашэння... Я не ў глум гаварыла, што ён будзе разумны. Як яго ксцілі, дык ён глядзеў на свечкі і гаварыў: гу, гу, гу...

«*Хрэсьбіны мне зрабілі пышныя. Дзве пары кумоў, і ўсе знакамітыя. У першай пары стаяў сам малады пан Лапа (Дамінік Аляксандравіч) з ксяндзовай сястрой Ганнай Свенскай. Другая пара была больш простая: нейкі каморнік і папова дачка. Назвалі мяне Адольфам, ласкава звалі Адолік, а коратка — Адаль. Гэтае імя я насіў да шаснаццаці гадоў. А пасля, пры выдачы метрыкі з кансісторыі апошняя перайменавала мяне ў Адама, назвалі як быццам бы больш праваслаўным імем*».

Так я даведаўся, што хрысцілі Адольфа паводле ўніяцкага абраду. Нягледзячы на скасаванне уніі Полацкім Саборам у 1839 годзе, у Халопенічах (Барысаўскі павет) жыццё ішло па сваіх законах.

І яшчэ Максім распавёў мне пра незвычайны свет міфалагічных істот, якія існуюць у свядомасці беларусаў — пра начніцаў і Змяінага цара.

Начніцы — маленькія злыя духі ночы. Калі дзеці не спяць па начах — іх мучаюць начніцы. Прагнаць

начніцы можа толькі носьбіт святла — агонь. Ноччу, калі дзіця асабліва раскрычыцца, паляць у печы і перад полымем «палаюць» хворае дзіця. Яго кладуць у прыпол і калышуць перад полымем. Шэпчуць замову:

Цёмная ночка
Начніц нарадзіла,—
Малому дзіцяці
Мукі нарабіла.
Яснае сонейка
Дзень пачынае,
Начніц праганяе,
Дзяннiц насылае,
Боль сунімае.
Шух у печ! Шух у печ!

А над усімі змеямі і гадамі ёсць Цар. Кожную восень ён вядзе сваіх змеяў на зімовы вырай. Змяіны цар ідзе наперадзе. Ён самы вялікі, яго луска адлівае срэбрам і золатам, на галаве — карона з маленькіх залатых ражкоў. Калі сустрэнеш такі вырай, трэба раскінуць перад Змяіным царом белы абрус. Змяіны цар, прапаўзаючы праз абрус, скіне ў знак удзячнасці залаты ражок з кароны. Той, хто мае ражок з кароны Змяінага цара, той надзелены незвычайнай мудрасцю: можа чытаць чужыя думкі, разумець мову птушак і жывёл, на такога чалавека не дзейнічае атрута.

Вось, што пачуў я перад сном. І, прызнаюся, доўга не мог заснуць, бо думкі скакалі, як тыя жабы, ці не жабы, а прусакі, не прусакі, а Пурышкевічы, не Пурышкевічы, а начніцы... Карацей, усё перамяшалася ў маёй беднай галаве. І толькі на самай тонкай мяжы паміж явай і сном наведаў мяне светлы вобраз Варвары. Я заснуў.

## *Глава 8. Чыстая краса*

Эстэтычная эмоцыя, якую выклікае ў нас краса, і ёсць не што іншае, як від магутнага духоўнага ўздыму, аналагічны з любоўным экстазам, ёсць перадусім павышэнне ў нас так званага жыццёвага тонусу.

Антон Навіна. Праблемы красы і мастацтва ў творах Максіма Багдановіча

*«На самой Волзе многімі соткамі параходы і баркі стаяць — з мачтаў аганькі глядзяць, параходы ўнутры асветлены, усе вокны зіяюць, аж здаецца, быццам параход да краёў святлом наліт. А вада-то ў Волзе густа-цёмная, і ад усяго гэтага святла па ёй залатыя кругі разбягаюцца, драбяцца, блутаюцца; днішчы параходаў нібы агнявымі водараслямі абрастаюць... Эх, ды што гаварыць: бачыць гэтае трэба, бачыць...»* Так пісаў пра Волгу сам Максім.

Калі ты нарадзіўся ў Яраслаўлі, як, зрэшты, і ў любым іншым месцы, гэта яшчэ не значыць, што ты пражывеш тут увесь свой век. Але і такую магчымасць нельга адмаўляць цалкам, трэба быць гатовым і да гэтага варыянта. А таму з маладых гадоў зарэкамендаваць сябе ў родным горадзе з лепшага боку.

А калі ты прыехаў у Яраслаўль з іншага краю, то таксама варта зважаць на грамадскую думку. Наша дэпутацыя да дырэктара мела, зрэшты як і ўсё ў нашым свеце, свае наступствы. Гэта адзначыў і Адам Багдановіч:

*«Спаскі праз некаторы час пакінуў гімназію. У далейшым не было ніякіх асаблівых гімназічных гісторый, якія б тычыліся Максіма. Малодшы сын Лёва ўразіў усіх у мясцовым матэматычным таварыстве*

*сваімі незвычайным матэматычным талентам, а хутка і Максім стаў вядомым сваім паэтычным дарам, ад гэтага адносіны да маіх дзяцей у гімназіі карэнным чынам змяніліся. З боку таго ж Вярыгіна, які так змагаўся супраць пераводу іх у сваю гімназію, у далейшым я сустракаў толькі прыхільнае стаўленне да ўсяго, што іх тычылася.*

*Максім па-ранейшаму вельмі мала цікавіўся ўрокамі і займаўся самастойна, і, канечне, галоўным чынам беларусікай, якая не мела ніякіх адносінаў да яго класных заняткаў і таму хутчэй перашкаджала ягоным поспехам, чым садзейнічала».*

Часу прайшло не шмат, а я пачаў адчуваць змены, якія адбываліся са мною. Па-першае, я пачаў чытаць вершы. Раней я чытаў толькі прыгодніцкія аповесці і падручнікі. Па-другое, у мяне абудзіўся крытычны розум — я перастаў успрымаць на веру ўсё пачутае і прачытанае. Па-трэцяе, думкі мае былі занятыя Варварай. Па-чацвёртае, я прынёс з гімназіі некалькі кепскіх адзнак. Гэтая апошняя акалічнасць была заўважана маёй маці і прынесла ёй горкія хвіліны.

Я чытаў вершы і ўсё ніяк не мог знайсці адказу на пытанне: у чым чарадзейная сіла мастацтва? Што прымушае мацней біцца людскія сэрцы? Чаму я адчуваю незвычайны ўздым ад вершаў Верлена, а паэзія са старонак яраслаўскай газеты «Голас» мяне не хвалюе наогул? Тут адчувалася вялікая таямніца.

Ўжо няма злых часін, —
Гэты плач — без прычын.
Няма горш бяды,
Як рыдаць ні з чаго, —
Без надзей і нуды;
У мяне шмат бяды.

Чаму гэтыя словы самі западалі ў душу? Чаму іх хацелася паўтараць пра сябе на нудных уроках ці ў якасці замовы, ідучы да дошкі? Чаму не захаплялі мяне вершы пра наш родны горад, а таксама пра моц і веліч усёй нашай дзяржавы — Расійскай імперыі? Я прыкладна вызначыў для сябе людзей, якія павінны дапамагчы мне ў рашэнні гэтай загадкі. А раптам яна застанецца невырашальнай?!

Прыйшоў час чарговага пасяджэння гуртка. Хто мусіў рыхтаваць даклад? На гэты раз ніхто. З музея мы выйшлі, як кажуць украінцы, прыгаломшаныя. А настаўнік не даручаў нікому нічога, так, прынамсі, здавалася мне: «Пагаворым пра Поля Верлена». А вот мой былы сусед па парце А. сцвярджаў зусім іншае, што настаўнік казаў: «Прынясіце, калі ласка, на наступныя заняткі кнігу, якая адыграла значную ролю ў вашым жыцці».

Я засумняваўся ў гэтым, бо не памятаў такога. Але Максім пацвердзіў версію А. Вася сцвярджаў, што настаўнік планаваў гаварыць з намі пра Поля Верлена. Ціхамiраў быў упэўнены, што нам нічога не даручалі рыхтаваць. У гэтым сэнсе не было адзінства ў нашых шэрагах.

Так атрымалася, што Вася нечакана для ўсіх падрыхтаваў даклад пра Верлена, Багдановіч і А. прынеслі свае любімыя кнігі.

Настаўнік меў надзвычай сур'ёзны выгляд. Я нават падумаў, што нешта здарылася і пасяджэння не адбудзецца. Ён моўчкі прайшоў паміж партамі — так падчас экзаменаў ходзяць наглядчыкі, якія адсочваюць «дапаможнікі асабістага карыстання».

Ля кафедры ён павярнуўся да гімназістаў і сказаў:

— Мінулы раз я гаварыў з вамі проста як са сваімі маладымі сябрамі, сёння хачу пагаварыць як выкладчык з гімназістамі.

«Размова пойдзе пра нашу дэпутацыю, — так адразу зразумеў я. — Пра тое, што мы мітынгуем, замест таго каб вучыцца». Хадзілі такія размовы па гімназіі, гаварылі і пра Максіма. Гэта нават адзначаў Адам Багдановіч у сваіх успамінах: *«Ён увесь час бегае з класа ў клас, мітусіцца, агітуе, — казаў мне дырэктар, — ён тут бунт арганізоўвае, але я гэтага не дазволю! Гэта яму не Ніжагародская гімназія!»*

— Як выкладчык у гімназістаў, — працягваў Мізінаў, — я хачу спытаць у вас: як вызначыць узровень літаратурнага твора, яго права на вечнасць?

Гурткоўцы па гімназічнай звычцы пачалі пераглядацца і падштурхоўваць адзін аднаго.

— Мы не на ўроку, — нагадаў выкладчык. — Я не буду ставіць адзнакі. Якую кніжку вы прачыталі на гэтым тыдні?

— «Гатэль трынаццаці шыбенікаў!» — выступіў Вася.

— Я вас віншую, — усміхнуўся настаўнік. — Кніга добрая?

— Сенсацыйны раман! Захапляе.

— І як бы вы вызначылі яго каштоўнасць?

Вася зразумеў, што трэба ўстаць, бо гаворыць ён усё ж такі з выкладчыкам.

Паглядаючы па сваёй звычцы ў акно і расцягваючы па складах словы, Вася выдаў формулу вызначэння літаратурнага твора.

— Я б вызначыў каштоўнасць рамана «Гатэль трынаццаці шыбенікаў» па ступені захапляльнасці.

— А як вы разумееце «ступень захапляльнасці»?

— Гэта калі ад кніжкі адарвацца нельга, — Вася пачаў смялець і ўваходзіць у ролю. — Напрыклад, чытаеш раман на ўроку і не заўважаеш, што падыходзіць настаўнік і забірае кнігу, каб вярнуць толькі бацькам. Альбо сядзіш дома, чытаеш раман, прыходзіць маці

і кліча есці, а табе нават есці не хочацца — трэба ведаць, чым усё скончылася. Ці яшчэ так: прыходзяць сябры і прапануюць пайсці разам куды-небудзь, а я не іду, бо кніга надта добрая. А калі раман нецікавы, то я закіну яго падалей і буду лепш есці, гуляць, рыхтавацца да ўрокаў, чым марна траціць час.

Клас весяліўся. Вася ззяў, задаволены сабой.

— Мы адзначылі момант захапляльнасці, — працягваў настаўнік. — Хто можа дадаць што-небудзь да гэтага?

Мой былы сусед па парце А. пацягнуў руку ўгору.

— Калі ласка...

— Да кожнага літаратурнага твора, — загаварыў, як па падручніку, А., — варта падыходзіць з пункту гледжання асноўных прынцыпаў расійскай дзяржаўнасці — формулы, распрацаванай графам Сяргеем Сямёнавічам Уваравым: «праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць».

— Дзякуй, метад своеасаблівы. А як практычна вы будзеце яго выкарыстоўваць?

А. паглядзеў на выкладчыка збянтэжана.

— Калі вам трапіць у рукі новая кніга, то вы будзеце яе ацэньваць па формуле «праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць». Я вас правільна зразумеў?

Мізінаў падышоў да А., зазірнуў яму ў вочы і, як бы падказваючы, сказаў:

— Можа, вы звернецеся да дапамогі матэматычнага аналізу: створыце вось каардынат, на якой будзеце адзначаць узровень праваслаўя, самадзяржаўя і народнасці?

А. узрадавана заківаў.

— Так, так.

— Падыдзіце, калі ласка, да дошкі, — прапанаваў настаўнік. — Намалюйце графік. Няхай па вертыкалі

ў нас будзе «самадзяржаўе». А па гарызанталі будуць «праваслаўе» з «народнасцю», з вашага дазволу, мы паспрабуем аб'яднаць іх.

А. узяў крэйду і паслухмяна збудаваў вось каардынат, дзе па вертыкалі было «самадзяржаўе», а па гарызанталі аб'яднаныя «праваслаўе» і «народнасць».

Графік быў падрыхтаваны. А. стаяў з крэйдаю напагатове.

— Хто можа прапанаваць твор для разгляду? — звярнуўся кіраўнік гуртка да гімназістаў.

— Пэдра Кальдэрон дэ ла Барка, п'еса «Жыццё ёсць сон»! — выкрыкнуў Ціхаміраў.

А. запытальным позіркам глянуў на выкладчыка.

— Я не ведаю гэтай п'есы, у мяне няма часу хадзіць па тэатрах, як Ціхаміраў.

— А гэтая п'еса яшчэ не пастаўлена на нашай сцэне. Яна ёсць толькі ў зборніках — у кнігах, — патлумачыў Ціхаміраў. — Я яе толькі чытаў, але не меў магчымасці бачыць у сцэнічным выкананні. А вось у Іспаніі, у Мадрыдзе, яна дагэтуль ідзе на сцэне, і яе філасофскі сэнс ад сцэнічных эфектаў выступае яшчэ выразней. А цяпер можа так здарыцца, што мы ўбачым гэтую п'есу ў нашым тэатры.

— Выдатна! Вы, як чалавек дасведчаны, можаце дапамагчы свайму таварышу вызначыць п'есу «Жыццё ёсць сон» па формуле графа Уварава. Назавіце час стварэння п'есы, месца дзеяння і асобаў, якія прымаюць удзел у падзеях.

— Дзеянне адбываецца пры каралеўскім двары ў Палоніі, гэта значыць у Польшчы, — пачаў распавядаць Ціхаміраў. — Удзельнічаюць: кароль польскі, яго сын Сегізмунда, Астольфа — герцаг Масковіі, світа, слугі, дамы. П'еса напісана ў 1636 годзе.

Пры словах «герцаг Масковіі» мой былы сусед па парце павярнуўся да дошкі і паставіў кропку на «двойцы» па гарызанталі, дзе былі «праваслаўе» і «народнасць». Пасля ён павярнуўся да Ціхамірава і дастаткова памяркоўна запытаўся:

— А яны змагаліся?

— Хто?

— Кароль польскі і герцаг Масковіі?

— Змагаўся герцаг Масковіі з сынам караля польскага Сегізмунда, але ж не гэта галоўнае... Там зусім іншы сэнс...

— І хто перамог? — А. трымаў крэйду на вертыкалі, дзе было «самадзяржаўе».

— Перамог польскі прынц.

Рука з крэйдаю так і засталася на пачатку восі каардынат— на нулі.

— Патлумачце графік.

— У п'есе дзейнічае герцаг Масковіі, я перакананы, што ён праваслаўны, таму зрабіў адзнаку па гарызанталі, але ж рускае самадзяржаўе ў гэтай іспанскай п'есе церпіць паражэнне, і таму я не палічыў магчымым зрабіць адзнаку па вертыкалі... Хаця, — разважыўшы, сказаў А., пры гэтых словах ён паднёс руку да дошкі, але потым зноў прыбраў яе. — Не, усё ж такі нельга.

Я глядзеў на ўсё як на непаразуменне, мне сапраўды пачало ўяўляцца, што я сплю і бачу сон. Але ж краем вока я заўважыў, што некаторыя сталі пераносіць графік сабе ў сшыткі.

— З вашага дазволу, — перапыніў настаўнік майго былога суседа па парце, — я працягну тлумачэнне. — Па формуле графа Уварава п'еса Кальдэрона, якая ўжо на працягу стагоддзяў паспяхова ставіцца на сцэне, атрымлівае вельмі нізкія адзнакі вартасці, — ён махнуў рукою на графік. — Кожны, хто зірне на гэтую

схему, можа лёгка прыйсці да высновы: Кальдэрон непатрэбны рускаму чытачу, бо ў ягоных п'есах не выяўлены прынцыпы расійскай дзяржаўнасці. Вы згодныя са мною? — павярнуўся ён да аўдыторыі.

— Не! — гучней, чым дазвалялі правілы гімназічнай прыстойнасці, выкрыкнуў Ціхаміраў.

— Не! — падтрымалі яго.

Крык меў сапраўдны сцэнічны эфект, ён разляцеўся па гімназіі, а дзверы адчыніліся, і ў класе з'явіўся наглядчык па мянушцы Казёл.

— Што тут адбываецца?! Што за енкі? Дзе ваш настаўнік?

Казёл не заўважыў Парфірыя Іванавіча, які знаходзіўся ля самай «камчаткі». Ён звярнуўся адтуль да Казла.

— У нас пасяджэнне гуртка!

— Даруйце, калі ласка, спадар Мізінаў! Я вас не заўважыў, — прамармытаў Казёл. — Калі вы тут, то ўсё нармальна.

З гэтымі словамі ён знік за дзвярыма.

Настаўнік узяў у рукі кнігу.

— Часу ў нас засталося няшмат, таму я прапаную вам адарвацца ад графіка. Вы можаце пакуль сесці, — сказаў ён незадаволенаму А.

А. вярнуўся на сваё месца.

— Я дам тэкст, які хто-небудзь з вас, напрыклад Вася, пачытае ўголас, — пры гэтым настаўнік паклаў на парту да Васі кнігу.

Вася, адчуўшы значнасць сваёй місіі, спытаў:

— А можна я пайду за кафедру і буду чытаць адтуль?

— Калі ласка!

Вася атрымаў дазвол, заняў месца выкладчыка за кафедрай і пачаў чытаць гучна, але без выразнасці і акцэнтаў, да якіх пры выступленнях імкнуўся артыстычны Ціхаміраў.

— Зін. Вянгерава. Літаратурныя характарыстыкі. Пецярбург, 1897 год, — Вася даў усім зразумець, з тэкстам якога роду мы зараз азнаёмімся.

Выкладчык апынуўся на месцы слухача — за партаю.

— Поль Верлен! — абвясціў чытальнік.

*«Сваім ладам жыцця Верлен узбуджаў, з аднаго боку, больш абурэння, а з другога боку — больш захаплення, чым хто-небудзь іншы з ягоных сучаснікаў. Кожным сваім крокам, кожнай падрабязнасцю свайго жыцця ён ствараў легенду вакол свайго імя. Як сапраўдны лірык з непасрэднай душой, ён зрабіў са свайго ўнутранага жыцця з усімі яго духоўнымі пад'ёмамі і грахоўнымі падзеннямі цэнтр паэзіі і асвятліў усе закуткі сваёй душы, зведаўшай пакуты спакусаў і раскаяння, але пазбаўленай усялякага пачуцця сораму і таму далёкай ад няшчырасці.*

*Увесь свой век, параўнальна кароткі — Верлену толькі мінула пяцьдзясят гадоў, калі ён памёр, — паэт жыў, як чалавек багемы, бесклапотна пераходзячы ад адной прыхільнасці да другой, ад адных уражанняў да другіх, далёкі ад навакольнага асяроддзя, ад усялякіх палітычных і грамадскіх канфліктаў, напалову жабрак, нягледзячы на сваё гучнае імя, вольны ад усіх сувязяў і клопатаў, як чалавек, які жыве ў нейкім адасобленым свеце і не ўсведамляе таго, чым рэальны свет жыве вакол яго.*

*Сам Верлен назваў сваю паэзію «мелодыяй усіх лір», ён абазваў усю школу сімвалістаў «цымбалістамі» ў размове з вядомым інтэрв'юірам Гюрэ.*

*Ягонае жыццё ўяўляла сабою бесперапынную барацьбу прыродных інстынктаў свабоды са знешнімі абставінамі. З прычыны сваёй бесхарактарнасці Верлен падпарадкоўваўся то сваім інстынктам, то знешнім умовам, якія вызначалі яго ўчынкі ў розныя мо-*

*манты. У выніку атрымалася паламанае, выродлівае жыццё, калі паэт не выракаўся грамадскіх ідэалаў, а толькі паганіў іх стыхійнасцю сваіх памкненняў.*

*Жыццё было цэльным і па-свойму цудоўным, калі Верлен перарываў усе сувязі з грамадствам, ствараў сабе арыгінальнае існаванне свабоднага і бяздомнага валацугі і ахвяраваў свабодзе ўсе выгоды і абавязкі, якія накладае культура.*

*Ужо ў вельмі раннія гады выявілася ў Верлена інстынктыўная прага свабоды. Бацька ягоны быў вайскоўцам, і хлопчык выхоўваўся дома ў патрыятычным духу і ў строгіх разуменнях абавязку. Але калі ён мусіў быў падпарадкавацца дысцыпліне пры паступленні ў ліцэй, некалькі самых першых дзён абудзілі ў яго бунтарскую душу, і ён збег са школы. Гэта першае памкненне было стрымана, хлопчык мусіў вярнуцца ў школу.*

*Ён правёў усё сваё першае юнацтва ў звычайных для свайго ўзросту занятках, прайшоў курс ліцэя, у якім ён жыў да экзамена на бакалаўра, набыў веданне класічнай літаратуры. Выпадкова трапіўшая да яго кніга Бадлера абудзіла ў ім паэта. З характэрнай для яго наіўнасцю ў пытаннях маралі, Верлен не адчуў хваравітага вычварэнства Бадлера. Памылкова ён прачытаў у першы раз назву кнігі як «Майскія кветкі» («Fleurs de Mai») замест «Кветак зла» («Fleurs de Mal») і доўгі час заставаўся пры сваім перакананні, не заўважаючы супярэчнасці паміж такой назвай і зместам кнігі.*

*Такім Верлен заставаўся ўсё жыццё — ён не адрозніваў «Майскіх кветак» ад «Кветак зла». Самым галоўным здавалася яму збіранне гэтых кветак, дзе б і калі б яны толькі ні цвілі.*

*Схільнасць да алкаголю, якая існавала ў Верлена з васямнаццаці гадоў, прымала ўсё большыя памеры,*

*разбурала яго здароўе, ламала жыццёвыя сілы. Схільнасць да блуду не памяншалася, а наадварот — павялічвалася з гадамі, згубна ўплываючы на фізічны стан.*

*Усе хваробы, якія апанавалі арганізм і давялі да заўчаснай смерці, не бянтэжылі яго пры жыцці. Калі хвароба прымала востры характар, ён накіроўваўся ў шпіталь, у палату да знаёмага ардынатара, і праводзіў там цэлыя месяцы. Спакойна працаваў там над сваімі вершамі.*

*Пасля бальніцы ён узнаўляў свой лад жыцця, свае звычкі. Новыя вершы пісаліся на мармуровых століках у дробных кавярнях лацінскага квартала «пры мігценні газавых ражкоў» з бутэлечкі атраманту, пазычанай у буфетчыцы.*

*Свабода ад умоўнасцяў грамадскага жыцця дазваляла яму інтэнсіўней аддавацца сваім адчуванням і жыць выключна сваім унутраным светам.*

*Слава яго была вельмі вялікая, зборнікі вершаў мелі такі поспех, што лёгка яму было быць забяспечаным пад старасць.*

*Калі ён і выбраў сваё валацужнае існаванне, дык прычыны гэтага выключна ўнутраныя — няўменне і нежаданне падпарадкоўваць унутраную свабоду патрабаванням грамадскага жыцця і маралі.*

*Таму вельмі дзіўна чытаць прамовы, сказаныя над магілай Верлена, і бачыць, як аратары папракалі грамадства, якое не здолела забяспечыць існаванне аднаго з лепшых сваіх паэтаў.*

*Лёс Верлена — не папрок грамадству, а хутчэй урок усім працаўнікам свету ідэйнага. Верлен паказаў сваім жыццём на мяжу, якая падзяляе людзей справы, г. зн. людзей свету вонкавага, ад тых, хто жыве радасцямі свету духоўнага. Усе дасягненні прагрэсу і культуры, якія павялічваюць камфорт, патрэбныя*

*толькі для першых — яны дапамагалі ствараць іх і ведаюць ім кошт.*

*Для мастака знешняга прагрэсу няма і не патрэбны яму яго зручнасці. Паэт XIX стагоддзя адчувае патрэбу толькі ў тым, што было патрэбна паэту XV стагоддзя, — у свабодзе, якая ўспрымаецца імі аднолькава. Унутраны свет, які хаваўся за пазбаўленым парадку жыццём Верлена, цалкам адлюстраваўся ў яго паэзіі. Усе зборнікі — гэта гісторыя душы паэта.*

*Здаецца яму, што душа чалавека лунае паміж «дзіўнымі водгукамі старажытных галасоў» і «водбліскамі будучага світання». Ён не жадае для сябе нічога больш шчаслівага, як памерці, павольна гайдаючыся на арэлях паміж гэтымі двума момантамі існавання. Арэлі альбо калыска — сімвал жыцця.*

*Высокі настрой, выкліканы філасофскім заспакаеннем, адчуваецца ў вершы «Трэ нам, бачыш...». У ім гаворыца аб дараванні з вышыні філасофскага разумення, якое з аднолькавым спакоем узіраецца на ўсё, разумее аднолькавы сэнс усяго існага.*

*Трэ нам, бачыш, усё між сабой дараваць, —*
*Так хоць шчасце нарэшце спаткае абох,*
*А і прыдзецца гора ў жыцці нам зазнаць,*
*Дык прынамсі... ці ж не?.. будзем плакаць удвох.*
...............
*Звернемось жа ў дзяцей, у дзяўчатак малых, —*
*Ні любві, ні здзіўлення не маюць яны;*
*Ў лес, збляднеўшы, ідуць ад паглядаў людскіх*
*І не ведаюць нават, што ўжо прашчаны.*

*Своеасаблівасць Верлена і сумесь у ягонай натуры самых супярэчлівых рысаў знайшло выражэнне ў знешнім абліччы: на шматлікіх партрэтах ярка выступае*

*падвоенасць яго натуры. Расплывістыя рысы твару, развіты рот гавораць аб ненасытных плоцкіх інстынктах, пра празмернае развіццё жывёльнага элемента. Усёй сваёй грувасткай постаццю, галавой на кароткай апаплексічнай шыі, пакатымі плячыма, якія, здаецца, гнуць да зямлі цяжкое цела, Верлен нагадвае каго-небудзь з улюбёных Рабле вясёлых рыцараў «зялёнай ведзьмы», як называў Верлен абсент, які рана згубіў яго здароўе.*

*У верхняй частцы твару ўсялякія сляды жывёльнай натуры і інстынктаў знікаюць. Незвычайна высокі, няправільны лоб з рэзкімі выступамі і ўзвышэннямі надае Верлену заўважанае ўсімі падабенства з Сакратам і сведчыць пра філасофскія схільнасці; густыя бровы робяць яго погляд засяроджаным, паглыбленым ва ўнутранае сузіранне, а маленькія, спакойныя і ласкавыя вочы асвятляюць увесь твар нейкай дзіцячай чысцінёй, якая не ведае мяжы паміж дабром і злом.*

*«Вочы Верлена, — гаворыць адзін крытык, які сустракаўся з ім асабіста, — часта міргаюць, потым раптам раскрываюцца, глыбокія і чорныя; яны злоўжываюць сваім правам падымацца ўгору і апускацца долу і з аднолькавай лёгкасцю запальваюцца святлом самага чыстага містыцызму, як і агнём пажадлівасці.*

*Далёкі ад усялякай дагматычнасці, дзёрзкі і вольны ў сваіх жыцці і творчасці, Верлен становіцца ў адзін шэраг з той выключнай катэгорыяй паэтаў, якія з'яўляюцца жывым пратэстам супраць усяго агульнапрынятага, абмежаванага пэўным кодэксам жыццёвай маралі.*

*Яны жывуць па-за законамі грамадства, вельмі часта топчуць іх у імя якога-небудзь асаблівага пачуцця свабоды, жывуць сваім артыстычным інстынктам,*

*напалову дзікуны па сваёй прымітыўнасці і непакорлівасці цывілізацыі, напалову дзеці па сваёй душэўнай чысціні і наіўнасці, выяўленых праз усе іх, хаця б несімпатычныя альбо амаральныя з агульнага пункту гледжання, учынкі.*

*У Францыі старога часу яркім прадстаўніком такога тыпу быў Віён, знакаміты паэт XV стагоддзя, валацуга і гуляка. Ён ледзь не скончыў жыццё на шыбеніцы і выліў у паэтычных песнях дзікасць сваёй натуры, якая не мела ніякіх абмежаванняў.*

*Такім жа, але больш вытанчаным парушальнікам прынцыпаў быў у свой час Лафантэн, які абсалютна бесклапотна жыў усё жыццё за кошт іншых і пераходзіў ад аднаго дабрадзея да другога, не думаючы зусім пра знявагу з прычыны такой сталай залежнасці ад розных вяльможаў. Ён так ігнараваў свае абавязкі ў адносінах да сям'і, што, сустрэўшы свайго сына, не пазнаў яго.*

*Да гэтай сям'і інстынктыўных ворагаў грамадскасці з усімі яе законамі і патрабаваннямі належаў і Верлен. І тым больш даводзіцца здзіўляцца натуры і ладу жыцця Верлена, што ён жыў у часы найбольшага развіцця буржуазнасці ў Францыі.*

*Дух нажывы і імкненне да камфорту, да знешняга дабрабыту, да рэнты, з дапамогай якой забяспечваецца бязбеднае існаванне сабе і дзецям, праніклі даўно ўжо ў культурныя сферы: і Заля — грозны выкрывальнік грамадскіх язваў, і Метэрлінк — вельмі далёкі ад рэчаіснасці ў сваіх драмах — аднолькава добра жывуць багатымі ранцьерамі. Гюісманс доўга сумяшчаў сваю літаратуру са службовымі абавязкамі паліцэйскага камісара. Кожны з пісьменнікаў самых крайніх літаратурных школ перадусім быў заклапочаны рэкламай і накапленнем капіталу.*

*І раптам сярод усяго гэтага з'яўляецца чалавек зусім асаблівага тыпу».*

— З вашага дазволу, — прамовіў настаўнік, — мы скончым на гэтым.

— А што нам рыхтаваць на наступны раз? — падаў голас А. — Вучыць вершы Верлена?

— Я хачу, каб вы проста падумалі, паразважалі над адным пытаннем: дзеля чаго адны людзі пішуць вершы, а другія іх чытаюць? Гэта вялікая таямніца. І кожны мусіць дайсці да яе разумення сам, — такім быў адказ настаўніка. — Падумайце: ці патрэбна нам паэзія?

Яшчэ ніколі ў жыцці мы не атрымлівалі задання «думаць» — мы прывыклі вучыць на памяць і прымаць на веру. Рашэнне матэматычных задач я не бяру пад увагу, бо заўсёды ў канцы падручнікаў былі адказы. А яшчэ была ўпэўненасць: калі не знайду адказу я, то мой старанны сусед па парце знойдзе яго абавязкова.

Мы не маглі ведаць, што наш гурток пад кіраўніцтвам настаўніка збіраўся апошні раз.

## *Глава 9. «Душа твая — малюнак артыстычны»*

> Не тое каб ён быў добры выкладчык, метады яго выкладання былі самыя ардынарныя, але ён валодаў вельмі каштоўнай якасцю — прымусіць палюбіць сябе і палюбіць справу, надаўшы ёй нейкі асаблівы інтарэс. Ён мог набыць вучняў, аб'яднаць іх вакол сябе так, што мы са школы не вылазілі, гатовыя былі там дняваць і начаваць.
>
> Адам Багдановіч. Мае ўспаміны

У Яраслаўскай казённай гімназіі сабраўся савет. Абмяркоўваліся бягучыя падзеі і агульныя праблемы выхавання.

Уступнае слова казаў дырэктар.

— Справа, якой мы служым, — голас дырэктара трымцеў ад адрэпетаванага за гады педагагічнай дзейнасці хвалявання, — выхаванне сапраўдных патрыётаў Расійскай імперыі — накладае на ўсіх нас асаблівыя абавязкі. Гэта справа святая. За кожнага нашага навучэнца мы адказваем перад Богам і бацькамі, якія даверылі нам выхаванне сваіх дзяцей. Мы павінны выхаваць іх перш за ўсё вернымі сынамі нашай Айчыны. Няўжо мы не прыкладзём усе намаганні, каб наша дзейнасць у гэтым накірунку не знікла марна?

Дырэктар адпіў гарбаты з невялікага срэбнага кубка, які стаяў перад ім на падносе.

— Шаноўны Уладзімір Уладзіміравіч, — стаміўшыся ад уласнага выступу, дырэктар звярнуўся да выкладчыка лацінскай мовы Белавусава, — што вы маеце сказаць на гэты конт?

— Адказнасць, якую мы нясём, безумоўна, вельмі страшная, — адазваўся Белавусаў. Памятаеце, ён больш любіў знаходзіць лагічныя памылкі ў словах сваіх калег, чым весці з імі размовы. І да таго ж яму, як звычайна, было цяжка.

Дырэктар сядзеў адкінуўшыся і захоўваў важны выраз твару, які адпавядаў моманту.

— Я не ведаю, у чым мусіць выяўляцца патрыятычны момант на ўроках, скажам, алгебры, — праціраючы шкельцы акуляраў, выступіў матэматык.

— Можна казаць пару ўступных слоў на пачатку ўрока, — падказалі яму. — Мы ведаем, вы заўсёды пачынаеце з надвор'я і пары года. Гаварыце пра поспехі Расіі на міжнароднай арэне альбо пра царскую сям'ю. Віншуйце з праваслаўнымі святамі.

Пры апошніх словах дырэктар згадаў пра выкладчыка Закона Божага айца Івана.

— Як праходзяць вашы ўрокі? — запытаўся ён. — Якія веды выяўляюць?

— Добрыя хлопцы, — дыпламатычна адказаў айцец Іван.

*«Наш айцец Іван, які выкладаў Закон Божы і не цярпеў пярэчанняў, не адважваўся крычаць на Максіма, калі той, распавядаючы пра паходжанне жыцця на Зямлі, казаў, што тэорыя эвалюцыі супярэчыць біблейскім легендам аб стварэнні Сусвету. На здзіўленне ўсяму класу, айцец Іван прыняў бой і спрабаваў абвергнуць тэорыю эвалюцыі»*. Так успамінаў Годнеў.

Саветы, калі яны не былі прысвечаныя якой-небудзь скандальнай гісторыі, заканчваліся заўсёды з аднолькавым вынікам — нулявым. Гэта было звычайна марнаванне часу.

Савет скончыўся, і настаўнікі сталі разыходзіцца па сваіх кватэрах — службовых і ўласных.

Невядома, выпадкова ці наўмысна дырэктар гімназіі пайшоў па адной дарозе з кіраўніком літаратурнага гуртка Парфірыем Мізінавым. Агульны шлях у падобных сітуацыях немагчымы без размоваў.

— Я даўно хацеў пагаварыць з вамі ў нязмушанай атмасферы, — пачаў дырэктар яшчэ на плошчы перад гімназіяй. — Вы ведаеце, што я ад пачатку быў супраць стварэння літаратурнага гуртка ў нашай гімназіі. Але ж гурток існуе, што сведчыць пра перадавыя метады навучання, якія практыкуюцца ў нас. І гэта добра. Але ж я не разумею вашай сапраўднай мэты.

— Што вы маеце на ўвазе, калі кажаце «сапраўдная мэта»?

— Тое, што гурток вы арганізоўвалі не для дэманстрацыі перадавых метадаў навучання... Чаго вы дамагаецеся? Мы выхоўваем верных падданых Расійскай імперыі. А вы? Вы хочаце абудзіць душы гімназістаў!

— Хіба гэта блага?

— Трэба ведаць мяжу! Куды, па-вашаму, пойдуць юнакі з абуджанымі душамі? Кім стануць яны? Анархістамі? Паэтамі? Тэрарыстамі? Акцёрамі? Сацыял-дэмакратамі? Мастакамі? Вязнямі і катаржанамі? Дарэчы, вам вядома, што бацька гімназіста Ціхамірава заклапочаны захапленнем свайго сына. Ён жадае бачыць яго юрыстам, а не акцёрам на сцэне правінцыйнага тэатра!

— Чаму адразу «правінцыйнага»?

— Без розніцы, хай сабе і сталічнага. Галоўнае — ён не хоча, каб ягоны сын быў акцёрам. Што такое акцёрскі асяродак? Малады чалавек, урэшце, павінен стварыць сям'ю. А з кім можа ажаніцца акцёр? З актрысай! І гэта яшчэ не самы горшы варыянт.

— Што вы маеце на ўвазе?

— Самі разумееце... Але ж не будзем спыняцца на гэтым. Самае страшнае для вас тое, што вашы выхаванцы не скажуць вам «дзякуй» пасля заканчэння гімназіі.

Дырэктар зрабіў шматзначную паўзу, але, не дачакаўшыся чарговага пытання, працягваў.

— Можа, вы лічыце, што здолееце выгадаваць генія? Нашы гімназісты — звычайныя юнакі. Ніхто не кажа пра гэта адкрытым тэкстам, але ж нікому з іх не дадзена скокнуць вышэй сваёй галавы. Трагедыі тут няма — звычайнае жыццё. Яны вельмі маладыя і не разумеюць гэтага. Але ж гэта абавязаны разумець тыя, каму даверана выхаванне маладога пакалення, — мы з вамі. Геніяў тут няма. Урэшце маладыя людзі зразумеюць, што яны далёка не геніі. У кожнага будзе свая столь, але яны памкнуцца да нечага вышэйшага, нічога не дасягнуць і адчуюць сваю непаўнавартаснасць. Вось тут пачатак трагедыі... Нездаволеныя амбіцыі.... Сапсаванае жыццё... І ў моманты цяжкіх развагі яны ўзгадаюць вас — настаўніка, які абудзіў іх душы. Яны могуць пакрыўдзіцца на вас і нават праклясці. Вы будзеце прычынай іх няшчасця і няўмення ўладкаваць сябе ў рэальным жыцці!

— А чалавек з абуджанай душою не зможа ўладкавацца ў жыцці?

— У яго менш шансаў! Вы чытаеце з гімназістамі вершы Верлена, гэта мне вядома. А яго аўтабіяграфію вы не спрабавалі з імі чытаць? — голас дырэктара быў саркастычны. — Вы памятаеце ўспаміны Верлена пра першае каханне? Гэтае чыстае і светлае пачуццё ў падачы Верлена ўспрымаецца вельмі гнятліва. Ён унушае непрыемнае пачуццё сваімі цынічнымі заўвагамі пра прыгажосць і наіўнасць сваёй нявесты і сваімі марамі пра камфортна абсталяваны быт і матэрыяльны

дастатак. Ні ценю шчырага пачуцця, ні намёку на паэзію чыстага кахання — усяго гэтага няма ў апісаных з захапленнем падрабязнасцях падрыхтоўкі вяселля і першых дзён шлюбу! А тое, што Верлен быў «праклятым паэтам», вы не кажаце на сваіх занятках?

— І хто, па-вашаму, яго пракляў?

— Хто? Я думаю, што не «хто», а «што»! Сама паэзія! А вершы свае ён пісаў у шпіталі!

— Што вы хацелі гэтым сказаць?

— Толькі тое, што вы вельмі рызыкуеце!

А рызыка выявілася ў тым, што літаратурны гурток быў забаронены ў «сувязі з пажаданнем амаль усіх членаў савета і некаторых членаў бацькоўскага камітэта». Надта ж не хацелася некаму, каб мы вучыліся самастойна думаць. І, здавалася, усё сышло ціха...

* * *

Кожны з удзельнікаў «дэпутацыі» атрымаў па цыдулцы, напісанай рукой Ціхамірава: «Трэба сустрэцца каля піўной Данілыча пасля ўрокаў. Вельмі важна».

Піўная Данілыча была месцам збору старшакласнікаў. Яе наведвалі нават на вялікіх перапынках, бо была яна недалёка ад гімназіі. Тут гімназісты старэйшых класаў паспешліва глыталі піва і закусвалі мочаным гарохам. Усё забароненае заўсёды мае асаблівы смак. Але на гэты раз справа была не ў піве з гарохам.

Усе ўдзельнікі «дэпутацыі» сабраліся за піўной. Прыйшоў нават мой былы сусед па парце А., хаця, відаць па ўсім, рабіць яму гэтага не хацелася. Але, як кажуць, трапіў у нерат — ні ўзад, ні ўперад! Такі ўжо выпаў яму лёс, так склаліся зоркі над ягонай галавой.

— Уяўляеце, — сказаў Ціхamіраў, калі ўсе сабраліся,— я знайшоў нешта такое...

У пачырванелых ад восеньскага ветру руках ён трымаў аб'ёмны сшытак з абтрапанай вокладкай. Такія рэчы часта папаўняюць музейныя фонды і становяцца аб'ектам даследаванняў.

— Што гэта?

— Гэта? — Ціхаміраў трымаў сшытак як найвялікшую рэліквію. — Гэта? — паўтарыў ён. — Дзённік майго бацькі!

— Чытаць чужыя дзённікі нельга! — абурыўся я. — А тым больш — у кампаніях. Калі ты нават і знайшоў дзённік свайго бацькі, то быў абавязаны пакласці яго на месца і нікому аб гэтым не казаць.

— Ты надта разумны! — запярэчыў Ціхаміраў. — Можа, калі ты знойдзеш дзённік свайго бацькі, то так і зробіш...

— Канечне!

— А твой бацька рыецца ў тваіх рэчах?! Ён абшуквае сталы і шафы, выварочвае кішэні?

— Навошта?

— А мой усё гэта робіць. І я сам хачу зразумець, навошта. Таму калі я знайшоў дзённік, то не мог так спакойна з ім развітацца. Я падумаў: можа быць, тут я знайду адказ на гэтае пытанне. І ўяўляеце, што атрымалася? Мой бацька вучыўся ва ўніверсітэце разам з Парфірыем Іванавічам Мізінавым, нашым настаўнікам.

— Не можа такога быць! — усклікнуў Вася. — Пакажы! Ты раней не ведаў, што яны разам вучыліся? Вельмі дзіўна.

— Нічога дзіўнага, калі ведаць характар майго бацькі, — уздыхнуў Ціхаміраў.

— І настаўнік нічога не казаў табе пра гэта? — не здаваўся Вася.

— Напэўна, не лічыў патрэбным.

— Пакажы, што там напісана!

— А ты з першага погляду зразумееш! Трэба чытаць уважліва.

— І што ж такое незвычайнае ты даведаўся, чытаючы ўважліва? — з адценнем пагарды, але ж і з непрыхаванай цікавасцю спытаў А.

— Пра свайго бацьку ці пра настаўніка?

— А пра каго ты збіраўся расказаць? — А. прагнуў канкрэтнасці.

— Пра свайго бацьку я магу сказаць, што ён быў такім жа нудным, як ты, — Ціхаміраў зрабіў тэатральную паўзу. Усе засмяяліся. — Даруй, але ж ягоная педантычнасць якраз спрыяла штодзённым запісам! Я не хацеў цябе пакрыўдзіць, у мае планы папросту не ўваходзіла расказваць пра бацьку.

Старонкі старога сшытка былі спісаны каліграфічным почыркам. Можна было падумаць, што чалавек пісаў не для самога сябе, а адразу для нашчадкаў. Цяжкасцяў з прачытаннем не было.

— Я зразумеў, што лад жыцця, які вялі студэнты, аскетызмам не вызначаўся. Майму бацьку гэта, з аднаго боку, не падабалася, а з другога, мабыць, самому хацелася нечага такога. А наш настаўнік пісаў вершы!

— А як вы думаеце, ці піша ён іх цяпер? — нечакана спытаў Максім.

Ціхаміраў паціснуў плячыма і сказаў:

— Думаю, што не. Столькі ўжо ўсяго напісана... Застаецца толькі адно — пісаць даследаванні на тэму «Гісторыя і паэзія». Хаця, зрэшты, хто ведае? Можна спытаць пра гэта ў яго самога.

З піўной Данілыча вываліў натоўп заўсёднікаў.

— Гімназісцікі! — узвыў адзін з іх, відаць, самы вясёлы. — Што за сходка! Не займайцеся абы-чым, лепш хадземце з намі на Волгу. Вып’ем. Я частую...

— Халодна! — адказаў за ўсіх самы смелы Вася.

— Ну і мерзніце! А мы пойдзем і вып’ем...

Яны зарагаталі. «А Верлен, — падумаў я, — не адмовіўся б ад такога запрашэння. Пайшоў бы на Волгу і выпіў, пазнаёміўся б з людзьмі, атрымаў бы новыя ўражанні, а пасля стварыў бы цудоўны верш. Накшталт гэтага:

Асфальт істоптаны, з канаўкамі па краю
Дзеля памый... Такі мой шлях, ідушчы к раю.

А можа, і што-небудзь іншае». Так падумаў я, гледзячы ўслед вясёлым п’яніцам.

— Глядзіце, што тут напісана, — уступіў Вася, які паспеў выхапіць у Ціхамірава запаветны сшытак і прабегчы вачыма некалькі старонак. — Тут гаворыцца пра тайную суполку, якую арганізаваў наш настаўнік. Ён быў ініцыятарам.

«Нездарма ж настаўнік здаўся Максіму ў музеі паслядоўнікам разенкрэйцараў, — падумалася мне. — Можа, ён і не валодае таямніцай вечнага жыцця, але ж быў тайны саюз. Быў!»

— Мы лезем не ў сваю справу! — заявіў А. — Тут было напачатку вельмі добра сказана: трэба вярнуць сшытак на месца і зрабіць выгляд, што ён не існуе наогул альбо нам нічога не вядома пра яго існаванне. А калі гэта зрабіць позна, то знішчыць яго — патапіць у Волзе ці яшчэ лепей — спаліць!

— Ах, я не магу падобным чынам абыходзіцца з сямейнай рэліквіяй, — тэатральна закаціў вочы Ціхаміраў. — Мой шаноўны сябра, вы, напэўна, жадаеце

падвергнуць мяне жорсткаму выпрабаванню. Я не вынесу гэтага. Сшытку месца ў музеі, я захаваю яго для нашчадкаў.

— Твой бацька мог бы паспяхова зрабіць гэта сам!

— У майго бацькі столькі неадкладных спраў, — працягваў сваю імправізаваную камедыю Ціхаміраў, — што ён можа вельмі лёгка забыцца пра свае юнацкія запісы. Мой бацька — актывіст яраслаўскага аддзялення «Саюза Міхаіла Архангела». Трэба ратаваць Расію ад нашэсця іншародцаў... Пакуль ён будзе гэта рабіць, я магу спакойна заняцца вывучэннем спадчыны. Калі бацька абавязаны ўсё ведаць пра свайго сына, то і сын мусіць ведаць пра ўсе закуткі бацькавай душы.

Ціхаміраў быў на ўздыме. Ён адчуваў сябе пераможцам. Я пасля зразумеў, што валоданне таямніцай надае жыццёвай моцы. Пранікненне ў тайну ўздымае над усімі. Ціхаміраву адкрылася невядомае, і ён адчуваў сябе амаль шчаслівым.

Піўная Данілыча, якая падыходзіла для ўжывання забароненых напояў, была не лепшым месцам для сходак. Тут мы звярталі на сябе зашмат увагі. Вось і прычапілася да нас цыганка. Зусім яшчэ не старая, у дзіўным даўгім чорным паліто, у якім з роўным поспехам маглі хадзіць і сто, і дзвесце гадоў таму. З-пад паліто выглядала яшчэ больш даўгая стракатая спадніца.

Цыганка ішла да нас па леташняй лістоце, а мы глядзелі на яе, як заварожаныя. Гэта нагадвала нейкую карціну. А можа, такіх карцін ніхто і не маляваў...

— Маладыя людзі, — звярнулася яна да нас з ветлівасцю, за якой так часта хаваецца пагарда. — Ці не знойдзецца ў вас папяроскі, каб пачаставаць мяне?

— Не палім! — зноў за ўсіх нас адказаў Вася.

— Няўжо?!

Цыганка не сыходзіла. Я спрабаваў тайком паліць, і пакуль нічога не атрымоўвалася, але ў кішэні меў некалькі папярос. Я маўчаў, а цыганка ўсё не сыходзіла. Мне зрабілася страшна, здалося — яна бачыць мяне наскрозь. Гнаць цыганку прэч ніхто не адважыўся. Яна пераводзіла свой позірк з аднаго хлопца на другога, як бы выбіраючы.

— Можа, паваражыць хочаш? — на ўздыме сваёй часовай перамогі зачапіў яе Ціхаміраў.

— Што табе варажыць? — адказала яна спакойна. — Ты і так шчаслівы. Вайсковым чалавекам станеш. Жыць доўга будзеш. Жонка ў цябе будзе прыгожая і ласкавая, дзетак шмат.

— Так і я магу варажыць! — Ціхаміраву не спадабаўся прапанаваны лёс. Ён ускочыў з нагамі на лаўку, ля якой мы ўсе стаялі. — У цябе таксама дзеткі добрыя, а будзе яшчэ шмат, і таксама добрых! — ён дражніў цыганку.

А я ведаў — Ціхаміраў пакрыўдзіўся на тое, што яму прадказалі вайсковую будучыню. Ён так імкнуўся да сцэны, так адпрацоўваў голас, інтанацыю, рухі, а тут падыходзіць нейкая цыганка, глядзіць на яго, быццам наскрозь бачыць, і кажа: «Лёсам вызначана быць вайскоўцам». Дык што ж, усе мары і спадзяванні — дарэмныя? А надзеі — няспраўджаныя? Няўжо няма ў ягоным аблічча нічога паэтычнага? Што магло выдаць у ім будучага вайскоўца, злачынцу, які пасылае людзей на смерць? Што за лёс — марыць пра крылы і быць прыкаваным да зямлі? Чым больш імкнешся ўгору, тым настойлівей вяртаюць цябе да зямлі.

— А ў яго, — Ціхаміраў паказаў на мяне, — колькі дзяцей будзе?

— Не будзе, — адказала яна, паглядзеўшы мне ў вочы. — Пустая доля ў цябе, хлопец, але жыць будзеш доўга.

— А я? — Максім задаў пытанне вельмі ціха, але яна ўсё адно пачула. Паглядзела на яго, падумала і сказала:

— Не ведаю! Прытамілі вы мяне, хлопцы, а закурыць не далі. А я ведаю — маеце што курыць.

Прысаромлены, я палез у кішэнь, выцягнуў усе папяросы і аддаў цыганцы.

— Толькі не сварыцеся паміж сабой, — сказала яна, павярнулася і пайшла.

— Не ведаў, што ты паліш! — здзівіўся А. — Сядзелі за адной партай, але я ніколі не адчуваў ад цябе паху тытуню.

— А каб адчуў, то пайшоў бы і данёс.

— Навошта ты так кажаш, — пакрыўдзіўся ён, — хіба я на каго-небудзь даносіў?

— Хто цябе ведае...

— Трэба было ў цыганкі запытацца!

— Цішэй, хлопцы, — стаў супакойваць нас Вася, — нават цыганка не раіла нам сварыцца.

А я застаўся ў задуменні: што ж такое гэтая пустая доля?

Але ж разумееш гэта толькі тады, калі прыйшоў твой час зразумець.

## *Глава 10. «Тры глобусы»*

> Быў у мяне сябра... Круглы сірата... І калі яго ахоплівалі туга і гора, ён забіраўся ў гушчар, у густы хмызняк, і пачынаў плакаць і спяваць верш пра Багатага Лазара, якому ён дзесьці ў кагосьці навучыўся. Я спачатку крыху баяўся яго.
>
> Адам Багдановіч. Мае ўспаміны

У сутонні прывіды пачынаюць матэрыялізавацца. Я быў у гэтым упэўнены. Можа, вы, прачытаўшы гэта, падумаеце, што ў юнацтве ў мяне была паэтычная душа? Не ведаю, якім словам назваць гэта, мусіць, я быў проста ўражлівым. Любіў чытаць, а не пісаць. Пісьменнікі, на мой погляд, з'яўляліся істотамі звышнатуральнымі, якія жылі сярод сабе падобных, удалечыні ад звычайных людзей, а большасць з іх — і зусім памерла, а значыць, знаходзіцца ў Княстве Вечнага Сну. Кантакт паміж светам літаратуры і яе стваральнікамі адбываецца праз кнігу.

Што тычыцца розных запісаў і дзённікаў — я іх не вёў. Меў добрую памяць і свае жыццёвыя прынцыпы. Вельмі даражыў сяброўствам, па магчымасці не засмучаў сваіх бацькоў. Ведаў: лепш памаўчаць, чым сказаць глупства, а значыць — недагаворваў.

Як і кожны ў маім узросце, меў свае сакрэты.

— А што ты думаеш адносна Верлена? — запытаўся я ў Максіма.

— Гэта таямніца, якая праз творчасць пераходзіць і ў яго жыццё. Мне здаецца, што для самога сябе ён быў не меншай загадкай, чым для ўсіх астатніх.

— Але ж настаўнік прапанаваў нам разгадаць гэтую загадку.

— Ты лічыш, гэта магчыма?

— Раз настаўнік сказаў...

— Настаўнік папрасіў нас паразважаць пра жыццё і паэзію. Пра іх суадносіны.

— А ў нашым жыцці ёсць паэзія? — дапытваўся я.

І сапраўды, ці была паэзія ў штодзённым Максімавым жыцці? Дзіядор Дзябольскі згадваў: «*Жылі Багдановічы заўсёды недалёка ад гімназіі. Кажу «заўсёды», таму што ягоны бацька часта мяняў кватэры. Чамусьці кожная кватэра была ў драўляным доме і на першым паверсе. Запомніўся пах нагрэтага дрэва і дзіцячага пакоя, які нязменна стаяў на калідоры, неатынкаваныя сценкі і столь.*

*Я заходзіў да Максіма рэдка, але пабываў на ўсіх ягоных кватэрах. Максім з малодшым братам Лёвам заўсёды жылі ў асобным светлым пакоі. Мэбля — два жалезныя ложкі, два крэслы і перад акном вялікі стол, самы просты, са шчыльна збітых дошак. Такія сталы тады называлі кухоннымі. Левы бок стала — Максімаў, на ім нязменны беларускі слоўнік Насовіча; правы — Лёвы. Лёва з грыфельнай дошкай у руках рашае задачы, ён быў вельмі здольным матэматыкам.*

*У глыбіні кватэры знаходзілася другая сям'я Адама Ягоравіча, жонка і малыя дзеці. Недзе там жа пакой Адама Ягоравіча. Ні жонка бацькі, ні дзеці ніколі не ўваходзілі ў пакой Максіма і Лёвы, і ён ніколі нічога пра іх не распавядаў.*

*Не менш як дзясятак разоў бываў я ў Максіма, і не разу не меў выпадку прывітацца з гаспадыняй, ніколі не чуў яе голасу. Два-тры разы праз калідор у адчыненыя дзверы я бачыў спакойную, маўклівую жанчыну з шытвом альбо прасам у руках. Але ў пакоі ў Максіма*

*было заўсёды чыста і прыбрана. А ў кватэры было неяк сумна і мёртва, як быццам кватэра нежылая. Адам Ягоравіч працаваў тады ў Сялянскім пазямельным банку».*

— А ў жыцці Парфірыя Іванавіча Мізінава ёсць паэзія? — спытаў Максім.

— Мабыць, ёсць.

— Чаму?

— Ён жа гурток стварыў у гімназіі, каб гаварыць з намі пра гісторыю і паэзію, — мне гэты доказ здаваўся пераканаўчым.

— А можа, ён гурток і стварыў не таму, што паэзія ЁСЦЬ, а для таго, каб яна БЫЛА?

— Можа... А чаму б не запытацца ў самога настаўніка? Мы ж маем права задаваць пытанні!

— Маем, — згадзіўся Максім, — але б добра было, апрача ўсяго, даведацца і пра тайную літаратурную суполку, якая існавала ва ўніверсітэце... — Максім задумаўся і, рэзка ўскінуўшы галаў, звярнуўся да мяне: — Мы маем на гэта права?

— Не ведаю, — засумняваўся я.

— Зрэшты, ён можа нам нічога не расказваць. Мы папросім прабачэння і пойдзем...

— Добра, толькі пачакаем зручнага выпадку.

* * *

Выпадак з'явіўся вельмі хутка.

Мы сустрэлі свайго настаўніка ля сабора Пятра і Паўла. Заходзіла сонца. Мы стаялі на беразе старога става і глядзелі на асветлены апошнімі промнямі сонца храм.

Збудаваная ў XVIII стагоддзі святыня мела нехарактэрны для яраслаўскай архітэктуры выгляд. Вежа-званіца ўзнеслася ўгару на ўсе пяцьдзясят сем метраў, храм з трыма ярусамі вокнаў адбіваецца на паверхні става. На ніжнім паверсе знаходзілася зімовая царква, а залу другога паверха займала халодная летняя царква.

Сабор Пятра і Паўла быў збудаваны на сродкі заснавальніка Яраслаўскай Вялікай мануфактуры Івана Затрапезнава. Сабор стаяў побач з мануфактурай, якая ў сярэдзіне XIX стагоддзя была перанесена бліжэй да Котараслі, ад яе засталася толькі адна брама, бо на месцы фабрычных памяшканняў быў зроблены парк, і захаваліся ставы, вада якіх была патрэбна для апрацоўкі палатна.

Аўтар праекта сабора быў невядомы, але ж сама архітэктура святыні была, як я зразумеў пасля, запазычана ў Пецярбургу і нагадвала сабор Петрапаўлаўскай крэпасці.

Магчыма, настаўнік таксама прыйшоў у парк на бераг става, каб паглядзець на храм у апошніх сонечных промнях. Напэўна, шукаў супакою.

Парфіры Іванавіч Мізінаў мог думаць на беразе става пра свае літартурныя эцюды, якія друкаваліся ў шматлікіх тагачасных літаратурных выданнях: «Рускай думцы», «Пантэоне літаратуры», «Весніку Еўропы», «Новым часе». Гэтыя публікацыі атрымлівалі ў лепшым выпадку пачувальныя водгукі і павярхоўны разгляд бібліяграфічных аглядальнікаў. Большасць гэтых эцюдаў былі прадметам публічных лекцый, прачытаных у перыяд з 1886 па 1898 год, і належалі мінуламу, былі звязаныя з асабістымі ўспамінамі, з часам, абставінамі, нават з вядомымі вобразамі слухачоў, якія былі дарагімі самому Мізінаву.

Ён першым заўважыў нас, мы прывіталіся. Настаўнік пацікавіўся, ці даўно мы зразумелі, што менавіта ў такі час трэба прыходзіць глядзець на сабор Пятра і Паўла. Я адказаў, што ўпершыню мне паказала гэты цуд маці, а цяпер я прывёў свайго сябра, каб ён таксама пабачыў.

Мы з Максімам адчувалі сябе вельмі скавана, бо абодва разумелі: час прыйшоў, калі мы не задамо сваё пытанне цяпер, то болей магчымасці можа не быць.

Толькі тут — на беразе старога става ў час змяркання — можам зведаць таямніцу.

— Даруйце, Парфіры Іванавіч, — рашуча пачаў Максім. — Мы хацелі задаць вам адно пытанне...

— Яно тычыцца літаратуры?

Можа, Парфіры Мізінаў і не быў схільны ў гэты час і момант весці размовы з гімназістамі, але ж такая ўжо доля любога настаўніка — ён не мае права пакідаць пытанні сваіх выхаванцаў без увагі.

— Яно тычыцца літаратуры, — працягваў Максім, — але не толькі яе...

— Літаратуры і гісторыі?

— Гэта можна, напэўна, назваць гісторыяй, — Максім нарэшце набраўся смеласці і выпаліў: — Нас цікавіць літаратурная суполка, якую вы арганізавалі ва ўніверсітэце!

Мне цяжка вытлумачыць стан душы нашага настаўніка ў той момант на беразе става. Можа, яму давялося пашкадаваць аб тым, што выбраўся з дому... А калі паглядзець з другога боку, то, можа быць, ён даўно чакаў гэтага пытання. Кожнаму хочацца мець пераемнікаў, наступнікаў... Як кажуць, у душу не зазірнеш, але твар настаўніка змяніўся. Мы знерухомелі ў чаканні.

Настаўнік думаў.

Мы былі ўжо гатовыя адмовіцца ад свайго пытання і папрасіць прабачэння, але настаўнік загаварыў роўным і спакойным голасам.

— Гэтая, як вы сказалі, «гісторыя» пачалася не ва ўніверсітэце, а значна раней. Пачалася яна ў пансіёне, куды я быў пасланы для атрымання і ўдасканальвання ведаў і добрых манер.

У першыя дні ў пансіёне я пачуваўся вельмі самотна. На маім твары можна было нават бачыць няпрошаныя слёзы. Перад вачыма ўвесь час стаяў родны дом. Я сядзеў з іншымі пансіянерамі за гарбатай, а ў самога слёзы капалі з вачэй у кубак.

Пансіён здаваўся мне не чароўным замкам, не храмам навукі, а турмой, а сам я — няшчасным вязнем. Холад у дартуарах, пад'ём па званку, бойкі пансіянераў ля рукамыйніка, сціплыя сняданкі-абеды-вячэры, — ад усяго патыхала не хатнім цяплом, а нечым казённым.

Усе хлопцы ў пансіёне з розных краёў, вядуць паміж сабой малазразумелыя размовы. Я сядзеў у класе за граматыкай, а на сцяне блішчэла палоска сонечнага святла, на шкле гудзе муха, на падваконне сеў і буркаціць голуб. У мяне шчыміць сэрца.

Па першых часах мяне радавала ўсё, што нагадвала дом. У тым ліку і паэзія. Я прывык да хатніх чытанняў, калі збіраліся ўсёй сям'ёй. А ў пансіёне вершы, якія мне некалі падабаліся, якія я калісьці дэкламаваў сваёй сястры, сталі для мяне суцяшэннем. А потым я адкрыў для сябе адну таямніцу: паэзія дапамагае выжыць, яна ратуе наш дух ад знешніх абставін. Я зразумеў, што людзі пішуць і чытаюць вершы не таму, што гэта мілы занятак, а таму, што яны ЛЮДЗІ.

Я хацеў падзяліцца сваім адкрыццём з сябрамі, якіх паспеў да таго часу набыць у пансіёне.

— Я таксама ўпэўнены, што літаратура дапамагае ў жыцці! — надзвычай шчыра і горача падтрымаў настаўніка Максім. — Вершы — найлепшыя лекі!

Гэтая ідэя пра цудадзейную сілу паэзіі не пакідала Максіма да смерці. Пры гэтым ён быў здольны ўнушыць яе тым, хто быў побач. Гэтая здольнасць і знайшла сваё адлюстраванне ў апавяданні Змітрака Бядулі «Страцім-лебедзь»:

*«У цішыні чуваць шоргат алоўка па паперы. Гэтыя ледзь чутныя гукі гіпнатызуюць мяне. Я тараплю вочы ў столь. Светлы круг ад лямпы на столі расплываецца ў жоўтыя ручайкі, і раптам усё знікае. Я ныраю ўсё глыбей і глыбей у сон.*

*Не. Я не сплю.*

*Ужо некалькі дзён Максім на прыходзіць начаваць. Мы ўсе непакоімся. Не ведаем, дзе ён. Але вось ён з'яўляецца нечакана — вясёлы, ружовы. Аказваецца, доктар лячыў яго новым спосабам — паэзіяй. Пасадзіў Максіма ў прасторны сонечны пакой і параіў спакойна сядзець і пісаць вершы. За некалькі дзён Максім напісаў зборнік вершаў. «Я цяпер зусім ачуняў», — хваліцца Максім. Ён расказвае вясёлыя жарты і смяецца, смяецца...*

*Гэты сон навеяны несупыннымі гутаркамі Максіма пра сілу паэзіі».*

Пры словах пра «найлепшыя лекі» наш настаўнік усміхнуўся і сказаў:

— Як для каго... Калі я чую такія катэгарычныя выказванні, то нязменна згадваю анекдатычны аповед пра аднаго вучонага медыка. Медык лячыў аднаго краўца ад гарачкі, і той ужо паміраў. Але выпадкова хворы з'еў вяндліны і ачуняў. Медык занатаваў вынік свайго вопыту: «Вяндліна — паспяховы сродак ад гарачкі». Праз некаторы час той жа медык лячыў шаўца

і, абапіраючыся на вопыт, накарміў яго вяндлінай. Шавец памёр. Медык зрабіў новы запіс: «Вяндліна — сродак карысны для краўцоў, але не для шаўцоў».

— Так што адбылося ў пансіёне? — я жадаў вярнуцца да пачатку нашай размовы.

— Я не думаю, што паўтарэнне гэтай гісторыі спадабалася нашаму дырэктару.

— Чаму? — здзівіўся Максім.

— Раскажыце, — пераадолеўшы сваю звычайную сарамлівасць у размовах з дарослымі, папрасіў я.

Пытанне настаўніка было нечаканым:

— А ці можаце вы захоўваць тайну?

— Так! — у адзін голас адказалі мы, хаця, па вялікім рахунку, не ведалі, ці можам мы гэта рабіць. Ніколі ў жыцці мы не валодалі тайнай!

— Тады слухайце. «Саюз трох глобусаў» вырашыў прысвяціць сваё жыццё раскрыццю таямніцы красы. Мы жадалі «піць чару любую, але толькі да дна».

— Што гэта?

— Гэта было нашым credo, нашым дэвізам. Мы спадзяваліся пражыць сваё жыццё, кіруючыся гэтым правілам. Мы паўтаралі гэтыя словы кожны раз, калі збіраўся «Саюз трох глобусаў»...

— Чаму «Саюз трох глобусаў»?

— У пансіёне нас было тры чалавекі. Тры хлопцы — шчырыя аматары паэзіі, гатовыя ахвяраваць жыццём дзеля раскрыцця таямніцы праўдзівай красы. Мы збіраліся глыбокай ноччу, чыталі вершы і абмяркоўвалі іх. Але не толькі. Самае галоўнае — мы развівалі ў сабе крытычны розум, мы вучыліся разважаць самастойна і чыталі не толькі чужыя, але і свае творы.

— Вы пісалі вершы? — узрадваўся Максім.

— Не толькі я...

— А навошта вы гэтым займаліся? — я не разумеў сэнсу начных сходак. Пры словах «тайны саюз» мне згадваліся тэрарысты. — Вы проста зачыняліся ў пакоі і чыталі вершы? Але ж кожны ўмее чытаць, дзяля гэтага не варта збірацца разам.

Максім здзіўлена паглядзеў на мяне, ён слухаў настаўніка з такім выглядам, як быццам бы той вось-вось павінен раскрыць перад намі таямніцу і сэнс жыцця.

— Вы не разумееце сэнсу начных сходак? Я ні ў якім разе не заклікаю вас паўтараць наш досвед. У чым быў сэнс — я не ведаю да гэтага часу. Але варта было нам сабрацца разам — і вершы пераставалі быць наборам слоў. Паэзія рабілася сапраўдным цудам. Мы пачыналі па-іншаму ўспрымаць жыццё.

Сонца схавалася, вада ў ставе пацямнела, можна сказаць, што толькі прыгажосць белага храма засталася нязменнай, хаця ў промнях сонца ён падабаўся мне значна больш.

— Па-іншаму ўспрымаць жыццё?

— Так. Пра існаванне нашай суполкі ніхто не ведаў і нават не здагадваўся. А мы нікому не распавядалі. Тайна давала нам перавагу над усімі. Новыя ідэі нараджаліся з лёгкасцю... І самі мы паступова, але няўхільна мяняліся. А для ўсіх прычыны зменаў у нашых характарах і паводзінах заставаліся таямніцай. Усе бачылі толькі вынікі...

Быў той той самы час, калі, па маім глыбокім перакананні, матэрыялізаваліся прывіды. Змрок гусцеў.

— Я ў дастатковай меры здаволіў вашую цікаўнасць? — спытаў настаўнік.

— А што было ва ўніверсітэце?

— Там быў працяг таго, што пачалося ў пансіёне. Там ужо шмат хто ведаў пра існаванне нашай суполкі... І звесткі, якія здабылі вы, адносяцца менавіта да тых

гадоў. Але ж час цяпер позні, мне не трэба глядзець на гадзіннік, каб зразумець гэта... Думаю, вам таксама...

— Так! Так! — заківалі галовамі мы.

— У такім разе, будзем развітвацца. Дзякую за ўвагу.

— Дзякуй вам! — сказалі мы ў адзін голас. — Да пабачэння!

Я ўпэўнены, што ў той час настаўнік ужо ведаў аб тым, што наш гурток забаронены, але нічога не казаў нам.

Ён пайшоў, а мы засталіся стаяць на беразе, хаця было нам усім у адзін бок. Мы наўмысна пачакалі, нам жа сказалі «будзем развітвацца», значыць, развітацца трэба было на тым месцы, дзе сказана.

— Дзіўна, ён нават не спытаў, адкуль мы даведаліся пра існаванне тайнай літаратурнай суполкі! — з гэтымі словамі я падняў з зямлі невялічкі каменьчык і кінуў у ваду. Нерухомасць цёмнага става і цішыня палохалі мяне.

— Здагадваецца, — адказаў Максім.

— Здагадваецца! — тут я кінуў яшчэ адзін камень, пакуль не разышліся па вадзе кругі ад першага. — Пра што ён можа здагадацца? Што Ціхаміраў выкраў у свайго бацькі інтымны дзённік?!

Па вадзе пайшлі хвалі ад кінутых мною камянёў.

— Ён памятае, з кім вучыўся, што бацька Ціхамірава быў з ім на адным курсе, — Максім глядзеў на цёмныя хвалі.

— Мяркуючы па ўсім, — сказаў я, падымаючы трэці камень, — яны і ў студэнцкія гады не падтрымлівалі ніякіх адносін...

— Чаму?

— Таму што не кантактуюць цяпер!

— Гэта не сведчыць ні аб чым. Часам самае блізкае сяброўства пераходзіць у поўную сваю супрацьлег-

ласць. Патрэбна толькі важкая прычына, — гаварыў Максім. — Мой бацька, напрыклад, сябраваў з пісьменнікам Максімам Горкім.

— І што?

— І перастаў сябраваць! — Максім быў лаканічны.

— Вось так проста — узяў і перастаў?

— Зусім не «проста». Я ж сказаў, што для такіх рэчаў патрэбна важкая прычына. Вось яна і з’явілася ў майго бацькі і Горкага... Толькі зараз мы не аб тым з табой гаворым... Ты, напэўна, не звярнуў увагі на адну фразу настаўніка. Ён сказаў: «Ва ўніверсітэце быў працяг таго, што пачалося ў пансіёне». А дзе працяг таго, што адбывалася ва ўніверсітэце?

— А працяг мусіць быць абавязкова?

— Усё мае свой працяг і свае вынікі...

— Ты хочаш сказаць, — раптоўная здагадка ўзрушыла мяне, — што літаратурны гурток, арганізаваны ў нашай гімназіі, і ёсць працяг таго, што пачыналася ў мінулым стагоддзі ў пансіёне і ўніверсітэце?

— Так, але гэтага недастаткова...

Я азірнуўся і зразумеў, што мы стаім у густой цемры. І нават камяні, кінутыя ў ваду, не дапамогуць мне болей. Я не мог нахіліцца і падняць камень, бо цемра паглынула ўсё. Калі хочаш знайсці што-небудзь, шукай навобмацак.

## *Глава 11. Напярэдадні*

> Быў час, калі гісторыю літаратуры разумелі вельмі аднабакова. Некалькі вялікіх гісторыка-літаратурных помнікаў, некалькі выдатных пісьменнікаў-класікаў складалі ўсё кола назірання, нават у навуковай літаратуры.
>
> Парфіры Мізінаў. Гісторыя і паэзія. Масква, 1900

Наша сям'я жыла па суседстве з Дзябольскімі — ля Пятніцкага спуску на Волгу. Кватэра была на першым паверсе ў старым мураваным доме.

Я любіў рабіць урокі і чытаць, седзячы ля акна. Час ад часу я паглядаў у акно і ведаў, хто куды ідзе і з кім. Маці не ўхваляла гэтую маю залішнюю цікаўнасць, але ж глядзець у акно не забароніш.

У той дзень я вырашыў узяцца за кнігу, пра існаванне якой мы ўсе ведалі, але ніхто яе толкам не чытаў. Гэта была кніга, напісаная нашым настаўнікам. Чорная, тоўстая, без ілюстрацый, яна ўнушала павагу, але не выклікала цікаўнасці. Яе назва «Гісторыя і паэзія» нагадвала падручнік. У прадмове наш настаўнік выказваў «глыбокую ўдзячнасць школьнаму таварышу дзяцінства М. К. Андронаву, які згадзіўся дапамагчы пры выданні прапанаваных, можа быць карысных для некаторых чытачоў, нарысаў мінулага».

Я глянуў у акно, разгарнуў кнігу і пачаў чытаць першую главу пра «Боскую камедыю» і яе аўтара.

*«Усё старое рушылася, сыходзіла з гістарычнай арэны, пераставала быць галоўным стымулам грамадскага жыцця. А між тым з магільнага тла паў-*

*ставаў класічны свет са сваім мастацтвам, са сваёй паэзіяй, са сваімі аратарамі і філосафамі, нават са сваёй рэлігіяй. Прыгажосць, любоў да чалавека ў ягонай знешняй цялеснай прыгажосці змянялі сярэднявечны аскетызм. Паэты пісалі не пра тое, што цела недаўгавечнае і смяротнае, не пра тое, што свет ёсць часовае прыстанішча, прамежкавая станцыя падчас пераходу да неба, дзе чалавек толькі мусіць рыхтавацца да будучыні; наадварот, яны сцвярджалі:*

*Якая цудоўная маладосць! Яна хутка прабягае...*
*Хто хоча цешыцца, хай цешыцца,*
*А будучыня невядомая.*

*Кляштар не прыцягваў да сябе маладое пакаленне, яго цягнулі далёкія, заморскія краіны. Караблі Еўропы плавалі ўжо тады па спакойнай дагэтуль паверхні Атлантычнага акіяна.*

*Каханне — гэты матыў старога класічнага свету зноў адрадзіўся, і паэты пішуць свае гарманічныя канцоны ў гонар каханых жанчын. Фама Аквінат і ўся схаластыка пыляцца ў біліятэцы гуманіста; ён круціць у руках Гамера, Вергілія, Цыцэрона; ён чэрпае філасофію са старога, знойдзенага дзе-небудзь у кляштары напалову з'едзенага мышамі рукапісу, але не з твораў Фамы Аквінскага.*

*Чалавек новага пакалення не хаваў, як сярэднявечны манах, сваё імя на напісаным пергаменце; ён не баяўся мітуслівай свецкай славы; наадварот, ва ўрачыстай працэсіі, перад тварам народа, перад тварам усёй Еўропы ён імкнуўся атрымаць сабе лаўравы вянок. Ён цалкам пранікся ў гэтым выпадку ідэалам таго класічнага паэта, які марыў пра слаўны помнік і з гонарам казаў:*

*Лепш медзі сабе помнік справіў я,*
*Болей усіх пірамід царскіх падняўся ён;*
*Не зруйнуе яго сівер, ні едкі дождж,*
*Ні гадоў чарада, вечнага часу рух.*
*Не саўсім я памру, лепшая частка мяне*
*Не зазнае хаўтур; слава мая ўвесь час*
*Між патомкаў будзе расці...*

*У гэты час жыў і пісаў свае паэтычныя і празаічныя творы знакаміты паэт Фларэнцыі Дантэ Аліг'еры, аўтар «Боскай камедыі», той самы паэт, на якога просты італійскі народ паказваў пальцамі і казаў (мяркуючы па чорным, смуглым колеры твару): «Ён быў у пекле!»».*

«Літаратура напрамую звязаная з жыццём і смерцю, — так падумаў я, і вельмі гэтая думка падалася мне незвычайнай і новай, — апрача гэтага, яна забяспечвае неўміручасць — «лепшая частка мяне не зазнае хаўтур»».

Натхнёны сваім нечаканым адкрыццём, я зірнуў у акно і ўбачыў на вуліцы дзве знаёмыя постаці — Максіма і Ціхамірава. Я зразумеў, што яны кіруюцца да мяне. Я паспяшаўся ім насустрач. Яшчэ ў вітальні, распранаючыся, Максім кіўнуў мне і змоўніцкі шапнуў: «Такім чынам — "Тры глобусы"».

Я нічога не адказаў.

Усе прайшлі ў мой пакой, дзе я спытаў:

— Што ты меў на ўвазе, кажучы «Тры глобусы»? Няўжо...

— Толькі не гавары, што наша ідэя бязглуздая! — перабіў мяне Ціхаміраў. — І да таго ж ты, відаць, не ведаеш, што гурток наш забаранілі. А таму больш мы не зможам збірацца і гаварыць ні пра паэтаў, ні пра паэзію — ні пра што. Збіраць чарговую дэпутацыю

і хадзіць да дырэктара — абсурд. Цудоўна ведаеш, чым заканчваюцца такія паходы. Даб'ёмся хіба таго, што каго-небудзь з нас выключаць з гімназіі!

Я не ведаў, што казаць, што думаць, што рабіць, так мяне ўразіла думка: «Больш мы не зможам збірацца». Адзінае, што я здолеў, гэта прапанаваць сваім сябрам сесці.

У мяне ў пакоі стаялі вельмі зручныя мяккія фатэлі.

— Дык вы сапраўды вырашылі адрадзіць суполку «Тры глобусы» на нашай глебе? — збянтэжана спытаў я. — І ў гэтым выпадку нікога не выключаць з гімназіі?

— Не чакалі мы ад цябе такіх пытанняў! — абурыўся Ціхаміраў. — Не думалі, што ты будзеш супраць.

— Пачакайце, — занерваваўся я, — хіба я казаў, што супраць? Я толькі хацеў даведацца... Хто забараніў літаратурны гурток у гімназіі?

— Педагагічны савет і некаторыя члены бацькоўскага камітэта. Не сумняваюся, што адным з гэтых «некаторых» з'яўляецца мой бацька, — злосна прагаварыў Ціхаміраў.

А Максім ужо падрыхтаваўся да спрэчкі. Ягоны бацька сцвярджаў: «*Раздражняўся ён лёгка, але хутка адыходзіў. Спрачаўся з азартам, махаў кулакамі і прыціскаў іх да грудзей і, калі аргументы даваліся з цяжкасцю, усё мацней павышаў голас і нават упадаў у крыклівасць.*

*Больш за ўсё цікавіўся пытаннямі нацыянальнымі і літаратурнымі. Незласлівы і мяккі, летуценны, з пяшчотным, амаль жаночым сэрцам.*

*Ці трэба казаць, што меркаванняў ён прытрымліваўся прагрэсіўных і па перакананнях быў гуманістам чысцейшай вады? У школе быў добрым таварышам і нават прынцып таварыскасці лічыў асноўным прынцыпам этыкі.*

*Наогул, усе, хто блізка ведаў Максіма, ставіліся да яго з любоўю. Да вопраткі ён ставіўся абыякава, у ягоным пакоі звычайна панаваў непарадак*».

— Хіба мы не былі разам з табой ля става? — звяртаўся да мяне з выклікам Максім. — Хіба ты не чуў таго, што казаў настаўнік? Тайнае аб'яднанне — гэта шлях да дасканаласці, гэта магчымасць пераўзысці самога сябе і здзівіць усіх! Ты памятаеш: «Мы нікому не імкнуліся паведамляць пра нашыя заняткі. Мы паступова, але няўхільна мяняліся. Для ўсіх астатніх прычыны зменаў у нашых характарах заставаліся таямніцай!» Ты лічыш сябе дасканалым, ты не хочаш змяніць сябе і сваё асяроддзе? Тым больш, што нас пазбавілі магчымасці самаўдасканальвацца легальным чынам.

— Зразумей, — замахаў рукамі Ціхаміраў, — ёсць рэчы, пра якія нельга казаць адкрыта. Тайнае таварыства дае такія магчымасці...

Пры апошніх словах ён нават заплюшчыў вочы.

— Добра, — пагадзіўся я. — А дзе мы будзем збірацца? У каго-небудзь дома?

Я падумаў, што мая маці не мае нічога супраць таго, што да мяне ходзяць таварышы. Маглі б збірацца і ў мяне.

— Не! — адказалі змоўшчыкі.

— Ну, не ў піўной жа Данілыча?!

— Якая піўная!

— А што вы прапануеце?

— Пакуль нічога, — заявіў Ціхаміраў. — У любым выпадку наш яшчэ трэба пагаварыць з іншымі ўдзельнікамі нашай дэпутацыі.

— Як? Хіба для аднаўлення саюза «Тры глобусы» недастаткова трох чалавек?

«Збірае публіку, — падумаў я, — а тайная арганізацыя — гэта не тэатр!»

— Мала і нецікава. Трэба, каб з намі былі і Додзік з паралельнага класа, і Вася, і твой былы сусед па парце, — Ціхаміраў быў катэгарычны.

Кандыдатура А. мяне насцярожыла.

— Навошта ён нам? — абурыўся я.

— Хай будзе, можа, выправіцца...

Ціхаміраў нагадаў мне пра выхаваўчыя функцыі, якія мусіць несці тайная арганізацыя.

— Можна, мы на першы раз прывядзём усіх да цябе?

— Канечне, — усміхнуўся я, бо ведаў, што ўсё гэтым і скончыцца. — Ідзіце, склікайце народ. А я пачытаю.

Яны пайшлі, я разгарнуў сур'ёзную, падобную на падручнік кнігу на новым месцы і прачытаў:

*«Гісторыя літаратуры ўяўлялася назіральніку пустой, незанятай прасторай, дзе на больш-менш прыстойнай адлегласці рухаліся каласальныя постаці, рухаліся Шылеры, Шэкспіры... Адкуль браліся гэтыя твары, на якой глебе яны выраслі, гэта заставалася таямніцай».*

І сапраўды, — падумаў я, — адкуль бяруцца класікі? Можа, з тайных саюзаў? Гэтая думка падалася мне незвычайнай. Раптам мы пакладзём пачатак новай эры? Хай мы аб'яднаемся нават на кароткі тэрмін... Кароткачасовасць існавання — сам па сабе вельмі цікавы факт.

* * *

Мяне здзівіла тое, што ўдзельнікі дэпутацыі з'явіліся ўсе, але сутнасці справы не ведалі. З такім самым поспехам яны маглі сабрацца і без важкай прычыны. Толькі

я, Ціхаміраў і Максім ведалі: адбываецца ўстаноўчы сход, рашаецца лёс «Трох глобусаў». Галоўнае, каб наша ідэя была ўспрынятая.

— Мы сабраліся, — пачаў Максім, — каб абмеркаваць адну рэч...

— Зноў не задавальняюць гімназічныя парадкі? — перакрывіў твар А.

— А цябе задавальняе, што наш абсалютна бяскрыўдны літаратурны гурток забаранілі?!

Максім працягваў:

— Наш настаўнік быў стваральнікам тайнай літаратурнай суполкі «Тры глобусы». І пасля таго, як наш гурток забаранілі, мы палічылі магчымым адрадзіць дзейнасць тайнага таварыства на новай глебе, гэта значыць на нашай глебе.

— «Тры глобусы», — задуменна паўтарыў Дзіядор. — Хіба яны мелі дачыненне да геаграфіі ці астраноміі?

— Да астралогіі і алхіміі, — пажартаваў Вася.

— Яны мелі дачыненне да літаратуры, а значыць, і да астраноміі, і да астралогіі, да хіміі і алхіміі, да гісторыі і геаграфіі... Да ўсяго. Яны збіраліся тайна і чыталі вершы!

— Рэвалюцыйныя, а можа, эратычныя? — падазрона пакасіўся А.

— Відаць, розныя, — дапамог я Максіму стрымліваць націск недаверлівых, — мы не спыталі.

— У каго?

— Як у каго? — здзівіўся я ў сваю чаргу. — У настаўніка!

— Вы з ім гаварылі?!

— А чаму б не? Сустрэлі яго каля сабора Пятра і Паўла, падышлі і запыталіся. А ён нам адказаў, — я гаварыў вельмі ўпэўнена, бо ўжо забыўся на ўсе свае

страхі і сумненні. — Настаўнік расказаў, што яны збіраліся глыбокай ноччу, яны чыталі не толькі чужыя, але і свае ўласныя вершы. Яны спрачаліся, і з'яўляліся новыя ідэі. Яны пілі чару любую, але толькі да дна!

— Ды яны яшчэ і пілі?!

— Гэта алегорыя такая, — мяне ўзяла злосць на нуднага А. — Маецца на ўвазе чара жыцця. Яны вучыліся атрымліваць асалоду ад паэзіі, а пасля ад усяго жыцця. Яны шукалі свой шлях.

— І знайшлі!

— А ты ведаеш нашага настаўніка?

— А ты хочаш усё жыццё быць настаўнікам?

— Вы яшчэ не стварылі арганізацыю, — зарагатаў Вася, — а ўжо спрачаецеся. Думаеце, ад гэтага народзіцца новая ідэя? Дайце Максіму расказаць...

Зрэшты, ва ўсіх зададзеных пытаннях не было нічога дзіўнага. Калі прапануюць уступіць у тайную арганізацыю, трэба, прынамсі, ведаць яе мэты і задачы. Усе яшчэ добра памяталі той час, калі ў модзе былі выбухі, вынікі якіх былі самыя разнастайныя — ад смешных да трагічных з вялікай колькасцю ахвяр.

Я ведаў, што Максім сам быў нейкім чынам замешаны ў тэрарыстычным акце падобнага кшталту. Да таго ж Максім меў пэўны вопыт па стварэнні тайных арганізацыяў яшчэ з ніжагародскіх часоў. Некалі ён стварыў гурток анархістаў.

Вось што пісаў на гэты конт Адам Багдановіч у сваіх «Матэрыялах да біяграфіі Максіма Адамавіча Багдановіча».

*«У канцы 1905 года і ўвесь 1906 год амаль ніхто не вучыўся. Максім таксама. Я праглядаў усе звесткі педагагічнага савета за ўвесь час вучобы Максіма ў Ніжагародскай гімназіі.*

*Ужо ў 1904–1905 гадах, калі Максім вучыўся ў 3-м (асноўным класе), яму была пастаўлена чацвёрка па паводзінах за свавольства і непаслухмянасць. 11 кастрычніка ў гімназіі ўзніклі непарадкі з нагоды пахавання нейкай Каплан, у выніку 5–8-я класы былі закрытыя на няпэўны час.*

*Рэвалюцыя і маніфест 17 кастрычніка змянілі парадак — і гімназія зноў адчынена. Аднак 8 лістапада вучнем Закам Аронам у 7-м класе зноў учыненыя непарадкі, і заняткі ў гэтым класе часова спыненыя.*

*У снежні 1905 года прапанавана вучням сабрацца для абмеркавання сваіх патрэб. Створаны бацькоўскі камітэт, і яго старшыня ўведзены ў склад педагагічнага савета.*

*10 мая 1906 года вырашана вучня 4-га асноўнага класа Багдановіча Максіма пакінуць на паўторны курс (нездавальняючыя адзнакі па лацінскай мове, алгебры і французскай). Я патрабаваў допуску яго да экзамену ў жніўні. Да экзамену ён быў дапушчаны, але не вытрымаў выпрабаванняў па лацінскай мове і па алгебры.*

*Такім чынам, быў на 1906/07 год пакінуты ў 4-м класе на паўторны курс разам са сваім таварышам Дзмітрыем Крыловым.*

*20 кастрычніка 1906 года ў будынку гімназіі, каля драўлянай лесвіцы, адбыўся выбух. Выбухнула бляшанка з порахам. Разбітыя шыбы ў двух дамах. На шчасце, ніхто не пацярпеў. Заняткі ў гімназіі перапыніліся да абвяшчэння.*

*24 кастрычніка таго ж года быў атрыманы ананімны ліст: «Спадары выкладчыкі. Мы, хто ўзарваў, заяўляем, што петарды былі ўзарваныя ў знак пратэсту супраць рэакцыйных паводзінаў навучэнцаў, якія не пажадалі ўшанаваць памяць загінуўшых 18–19 кастрычніка 1905 года змагароў за свабоду».*

*У канцы — пагрозы, што ў выніку даносу тэрор паўторыцца ў больш шырокім памеры.*

*Вось пералік, па гімназічных аналах, падзей гімназічнай рэвалюцыі, якая, відавочна, да канца 1906 года зусім выдыхнулася, бо выбух дзвюх петардаў быў накіраваны «супраць рэакцыйных паводзінаў навучэнцаў».*

*Такім быў фінал, за якім наступіла поўнае супакаенне.*

*Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя гімназічня «буры ў шклянцы вады» адбываліся не без удзелу маіх дзяцей, якіх у той час у гімназіі было трое. Старэйшы з іх, Вадзім, быў цалкам захоплены рэвалюцыйным рухам. Мітынгі, сходкі ў гімназіі і па-за ёй — і ён прымаў у іх жывы ўдзелу якасці здольнага аратара. Ягоныя лаўры і Максіму спаць не давалі. Але ісці па слядах брата — гэта значыла ісці збітай сцежкай. Гэта значыла б пераймаць.*

*Ён хацеў быць арыгінальным і абвясціў сябе анархістам. Ён не толькі закінуў свае вучэбныя заняткі, але часткова закінуў сваю ўлюбёную беларусіку. На стале ў яго з'явіліся Бакунін, Прудон, Эльцбахер, Малатэста, Штырнер, Чаркезаў і інш.*

*Я, канечне, з усмешкаю глядзеў на гэтае маладое захапленне, сур'ёзнага значэння яму не надаваў, але і захапляцца не перашкаджаў.*

*У хуткім часе ён заснаваў у сваім класе (4-м) гурток юных анархістаў і нават хацеў, так бы мовіць, легалізаваць яго. Па гімназічнай канстытуцыі 1905 года права сходак мелі толькі 5–8-я класы, а ён і яго паплечнікі былі ў 4-м. Крыўдна, канечне, сядзець у класе, калі іншыя мітынгуюць. І якая розніца паміж 5 і 4-м? Чаму 5-му класу можна мітынгаваць, а 4-му нельга? Несправядлівасць яўная! Вырашана было дамагацца зменаў канстытуцыі ў сэнсе прадастаўлення права ўдзельнічаць у сходках 4-му класу.*

*Максім з’явіўся на сходку дэлегатам 4-га класа, залез на стол і горача даводзіў і ненатуральнасць падзелу на паўнапраўных і непаўнапраўных, і несправядлівасць яго па адносінах да іх, чацвёракласнікаў. Але быў бесцырымонна сцягнуты са стала і выпханы за дзверы.*

*Выбух 20 кастрычніка 1906 года не прайшоў безвынікова. Быў заўважаны ўцякаўшы з месца выбуху таварыш Максіма, вучань 4-га класа Дзмітры Крылоў, сын члена Кашынскага акруговага суда па Угліцкім павеце. У яго быў праведзены вобыск, знойдзены кампрамат — перапіска, паяльная трубка і інш. Ён быў арыштаваны, адбыўся суд, які прысудзіў яму 4 месяцы арышту. Гэтая справа закранула і Максіма. Ён патаварыску спрабаваў прыбраць з кватэры ўвесь кампрамат на таварыша і таму пабег да яго на кватэру пасля выбуху. Відавочна, усяго выбраць яму не ўдалося, бо тое-сёе было знойдзена пры вобыску. Але пра гэтае наведванне стала вядома ў гімназіі, і я быў выкліканы да дырэктара, каб прысутнічаць пры допыце Максіма.*

*Былі дырэктар Гардзееў, інспектар Пускоў і класны настаўнік. Трымаў сябе Максім, як і належыць анархісту, смела і даволі нахабна, спрачаўся, тэарэтызаваў і рэзанёрстваваў. Свой удзел у падрыхтоўцы выбуху адмаўляў і ўсяляк імкнуўся абяліць таварыша.*

*Памятаецца, што ў якасці абвінавачвання супраць яго выстаўлялася, што, апрача наведвання кватэры Крылова пасля выбуху, ён на наступны дзень, даведаўшыся пра арышт Крылова, прасіў дазволу ў выкладчыка Еме яго адпусціць з урока, каб заявіць судоваму следчаму, што Крылоў нявінна арыштаваны, бо ў дзень выбуху быў хворы і ляжаў у бальніцы. Хаця тон яго адказаў быў успрыняты як рэзкі і недапушчальны, але тлумачэнні яго былі прызнаныя здавальняючымі, і справа не выйшла за гімназічныя сцены».*

Анархісты прагнуць змяніць свет хаця б у межах гімназічных сцэнаў, а задача «Трох глобусаў» у тым, каб змяніць нас саміх. Змены павінны адбыцца не ў вонкавым свеце, а ва ўнутраным. Я ўжо зразумеў гэта і пранікся новай ідэяй, мне вельмі хацелася, каб усе астатнія пагадзіліся з намі.

Хлопцы сядзелі задумаўшыся.

— Не ведаю, — нарэшце сказаў удумлівы Дзіядор, — а навошта нам гэта трэба?

— Як навошта? — падскочыў Ціхамраў. — Бо жыццё не стаіць на месцы... Дні лятуць... Ты не заўважыш, як станеш старым і будзеш толькі чытаць маралі сваім дзецям і ўнукам. Табе не будзе нават чаго згадаць! Тваё жыццё пад канец будзе той жа чыстай дошкай, якой было напачатку. Ты выканаеш усё, што патрабуе ад цябе грамадства, і ціха сыдзеш у магілу... Я, напрыклад, нядаўна запытаўся ў свайго стрыечнага брата, які працуе ў банку: «Якія ў цябе перспектывы?» І ведаеце, што ён мне адказаў?

Ніхто не ведаў, што адказаў Ціхаміраву яго стрыечны брат.

— А ён мне сказаў: «Перспектывы? На службе — пенсія, у жыцці — магіла». Мой брат вельмі прыемны малады чалавек, яго ўсе любяць і паважаюць, але ж свае перспектывы ён ацэньвае так. І мае рацыю, бо ў жыцці кожнага чалавека павінна быць тайна!

Ціхамраў гаварыў вельмі ўпэўнена. Я, прызнаюся, нават западозрыў, што ён чытае нейкі тэатральны маналог. Ці мала іх? А Ціхамраў увесь час завучваў розныя ролі ды маналогі. Цяжка было разабраць, калі ён гаворыць сваімі словамі, а калі чужымі. Але сэнс ягонай прамовы быў на гэты раз вялікі, і я вырашыў падтрымаць Ціхамірава.

— Калі мы нічога не створым, нам не будзе нават пра што згадваць!

— Калі мы створым нешта такое, нас з ганьбаю выключаць з гімназіі! — з абурэннем сказаў А.

Тут ужо не стрываў Вася:

— Паслухай, — звярнуўся ён да А., — ты ўвесь час, колькі я цябе ведаю, імкнешся быць самым правільным. Так не бывае. Нельга быць правільным для ўсіх. Трэба выбіраць. Скажам, калі ты будзеш правільным для нашага шаноўнага дырэктара, то для мяне ты будзеш няправільным. І наадварот. Табе прыйдзецца выбіраць. І час выбару прыйшоў: ты можаш пайсці адсюль, а можаш застацца з намі. Ну што? Ідзеш?

Мяне крыху збянтэжыла тое, што Вася ў нейкім сэнсе гоніць чалавека з майго дома. Ці мае ён права?

— Ідзеш ці застаешся? — зноўку запытаўся Вася.

Я ўжо хацеў уступіцца, але А. усміхнуўся і сказаў:

— Застаюся, мне таксама цікава, я люблю літаратуру. Дарэчы, чытаю больш, чым вы ўсе... Каб толькі ніхто не ведаў...

І ў гэтым выпадку ён імкнуўся падкрэсліць сваю перавагу.

Але мы ў той момант не звярнулі на гэта ўвагі, мы былі ўсцешаныя тым, што ён застаўся з намі.

— Ніхто і не даведаецца, — так дружна суцяшалі мы яго.

— У нашай гімназіі плёткі распаўсюджваюцца з неверагоднай хуткасцю, — сумняваўся А.

— А хто іх распускае? — Вася вельмі часта задаваў пытанні, на якія ніхто не ведаў адказу.

Мне ніколі ў жыцці не прыходзіла ў галаву думка, што плёткі сыходзяць ад адной асобы. Мне чамусьці здавалася: яны ўзнікаюць самі сабою і разлятаюцца па сваіх асаблівых законах.

Але цяпер, на ўстаноўчым сходзе, думаць пра плёткі, якіх пакуль няма, не хацелася. І таму я вырашыў перавесці ўвагу Васі на іншы прадмет.

— Уяўляеш, якім поспехам ты будзеш карыстацца ў гімназістак!

Вася глянуў здзіўлена і глыбока ўздыхнуў.

— Я, па-твойму, буду кожнай тлумачыць, што з’яўляюся ўдзельнікам тайнага саюзу? А пасля вы будзеце казаць, што чуткі ўжо носяцца не толькі па гімназіі, а па ўсім горадзе...

Наша арганізацыя яшчэ не была сфармаваная, а мы ўжо гаварылі пра магчымую здраду!

— Наша задача — змяніць не свет, а саміх сябе, — сказаў Ціхаміраў. — Тады мы здолеем паглядзець на ўсё іншымі вачыма.

## *Глава 12. Пячора*

Усё гэта, канечне, уяўляла школьную тайну і праходзіла міма настаўніка.
Адам Багдановіч. Мае ўспаміны

— Я люблю вершы, — гаварыў мой былы сусед па парце А.,— я чытаю шмат вершаў, але не ведаю іх на памяць.

Не схільны да самастойных учынкаў А. зрабіў вельмі мужны крок — уступіў у тайную суполку. Цяпер у ягонай ад нараджэння паслухмянай душы адбывалася барацьба. Унутраная барацьба — страшная з'ява, яна выматвае душу і цела. Гэта змаганне з самім сабой. А як можна перамагчы самога сябе?

— Гэта ж не ўрок! — сказаў я яму. — Ніхто нікога не будзе прымушаць... Можа, ты думаеш, што там будуць выстаўляць адзнакі, і збіраешся завесці новы бальнік?

«Бальнікам» у нашы часы называлася тое, што пасля было перайменавана ў «дзённік». І гэтая назва, на мой погляд, больш адпавядала сутнасці прадмета, бо паходзіла ад слова «бал», а не ад слова «дзень». Дзённік падобны на каляндар, ён вядзе падлік жыццёвых дзён. А бальнік нагадвае аб тым, што мы ў любы момант можам атрымаць адзнаку...

— А дзе мы ўсё ж такі будзем збірацца?

Пытанне гэтае так і засталося нявырашаным.

— Я прапанаваў збірацца ў мяне, — нагадаў я. — Але мне патлумачылі, што гэта нецікава.

— Сапраўды, нецікава! — пацвердзіў Вася. — Што мы не бачылі ў цябе ў кватэры?

Я ў чарговы раз пакрыўдзіўся: што яны мелі супраць маёй кватэры, у якой маіх сяброў заўсёды сустракалі ветліва?

— А што ты прапануеш? — павярнуўся я да Васі.

— Я ведаю лепшае месца, — загаварыў Вася ўпэўненым голасам. — Цікавейшае.

Я пацiснуў плячыма.

— І што ж гэта за месца? Што ў ім цікавага?

— Сапраўднае патаемнае месца — пячора. Там мы зможам збірацца, і ніхто пра нас не даведаецца.

— Што за пячора?

— Я сам знайшоў яе... Там ніхто не бывае!

— А чаму ты так імкнешся да таго, каб пра нас ніхто нічога не даведаўся? — выступіў мой былы сусед па парце. — Мы не збіраемся рабіць нічога супрацьзаконнага — навошта хавацца? Чытаць вершы не забаронена... Пячора для паглыблення літаратурных ведаў — гэта нонсэнс. Мы не бамбісты, каб наводзіць канспірацыю.

— А чаму ты так хочаш, каб усе пра ўсё ведалі?! — узвіўся Вася. — Мы яшчэ самі не ведаем, чым будзем займацца ў нашай арганізацыі. Можа, не толькі чытаннем вершаў!

— Вось бачыш, — працягнуў А. — Калі гэтая арганізацыя будзе ў перспектыве ставіць перад сабою палітычныя мэты, то я ўсё ж адмаўляюся ад удзелу, нягледзячы на самыя добрыя пачуцці да ўсіх вас...

— Ты ж толькі што пагадзіўся, — спыніў яго Ціхаміраў, які быў так перакананы, што наш саюз мусіць мець і выхаваўчыя задачы. А мой былы сусед па парце меў патрэбу ў перавыхаванні, пра гэта ведалі ўсе ў класе.

А. зніякавеў.

— Я проста хачу дакладна ведаць, чым вы збіраецеся там займацца. А калі я не захачу чытаць вершы?

— Будзеш чытаць прозу, — супакоіў яго Ціхаміраў.

— А калі я не захачу чытаць прозу?!

— Распавядзеш які-небудзь выпадак з жыцця.

— А без гэтага можна?

— Можна і без гэтага. Будзеш сядзець, маўчаць і слухаць, што кажуць іншыя.

— Добра, паслухаю, — згадзіўся А., але ж выраз твару ў яго пры гэтым быў вельмі дзіўны.

Я зразумеў, пра якую пячору гаворыць Вася, і здзівіўся: чаму ён лічыць яе сваім адкрыццём і знаходкай? І я там быў, але мне нават у галаву не прыходзіла, што я тут першы і апошні. Зрэшты, я не памыляўся, — там быў Вася.

Пячора была ў высокім беразе Волгі. Я быў вельмі ўзрушаны, калі трапіў туды ўпершыню. Я не мог зразумець, як узнікла гэтая пячора. Было відавочна, што яна мела не прыроднае паходжанне. Яе стварылі людзі. Але навошта?

Пра пячору я распавёў сваёй маці. І яна патлумачыла, што мая знаходка, хутчэй за ўсё, з'явілася таму, што нехта здабываў гліну для гаспадарчых патрэбаў. А раптам не? Можа, прыхільнікі новага вучэння хацелі стварыць новы храм? Уяўляў жа я ў глыбі пячоры нішу з выявай кобры, якая ўзнялася на хвасце... Хаця адкуль у Яраслаўлі кобры? Хіба што ўцякуць з якой-небудзь прыватнай калекцыі заможнага заолага-аматара... А ці ёсць у нашым горадзе такія людзі, што ў стане трымаць у сябе змеяў? Тое, што ёсць у нас філія «Саюза Міхаіла Архангела», гэта было вядома. А ці былі ў каго кобры?

Пра пячору ведаў я, мая маці, як высветлілася, Вася, хто яшчэ? Бачыў я там і сляды ад вогнішча і нейкія транты — у пячоры маглі начаваць самыя страшныя і небяспечныя людзі, ім можа не спадабацца, што мы абралі гэтае месца для літаратурных сустрэч. Але свае сумненні і страхі я вырашыў пакінуць пры сабе. Зрэшты, дзе зацверджана права валацуг на валоданне

волжскай пячорай? Чаму яны маюць права там быць, а мы не?

Было вырашана сабрацца ў час змяркання ля ўвахода ў пячору. Дабірацца дзвюма групамі: адна пад Васевым кіраўніцтвам, другая пад маім, бо толькі мы ведалі шлях да пячоры.

— Пячора — гэта добра, — казаў Вася, — у пячорах людзі нараджаліся, жылі... У пячорах людзей хавалі...

— Нават Госпада нашага Ісуса Хрыста пахавалі ў пячоры, — дадаў А.

«І жыццё і смерць выходзілі з пячораў», — так падумаў я і супакоіўся.

* * *

Я яшчэ раз кажу: Максім стаў таямніцай для тых, хто спрабаваў разважаць наконт ягонага месца ў гісторыі і сусвеце.

Заўсёды дзіўлюся: як могуць людзі браць на сябе такую адказнасць, як вызначаюць месца асобы на зямлі? Адкуль у іх такая здольнасць, і ці ведаюць яны пры гэтым свае ўласныя мэты і месца? Тут жывеш і не ведаеш пра самога сябе нічога... Нічога не ведаеш, але жывеш толькі раз. Праўда, Дзіядор з Максімам любілі паразважаць пра перасяленне душ. Пасля Максім нават прысвяціў Дзіядору верш:

Быць можа, пуціна жыцця
Лягла пярсцёнкам, друг,
І я ў краіне забыцця
Не раз раджаўся, як дзіця,
Прайшоўшы поўны круг.

Быць можа, я не скончу жыць,
Бо ў ім няма канцоў.
Зноў шлях знаёмы пабяжыць,
І ўсё, што мозг здалеў забыць,
Перажыву я зноў.

Для нас ён застаўся тым, кім быў, — добрым сябрам. «*Я згадваў пра яго, пра Максіма Багдановіча, толькі як пра Максіма-гімназіста, з якім я некалькі гадоў вельмі сябраваў, і, крыху менш, студэнта. Ягоная праца і вялікае значэнне ў фарміраванні літаратурнай мовы і наогул у станаўленні культуры Беларусі былі па-за маёй увагай. Перада мною быў толькі той Максім, якога я ведаў. І я ніяк не чакаў той хвалі цеплыні, якая паднялася ўва мне і ўвесь час ахінала мае намаганні згадаць і перадаць, што і як я сустрэў і ўбачыў у Максіме тады і што я зразумеў у ім цяпер*». Так пісаў у 1957 годзе Дзіядор Дзябольскі.

Канечне, пасля кожнаму хацелася зразумець...

Адзін з першых даследчыкаў творчасці Максіма Багдановіча — прафесар Іван Замоцін пачынаў шукаць вытокі таленту ва ўражаннях ранняга дзяцінства. «*У агульным выніку ўражанні ранняга дзяцінства трэба лічыць спрыяльнымі як для выхавання сферы дзіцячых пачуццяў і ўяўлення, так і для першапачатковага разумовага развіцця. Здароўе хлопчыка ў гэтыя першыя шэсць гадоў не выклікала, як відаць, ніякай небяспекі. Ён нарадзіўся нармальным здаровым дзіцём і развіваўся ў нармальнага здаровага і жвавага хлопчыка. Але і гэтыя гады не абышліся без няўхільных дзіцячых катастроф*».

А «няўхільныя дзіцячыя катастрофы» былі ў свой час падрабязна апісаныя бацькам паэта. «*Двух месяцаў ад роду ён ужо перанёс наймацнейшы боль, які нанёс удар ягонаму маленькаму целу.*

*Маці выкупала яго і хацела пасыпаць, дзе належыць, дзіцячай прысыпкай.*

*— Пасвяці мне, — сказала яна сястры.*

*Тая падышла з лямпай у руках і стала за ёй. Цыліндрычнае шкло трэснула па тонкай шыйцы, рука дрогнула, і распалены цыліндр упаў на самы жывоцік. Жахлівы крык дзіцяці і маці.*

*Маці аслупянела ад жаху. Я, кінуўшыся на крык, схапіў шкло з цела. Уздуўся пухір велічынёю з далонь».*

Тое, што апісана — ужо гісторыя.

Да дзіцячых катастроф адносіць Адам Багдановіч і выпадак, які адбыўся ў Ніжнім Ноўгарадзе. Выпадак гэты, на маю думку, сведчыць пра тое, што пад мяккай і ў нечым жаноцкай прыродай паэта была схаваная бездань мужнасці і цярплівасці.

*«Хутка пасля прыезду ў Ніжні Ноўгарад у 1897 годзе з Максімам здарылася яшчэ адна дзіцячая катастрофа: ён адсек сабе зубамі кончык языка. Бегаў па свежанаваскаванай падлозе, па сваёй звычцы нешта спяваў, крычаў і смяяўся, паслізнуўся і, падаючы, грымнуўся барадою аб падлогу: кончык языка павіс на каёмцы збоку. Поўны рот крыві.*

*Я павёз яго да хірурга Міхалкіна. Той прамыў рот і стаў прышываць кончык.*

*— Высунь язык!*

*Паслухмяна высоўвае і цярпліва чакае, пакуль доктар зробіць шывок і завяжа. І так шывок за шыўком, і кончык быў прышыты да асновы. Ні гуку, ні стогну. Міхалкін быў здзіўлены такой трываласцю.*

*— Малайчына! — міжволі ўскрыкнуў ён. — Прывозьце праз тыдзень — швы зняць.*

*Прываджу праз тыдзень — чыста. Кончык прырос, а нітку ён з'еў».*

У каго з нас не было сваіх дзіцячых катастрофаў! Але трагедыі даводзілася перажываць не кожнаму. Не кожнаму давялося ў раннім дзяцінстве адчуць страх смерці.

Маленькі эпізод з дзяцінства Максіма. «*У ракавую раніцу 4 кастрычніка ён прачнуўся вельмі рана і празмерна разгуляўся. Беганіна, песні, смех, валтузня… А маці ўжо, відавочна, дажывае свае апошнія гадзіны.*

*— Доктара! — сказала яна мне.*

*Я бягу па доктара І. К. Сямакіна, які яе лячыў, але, выбягаючы, спыняю гэтую буйную весялосць — яна не гарманіравала з сумнай урачыстасцю моманту, — пасадзіў яго ў крэсла.*

*— Сядзі спакойна.*

*І ён увесь неяк самотна панікнуў, як бы асунуўся. Відаць, твар мой казаў аб чымсьці нядобрым.*

*Доктар быў ужо ў бальніцы, але, даведаўшыся, у чым справа, схапіў шпрыц і эфір, пабег за мною ўслед. Забеглі, запыхаўшыся…*

*— Іван Канстанцінавіч, гэта ўжо смерць?*

*— Супакойцеся, Марыя Апанасаўна, яшчэ будзеце жыць.*

*Але слёзы паліліся ў яго з вачэй і голас дрыжэў. Мне ён ціха сказаў:*

*— Агонія.*

*Яна зразумела ўсё.*

*— Святара, — сказала яна, і гэта было яе апошняе слова.*

*Я кінуўся па святара. Пакуль ён хадзіў у царкву па дары, пакуль мы прыйшлі — усё ўжо было скончана.*

*І вось, як цяпер, бачу схілёную постаць з сумным выразам дзіцячага твару, з запытальным позіркам… Маленькае падабенства маці. Ён увесь час паслухмяна сядзеў у крэсле. І нават смерці маці не бачыў.*

*Я спяшаўся скончыць з гэтай катастрофай, першай і найжахлівейшай у маім жыцці, — катастрофай, якая абумовіла сабою шэраг іншых катастрофаў...»*

Вось тут Адам Багдановіч мяне здзіўляе. Ён піша: «і нават смерці маці не бачыў». Навошта?

Адам Багдановіч разважаў пра страх смерці.

*«Эпікур даўным даўно абвясціў выратавальнае вучэнне, накіраванае супраць страху смерці. Ён казаў прыблізна так: да нараджэння нас не было, і мы ад гэтага зусім не пакутавалі; і пасля смерці нас не будзе, значыць, і пакутаваць мы не будзем. У такім разе — чаго страшыцца?*

*Але прайшлі стагоддзі — і праблема засталася адкрытай. У Шэкспіра Гамлет разважае наконт «быць ці не быць», «памерці — заснуць!» І раптам адумваецца: «А сненні?» Так, а сненні? Яны бываюць розныя, у тым ліку і кашмарныя? Вось так заснеш — і пасля кашмарнага жыцця пачнуць душыць кашмары смерці!*

*Ад кашмараў смерці можна было сябе застрахаваць. Такая страхоўка заключалася ў споведзі і ў веры ў выратавальнасць прычасця. І калі чаго баяліся, дык каб не памерці без пакаяння. Гэта здаралася рэдка, а калі здаралася, то, па-першае, спадзяваліся на Божую літасць; па-другое — на выратавальнасць царкоўнага пахавання і пасмяротнага адпушчэння грахоў, малітваў за памерлых і іншае; і па-трэцяе — з'яўлялася ў шматлікіх выпадках меркаванне: «На гэтым свеце свае грахі адпакутавала». А гэта вельмі шмат хто мог пра сябе сказаць.*

*Смерць, калі хочаце, культывавалі і задоўга да яе рыхтаваліся. У бабулі Рузалі доўга на маёй памяці захоўвалася «кашуля на смерць» — як належыць, «кашулька да долу», з тонкага кужалю, сваімі рукамі выпрадзеная і вытканая, — беленькая, чысценькая,*

*старэнькая, але яшчэ цэленькая, ахайна скручаная ў трубачку; разам з ёй у скрыні захоўвалася намётка на галаву; і тут жа — пакрывала; грамнічная свечка, з якой канаюць, — заўсёды каля абразоў; хадачкі і панчошкі тут жа ляжалі... А больш нічога і не трэба: «добрыя людзі зробяць вечны дом (дамавіну) — без дзвярэй, без акон, без сонца».*

*Беднякі збіралі і дзясяткамі (пятакамі) два злотых, палціну, ці рублёўку, а то і больш — на пазвон, на хаўтуры, на памін душы, на псалтыр.*

*Бабулька Рузаля, як і ўсе іншыя бабулі, загадзя клапацілася, каб памерці прыстойна і быць пахаванай як належыць, на аблюбаваным месцы, побач з дзедам Тамашом, прабабкай Хрысцінай і іншай раднёй, на самым версе могілкавага пагорка пад разлапістымі бярозамі, якія яе ж рукамі былі пасаджаныя над магіламі блізкіх.*

*І калі я стаў граматнікам і выпрошваў у бабулі тры капейкі на аловак, а я не раз іх выпрошваў, то яна выцягвала траяка з запаветнай торбачкі на смерць, але, даючы, казала: «Глядзі ж, мой унучак, як памру, каб ты па мне псалтыр чытаў...»*

*Такі быў запавет, такая была ўмова. Але я яго не выканаў, бо жыў у Мінску ў кандытарскай вывучцы падчас смерці бабулі. І калі б быў на месцы, у Халопенічах, то наўрад ці здолеў бы выканаць гэты запавет. Быў падобны выпадак, і я выявіў сваю поўную непрыгоднасць.*

*Цётка Марыля на некалькі гадоў апярэдзіла бабулю. І бабуля і маці загадалі мне чытаць псалтыр над нябожчыцай. З цяжкім сэрцам я схадзіў да дзяка Насовіча і пазычыў важкую кнігу ў пачарнелай цялячай скуры, з меднымі зашпількамі і закапанай воскам у сярэдзіне: шмат каго праводзіла яна «на той свет».*

*Але, прыйшоўшы ў бабіну хату і зірнуўшы на гэты жоўты, васковы лік з уздутымі гландамі, падвязаны хусткаю пад падбародак, з перакрыжаванымі на грудзях худымі рукамі, я ўскрыкнуў не сваім голасам ад невыноснага болю ў грудзях, заліўся горкімі слязамі і, кінуўшы псалтыр, пабег у лес. Там я сядзеў, плачучы, і заставаўся да позняга вечара. І вечарам я пайшоў дамоў «у сваю хату» і нават пахавання цёткі не бачыў.*

*Я тут упершыню адчуў усёй сваёй істотай, а значыць, і зразумеў, што такое смерць.*

*Я бачыў мёртвых і да таго. Яшчэ дзіцёнкам, якога павязвалі, як дзяўчынку, хусткаю, мяне вадзілі на хаўтуры бабулькі Прузыны, дальняй сваячкі. Нябожчыца мела амаль той жа выгляд, што і цётка Марыля, — уся ў белым, выцягнутая ў струнку, бледны, зморшчаны твар, толькі ўказальныя пальцы на руках былі перавязаныя для нечага чырвонай ваўнянай ніткай, відаць, каб скарчанелыя рукі ляжалі на грудзях як належыць, а не разыходзіліся.*

*Гэта было проста дзіўнае і цікавае відовішча.*

*Я бачыў трупік Антона, майго стрыечнага брата, з пабялелым завостраным носікам і ў белых панчошках. Мне было цяжка на душы, але ад таго, што цётка Марыля, ломячы рукі, моцна ўбівалася.*

*Бачыў я ўсю ў кветках, з пачарнелым, як галавешка, тварыкам, сваю палутарагадавалую сястрыцу Вольку. Тут я плакаў, бо ўсе плакалі. Але, відаць, я яшчэ не разумеў усёй парадаксальнасці смерці, вострай супярэчнасці з жыццём, якое ўва мне, — не разумеў незваротнасці страты і сваёй асуджанасці.*

*Усе халодныя слоўныя формулы несвядома зліліся ў адзіны крык душы, падобны на той, якім нешчаслівая цётка Марыля крычала ў сне, палохаючы мяне да халоднага поту.*

*З тых часоў я пазбягаю бачыць мёртвых і прысутнічаю на пахаваннях блізкіх толькі па неабходнасці. І мне заўсёды хацелася б збегчы ў лес. Я гэта рабіў толькі пасля пахаванняў. А колькі іх было!*»

Так пісаў пра страх смерці Адам Багдановіч. Не толькі Максім «смерці маці не бачыў», але ж і ягоны бацька «пабег па святара». Ці не было гэта тымі самымі ўцёкамі ў лес? Але ж тут я Адаму Багдановічу не суддзя — яму давялося перажыць дзвюх жонак і восем дзяцей, не кажучы ўжо пра ўсіх астатніх: маці, бацьку, сёстраў, брата... Я сам вельмі баюся нябожчыкаў. Баюся смерці. І хаця ведаю, што абавязкова памру — не магу ўявіць, як гэта будзе адбывацца. Ці будзе хто побач?

А вось як суцяшаў Адама Багдановіча ў 1934 годзе аўтар першай гісторыі Беларусі Вацлаў Ластоўскі: «*Не, Адам Ягоравіч, 72 гады — не крайні ўзрост. Статыстыка нас вучыць, што нармальны чалавечы ўзрост 100–120 гадоў. У цяперашні час жывуць асобныя індывідуумы, якія маюць 160 гадоў. Ва ўзросце 100–120 гадоў шмат хто яшчэ звязваў сябе вузамі Гіменея і былі шчаслівымі бацькамі здаровых нашчадкаў. Падчас маіх экспедыцыяў на Палессе, у вёску Азарычы Мазырскага раёна, асабіста я бачыў працаздольнага селяніна, якому было 120 гадоў. Пабраўся шлюбам ён каля 1920 года з маладою ўдавою. Значыць, у параўнанні са статыстычнаю нормаю, мы з Вамі яшчэ толькі што не юнакі, а прынамсі людзі сталага ўзросту і розуму. Толькі цяпер і прыйшоў час працаваць.*

*Калі аднойчы спыталі 130-гадовага абывацеля Валенсіі, ці думае ён пра смерць, апошні здзівіўся: «А навошта мне думаць? Ніколі ў жыцці не думаў пра смерць, а толькі пра жыццё». І ён сваім адказам адкрыў сакрэт свайго даўгалецця. Трэба заўсёды думаць пра жыц-*

*цё. Той, хто думае пра смерць, сам забівае сябе, прыносячы ў сваю свядомасць атрутнае яе насенне і насычае яго сваімі змрочнымі думкамі, якія робяцца яе сілкавальнай базай.*

*Прэч змрочныя думкі пра смерць! Вышэй сцяг нашых пакаленняў, якія здольныя ствараць і змагацца за сваё прыгожае жыццё».*

Як ніхто іншы, Максім Багдановіч разумеў, што «зварушыць» дух і захаваць яго здолее толькі творчасць. Асоба жыве і развіваецца толькі тады, калі вядзе дыялог з усімі лепшымі творамі сусветнай культуры.

Часткай гэтага вялікага дыялогу быў і зварот паэта да класічных формаў верша, якія ў часы цяжкіх прадчуванняў былі для яго ўвасабленнем гармоніі і супрацьстаяння смерці.

## *Глава 13. Змрок*

Калі можаш, знайдзі падставу новай і дзіўнай з'явы. Калі не знойдзеш, усё ж лічы даказаным, што нішто не магло адбыцца беспадстаўна.

Цыцэрон

Кожнае імгненне непаўторнае, але можа стаць вечным. Як? Для гэтага патрэбны чалавек, які здолее перадаць непаўторнасць моманту. Такі чалавек можа «ствараць і змагацца за сваё прыгожае жыццё».

* * *

Прыйшоў вечар, а разам з ім і час кіравацца на бераг ракі да пячоры. Трэба сказаць, што я заўсёды любіў восень і не любіў вясну. Вясной я пачуваўся надзвычай знясіленым, а калі дрэвы пачыналі налівацца сокам, то мне здавалася, што яны цягнуць гэтыя сокі з мяне. Калі на дрэвах з'яўлялася лісце, мне рабілася яшчэ горш. Мне не падабалася, што трава расце. Спакойна я адчуваў сябе толькі тады, калі ўсё ўжо вырастала, а добра — у час адцвітання. Канец лета і пачатак восені былі для мяне найлепшым часам.

Да сустрэчы ў пячоры я рыхтаваўся.

Па-першае, я ўзяў з сабою сярнічкі і свечку; па-другое, я падрыхтаваў невялікую пасцілку, каб сядзець; па-трэцяе, захапіў мяшэчак з печывам, каб грызці па дарозе ці ў самой пячоры. Я ведаў, што на свежым паветры заўсёды хочацца есці, нават пры самых рызыкоўных забавах. А самае галоўнае — я ўзяў з сабою

кнігу нашага настаўніка. Хаця і была «Гісторыя і паэзія» падобная на падручнік, я ўсё ж збіраўся скарыстаць яе як асноўную крыніцу мудрасці.

Я мог бы, напрыклад, зачытаць сваім сябрам: *«Уявіце сабе, што вы пераносіцеся прыблізна за дзесяць стагоддзяў да дантаўскага часу, што вы жывяце ў канцы антычнага свету і на пачатку сярэднявечча. Вы чуеце легенды, часам вельмі грацыёзнага зместу, якія ходзяць навокал. У гэтых легендах няма нічога змрочнага, няма ў іх тых жахлівых сцэнаў, якія сустракаюцца ў дантаўскім «Пекле»: ні вугальных змрочных лясоў, ні гарпій, ні студняў з агнём, ні ледзяных палёў, ні змеяў, — нічога вы не знойдзеце ў пачутых аповедах.*

*Наадварот, ад усяго тут вее радасцю, усё светла. Ва ўяўленні чалавека ў гэтых першых хрысціянскіх легендах паўстаюць не змрочныя пякельныя пакуты, а прывабныя карціны райскай асалоды. Вы чуеце, вам распавядаюць пра святога Сатура: чатыры анёлы бяруць яго на неба; там светлыя райскія сады, там трон Усёмагутнага, а вакол яго анёлы бесперапынна спяваюць: «Святы! Святы! Святы!» Бог праводзіць рукою па твары Сатура, цалуе яго, пасля чаго святы сыходзіць з неба.*

*Вы чуеце часам аповед пра святую Перпетую, як яна бачыць падчас таямнічага падарожжа свайго сямігадовага брата, як дзіця хоча піць, але не можа дастаць вады.*

*Вы чуеце, распавядаюць вам пра святую Хрысціну: яна падарожнічае па замагільным свеце; Бог дазваляе ёй выбраць адно з двух: ці ісці на зямлю, ці застацца ў раі; святая выбірае першае. Вы здзіўлена слухаеце гэты аповед, у якім зямля перамагае рай.*

*Далей распавядаюць вам пра падарожжа трох манахаў у замагільны свет, туды, дзе неба сыходзіцца з зямлёю. Вы слухаеце і здзіўляецеся фантазіі манахаў, якія здолелі ўявіць грэшнікаў у выглядзе птушак: сядзяць яны на смакоўніцы і крычаць чалавечымі галасамі: «Госпадзі, будзь літасцівы! Госпадзі, будзь літасцівы!»*»

Фрагмент з кнігі настаўніка. Я, дарэчы, не ведаў, ці чытаў хто-небудзь з нашага класа кнігу Мізінава.

* * *

Змрок — гэта яшчэ не цемра, ён захоўвае рэшткі прывіднага святла. Перад вачыма ўсё расплываецца, і міжволі прыспешваеш крок. А маладое і дробнае травеньскае лісце дадае змроку светла-зялёнае адценне. Вясновая свежасць зеленкаватага змроку хвалюе і насцярожвае.

Калі выйшаў на бульвар, у маладой лістоце запаліліся ліхтары, і іх слабое святло ператварыла знаёмыя мясціны ў дэкарацыі для казачнай п’есы з нечаканым фіналам.

У Максіма Багдановіча ёсць такі верш:

Ужо позна. Мрок вясенняй ночы
На вузкіх вуліцах ляжыць.
А мне — вясёла. Блішчаць вочы,
І кроў ад шчасця аж кіпіць.

Іду я радасны, харошы,
Знікае з сэрца пустата...
А пад рызінавай калошай
Ціхутка хлюпае слата.

Верш гэты называецца «Першая любоў». Менавіта так: не «каханне», а «любоў». Два розныя словы. Любоў — гэта калі «знікае з сэрца пустата». А каханне можа прынесці спустошанасць.

Я ішоў на сустрэчу з сябрамі, і пачуцці напаўнялі мяне, у сэрцы не было пустэчы. Напэўна, гэта была любоў... Любоў да сяброў, да новай незвычайнай справы, якую мы задумалі, і да самога сябе. Не буду хаваць: я сам сабе падабаўся па дарозе на тайную сходку. Я адчуў сябе канспіратарам, і з сэрца знікла пустата.

На набярэжнай я ўжо здалёк убачыў Ціхамірава са сваім былым суседам па парце. Заўсёды быў перакананы, што А. — чалавек ненадзейны, але маё сэрца было настолькі напоўнена любоўю да навакольнага асяроддзя і людзей, што нават панурая постаць выдатніка не выклікала ў мяне дрэнных думак.

А. стаяў апусціўшы рукі, у той час як Ціхамiраў махаў рукамі, як вятрак. Гэтая пара вельмі вылучалася з вясновага натоўпу на набярэжнай. Канспіратары заўсёды звяртаюць на сябе ўвагу. Шпацыруючы, аглядаючы знаёмых і незнаёмых, дыхаючы рачной свежасцю, яраслаўцы пасспяхова марнавалі час. А сярод натоўпу, які рухаўся павольна, але няспынна, стаялі два гімназісты і спрачаліся. Яны прыйшлі на набярэжную не для таго, каб змарнаваць час, яны мелі мэту, таму выглядалі заклапочанымі і спрачаліся.

Але аб чым маглі спрачацца навучэнцы казённай гімназіі ў час змяркання на беразе вялікай ракі?

Маё з'яўленне перапыніла спрэчку.

— Ну што, павядзеш нас? — з незразумелымі інтанацыямі запытаў А.

— Павяду, калі пойдзеце...

Прызнаюся шчыра — мяне здзівіў такі падыход. Кажуць, калі стаіць пытанне «ісці ці не ісці», лепей не ісці.

Але ж мы ўжо вырашылі ісці... І тут раптам пытанні?! Настрой мой змяніўся ад такога пачатку. Куды падзелася тая любоў, якая толькі што перапаўняла да краёў маё сэрца?

— Вядзі! — сказаў Ціхаміраў. Але нават ягоная рашучасць не вярнула таго стану душы, з якім я спяшаўся на сустрэчу.

— Хадземце! — змрочна кінуў я.

І мы пайшлі.
Праз дымчаты крышталь празрыста-цёмнай ночы
Ідушчых міма нас людзей зіяюць вочы;
У цемні к нам плывуць рубіны папяросаў,
Ліхтарні блеск адкрыў на ліпе россып росаў...
Ах, колькі ёсць красы цудоўнай поруч з намі,
Калі глядзець вакол дзіцячымі вачамі!

Мяне цешыла тое, што толькі мне вядомы шлях да пячоры. Без мяне ні Ціхаміраў, ні А. не змогуць туды трапіць. Мне падабалася, што ніхто, апрача нас, не ведаў, куды мы кіруемся. Хаця апошняя думка выклікала ў мяне падазрэнні. А раптам не? Можа, нехта данёс і за намі сочаць? А хто мог данесці? Я агледзеў сваіх спадарожнікаў. Хто мог данесці? І галоўнае — навошта? Слова «навошта» перакрыла дарогу падазрэнням. «Мы ж нічога яшчэ не зрабілі!» — падумаў я. «Але збіраецеся», — прагучала ў адказ. Ці быў гэта голас маёй душы?

Усё менш аматараў шпацыру на свежым паветры сустракалася нам па дарозе. Набярэжная скончылася.

* * *

Імкненне да ўсяго таямнічага і забароненага — у самой прыродзе чалавека, яно ратуе людзей ад безнадзейнасці і безвыходнасці. Той, хто шукае выйсце, знаходзіць таямніцу.

Цяпер я ведаю, што маці Максіма выхоўвала сваіх дзяцей па сістэме моднага ў XIX стагоддзі аўстрыйскага педагога Фрыдрыха Фрэбеля. Гэтая сістэма выхавання была накіраваная на самараскрыццё закладзеных у дзіцяці талентаў. Аўстрыйскі педагог сцвярджаў, што бацькі не могуць і не маюць права вызначаць будучае прызванне сваіх дзяцей. Прызванне схаванае ў самой прыродзе дзіцяці.

Адам Багдановіч так апісваў жыццё ў Гародні: «*Умовы для выхавання дзяцей былі спрыяльныя: садзік у дворыку, навокал сады, палі, недалёка лес, ды і Нёман недалёка. Дзеці ўвесь час на ціхім паветры, клімат мяккі. Увесь вольны час я ахвяраваў дзецям, каб аблегчыць цяжар маці, у якой праз два гады пасля Максіма з'явілася новае дзіця — сын Лёва. Я часта браў іх на шпацыр і ў поле, і ў лес, і на Нёман, цягаў Максіма, як меншага, за плячамі. Апрача мяне, маці нікому дзяцей не давярала, а дома пры іх знаходзілася неадступна. У госці хадзіла надзвычай рэдка, бо і аднойгадзіны не магла правесці з імі ў расстанні: жывое ўяўленне малявала ёй розныя жахі.*

*Яна была педагогам па адукацыі і спрабавала ўжыць у адносінах да іх фрэбелеўскую сістэму для выхавання пачуццяў: шарыкі каляровай воўны і драўляныя матляліся над дзіцячым ложкам, кубікі і інш. Набываліся для іх розныя «разумныя цацкі», але ўсё гэта хутка надакучала дзецям і закідвалася, а шарыкі матляліся, зусім не прыцягваючы ўвагі дзіцяці, якое*

*патрабавала, каб яго абавязкова ўзялі на рукі, займаліся выключна ім і часта мянялі ўражанні.*

*Хутка гэтыя нямецкія штучкі закідваліся, але маці сама была невычэрпнай у вынаходніцтве усялякіх гульняў і забаваў для дзяцей і сама аддавалася ім з непадробным захапленнем. Вяртаючыся са службы, я ўжо чуў у двары, у садзе альбо ў пакоі вясёлы дзіцячы смех, валтузню, беганіну. Асабліва смяшлівым, з хуткімі, зрэшты, пераходамі да плачу, быў Максім. Хутка плаксівасць прайшла, а смяшлівасць захавалася да юнацтва».*

Выхаванне і развіццё павінны адпавядаць дзіцячай прыродзе і характару. Выхавацель не мусіць прапаноўваць яму тое ці іншае прызванне. Дзіця з першых дзён пачынае кіравацца сваім прызваннем, якое ўказвае яму сэрца і душа. Ён не выбірае свой лёс, кіруючыся знешнімі меркаваннямі, — па патрабаванні этыкету, дзеля грошай і розных выгодаў. Затое ў выніку ён не адчуе той трагедыі, да якой вядзе прымус з боку бацькоў альбо вонкавых абставінаў у выбары прызвання. А таму, я думаю, бацькі Максіма не збіраліся нішчыць у сваіх дзецях імкненне да ўсяго таемнага. Так і выраслі яны — кожны са сваім прызваннем, кожны са сваімі тайнамі. Хаця Максім сам па сабе — тайна, якую не разгадаць нават тым, хто быў з ім побач, хто ішоў з ім па адным шляху.

Наш аднакласнік Годнеў пісаў: *«Я цікавіўся прыродазнаўчымі навукамі, а Максім — гуманітарнымі. Але, нягледзячы на гэта, мы сябравалі. Ідучы з гімназіі, мы часта гулялі па вуліцах і гутарылі на розныя тэмы.*

*Але больш шчыльнае сяброўства звязвала мяне з малодшым братам Максіма — Лёвам, які вучыўся на адзін клас ніжэй за нас з Максімам. З Лёвам збліжалі нас цікавасць да дакладных навук і любоў да вод-*

*нага спорту. У Лёвы не было такой мэтаімкнёнасці, як у Максіма. Таварыскі, жывы, заўзяты весялун, ён быў усеагульным любімцам. У яго былі выключныя здольнасці да матэматычных навук. Задачы, якія з вялікай цяжкасцю рашалі самыя лепшыя вучні, ён заўсёды рашаў жартуючы. Выкладчыкі дакладных навук прарочылі яму вялікую будычыню.*

*Лёва сябраваў і са мной, і з маімі братамі Сяргеем і Дзмітрыем. У нас была шасцівёславая лодка, і мы часта ўчатырох рабілі цікавыя падарожжы па Волзе.*

*Часам выдумлялі свавольныя жарты. Увечары, калі з Яраслаўля ўверх па цячэнні адпраўляўся параход таварыства «Па Волзе», двое з нас забіраліся на сярэдзіну палубы, а двое, адплыўшы ўверх па цячэнні, чакалі параход у лодцы. Калі той набліжаўся да лодкі, хлопцы, што былі на палубе, скакалі ў ваду.*

*Аднойчы ў мясцовай газеце з'явілася нататка «Дзіўны выпадак». У нататцы паведамлялася, што позна ўвечары з парахода кінуліся ў Волгу два чалавекі (відаць, зладзеі), іх падабрала лодка, якая хутка знікла. Гэтая нататка прымусіла нас спыніць рызыкоўныя жарты».*

Нашу задуму з утварэннем «Трох глобусаў» з самага пачатку можна было смела заносіць у катэгорыю «рызыкоўных жартаў». Але пасля ідэя саюза пераўзышла сама сябе.

* * *

*«Сапраўды, нічога асабліва новага ў творы Вясны не было: пад блакіццю небасхілу на дне балкаў брудна-снегавыя плямы, у далі сіняватая істужка туману, збоку бурая ад конскага гною пуцявіна, — а ўсё іншае*

*заліта бледнавата-зялёнай фарбай. Кожны з нас у дзіцячыя гады шмат бачыў такіх мілых, бясхітрасных малюнкаў».*

Мы моўчкі ішлі па вільготнай зямлі. Дзіўна мне было глядзець на Волгу, якая яшчэ не ўвайшла пасля разліву ў свае берагі, — не верылася, што пройдзе зусім мала часу, і мы будзем купацца. Вада была цёмная, плынь хуткая. Ад адной думкі пра тэмпературу вады мяне перасмыкнула.

— А ты мог бы зараз выкупацца? — былому суседу па парце нейкім чынам удалося прачытаць мае думкі.

— Навошта?

— Напрыклад... — А. задумаўся, — каб выпрабаваць сябе?

— Дзіўнае выпрабаванне. Ты чуў калі-небудзь, што ў халоднай вадзе можа спыніцца сэрца?

— Не ва ўсіх спыняецца, — А. быў настойлівы. — А за грошы ты палез бы ў ваду?

— Не палез бы!

— А каб табе прапанавалі шмат грошай?!

— Паглядзі на яго, — абурыўся Ціхаміраў, — ён усё мерае на грошы. Сказалі яму: можна памерці ад такога купання. А ён сваё: «А за грошы?» Як так можна?! Пакуль стаялі на набярэжнай, ён даводзіў мне, што наш тэатр «не можа ставіць» п’есу Кальдэрона. Што значыць «не можа»?!

— Я не сказаў «не можа», — пaспяшаўся выправіць яго А., — я сказаў, што правінцыйны тэатр мусіць абмежавацца класічным рэпертуарам.

— Дык ты лічыш наш тэатр правінцыйным?

— А ты сталічным? Усё, што не сталіца — правінцыя.

— А хто тады мы?

— А ты што, не ведаеш, як называюць жыхароў правінцыі?

— Ды з яраслаўскай акцёрскай трупы, створанай Волкавым, быў створаны першы ў Расійскай імперыі прафесійны тэатр! — знайшоў новы аргумент Ціхаміраў.

— І дзе быў створаны першы прафесійны тэатр? — паблажліва ўсміхнуўся А.

— У Пецярбургу...

— Вось бачыш, у сталіцы! Таму кожная п'еса мусіць быць паказана спачатку на сталічнай сцэне...

— Чаму? — Ціхаміраў быў збянтэжаны логікай А., але працягваў даводзіць сваё. — Пераклад п'есы Кальдэрона «Жыццё ёсць сон» зроблены Канстанцінам Бальмонтам ужо ў 1902 годзе. Раз пераклад ёсць, то п'есу можна ставіць.

У той час я яшчэ не мог ведаць, што некаторыя гісторыкі мастацтва адзначаюць такі характэрны эфект, як эфект аддаленасці. Сутнасць яго палягае на тым, што найбольш вартыя і каштоўныя творы ўзнікаюць на палітычнай і літаратурнай перыферыі, далей ад палітычнага і літаратурнага цэнтра, які высмоктвае з творцаў усю энергію.

— Пачакайце, — сказаў я, — аб чым вы гаворыце? Хіба ў нашым тэатры рыхтуецца да пастаноўкі гэтая п'еса?

— Нешта накшталт таго, — няпэўна адказаў Ціхаміраў. Я зразумеў, што яму ўжо не хочацца гаварыць на гэтую тэму пры А.

— Ужо амаль усе дрэвы распусціліся, акрамя акацыі! — гэта я вырашыў свецкай заўвагай перапыніць спрэчку, якая пагражала перайсці ў сварку. Чаму свецкай? — можаце пацікавіцца вы. А якой яшчэ? Прыродазнаўчай? Не, толькі свецкай. Я ведаў: выхаваныя людзі прынцыпова не павінны закранаць непрыемных тэмаў, а размовы пра надвор'е, кветкі, дрэвы і навакольныя краявіды прыносяць спакой.

— Паглядзіце, якое ўсё зялёнае, — сказаў я.

— Гэта добра, — адказаў Ціхаміраў, — лягчэй схавацца...

Высокі бераг быў парэзаны ярамі і выступамі, зямля пакрыху спаўзала ўніз да вады. «Можа, пячора абвалілася, можа, там, куды мы ідзём, нас чакае толькі гліняны насып? — я нават здзівіўся, чаму такая думка не прыходзіла да мяне раней. — І што мы тады будзем рабіць?»

Я прыспешыў крокі. І вось ужо пячора перад намі. Вясновая вада не прынесла ёй шкоды, яна захавалася ў знаёмым мне выглядзе. Ля ўвахода ў пячору нас чакалі сябры. Яны дабраліся да месца хутчэй за нас, відаць, не спрачаліся па дарозе.

— А я ўжо баяўся, што наша пячора абвалілася, — замест прывітання сказаў Вася.

— Я таксама гэтага баяўся! — адказаў я.

— А яна засталася цэлая, — прамовілі за маёй спінай, і я не зразумеў, чый гэта быў голас.

Пячора чакала нас.

## *Глава 14. Улада над душамі*

> Нішто не можа адбыцца без падставы, і нічога не адбываецца такога, чаго не можа здарыцца. А калі адбылося тое, што магло адбыцца, у гэтым не варта бачыць дзіва.
>
> Цыцэрон

— Я хацеў бы пачаць наша першае паседжанне наступнымі словамі, — прамовіў Максім. — «*Ёсць адна толькі праўда жыцця, і яе я шаную; вось што кажа яна: калі хочаш праўдзіва ты жыць, дык пей чару любую, але толькі да дна*». Мы ўсе далучаемся да гэтых слоў?

Пытанне было нечаканым. Усе пераглянуліся, але нічога не адказалі.

— Далучаемся! — адказаў за ўсіх Ціхаміраў. — Толькі ты не чытай з такімі інтанацыямі, а то мне, напрыклад, здаецца, што мы не выходзілі з гімназіі.

— А як я чытаю?

— З лёгкім падвывам... Ты не крыўдуеш на мяне?

— Здаецца, не, — засмяяўся Максім. — Я паспрабую чытаць далей без падвыву.

Максім узяў у рукі кнігу ў плямістым пераплёце — чырвоны колер на вокладцы перамяшаўся з залацістым. Максім прынёс кнігу! Не адзін я рыхтаваўся да сустрэчы грунтоўна. Але свечкі здагадаўся захапіць з сабою толькі я. А без іх нам не было б чаго тут рабіць, бо змрок на вуліцы гусцеў з кожнай хвілінай, а ў пячоры панавала сапраўдная цемра.

«*У адной зале Лонданскай нацыянальнай галерэі жывапісу,* — чытаў Максім, — *сярод змешчаных у ёй твораў канца першай і пачатку другой паловы міну-*

*лага стагоддзя нельга не звярнуць увагу на карціну вялікіх памераў з выявай стракатага відовішча народнага гульбішча: сіметрычныя гурты юнакоў, дзяцей, маладых дзяўчат, пышных дам і святочна апранутых сялянаў рухаюцца па алеях, тоўпяцца ля экіпажаў, у якіх сядзяць шыкоўна прыбраныя дамы, збіраюцца вакол прадаўцоў кветак і прысмакаў і імкнуцца ўсімі сіламі давесці, што ім весела. Твары ўсіх усміхаюцца на адзін лад. Выраз аднаго і таго, без адценняў і градацый, задавальнення ляжыць на ўсіх тварах. Яшчэ ўражвае гледача адсутнасць усялякай ідэйнай асновы ў карціне, адсутнасць агульнага замыслу. Што ўяўляе сабою гэты выпадковы натоўп? Які ягоны настрой? Што адчуваў мастак, групуючы на палатне шэрэг мадэляў, апранутых па модзе свайго часу? Ніякага адказу на гэтыя пытанні карціна не дае, таму што мастак, відавочна, не задаваў сабе ніякіх псіхалагічных пытанняў.*

*Надпіс пад карцінай (Derbi Day) тлумачыць, што на карціне — дзень скачак у Дэрбі, якіх хвалюе ўсё насельніцтва Англіі. А на яркім і стракатым каларыце ўсёй карціны ляжыць упэўненасць мастака ў сваім поспеху, у тым, што ён здолеў задаволіць эстэтычныя патрабаванні сваіх сучаснікаў.*

*У той жа зале, бліжэй да выхаду, вісіць на асобным экране другая карціна, міма якой наўрад ці пройдзе самы павярхоўны назіральнік. На ёй — постаць маладой жанчыны ў паўманаскім адзенні сярэднявечнага крою, які спалучае простыя абрысы з мяккасцю цёмных адценняў зялёнага і цёмна-чырвонага колераў; з шырокага каўняра сукенкі выступае доўгая, своеасаблівa выгнутая ўперад шыя. Крыху ўзняты ўгору бледны твар з прымружанымі павекамі, ледзь-ледзь прыадкрытымі вуснамі і тонкімі, нібы застылымі*

*ў чароўным сне рысамі асветлены толькі адбіткам бляску залацістых валасоў і нейкім унутраным святлом... Рукі яе спакойна складзеныя на каленях, яны дапаўняюць прасветлены выраз супакоенай душы, паглыбленай у сузіральны экстаз. На калені да маладой жанчыны спускаецца вогненная птушка, якая трымае ў дзюбе чырвоны мак. Сонечны гадзіннік, змешчаны паблізу, паказвае час, у якім міжволі адчуваецца штосьці ракавое. Далей — дзве туманныя постаці, якія абменьваюцца поглядамі, напоўненымі ўсведамленнем сумнай урачыстасці моманту. Адна з іх — алегарычная постаць анёла ў пурпуровым адзенні, відавочна, увасабленне кахання. У другой няцяжка пазнаць сухі профіль і традыцыйны строй фларэнтыйца, у якім заўсёды малююць Дантэ.*

*Пры першым поглядзе на карціну бачна, што трагічная тэма мастака — смерць. Па-мёртваму бледны твар зліваецца ў адзіны акорд з мёртвым колерам адзення і фону, нерухомая пастава і непарушны спакой, якім патыхае ад прымружаных павекаў і складзеных рук. Ёсць тут і знешнія сімвалы смерці: пурпуровая птушка з макам у дзюбе і сонечны гадзіннік, — усё гэта гаворыць, што перад намі смерць, што зямная прыгажосць адляцела з гэтых пабляклых вуснаў і нерухомых рысаў. Вобраз Дантэ дапамагае зразумець, што мастак хацеў адлюстраваць Беатрычэ ў момант смерці, калі душа яе ўжо сузірае Бога. І абаяльнасць карціны ў тым, што ў ёй спалучаюцца два моманты — смерць цела і трыумф душы. Жыццёвая прыгажосць, выяўленая ў фарбах і рухах, знікла, на яе месца прыйшло тое, што сыходзіць не звонку, не з крыніцы жыцця, сонечнага святла і цеплыні, а з глыбіні чыстай душы, засяроджанай на пошуках Бога. Гэта ўнутранае святло стварае новую, чыста духоўную прыга-*

*жосць, і ідэальным тыпам гэтай прыгажосці з'яўляецца Беатрычэ. Карціна створаная мастаком і паэтам,якога звалі Дантэ-Габрыэль Разэці».*

Максім спыніўся і перавёў дыханне.

— Гэта пра што? — спытаў А., які сядзеў, дарэчы, на самым зручным месцы — на перавернутай скрыні, а ўсе астатнія размясціліся на бервяне.

— Пра што, пра што... Пра чарадзейную сілу мастацтва! — Ціхаміраў падскочыў з бервяна так, што ўсе, хто там сядзеў, ледзь не паваліліся.

— Гэта пра тое, што адны творы ніяк не ўплываюць на людзей, а іншыя маюць уладу над думкамі і прымушаюць мацней біцца сэрцы, — сказаў Дзіядор.

— І аб чым гэта сведчыць?

— А сведчыць гэта аб тым, што ёсць мастацтва сапраўднае і несапраўднае. Сапраўднае мастацтва абуджае пачуцці, хвалюе чалавека, — вытрасаючы з галавы дробныя камякі гліны, гаварыў Ціхаміраў.

— А калі не хвалюе і не ўзбуджае?

— Гэта не мастацтва!

Я адчуў, што прыйшоў час і мне нешта сказаць, але ў гэты самы момант Вася, які заняў пазіцыю ля ўвахода ў пячору, засмяўся і прысвіснуў.

— Ты чаго?

— Падабаюцца мне вашыя развагі... Значыць, тое, што хвалюе, прымушае хутчэй біцца сэрца і выклікае пачуцці, гэта мастацтва?

— Так, — кіўнуў Ціхаміраў.

— Ну, тады я вам прадэманструю найлепшы твор мастацтва, — з гэтымі словамі Вася палез у кішэнь.

Публіка была заінтрыгаваная. Я, па праўдзе кажучы, думаў, што Вася зараз выцягне сваю любімую кнігу пра гатэль трынаццаці шыбенікаў. Але я памыліўся.

Некалькі секундаў Вася рыўся па кішэнях. Цікаўнасць нарастала. Нарэшце Вася знайшоў тое, што шукаў. Гэта была фатаграфічная картка на паспарту. Але Вася не адразу паказаў выяву. Трымаючы картку перад сабою, ён разы два ці тры пляснуў па ёй далонню, як быццам бы збіраўся прадэманстраваць фокус. Мігценне свечак дадавала таямнічасці.

— Вось! — Вася прыняў руку.

Усё ўбранне кабеты, якая глядзела з фотакарткі на гімназістаў, складалі пышныя карункавыя панталоны. Белае пульхнае цела, калматы кілім і фатэль з ручкамі ў выглядзе звярыных пысаў. Маладая кабета сядзела каля вялікага фікуса, манерна адставіўшы нагу, і глядзела на мяне з ледзь заўважнай усмешкай.

Некаторы час усе маўчалі. Я чуў, як білася маё сэрца. Яно не білася, а калацілася. Калацілася вельмі моцна. Здалося, што непрыстойны грукат майго сэрца напоўніў усю пячору і ўсе гэта чуюць. Я пачырванеў ад сораму і ўсё не мог адвесці вачэй, мне было страшна азірнуцца. А калі я ўсё ж азірнуўся, то ўбачыў такую карціну: усе стаяць і не зводзяць вачэй з карткі. Глядзяць на калматы кілім, пульхную кабету пад фікусам, карункавыя панталоны і прыхаваную ўсмешку... І ці толькі святло ад свечкі зрабіла ўсе твары аднолькава румянымі?

— Дзе ўзяў? — рэзка спытаў Ціхаміраў.

— Купіў у нямога. Там яшчэ і не такія ёсць... творы мастацтва.

— Гэта не твор мастацтва! — абурыўся Максім.

— Як? Хіба гэта не ўсхвалявала вас, не прымусіла біцца вашыя сэрцы? Я ж бачыў, як вы ўсе глядзелі.

Вася хітра ўсміхаўся. Можа, менавіта так усміхаліся старажытныя філосафы, атрымаўшы перамогу ў дыспуце.

— Давайце ўспрымем гэта як жарт, падзякуем Васю і даслухаем пра Беатрычэ, — прапанаваў разважлівы Дзіядор.

Усе з палёгкай уздыхнулі, а картка знікла там, адкуль з'явілася, — у Васі ў кішэні.

Максім працягваў чытаць.

*«Сумная гісторыя кароткачасовага шлюбу Разэці мела глыбокі ўплыў на ягоную творчасць. Трагічнае каханне надало характар ціхай жалобы і містычнай сузіральнасці ягоным творам. Міс Сідаль, якаю Разэці ўпершыню сустрэў за дзесяць гадоў да вяселля, здавалася яму ўвасабленнем ідэальнай прыгажосці, якая мроілася яму ў творчым уяўленні. Яе партрэты захаваліся, яны сапраўды сведчаць пра незвычайную прыгажосць, асаблівага містычнага тыпу. Яна была сціплай работніцай у моднай краме, калі Разэці пазнаёміўся з ёй і пакахаў яе. Але, трапіўшы ў артыстычны гурток Разэці, яго сям'і і сяброў, яна сама выявіла вялікія здольнасці да жывапісу і паэзіі, шмат працавала ў гэтай галіне і была музаю для Разэці. Як сапраўдны англічанін, ён не мог пабрацца шлюбам, не стаўшы на ногі ў матэрыяльных адносінах. Нягледзячы на старанную працу, на мноства напісаных ім карцін, ілюстрацый для кніг і г. д., Разэці мусіў доўга змагацца з нястачай. Здароўе міс Сідаль было вельмі слабое. У яе рана выявіліся прыкметы невылечнай нервовай хваробы, і ўжо з першых гадоў пасля заручын Разэці часта гаворыць пра грозны прывід смерці, які стаў на ягоным шляху да шчасця.*

*Толькі ў 1860 годзе, пасля дзесяцігадовага знаёмства і глыбокай закаханасці, адбылося вяселле. А праз год — пахаванне маладой жанчыны. Удар гэты стаў ракавым для Разэці, пахіснуў назаўсёды здароўе і ператварыў яго з ураўнаважанага, спагадлівага і вясёлага*

*чалавека ў раздражнёнага неўрастэніка, які мусіў увесь час ужываць хларал у барацьбе з бяссоннем. Злоўжыванне хларалам і звяло яго ў магілу ў 1882 годзе пасля некалькіх гадоў жахлівых пакут.*

*Першая роспач Разэці пасля смерці жонкі выявілася ў такім учынку, які не меў аналагаў ва ўсёй гісторыі літаратуры: ён пахаваў у яе труне толькі што падрыхтаваны да друку першы зборнік вершаў, якія ніколі не з'яўляліся ў друку. У зборніку былі лепшыя паэмы і санеты. Ён надаваў сваёй паэзіі такое ж значэнне, як і жывапісу, але лічыў свае вершы духоўнай уласнасцю музы, якая натхняла яго. Ён не хацеў, каб яны перажылі яе. Цэлых дзесяць гадоў пасля смерці місіс Разэці паэт-удавец не пісаў ніводнага верша. Прыгнечаны ўспамінамі пра памерлую, напісаў толькі па памяці яе партрэт у «Беатрычэ».*

*У 1870 годзе, калі нервовы стан Разэці часова ўмацаваўся, сябры пераканалі яго сваімі настойлівымі просьбамі даць згоду на тое, каб пахаваны зборнік быў адрыты. Гэта і было выканана ў прысутнасці службовых асобаў, якія склалі пратакол небывалай падзеі.*

*Шмат працы было патрачана на рэстаўрацыю рукапісу, які быў адноўлены дасканала».*

Бачыў я, што свечкі дагараць хутка, але было мне вельмі цікава і не хацелася пакідаць пячору.

Ці ўсведамляў Максім, што прыйдзе час, і пра яго самога загаворыць вечнасць і выявіцца закон боскай гармоніі? Мусіць, здагадваўся, бо пісаў:

Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы
Упадзе пясчынка хоць адна, —
Жомчугам патроху робіцца яна!
Калі ў дух мой западзе і заварушыцца

Там кавалак грубага жыцця, —
У жомчуг звернецца ён сілай пачуцця.

Мы слухалі ўважліва, нас цікавіў лёс вершаў. Яны, як Дантэ, пабывалі на тым свеце, а потым зноў вярнуліся да людзей.

*«Асноўная тэма санетаў Разэці — каханне. Ён сам жыў амаль выключна ў свеце пачуццяў і мастацкіх адчуванняў, і цэнтрам жыцця, сімвалам боскага пачатку свету было каханне — душа прыроды. Да культу красы ён зводзіў увесь духоўны свет чалавека. Усе праявы кахання, як у зямных прыхільнасцях, так і ў няясных пошуках вышэйшай красы, былі для яго аднолькава святыя. У санеце «Спадзяванні сэрца» паэт імкнецца спасцігнуць таямніцу кахання і кажа, што не адасабляе духоўную прыгажосць сваёй каханай ад прыгажосці яе цела, не аддзяляе яе ад сябе.*

*Акрамя санетаў, паэтычны дар Разэці выявіўся вельмі ярка ў баладах, напісаных на тэму вечнай трылогіі: кахання, жыцця і смерці. Лепшая з баладаў «Сястра Алена». У ёй адлюстраваўся звычайны прыём Разэці перадаваць падзеі і адчуванні не ў непасрэдным дзеянні, а адбітымі ў якім-небудзь іншым настроі, які ўяўляе поўны кантраст з асноўнай тэмай. Так, паданне пра помсту пакінутай каханым дзяўчыны, якая паліць яго васковую выяву на марудным агні, каб загубіць гэтым ягоную душу, распавядаецца ад імя наіўнага дзіцяці. Ён дапытваецца ў сястры Алены, навошта яна плавіць воск; ён бачыць бацьку ахвяры, перадае ягоныя мальбы і бязлітасныя адказы сястры; бачыць, нарэшце, самога каханка і трагедыю адплаты. І ўся гэтая змрочная драма абражаных пачуццяў перадаецца, набывае яшчэ большы трагізм, праходзячы праз бязвінную душу дзіцёнка, які адчувае нядобрае, але не разумее яго прычын.*

*Разэці не дажыў да станоўчых водгукаў крытыкаў, якія паставілі яго ў адзін шэраг з лепшымі паэтамі стагоддзя. Ён паспеў паспытаць у апошні год жыцця толькі атруту несправядлівай крытыкі, якая згубіла ягоны арганізм. Разэці абвінавацілі ў разбэшчанай фантазіі, амаральнасці і заклеймілі як язву грамадства.*

*Вершы Разэці ўражвалі сучаснікаў і нашчадкаў».*

Тут я не вытрымаў і засмяяўся.

— Што такое, ты таксама прынёс здымак голай кабеты? — павярнуўся да мяне Ціхаміраў.

— Адкуль ён у мяне? Я проста падумаў, што вершы, якія дзесяць гадоў праляжалі ў труне разам з трупам, уражваюць ужо таму, што яны пабывалі на тым свеце. Ты б хацеў пазнаёміцца бліжэй з паэзіяй гэтага гатунку?

— А што значыць «шмат працы было патрачана на рэстаўрацыю рукапісу»? — падаў голас са сваёй перавернутай скрыні А.

— Гэтыя вершы гнілі разам з целам...

Мяне перасмыкнула.

— А ўявіце сабе, які пах сыходзіў ад гэтага вершаванага зборніка.

— Не ўяўляю! — заявіў Вася. — Не хочацца аб гэтым думаць.

— А вершы чытаць хочацца?

— Мне шмат чаго хочацца!

— А калі ўсе пачнуць рабіць тое, што ім хочацца?

— Жах! — Вася паматаў галавою.

— Сапраўды, жах, бо жаданні ва ўсіх розныя, — сказаў Максім.

— Жаданні адных супярэчаць жаданням другіх...

— А ў выніку — трагедыя.

— Так, Разэці пажадаў пахаваць свае вершы ў магіле разам са сваім каханнем, а ягоным сябрам праз дзесяць гадоў захацелася іх пачытаць. Вершы не пахнуць?

— Грошы не пахнуць, — аўтарытэтна паправіў мяне былы сусед па парце.

— Ты натураліст, — зморшчыў нос Дзіядор.

А я ўзгадаў, што ёсць тэмы, якія не прынята абмяркоўваць.

— Паглядзіце, свечкі ўжо дагараюць, — сказаў я.

— Дома нас ужо чакаюць!

— Ужо цёмна!

— І холадна!

— Наступны раз назбіраем дроў і зробім вогнішча, — прапанаваў Вася.

Пакінуўшы пячору, я глядзеў на навакольны свет па-новаму. Што гэта было? Зменлівая карціна свету і душы, адухоўлены краявід, у якім межы паміж аб'ектыўным і суб'ектыўным светам становяцца вельмі празрыстымі, адноснымі?

На небе месяц ўстаў зялёны
І хутка стане снегавым.
Над лесам, дзе шапочуць клёны,
У небе месяц ўстаў зялёны…

Ўсё спіць. Не бачыць свет стамлёны,
Што, свецячы праз хмарак дым,
У небе месяц ўстаў зялёны
І хутка стане снегавым.

Гэты верш Багдановіча вельмі ўдала перадае трапяткі, трывожны, няўлоўны стан прыроды і душы — міг быцця.

Калі мы пакідалі пячору, Вася сказаў «у наступны раз», і ніхто не запярэчыў. Значыць, наша першая сходка прайшла ўдала.

А наперадзе — наступная.

Галоўнае — нам было цікава разам.

## *Глава 15. Паслухмянасць*

> Жыццё яго было спакойным і дастаткова аднастайным. Гэтага, зрэшты, вымагала хвароба, якая ўжо ясна выявілася ў Яраслаўлі.
>
> Адам Багдановіч

Да мяне ў госці завітаў Ціхамір аў, відаць, меў, што сказаць. А ў мяне на стале якраз ляжалі «Аповеды з рускай гісторыі» Вадавозава. Адкуль яны там узяліся, не ведаю. Магу сцвярджаць адно — я іх не чытаў. Ціхамір аў доўга круціў кнігу ў руках, гартаў, разглядаў, толькі што не нюхаў. Потым нечакана рэзка адсунуў на край стала і сказаў:

— У Расіі паўсюль ворагі...

— Якія ворагі?

— Розныя...

— Розныя?

— Ну, унутраныя і знешнія.

— А як іх адрозніць?

— Вельмі проста. Унутраныя ворагі — гэта студэнты, жыды і палякі, а знешнія — усе памежныя краіны.

— А хто так кажа?

— Шмат хто! Мой бацька, напрыклад.

— І ты з ім згодны?

— Відаць, няма ў гэтым свеце таго, у чым бы паміж намі была згода. Хіба што дыхаем адным паветрам.

Я не ведаў, што можна адказаць на ўсё гэта, бо ніколі не меў падобных праблем.

Паслухмянасць — адна з першых станоўчых якасцяў, у якіх мы практыкуемся з самага маленства.

У раннім дзяцінстве паслухмянасць дае магчымасць пазнаць свет. Хто не ўмее падпарадкоўвацца, той ніколі не навучыцца загадваць. Але паслухмянасць бывае лёгкай толькі там, дзе ёсць любоў і давер. Паслухмянасць сыходзіць з любові. Тое ж самае наадварот: у каго ёсць паслухмянасць, у таго ёсць і любоў. Каго дзіця любіць, таго і слухаецца з ахвотай. Той, хто хоча, каб яго слухаліся, мусіць выклікаць любоў і давер. Што ж паробіш, калі бацька Ціхамірава не выклікаў у свайго сына ні таго, ні другога.

Усё ж такі дзіўна, як у адзін і той жа час, у адным і тым жа месцы маглі сфармавацца такія розныя людзі, як наш настаўнік і бацька Ціхамірава. Дзіўна таксама, што Ціхамíраў-старэйшы ў свае маладыя гады вёў дзённік. Што гэта было? Можа, неўсвядомленае і нерэалізаванае імкненне да мастацтва, якое вылілася ў ягонага сына ў захапленне тэатрам? А можа, гэты дзённік па сваёй сутнасці і прызначэнні быў бліжэй да тых жанраў, у якіх працуюць тайныя агенты палітычнай паліцыі?

Дык як можна выхаваць паслухмянае дзіця? Доктар Карл Шміт у «Лістах да маці аб фізічным і духоўным выхаванні яе дзяцей» раіў: «*Яго належыць прывучаць да паслухмянства строга паслядоўным і заўсёды роўным абыходжаннем з ім. Чаго не хочаце сёння, таго не жадайце і заўтра. Чаго не хацелі б заўтра, адмаўляйце ў гэтым і сёння. Будзьце заўсёды цвёрдымі і нязменнымі ў вашых загадах, якія старайцеся выказваць спакойна, без раздражнёнасці, — вось галоўныя ўмовы выхавання дзяцей у паслухмянасці. З неаслабнаю строгасцю настойвайце на выкананні загадаў і забаронаў, асабліва калі дзіця робіцца старэйшым, бо яно паступова набывае духоўную моц і энергію. Не трэба ні загадваць, ні забараняць шмат чаго. Дзе закон шматскладовы, там і парушэнні — разнастайныя*».

— Разумееш, — працягваў Ціхаміраў, — усё ідзе да таго, што я магу парушыць галоўную забарону свайго бацькі.

— А якая з ягоных забаронаў галоўная?

— Ну якая? Ты хіба сам не ведаеш?

— Тое, што не дазваляе табе хадзіць у тэатр? Ты ж усё адно ходзіш.

— Хаджу, і ён гэта ведае, бо сочыць. Але што ён можа мне зрабіць? На ланцуг не пасадзіць. За ўсім не ўсочыш: ён пойдзе на паседжанне свайго любімага «Саюза Міхаіла Архангела», а я — у тэатр. Я даведаўся, — гаварыў мне Ціхаміраў, — што ў нашым тэатры вырашылі пайсці на эксперымент...

— Ты маеш на ўвазе тую пастаноўку, з-за якой вы з А. пасварыліся?

— Я ні з кім не сварыўся... Мне проста вельмі не спадабалася тое, што ён казаў. А мне гэта вельмі баліць, бо я прымаю ўдзел у спектаклі!

— Што?! — я не верыў сваім вушам. — Ты будзеш выступаць на сцэне?!

— Канечне, калі сам спектакль адбудзецца.

— Ты добра падумаў?

— Я не толькі добра падумаў, але і бяру ўдзел у рэпетыцыях.

— Хто пра гэта ведае?

— Іншыя ўдзельнікі спектакля. Там апрача мяне ёсць і іншыя непрафесіянальныя акцёры. А з нашых ты — першы, бо я вырашыў табе сказаць. Усё роўна некалі трэба будзе адкрыцца.

Я адчуў ледзь прыкметную дрыготку ў каленях. Адчуў, як кроў стукае ў скронях і яе пульсацыя аддаецца ў вушах. Дзіўна? А мне зрабілася страшна за сябра, раптам узнікла нядобрае, змрочнае прадчуванне. Але гэта быў толькі момант. Такі няўлоўны момант, які можа перадаць толькі паэзія.

Максім быў здольны да адлюстравання падобных праяваў жыцця. Пад пяром Багдановіча нараджаліся формы імгненнай фіксацыі думкі, самога працэсу яе нараджэння:

Як птушка ў гібкіх трасніках,
Стралою думка мільганула
І ўраз жа знікла, патанула,
Як птушка ў гібкіх трасніках.
Ды ўсё ж душа яе пачула
І ўжо пяе ў такіх славах:
«Як птушка ў гібкіх трасніках,
Стралою думка мільганула».

— Бацька цябе заб’е, — вось і ўсё, што здолеў сказаць я.

— Хто? Мой бацька? Ён не Тарас Бульба.

Пры гэтым Ціхаміраў глядзеў у акно, было ясна, што ён сам не верыць у тое, што кажа. Было ясна, што ён сам баіцца.

Потым сабраўся з духам і глянуў мне ў вочы.

— Як ён мяне заб’е? Хіба што здасць у вайсковую вучэльню, — у яго ў вачах застыў той сумны і задумены выраз, з якім ён глядзеў у акно.

— Пачакай, — я ўжо крыху прыйшоў у сябе, — але спектакль можа не адбыцца? Гэта яшчэ не канчаткова вядома?

— А табе б хацелася? — у ягоным голасе адчувалася непрыхаваная крыўда.

Па праўдзе кажучы, хацелася б! Я баяўся ўсялякага роду канфліктаў і імкнуўся іх пазбягаць, што ўдавалася далёка не заўсёды.

— Я проста сказаў, што гэта яшчэ не канчаткова...

— Для мяне канчаткова! Я выступлю на сцэне, чаго б мне гэта ні каштавала!

— Але твой бацька...

Ціхаміраў падскочыў з фатэля і нервова захадзіў па пакоі.

— Я ўжо дарослы самастойны чалавек, я асоба, — было такое ўражанне, што ён пераконваў у гэтым не столькі мяне, колькі сябе. — Я маю права на гэты ўчынак. Сцэна — маё прызванне, я гэта адчуваю.

— Самастойнай асобай ты станеш толькі тады, калі будзеш сам зарабляць грошы.

— Менавіта так! — узрадаваўся Ціхаміраў. — Я ўжо атрымаю іх за сваю першую ролю.

— А якая ў цябе роля?

— Я буду выконваць ролю Кларына.

— Гэты Кларын, мусіць, быў каралём?

— Не, паяцам.

Ціхаміраў вельмі часта здзіўляў мяне, бо спалучаў у сабе самыя супрацьлеглыя якасці. Мой сябра быў творчай натурай, але пры гэтым (як бы ні адмаўляў ён сам гэтай акалічнасці) усё ж заставаўся сынам свайго бацькі. Уся энергія, якая ў бацькі скіроўвалася на палітычную барацьбу са знешнімі і ўнутранымі ворагамі Расіі, у малодшага Ціхамірава пайшла ў іншае рэчышча — тэатральнае. Але ўпартасць і фанатызм былі ў бацькі і сына аднолькавымі.

Я ўжо ў той час пачынаў задумвацца: як спалучаецца палітыка з мастацтвам? Ці спалучаюцца яны наогул? Я ведаў, што праслаўлены сваёй жорсткасцю, разбэшчанасцю і дзікім норавам рымскі імператар Нерон выступаў у тэатры як акцёр. А перад смерцю, калі ўжо магіла была падрыхтаваная і быў гатовы меч, кінуўшыся на які Нерон мусіў скончыць жыццё самагубствам, трыццацідвухгадовы імператар плакаў і лямантаваў: «Які вялікі акцёр памірае!»

Адам Багдановіч пісаў у сваіх успамінах: «*Мне здаецца, што схільнасць да хлусні, рабаўніцтва, буйства, п'янства, хуліганства, безразборлівых палавых зносінаў, валацужніцтва тлумачыцца перш за ўсё спадчыннасцю. Выхаванне, якое б яно ні было, і асяроддзе, які б ні быў яго культурны ўзровень, у межах жыцця пэўнай асобы мае не вырашальнае, а другаснае значэнне: яны не змяняюць істотна спадчынных рысаў. Яны дапамагаюць хаваць вядомыя асаблівасці, да часу стрымліваць іх трэніроўкай, але не могуць знішчыць іх цалкам. Сам-насам, у сваім інтымным жыцці альбо ў стане афекту больш ці менш глыбока прыхаваныя ў падсвядомасці рысы характару вынырнуць вонкі. Для гэтага толькі трэба большая ці меншая ступень хвалявання ці ап'янення, г. зн. часовай атрафіі стрымліваючых цэнтраў.*

*Народ заўважыў гэтую асаблівасць і выказаў яе ў прыказках: «Як ваўка ні кармі, а ён усё ў лес глядзіць», «Якое дрэва — такі і клін, які бацька — такі і сын». І шмат іншага накшталт: «Паскаблі рускага — знойдзеш татарына». Трагікі Грэцыі таксама адзначалі спадчыннасць граху альбо злачынства, надавалі ім характар фатальнасці (Атрыд, Эдып). Гэтым тлумачыцца, што чалавек баіцца самога сябе ў пэўным стане і за сябе не адказвае.*

*Я назіраў факты, якія ўражвалі. Вось вам настаўнік гімназіі, чалавек з вышэйшай адукацыяй, казаў узвышаныя прамовы, любіў элегантна апранацца, у гасцёўнях выглядаў бліскучым кавалерам, карацей, здаваўся чалавекам высокай культуры. Але без дам ён брыдкасловіў. Аднойчы, калі я гуляў з ім па садзе, дзе валялася пад дрэвамі шмат яблык і груш, ён, агледзеўшыся, з прыёмамі сапраўднага злодзея пачаў хапаць, усё азіраючыся па баках, яблыкі і грушы, хутка*

*набіваючы імі свае кішэні. Ясна, што, нягледзячы на знешні лоск, гэта быў варвар і прыроджаны злодзей, які не пазбавіўся сваіх зладзейскіх звычак.*

*Але ж тое, што я кажу аб значэнні спадчыннасці, не мае абсалютна фатальнага характару».*

Усе дзеці нараджаюцца з рознымі ўнутранымі якасцямі і ўласцівасцямі. Як няма на дрэве двух зусім аднолькавых лістоў, так няма ва ўсім свеце двух аднолькавых людзей. Кожны чалавек — больш ці менш арыгінальная асоба. Бацькі павінны не ігнараваць здольнасці сваіх дзяцей, а развіваць і ўмацоўваць іх таленты, бо яны былі закладзены ў дзіця Богам.

Адам Багдановіч пісаў пра свае ўзаемаадносіны з дзецьмі: «*Амаль кожны дзень я браў з сабой дзяцей на шпацыр у сады, летам на Волгу альбо за горад, у лес, у поле, звяртаў іх увагу на розныя з'явы ў жывой прыродзе: як набухаюць пад уздзеяннем цяпла і святла пупышкі на дрэвах, як развіваецца ліст, як з'яўляецца кветка, а з кветкі — завязь і насенне, як з зернейка з'яўляецца карэньчык і каліва, выганяючы лісток за лістком, як красуе і наліваецца колас, як птушкі звіваюць гнёзды, як выседжваюць птушанят, як кормяць, як даглядаюць малых на першых кроках іх самастойнага жыцця, як чмялі і пчолы збіраюць мёд, мурашы будуюць свае складаныя збудаванні, як з ікры выводзяцца апалонікі і інш. і інш., карацей, усё рабілася дзеля таго, каб абудзіць у дзецях жывую цікаўнасць да прыроды і развіць назіральнасць. Затым я браў па чарзе дзяцей з сабою ў паездкі на агляды і ацэнкі земляў. Часам яны былі вельмі працяглымі (раён паездак ахопліваў у той час Ніжагародскую і Уладзімірскую губерні). Я браў дзяцей з сабою, каб пазнаёміць з жыццём вёскі, паветаў і з жыццём фабрычных і заводскіх цэнтраў, з помнікамі старажыт-*

*насці, з прыгожымі месцамі на Волзе, Вязьме, на Вятлузе, П'яне і інш.*

*У Ніжнім, у Маскве і ў іншых гарадах я іх вадзіў па карцінных галерэях і музеях. Карацей, у справе выхавання я сыходзіў з жыцця, з жывых непасрэдных назіранняў, а не з кніг. Кнігі павінны былі сістэматызаваць і прывесці ў парадак, асэнсаваць тое, што давала жыццё.*

*Адносна Максіма трэба сказаць, што з гадамі, паглынуты ўнутранай працай, ён усё менш і менш стаў цікавіцца паездкамі і ўжо ў яраслаўскі перыяд жыцця (1908) на пытанне, ці не хоча ён са мною паехаць куды-небудзь, звычайна адказваў: «Не».*

*Я цудоўна разумеў значэнне здароўя і фізічнага развіцця і рабіў усё магчымае, каб узняць і ўмацаваць гэты бок: практыкаваліся і лёгкая гімнастыка, і кіданне камянёў і дыска; я не перашкаджаў лазанню ні па дрэвах, ні па крутых берагах; даваў ім у карыстанне слясарныя і сталярныя прылады, каб выпрацоўваліся карысныя навыкі, і інш. Але з гэтага боку я заўсёды дасягаў найменшага поспеху: хутка ўсё гэта давялося спыніць з прычыны яўнага нездароўя, схільнасці да сухотаў, якая выявілася ў дванаццаць гадоў.*

*З гэтай прычыны даводзілася прымаць асаблівыя папераджальныя меры ў адносінах як да Максіма, так і да ягоных братоў. Апрача таго, што ім адводзіўся вялікі, светлы пакой на сонечным баку, які часта праветрываўся, штогод яны праводзілі лета на дачы Расцяпіна, адна станцыя ад Ніжняга Ноўгарада, пясчаная мясцовасць, сасновы бор. Фралоўскае каля Кетава, першая прыстань па Волзе.*

*Перыядычна рабіліся паездкі на кумыс ва Уфімскую і Самарскую губерні і Крым для кліматычнага лячэння. Першая паездка адбылася ў 1900 годзе не столькі*

*ў інтарэсах Максіма, які да таго часу не выяўляў ніякіх трывожных сімптомаў, колькі ў інтарэсах яго старэйшага брата Вадзіма, у якога ўжо ўздуліся залозы. Максім таксама піў кумыс, але мала.*

*Мы жылі ў вёсцы Кара-Якупава (каля ст. Чышмы Уфімскай губерні) у вялікай башкірскай хаце. Цалюткі дзень у стэпе дзеці высочвалі суслікаў у іхніх паходах гуртам па здабычу, сцяпных птушак, збіралі срэбны кавыль з пяшчотнымі вусікамі, кветкі і ягады, альбо блукалі ў раскошнай абалоне ракі Дзёмы, так паэтычна апісанай Аксакавым. Збіралі цудоўныя рознакаляровыя касачы і клубніцы, прыглядаліся да валтузні стракатых птушак у хмызах і прыслухоўваліся да іх няўмоўкнага шчабятання і спеваў наперабой.*

*Беручы прыклад з Аксакава, мы спрабавалі лавіць рыбу, але нічога з гэтага не выходзіла: ні ў мяне, ні ў дзяцей не было для гэтага цярпення. Не дапамог нават мастацкі талент Аксакава, якога я тут чытаў дзецям уголас урыўкамі — і яго «Успаміны», і «Дзіцячыя гады Багрова-ўнука».*

*Я амаль заўсёды быў з дзецьмі і імкнуўся паказаць ім стэпавае жыццё ва ўсіх выглядах: зранку і ўдзень, вечарам і ноччу, і ў ціхі сонечны дзень, і ў буру, якія былі тут асабліва велічныя. Хадзілі мы і па перадгор'ях Урала, назіралі цяжкія напластаванні вапнякоў у выглядзе роўных гладкіх плітаў, з-пад іх дзе-нідзе прабіваліся крыштальнай чысціні крыніцы, якія падалі каскадамі з тэрасы на тэрасу і месцамі ўтваралі вялікія азёры — зверху яны здаваліся бліскучымі пацеркамі, нанізанымі на шнурок. А па іх берагах было столькі каляровага гарошку розных колераў і адценняў. Якія вытанчаныя букеты мы складалі з гарошку розных колераў!*

*Туды мы ехалі толькі на параходах па Волзе, Каме, Белай, а дамоў — па чыгунцы да Самары, а затым параходам.*

*Другая паездка мела месца ў 1904 годзе ў Белебей па Самара-Златавустаўскай чыгунцы разам з братам Вадзімам. Я толькі адвёз іх, уладкаваў на кватэры і наладзіў дастаўку кумысу і харчаванне. У Белебеі жыў у той час мой сябра доктар Сямакін, з якім я пасябраваў у Гародні. Ён жа лячыў і маці Максіма, і ён жа прысутнічаў пры яе смерці. Гэта быў высокаадукаваны, добры, цудоўны чалавек, як і ягоная жонка Марыя Аляксандраўна, рэдкая па дабрыні, розуму і прыгажосці жанчына, да таго ж — выдатная спявачка з прыемным кантральта. На іх догляд я і пакінуў сваіх дзяцей, цалкам упэўнены, што яны заменяць ім бацьку і маці. І, канечне, я не памыліўся.*

*Аднак трэба сказаць, што год быў дажджлівы і кумысу пілося мала, так што дзеці зусім мала прыбавілі вагі, штосьці каля 5–7 фунтаў.*

*Штодзённыя кантакты з такой высокаадукаванай і музычнай сям'ёй, зразумела, не прайшлі для Максіма без следу. Ён у той час лячыўся толькі прафілактычна, нічога трывожнага ў стане яго здароўя не было, і ён яшчэ не страціў жыццярадаснасці свайго дзяцінства, быў усё такім жа вясёлым, смяшлівым, са схільнасцю да жартаў і здольнасцю ва ўсім знаходзіць смешнае. А разам з тым у ім ужо абуджалася крытычная жылка, любоў да супярэчнасці і спрэчкі. Я гэтага не ўхваляў у сваіх дзецях, каб не развілося ў іх заўчасна пошлае і невыноснае рэзанёрства. Але з добразычлівым Сямакіным, які да ўсяго ставіўся памяркоўна і кожны дзіцячы ўчынак сустракаў з лагоднай усмешкай, можна было дазволіць сабе рознае. Пасля Сямакін пераказваў мне шмат спрэчак і своеасаблівых меркаванняў*

*Максіма і яго старэйшага брата Вадзіма — таксама вялікага аматара паспрачацца, але дэталі я ўжо не памятаю».*

Пра адносіны з бацькамі даводзілася гаварыць і з Максімам. Ён казаў мне:

— Ведаеш, майму бацьку часта даводзіцца бываць у камандзіроўках па банкаўскіх справах. Ён заўсёды, калі была магчымасць, браў каго-небудзь з нас з сабою, каб свет пабачылі. Найбольш любіў ездзіць Вадзім. «Паглядзіце на Вадзіма, як ён любіць паездкі», — казаў нам бацька.

Я сказаў, што таксама люблю дарогу. Максім згодна кіўнуў, значыць, таксама любіў падарожжы.

— І шмат цікавых людзей бачылі вы? — спытаў я.

Людзі заўсёды выклікалі ў мяне найбольшы інтарэс, а мяне заўсёды вадзілі па музеях, тэатрах ды па галерэях, паказвалі помнікі архітэктуры. Мяне ж вабілі цікавыя сустрэчы.

— У дарозе сустракаліся нам самыя розныя людзі, — казаў Максім. — А ў розных людзей і погляды розныя. Бацька імкнуўся навучыць нас бачыць красу ў людзях і навакольным асяроддзі. А яшчэ ведаеш што?

— Што?

— У дарозе яшчэ часта можна пачуць быль. Быль, праўдзівую гісторыю. Вельмі цікава. Ёсць людзі, якія з уласнага вопыту выводзяць цэлыя філасофскія сістэмы. Ёсць свае чары ў такім аповедзе, пачутым на палубе парахода...

*«З капітанскага мосціка пачуецца кароткая каманда. Каля борта зашуміць і ўспеніцца вада, ажывуць размовы, і зноў пад спакойны гул машыны і шум параходных колаў агорнуць душу няясныя, але ціхія і мілыя думы. Мяне яны ўжо даўно ўзялі ў палон. Праўда, поруч са мной на палубнай лаўцы сядзіць, бесперастанку*

*гаворачы, папутчык, каторы гадзіны дзве назад запытаўся аб якойсь драбніцы, завёў гутарку і аж дасюль не можа стрымацца. Але я нядбала слухаю яго мову, я яшчэ горш бачу ў цемні яго твар. Толькі калі ён падносіць запаленую сярнічку да папяросы, укрываючы яе ад цёплага вецярка рукамі, — агністае святло залівае яго далоні і твар, пальцы па краях робяцца празрыста-чырвонымі, і з негустога мроку выступае чорная бародка, вусы, храшчаваты нос і карыя хвараваіта-бліскучыя вочы. Гавора ён ёмка, шпарка, як чалавек, каторы нагаладаўся па гутарцы. Я не спыняю яго, — мне зусім не хочацца размаўляць, бо Волга закалыхала мяне, і такімі далёкім, не торкаючымі сэрца, зрабіліся самыя гарачыя словы...*

*— А добра, што чалавек навучыўся скрозь бачыць красу... Аб гэтым я многа думаў, жывучы ў Нарымскім краі, бо і там я пабываў. Які такі наш Нарымскі край — казаць не буду, бо і самі, пэўна, добра ведаеце. Адно толькі скажу: ночы там доўгія, цёмныя, бязмесячныя. Цягнуцца яны, цягнуцца, і, здаецца, канца ім няма. Але і ўдзень прыемнага мала: снег, адзін снег навакол, куды ні глянь, — усё снег ляжыць ды яшчэ да таго ж з неба валіцца. З раслін адны толькі скарлючаныя бярозкі спатыкаюцца; праўда, летам яшчэ мох ёсць, а к восені журавіна паспявае, але гэтулькі тады тут рознай машкары з'явіцца, што і лету не рад будзеш: ледзь-ледзь не з'ядае яна чалавека. Цяжкае і прыкрае там жыццё. А іншы раз нават страшна робіцца, так ясна бачыш усю сваю бяспомачнасць перад суровай зямлёй. І розныя думы спакою не даюць: усё маячацца тыя часы, калі калматы чалавек хадзіў па беднай і непрыветнай зямлі і патроху, на працягу доўгіх тысяч лет, рабіўся з чатырохногага двуногім. Перарабляўся ён, падвышаў свой розум, —*

*а разам з тым павінна была расці ў яго ў душы бяскрайняя, трывожная нуда, бо зямля наша сувора, жорстка, невясёла, і так няцвёрда на ёй існаванне чалавека. Неглыбока ўвайшлі ў зямлю яго карэнні. І калі чалавек спатыкаўся з якой-небудзь нястрыманай і грознай сілай зямлі, каторая вось-вось прыдушыць яго, зламае, растопча, — тады чуццё гэта з цёмнай глыбіні душы прасачвалася ўгару, залівала мазгі, ахапляла ўсяго чалавека, і ён... Ну, што ён мог зрабіць? Хіба толькі, згадаўшы свой даўні звярыны звычай, станавіўся на ўсе чатыры лапы і пачынаў выць... вось як ваўкі выюць. Але гэткія здарэнні на кожным кроку яму спатыкаліся, а не мог жа ён жыць у вечным спуду, у вечнай нудзе. Павінен жа ён быў даць сабе якуюнебудзь раду? А калі так, дык што ж гэта за рада была? Адказ знайсці дужа цікава, бо і сучасны чалавек тое самае пачуванне павінен мець. Няхай сабе ў самым падполлі душы, а ўсё ж такі жыве яно ў нас. Гэта, як той казаў, спадчына, пакінутая нам ад прадзедаў. Ды не так ужо стала трымаемся мы на зямлі, а яна ўсё тая ж: важкая, жорсткая, цёмная.*

*Вось якія думы сняваліся ў мяне ў Нарыме. Там жа я і адказ да іх знайшоў.*

*Здарылася гэта зімою. Прыехаў да нас шаман, каб у гаспадара юрты дачку ад хваробы адратаваць, — памірала ўжо яна. Дзеля гэтага прыезду ўсе выпілі — і гаспадар, і гаспадыня, і хворая... Нават малыя дзеці сербанулі, а шаман гэты, ведама, найбольш ад усіх. Аднак, нягледзячы на выпітае, нуда ўсіх брала... Дзень выдаўся ветраны, мяцельны. Стаяць тры нашыя юрты ў снегавой пустэлі, а навакол усё бушуе; ні праходу, ні праезду няма; замяце нас завірухаю, замёрзнем мы ці што — ратунку не будзе ніадкуль. Кепска! Не тое каб страшна было, — не, ужо да ўсяго звыклі*

*мы, — а так нешта ўнутры пачынала пасасываць. А тут яшчэ хворая стогне... Толькі гляджу я, устаў шаман, узяў свой бубен (без бубна ён кроку не ступіць), ударыў у яго і запяяў. Доўгую такую, дзіўную песню зацягнуў. Ні складу ў ёй, ні ладу не было, але затое сэнс яе дужа цікавы. Казалася ў гэтай песні аб тым, што зямлі, лепшай ад Нарымскага краю, ува ўсім свеце нідзе не спаткаць. Чаго толькі тут ні ёсць: мох сцелецца, журавіны — аж не ababраць, нават бярозка — і тая расце; у рэках рыба водзіцца; штогод два разы птушкі вялікімі чародамі праносяцца; самае ж галоўнае — вазацкія сабакі і алені. Іх шаман асабліва старанна рассмакаваў. Ну, тут шмат яшчэ чаго ў гэтай песні было; нават і на тое шаман не забыўся, што вось незадоўга Іван Матвеіч — скупшчык тутэйшы — прыедзе, гарэлкі і тытуну прывязе. Коратка кажучы, з якога боку ні падхадзі — усё Нарымскі край неспадзявана добры. Гляджу я, — шаман ад песні больш, чым ад гарэлкі, сп'янеў; усе павесялелі; гаспадар нават з нейкай пагардай на мяне ўзіраецца: бач, значыцца, якая наша старонка.*

*І здалося мне тады, што я на адзін з найвялікшых каранёў красы натрапіў. Здалося мне, што пачуццё красы вытварылі сабе людзі таму, што былі змучаны і запужаны суворай зямлёй; вытварылі, каб пазбыцца няяснага, але бяскрайняга, усю душу запаўняючага смутку. І тады лягчэй стала ім жыці, бо зямлю яны бачылі прыгожай, а не такою, якою яна запраўды ёсць: не жорсткай і грознай і бязмерна моцнай, гатовай кожную мінуту прыціснуць бяспомачнага, жалкага чалавека, сказіць яго, расплюшчыць, растаптаць, ад каторай не ўкрыешся, не схаваешся, не абаронішся. І не беднай, важкай і цёмнай бачылі яны яе, не той злой мачыхай, што прысудзіла ім цяжкае, невясёлае*

*жыццё... Не, бачылі яны яе ў пералівах барваў і згукаў, цешыліся гэтым, самыя грозныя з'явішчы прывучыліся бачыць самымі пекнымі — і знікаў у іх душах жах і ўхадзіў кудысь у падзямельныя норы душы, каб толькі зрэдку, гады ў рады, выходзіць адтуль і наганяць смутак на чалавека. Звычайна, не адзін толькі важкі сум прымушаў людзей выраблячь пачуццё красы, і не адразу вырабілася яно. Але я ўпэўнены ў тым, што тут крыецца адзін з самых тлустых і цікавых каранёў гэтага пачуцця. А вы як думаеце?*

*— Не, гэта не зусім так, — адклікнуўся я. — Прыгледзьцеся, напрыклад, да паэзіі, і вы пераканаецеся, што народы некультурныя, і нават напаўкультурныя не бачылі ў прыродзе ніякай красы. Перагарніце хаця б велізарнейшую Іліяду або Адысею; там вы знойдзеце шмат вершаў аб красе розных людзей, учынкаў, рэчаў, — а аб красе зямлі бадай што ні слова няма. Амаль тое ж самае і ў рымскай паэзіі. Толькі ў часы так званага Адраджэння людзі навучыліся бачыць у зямлі красу. Значыцца, сотні і тысячы год жылі людзі, не закрываючы ад сябе красой усю беднасць і суворасць зямлі; а калі вам паверыць, дык яны павінны былі ўсе звар'яцець ці перадушыцца. Што ж вы скажаце аб гэтым?*

*— Ат, — адмахнуўся ён рукой. — я ж і кажу вам, што не адразу вырабілася ў чалавека ўменне бачыць у прыродзе красу. Вось вы і час паказалі, калі яно развілося досыць поўна, — пару Адраджэння. А што да грэкаў, каторыя не маглі ўкрыць ад сваіх вачэй красою жах зямлі, дык затое ж паміж іх узрасла вера ў нястрыманую моц сляпога, адвечнага Кона; усе грэцкія трагедыі, лепш ад каторых не было ні раньш, ні пазней, — усе яны кажуць аб адным: як гэты Кон нішчыць волю і сілы чалавека, як ламае іх, быццам*

*тонкія пруцікі. Цяпер мы не бачым зямлю страшнай, а бачым яе прыгожай, і таму ў нашай трагедыі няма Кона. Ува ўсіх нашых драмах, раманах, апавяданнях трагізм тоіцца не за чалавекам, а ўнутры яго, у тых цёмных, дзікіх сілах, каторыя ён калісьці скарыў, зацісну ў у падзямеллі душы, забыўся на іх і з жахам згадвае толькі тады, калі яны раптоўна прарвуцца, заліюць сабою мазгі, затуманяць розум, знішчаць адпор волі, кінуць чалавека ў брудныя, шалёныя ўчынкі.*

*Кажучы гэта, мой сусед ужо не сядзеў: як чорная мара, стаяў ён перада мною, а чырвоны кончык папяроскі ў яго руцэ рабіў сярэдзь цёмнага паветра шырокія агнявыя кругі. Але гутарка наша, ужо зацікавіўшая мяне, так і не дайшла да канца. Гулка загудзеў параход, забегалі матросы, ажывілася публіка. Мы агляну ліся: на высокім, змрочным берагу чорным зломам падымалася званіца, свяціліся аганькі, віднеліся дзветры чырвоныя плямы — бартавыя ліхтары параходаў, стаяўшых тут у прыстанях. Гэта быў Яр..., горад, у каторым майму падарожнаму трэба было сысці. Мы развіталіся».*

— А ты што, на самай справе лічыў грэкаў і рымлян народамі «некультурнымі» і «напаўкультурнымі»? — пацікавіўся я ў Максіма.

Ён няпэўна пацісну ў плячыма.

Вельмі мяне гэта здзівіла. Нават Адам Багдановіч пісаў пра свайго сына: «*Грэцкіх паэтаў, асабліва Анакрэона і Феакрыта, чытаў у перакладах і ў арыгінале, вывучаў самастойна грэцкую мову, а лацінскую ён вывучаў у школе і ведаў яе прыстойна*».

## *Глава 16. Творчасць*

Вы кажаце мне, што душа у паэта,
Калі спараджае ён дзіўныя вершы,
Нябесным агнём абагрэта,
І ў час той між люду ён — першы...
Ах, дзякуй вам, дзякуй на гэтай прамове;
Душа мая, пэўна, шчаслівай была бы,
Калі б я не ведаў, панове,
Што пекна спяваюць і жабы.

Максім Багдановіч

Я вырашыў напісаць верш. А што тут такога? Пішуць жа іх неяк! А чаму я не магу? Я ўзяў новы сшытак і аловак. Сеў у фатэлі, паклаўшы сшытак на калені, і задумаўся. Натхненне не прыходзіла, замест яго з'яўляліся розныя думкі: «Добра было б напісаць верш. Я б мог паказаць яго Варвары... Мінулы раз на музычнай вечарыне я чытаў ёй пераклады Верлена па памяці. Яна зразумела, што я знаўца паэзіі, і зацікавілася. Вось, каб зараз... Я б змог тады паказаць ёй свой уласны верш. Мог бы... каб мяне яшчэ раз запрасілі ў госці. А калі не запросяць? Навошта я тады верш складаю?»

Я паматляў галовой і перасеў за пісьмовы стол, сшытак і аловак ляжалі перада мною. А сам я ўтаропіўся ў акно. Пад вокнамі хадзілі людзі. Ці няма сярод іх знаёмых? Можа, Варвара пройдзе міма майго дома? Тады я выскачу і даганю яе. А калі яна будзе не адна? А з кім яна можа быць?

Аловак і сшытак чакалі. На якую тэму мне пісаць верш? Напэўна, пра прыроду. Ці я ведаю пра нешта іншае, больш цікавае і прыгожае? У чым шукаць красу?

Пачыналіся творчыя пакуты. А між тым у саміх маіх узгадках пра Варвару было тое, чаго я не заўважаў. А Максім Багдановіч быў здольны для пачуццяў знаходзіць стройныя, дасканалыя вершаваныя формы.

Мне доўгае расстанне з Вамі
Чарней ад Вашых чорных кос.
Чаму ж нядобры час прынёс
Мне доўгае расстанне з Вамі?
Я пабляднеў ад горкіх слёз
І трыялет пачаў славамі:
Мне доўгае расстанне з Вамі
Чарней ад Вашых чорных кос.

А мне ўсё мае думкі пра Варвару здаваліся недарэчнымі, я гнаў іх, бо яны перашкаджалі мне ў творчых памкненнях.

Максім мог знаходзіць красу ў любой праяве жыцця.

Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы,
Калісь глядзеў на сонца я.
Няхай усе з мяне рагочуць,
Адповедзь вось для іх мая:
Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.

Надвор'е было цудоўнае. І я вырашыў пайсці на свежае паветра, на Волгу. Хто ведае, можа, там народзіцца мой першы верш. Усім вядома — вялікія рэкі натхняюць на вялікія думкі. А Волга такая вялікая!

Усе лаўкі на бульвары былі занятыя. Месца, канечне, пры вялікім жаданні можна было знайсці. Напрыклад,

прыткнуцца каля няпэўнага ўзросту гувернанткі, якая беспаспяхова пераконвае сваіх выхаванцаў «не крычаць так моцна». Хапае месца і каля дзвюх кабетаў сталага веку з карункавымі парасонамі ад сонца. Парасоны складзеныя, бо сонца няма. Можна прысесці і каля трох гімназістак, якія абмяркоўваюць штосьці сваё, дзявочае. Толькі ж не спадабаецца ім: відаць, тое, аб чым яны гавораць, не прызначана для чужых вушэй. Не ў пячору ж ім ісці, каб пазбегнуць цікаўных.

А вось глуханямы — жэстыкулюе, падыходзіць да гімназістаў-старшакласнікаў. Ці не прапаноўвае ён ім фотакарткі накшталт той, што Вася прыносіў у пячору? Не паспеў прыйсці на бульвар, як сустрэў знаёмых. Ужо крычаць: «Што новага?», а новае тое, што не знаходжу сабе месца.

Толькі на першы погляд здаецца, што месца хапае ўсім, а на самай справе маладому чалавеку, які сабраўся пісаць верш, няма куды падзецца.

Я спусціўся да вады. Тут мяне наведала новая ідэя: напісаць пра тое, што вакол мяне. Так нарадзіліся першыя радкі, якія я занатаваў у сшытку:

Гарацць ліхтары на бульварах,
Дзяўчаты гуляюць па парах.

Але ў гэтым вершы, які ў цэлым здаваўся вартым існавання, мне не падабаўся множны лік слова «бульвар». Чаму па «бульварах»? А таму што «па парах». Але бульвар быў адзін.

А што значыць «па парах»? Дзяўчаты гуляюць «па парах» са сваімі сяброўкамі ці з хлопцамі? Я напісаў вершык, у якім сам быў не здольны разабрацца. А як жа вынесці яго на суд чытачоў, удзельнікаў «Трох глобусаў», ці паказаць Варвары?

Трэба паспрабаваць стварыць штосьці містычнае, цьмянае, малазразумелае, тады ў тых, хто будзе чытаць альбо слухаць, не з'явяцца дурныя пытанні. А калі і з'явяцца, на іх можна будзе не адказваць — права аўтара. Так я вырашыў напісаць містычны верш пра навакольнае асяроддзе. І вось што атрымалася:

Рэчка дыміцца цьмяная,
Месяц застыў у вадзе,
Маленькі хлопчык-тапелец
Босы бяжыць па траве.

Не хапала ў ім пачатку, але я падумаў, што для першай творчай спробы дастаткова нядрэнна атрымалася. Гэтае чатырохрадкоўе я таксама занатаваў. Цяпер можна будзе пачытаць яго сябрам у пячоры. Толькі наўрад ці эфект будзе большы, чым ад прынесеных Васем фатаграфічных картак. Але ж усё адно я быў задаволены.

Вярнуўся на бульвар, вось тут і адбылося тое, аб чым я думаў, — я сустрэў Варвару. Яна была не адна, а з сяброўкаю. Толькі што народжаныя вершаваныя радкі дадалі мне смеласці — я падышоў да дзяўчат і прывітаўся.

Варвара ўзрадавалася, пабачыўшы мяне. Гэта была шчырая і непрыхаваная радасць. Збоку можна было падумаць, што мы знаёмыя даўно. А мы ж бачыліся ўсяго толькі адзін раз — на музычнай вечарыне.

— Вы, напэўна, былі на дадатковых занятках? — сказала Варвара.

— На занятках? Не, ні ў якім разе! Чаму вы так падумалі?

— Даруйце, — дзяўчына кіўнула на сшытак, — але, пабачыўшы вас з гэтым, я вырашыла, што вы ўзмоцнена рыхтуецеся да іспытаў.

Да іспытаў! Ды я наогул забыўся, што гэта такое. Я быў цалкам паглыблены ў новае жыццё, дзе таксама існавалі іспыты, але яны не мелі нічога агульнага з тым, пра што гаварыла Варвара. Адзін з іх я толькі што здаў. І здаў, як мне здавалася, паспяхова. У гэтым сэнсе Варвара, пэўна, мела рацыю: можна было сказаць, што я ішоў з дадатковых заняткаў.

— Я проста гуляю, — вось і ўсё, што адказаў я.

— Мы таксама.

Няспешна мы пайшлі па алеі. Нецярпліва пазірала ў мой бок сяброўка Варвары. Відаць, здзіўлялася, чаму Варвара нас не прадстаўляе адно аднаму. І я ведаў — па правілах трэба было. Толькі не падумаў я пра тое, што ў моманты ўзрушэння чалавек часта забываецца на правілы этыкету. Ды і я сам забыўся на сваю абачлівасць, пачуцці перапаўнялі мяне да краёў. Вось на гэтым уздыме я і вырашыў усіх здзівіць. І у мяне не было нават ніякіх думак адносна таго, чым гэта можа скончыцца.

Я рэзка спыніўся, і дзяўчаты мусілі зрабіць тое ж.

— Угадайце, што ў мяне ў руцэ, — сказаў я з зусім новымі для сябе інтанцыямі, дэманструючы сшытак.

— Сшытак, — адказала сяброўка Варвары, з якой мы пакуль што не былі знаёмыя.

— А ў сшытку?

Трэба адзначыць, што сваімі паводзінамі я здзіўляў перш за ўсё самога сябе. Адкуль што ўзялося? Яшчэ сёння зранку я не ведаў, як паводзіць сябе пры сустрэчы з Варварай. Але сустрэча адбылася, і я паводжу сябе свабодна і рашуча, дзяўчаты глядзяць на мяне з захапленнем. Я валодаў сітуацыяй. Я заінтрыгаваў дзвюх сябровак, якія выйшлі на бульвар, не разлічваючы на нечаканасць, але сустрэліся з ёй.

Я трымаў сшытак з выглядам фокусніка і пасміхаўся.

— Можа, у вас там нешта такое, — з хітрай усмешкай сказала сяброўка Варвары, — на што маладым дзяўчатам глядзець нельга?

— А на што нельга глядзець маладым дзяўчатам?

— На рознага роду непрыстойнасці.

Непрыстойнасці? Я ўзгадаў адразу кабету з фота-карткі — манерна адстаўленая ножка, карункавыя панталоны, калматы кілім. Мільгануў за дрэвамі выразны твар глуханямога, ягоныя рухі былі ўпэўненымі — вось бы каму выступаць на сцэне. Што ён ходзіць тут? Прапануе свой тавар? Няўжо дзяўчатам таксама? А што ж ён прадае ім? Я сумеўся.

— Не звяртайце ўвагу на Таццяну, — выратавала мяне Варвара, — яна сваімі пытаннямі часта заганяе людзей у тупік. Тыя, хто даўно ведае яе, ужо звыкліся.

— Ах, значыць, вас клічуць Таццяна?

— Так, — Таццяна правяла рукою па сваіх белых, як пясок, валасах. — Менавіта так клічуць мяне, бо Варвара чамусьці не палічыла патрэбным нас пазнаёміць.

Я назваў сваё імя.

— Вернемся да вашага сшытка, — сказала Таццяна. — Ці ўяўляе ягоны змест цікавасць для нас?

Новая нечаканасць! Чаму я вырашыў, што мая творчасць зацікавіць іх?

— Давайце праверым, — прапанаваў я, але сшытак не паказваў. Я супакоіўся, бо прыдумаў новую гульню.

— Пакажыце!

— Не адразу, бо самі сказалі: а раптам нецікава. Варвара сёння нагадала пра іспыты... І я хачу задаць вам некалькі пытанняў, — я павярнуўся да Таццяны і падкрэсліў: — Вельмі прыстойных пытанняў. Толькі вы не думайце доўга перад тым, як адказаць, кажыце адразу...

— Гэта гульня?

— Нешта накшталт гульні. Назавем яе «Дыялогі». Згодныя?

Сяброўкі пераглянуліся.

— Пагуляць у «Дыялогі»? — перапытала Варвара.

Я ведаў сэнс такіх перапытванняў: яны даюць час і магчымасць падумаць.

— Мы не супраць, — такім быў канчатковы адказ.

— Пытанне першае да Варвары: ці адчуваеце вы сябе дарослай?

— Не ведаю... не адчуваю. А вы?

— Мы дамовіліся, што пытанні буду задаваць я.

— Тады гэта не «Дыялогі», а допыт, — сказала Тацяна.

— Гэта не допыт, а гульня. І наступнае пытанне да вас: ці лічыце вы, што толькі дзеці захапляюцца гульнямі?

— Ні ў якім разе, я так не думаю, інакш бы я...

— Інакш бы вы не згадзіліся адказваць на мае пытанні?

— Так! А яшчэ я думаю, што людзі да самай смерці не перастаюць гуляць у гульні, толькі яны называюць гэта інакш: палітыкай, мастацтвам, каханнем... Каб мы не згадзіліся гуляць у «Дыялогі», то ўсё роўна гулялі б у іх... Мы б не ішлі моўчкі па бульвары, мы б гаварылі паміж сабою. А ці ж гэта не дыялогі?

— А што скажаце вы? — павярнуўся я да Варвары.

— У кожнага свае гульні. Не ўсе з аднолькавым захапленнем могуць гуляць у адно і тое ж. Адзін схільны да адной гульні, другі — да другой, гэта закладзена ў прыродзе чалавека. Тое самае тычыцца хлопцаў і дзяўчат, для тых і іншых павінны быць свае гульні. Ёсць, канечне, шмат агульных, і так і мусіць быць, бо ў жыцці мужчына і жанчына ідуць не супрацьлеглымі шляхамі, а толькі па двух баках аднаго і таго ж шля-

ху і часта паказваюць адно аднаму дарогу... Але ж усё адно: малыя дзяўчынкі гуляюць з лялькамі, а хлопчыкі з шаблямі...

— Але і хлопчыкі, і дзяўчынкі гуляюць з мячыкам! — перабіла яе Таццяна.

— І мужчыны, і жанчыны захапляюцца жывапісам, музыкай і літаратурай! — падхапіў я. — Таму я сёння ўпершыню склаў верш і занатаваў яго ў гэтым сшытку. А вы, калі хочаце, можаце ўзяць і прачытаць.

— Як цікава!

— А я думаў, што некаторыя дзяўчаты і жанчыны лічаць: быць паэтам — сорамна.

— Але ж вы не паэт, вы самі сказалі: «Я сёння ўпершыню напісаў верш».

Сшытак быў перададзены дзяўчатам. Я прасіў іх, каб яны не чыталі верш пры мне, а толькі дома.

Для мяне іх думка мела вялікае значэнне. Ці будзе мець мой твор уплыў на ўражлівыя дзявочыя душы?

Адам Багдановіч пісаў пра сваю першую жонку, маці Максіма: «*Яна шмат чытала. Яе лісты ўражвалі трапнасцю назіранняў і сакавітасцю мовы. Адзінае напісанае ёй апавяданне паказвае, што яна валодала выяўленчым дарам, а пры гэтай умове з яе магла б атрымацца выдатная пісьменніца. Неабходна адзначыць яшчэ адну рысу: надзвычайны, часам пакутлівы натуралізм уяўлення. Не толькі Дастаеўскі мучыў яе хваравітай яркасцю перажыванняў (асабліва сон Свідрыгайлава), але нават чытаючы сацыялогію Спэнсера, дзе праводзіцца аналогія паміж фізіялагічным арганізмам і грамадскім, яна так яскрава ўяўляла ў чалавекападобных формах нейкую пачвару, галаву якой складаюць літаратары і навукоўцы, у грудзях корпаюцца паэты, у нагах снуюць рамізнікі, машыністы і інш., машыны, цягнікі, тэлеграф. Яна прыходзіла ў жах ад*

*гэтага жудаснага стварэння сваёй фантазіі, і я толькі жартам мог прагнаць гэтую мроюͅ».*

Я ішоў і думаў пра тое, што яшчэ не раз буду сустракацца з дзяўчатамі, што наперадзе мяне чакае шмат добрага і цікавага, я абавязкова даб'юся поспеху ў жыцці і будуць мяне любіць. Такі настрой цудоўна перададзены ў вершы Максіма:

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя, — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі мы ўсе разам ляцім
Да зор?»

Я ішоў дамоў, а па дарозе ўяўляў, як павяду дзяўчат пакручастай сцежкай, а яны не будуць ведаць, куды мы ідзём... Так, мы будзем ісці адным шляхам, але я буду правадыром. Яскрава бачыў, як прывяду Варвару з Таццянай у пячору, як будуць уражаны мае сябры... Але раптам я спыніў сябе: ці варта гэта рабіць? Ці не для таго ствараюцца тайныя саюзы, каб заставацца тайнымі? Што будзе з «Глобусамі», калі кожны прывядзе туды тых, каго палічыць патрэбным: сяброў, братоў, сёстраў, бацькоў?.. Не, так не павінна быць! Сябры майго сябра — не мае сябры. Нічога сабе, я таксама такі канспіратар: спадабаліся мне дзяўчаты, і я ўжо

гатовы рассакрэціць таварыства! Не, ніколі ў жыцці, няхай лепш усе застаюцца недасведчанымі і толькі бачаць плён нашага самаўдасканальвання, захапляюцца і здзіўляюцца. Але ж калі думка прывесці старонніх людзей у пячору прыйшла ў галаву мне, то цалкам верагодна, што яна магла з'явіцца яшчэ ў некага! Трэба нешта рабіць! У нашага саюза няма ніякіх праграмных дакументаў, варта скласці нейкі статут, збор правілаў і законаў, абавязковых для выканання.

Я прыспешыў крок, бо вырашыў зайсці яшчэ да Ціхамірава, каб пагаварыць з ім на гэтую тэму. Чаму менавіта да яго? Бо было ўжо дастаткова позна. Я б, канечне, мог зайсці да Максіма, але ў таго было шмат малых братоў. А месца, каб спакойна пагаварыць, не было наогул. У Дзіядора — таксама вялікая сям'я.

Я ішоў да яго, каб абмеркаваць арганізацыйныя пытанні, а прыйшоўшы, даведаўся, што «жыццё ёсць сон».

## *Глава 17. Жыццё ёсць сон?*

Будзем жыць, о Люцылій, так, каб наша жыццё, як каштоўная рэч, займала няшмат месца, але каштавала дорага.

Сенека. Лісты да Люцылія

— Паглядзі, што ў мяне ёсць! — Ціхаміраў пацягнуў мяне ў свой пакой.

Я чамусьці адразу вырашыў, што ён таксама напісаў вершы і цяпер хоча пахваліцца.

Пакуль ішлі доўгім цёмным калідорам, я паспеў пашкадаваць, што аддаў свой сшытак дзяўчатам. Але хутка супакоіўся, паўтарыў вершы пра сябе і пераканаўся: усё цудоўна памятаю.

— Вось! — ён даў мне нявялікую кнігу ў мяккім пераплёце.

— Што гэта?

— Пачытай, што на вокладцы напісана!

«Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў: этнаграфічны нарыс А. Я. Багдановіча», — прачытаў я.

— Бацька нашага Максіма?!

— Так!

— Ён піша кнігі?

— Хутчэй за ўсё, табе варта ўжываць гэты дзеяслоў у прошлым часе, — сказаў Ціхаміраў.

— Які дзеяслоў? — перапытаў я, заблытаўшыся ў мудрагелістай фразе.

— Не «піша», а «пісаў». Звярні ўвагу на год выдання. Кніга з'явілася ў свет у 1895 годзе, а цяпер 1909.

— Я не сумняваюся ў тым, што цяпер 1909 год. І не забыўся, што жывём мы ў Яраслаўлі, помню сваё імя, ведаю, што тваё прозвішча Ціхаміраў...

Ён засмяяўся.

— Пачытай пару фрагментаў з кнігі, а я пайду папрашу, каб нам зрабілі гарбаты. Сёння ў нас ёсць маё любімае ванільнае печыва, хачу цябе пачаставаць.

— А твой бацька?

— Яго няма, і будзе ён не хутка. Займаецца палітыкай! — сказаў ён і знік з пакоя. А я пачаў чытаць.

*ФРАГМЕНТЫ З КНІГІ А. Я. БАГДАНОВІЧА «ПЕРАЖЫТКІ СТАРАЖЫТНАГА СВЕТАСУЗІРАННЯ Ў БЕЛАРУСАЎ».*

*ЕЎНІК*

*Еўнік жыве ў еўні, у печцы ці на печцы. Па знешнім выглядзе мала адрозніваецца ад Дамавіка. Толькі тым, што Дамавік «здаецца» ў белым «насове», а Еўнік у чорным (трэба разумець — ад куродыму), толькі вочы гараць, як вуголле. Дамавік і Еўнік гаспадарлівыя. Еўнік начамі мяце гумно, вее збожжа, а ў дасведчаных гаспадароў нават малоціць зранку.*

*ХЛЕЎНІК*

*Дамавік і Еўнік — заўсёды жаданыя госці, з імі сябруюць, ім дагаджаюць. Яны маюць параўнальна бяскрыўдны нораў, дбаюць аб гаспадарцы, калі жывуць у згодзе з гаспадаром. Але Хлеўнік не такі, не такое стаўленне да яго. Як толькі ён паказваецца, зараз жа імкнуцца выжыць, пазбавіцца ад яго. І не дзіва! Ён псуе скаціну, гайсае па начах на конях, а ад такіх скачак коні хутка худаюць і, калі своечасова не пазбавіцца ад Хлеўніка, хутка гінуць. Бывае, ён ездзіць па чарзе: то на адным кані, то на другім. Часам прывязваецца да якога-небудзь аднаго — улюбёнага. Конь б'ецца, скача, як шалёны, хоча скінуць Хлеўніка, але гэта не ўдаецца. Конь іржэ, кліча гаспадара на дапамогу. Прыйдзе гаспадар — нікога няма, толькі конь упараны і не мо-*

*жа аддыхацца. Тое самае бывае і з каровамі — на іх таксама Хлеўнік ездзіць. Каровы бегаюць па хляве, мыкаюць, худаюць, перастаюць даваць малако.*

*Хлеўнік баіцца сарокі, і дасведчаныя фурманы вешаюць гэтую птушку над дзвярыма канюшні.*

*Варажбітка і лекарка м. Халопенічы Барысаўскага павета, ад якой мы запісалі значную частку нашых матэрыялаў, паведаміла нам самы верны сродак пазбаўлення ад Хлеўніка. Трэба звіць з пасконі (канопляў з тычынавымі кветкамі) пугу. Звіць у тры столкі; на канцы навязаць тры вузельчыкі, адступіць і навязаць яшчэ пяць вузельчыкаў, а пасля яшчэ тры. У ноч, калі настане маладзік, перад хлявом паставіць жароўню з асінавым вуголлем. Калі ўжо ўсё падрыхтавана, узяць карову ці каня за хвост і гнаць праз хлеў да дзвярэй, біць пугаю. Перагнаць праз жароўню. Так перабраць усіх кароў і коней. Пры гэтым трэба казаць: «Пайшла хіра (хвароба, погань) на узвей вецер!»*

— Ну, як табе падабаецца? — Ціхаміраў з’явіўся ў дзвярах з падносам, на якім стаялі дзве шклянкі з гарбатай і вазачка з печывам.

— Хто? Хлеўнікі з Еўнікамі? Мне з імі не жыць!

— Па-першае, яшчэ невядома, з кім табе жыць. Па-другое, я пытаюся пра кніжку, — сказаў Ціхаміраў, ставячы паднос на стол. — Не глядзі, што няма цукарніцы, я кінуў нам па дзве лыжкі. Ты памяшай.

Я паслухмяна размешваю цукар срэбнай лыжачкай.

— Кніжка цікавая, — адзначыў я, — добра было б пачытаць. Табе Максім даў?

— Так.

Максім любіў гэтую кнігу, па ёй ён вывучаў сваю далёкую і загадкавую Бацькаўшчыну. У 1913 годзе Максім Багдановіч пісаў у Вільню свайму сябру, сакратару «Нашай Нівы» Вацлаву Ластоўскаму: *«Пасылаю Вам у прэ-*

*зент кніжку бацькі. Вы, здаецца, любіце розныя «унікумы», ну, гэта унікум і ёсць, бо надрукавана яна была ў невялічкім ліку экзэмпляраў і ў продаж пушчана не была — бацьку ў ёй нешта не спадабалася, і ён узяў яе з кнігарняў».*

— Мяне здзіўляе толькі адно, — падзяліўся я з Ціхаміравым сваім сумневам, — як гэта «варажбітка і лекарка м. Халопенічы, Барысаўскага павета» дазволіла запісаць ад яе «значную частку матэрыялаў»? Варажбіты ж нікому не перадаюць свае сакрэты, апрача сваіх вучняў і нашчадкаў?

— Менавіта так! — Ціхамiраў падскочыў з крэсла.

Прызнаюся, мяне гэтыя рэзкія рухі часам нервавалі. Можа, на сцэне гэта ўсё і добра, але ж у рэальным жыцці...

— А што б ты сказаў, каб даведаўся, што «варажбітка і лекарка м. Халопенічы, Барысаўскага павета» — родная бабка Адама Багдановіча і адпаведна — прабабка Максіма?

Ціхаміраў увайшоў у ролю, а я не мог зразумець: ці ён паведамляе мне надзвычай цікавы факт, ці проста містыфікуе. Я нават забыўся, з якой нагоды завітаў да яго.

— Што ты маеш на ўвазе? — запытаўся я. — Ты кажаш мне, што прабабка майго суседа па парце была варажбіткай, і я мушу табе верыць?

— Канечне!

— Чаму?

— Таму што так было на самай справе!

Адам Багдановіч пісаў пра сваю бабулю Рузалю: *«Яе вядомасць і ўплыў як варажбіткі-знахаркі і захавальніцы народных абрадаў у выключныя моманты народнага жыцця (радзіны, хрэсьбіны, вяселлі, хаўтуры, сеўбы, зажынкі, дажынкі, талака, улазіны) шыро-*

*ка былі распаўсюджаны ў Халопеніцкай акрузе; да яе прыходзілі па параду і ва ўсе ўрачыстыя моманты запрашалі «парадак даваць». А таксама: «Быў яшчэ ў бабы Рузалі маленькі даходзец: варажба на картах і знахарская дапамога. Варажбу яна лічыла справай грахоўнай, каялася папу на споведзі і заракалася варажыць, але супраць неадступных просьбаў і ўпрошванняў з паданнем на калені, з паклонам у ногі, з бажбой, што «грэх бяру на сябе»:*

*— І які тут грэх — параіць, памагчы чалавеку ў бядзе! — супраць такіх просьбаў баба не магла ўстаяць. У якасці кампрамісу са сваім сумленнем рашуча адмаўлялася варажыць увечары напярэдадні нядзельных і святочных дзён, на куццю і ў вялікі пост. Але калі і тут дазарэзу патрэбна была варажба, і калі прытым чалавек прыехаў здалёку альбо прыйшоў, баба Рузаля самааддана абцяжарвала сваё сумленне. Калі ў старасці ў яе ўтварылася кастаеда на локці правай рукі, баба вызначыла дзве прычыны: альбо таму, што варажыла на картах, альбо таму, што «прысягу прымала». Сведчанне пад прысягаю было, зразумела, праўдзівым, але па старажытнаму перакананню, якое баба цалкам падзяляла, «і ад праўдзівай прысягі дванаццаць жыл замірае». А што ж тады ад непраўдзівай?*

*Але знахарская дапамога травамі, мазямі на мядзведжым і заячым сале, адварамі, настоямі і інш., прымітыўная хірургічная дапамога, як управаўленне вывіхаў, перавязкі пры пераломах касцей, управаўленне пупочнай грыжы і інш., не лічылася грахоўным, калі выконвалася без шэптаў і замоваў. Такая дапамога здзяйснялася большай часткаю задарма, «для ўратавання душы». Ды і браць за гэта грошы альбо плаціць за гэта грашыма лічылася непрыстойным. Іншая справа,*

*калі, узгадаўшы аб дапамозе, прынясуць вам пры выпадку кавалак сала, пару-другую яечак ці мядку ў падарунак (у ганаровы дар, ганарарый) — гэта не парушала прыстойнасці, зусім наадварот. Інакш вы рызыкавалі паказацца нявыхаваным.*

*За варажбу на картах цвёрдая такса была ў тры капейкі за сеанс у тры раскладачкі. Стараватыя людзі, калі варажба давала важныя ўказанні альбо дасягала мэты ці была па сэрцы, клалі ад шчодрасці цэлую «дзясятку», г. зн. пятака, дзесяць грошай. Гэта быў няверны, але ўсё ж такі даход, які ў год складаў асобную частку ў бабіным бюджэце, рублі два-тры. І то грошы!»*

— Практычны здаровы розум ведаў заўсёды, што ад карася не народзіцца парася, што жнецца менавіта тое, што сеецца, — гаварыў Ціхаміраў. — Гэта не перашкаджала, аднак, існаванню пераканання, што чалавек нараджаецца ў выглядзе нейкай белай старонкі, на якой можна пісаць усё што заўгодна. З гэтага пункту гледжання выхаванне і ўмовы асяроддзя цалкам ствараюць чалавека. Здавалася, варта толькі выпрацаваць мэтазгодны план выхавання, каб стварыць ідэальных людзей. Канечне, і гэта справа нялёгкая, але, ва ўсялякім выпадку, гэта справа рук чалавечых, кіруемых свядомасцю і воляй, не нейкіх непераможных стыхійных сілаў... Вучэнне Дарвіна паклала канец усім падобным надзеям, сістэматызаваўшы ўсе вядомыя факты спадчыннасці і склаўшы іх у грозную сілу...

— Ты зараз гаворыш ад сябе ці ўжо пачаў знаёміць мяне са сваёй сцэнічнай роллю? — запытаўся я, адставіўшы шклянку з гарбатай.

Ціхаміраў спыніўся, паглядзеў на мяне і сказаў:

— Канечне, але ты маеш рацыю: гэта звязана з роллю. Я шмат думаю пра спадчыннасць апошнім часам.

Пра гэта шмат напісана. Напрыклад, Эміль Заля паказвае ў сваім рамане чалавека, у якім у пэўныя моманты абуджаецца крывавы інстынкт, і ён нічога не можа зрабіць з сабою.

— Што ты хочаш гэтым сказаць?

— Пачакай, — Ціхаміраў выцягнуў з шуфляды кнігу ў цвёрдым пераплёце, — паслухай, што пісаў таленавіты французскі пісьменнік Гюё: «*Шматлікія сучасныя навукоўцы і філосафы ўпэўнены, што выхаванне радыкальна бяссільнае, калі справа датычыцца глыбокіх зменаў спадчыннага тэмпераменту і характару. Па іх меркаванні, злачынцамі нараджаюцца, як нараджаюцца і паэтамі. Лёс дзіцяці прадвызначаны ва ўлонні маці і затым непераадольна разгортваецца ў жыцці. Няма лекаў супраць той агульнай хваробы для ўсіх неўраўнаважаных: вар'ятаў, злачынцаў, паэтаў, істэрычных кабетаў. Хваробу гэтую назвалі неўрастэніяй. Неўраўнаважаныя назаўсёды страчаныя для чалавецтва, гора яму, калі яны даюць нашчадкаў. Сям'я Юке мела сваім продкам п'яніцу і выставіла за 75 гадоў 200 зладзеяў і забойцаў, 288 калекаў і 90 прастытутак. У старажытнасці цэлыя сем'і былі абвешчаныя нячыстымі і праклятымі*». Далей ён піша пра падабенства гіпнозу і выхавання...

— Гіпнозу і выхавання?! Па-мойму, ты не сочыш не толькі за сваімі, але і за чужымі думкамі. Няўжо гэты аўтар рэкамендуе ў выхаваўчых мэтах гіпнатызаваць дзяцей?

— Ты не сочыш за маімі думкамі! — пакрыўдзіўся Ціхаміраў.

— Твае думкі блытаюцца.

— Ага. Каб разабрацца ў іх, трэба мець хоць крышачку цярпення. Таму дазволь мне... Дазволь...

Я зразумеў, што варта памаўчаць і паслухаць.

— Гавары, хто табе не дае! Толькі супакойся. У цябе выгляд чалавека, які адкрыў нікому не вядомы сакрэт...

— Ты здагадлівы!

Я падумаў, што яшчэ крыху — і я буду сумнявацца ў душэўным здароўі свайго сябра, яго паводзіны мяне здзіўлялі. Ён меў вочы чалавека, які шмат часу правёў без сну, а кожнае сказанае слова выдавала ўнутранае хваляванне.

— Ты ведаеш, я пачаў працу над роллю ў п'есе «Жыццё ёсць сон», і мяне, натуральна, цікавіць усё, што тычыцца гэтай тэмы. У адной старой кніжцы слова «гіпноз» перакладаецца як «насланнё». І мне здаецца гэта правільным, бо на гіпнотыка менавіта «насылаецца» чужая воля. І я зразумеў, што мастацтва — гэта таксама насланнё! Вось у чым яго сакрэт, вось чаму вершы прымушаюць хутчэй біцца сэрцы людскія...

— А паэты, пісьменнікі, мастакі, акцёры — яны хто? Гіпнатызёры?

— Натуральна!

Магчыма, кожная версія мае права на існаванне. Нездарма верагоднасць займае месца паміж праўдай і няпраўдай, паміж тым, што адбылося, і тым, што магло адбыцца. У нармальным стане мы не знаходзімся ва ўладзе якога-небудзь эксперыментатара, але вакол нас усё адно ствараецца сетка ўплываў. Карацей, паўсюль — суцэльнае насланнё. Здольнасць супраціўлення якому у кожнага чалавека розная. Ёсць людзі, для якіх яно наогул немагчымае, іх асоба раўняецца амаль нулю ў суме матываў, што вызначаюць іх дзеянні. Разнастайныя формы падпарадкавання, малпаванне, захаплення, абаяльнасці ўладарнай асобы — усё гэта прадукты наслання.

— І што, змест п'есы сапраўды так звязаны з гіпнозам, што ты захапіўся гэтымі ідэямі? — спытаў я.

Ціхаміраў збянтэжана паглядзеў на мяне.

— А ты не ведаеш зместу драмы?

— Адкуль мне яго ведаць?

— Я ж распавядаў на апошніх занятках гуртка! У гімназіі.

— А я ўжо не памятаю.

— Тады ўсё ясна, мне варта было спачатку пераказаць табе п’есу, а пасля ўжо казаць пра ўсё астатняе. Але я перакажу яе зараз, і ты ўсё зразумееш. Драма «Жыццё ёсць сон» да гэтага часу ставіцца ў Іспаніі. Перакладчыку давялося ўбачыць яе на сцэне ў Мадрыдзе, і ён пераканаўся, што «яна не толькі сцэнічная, але што яе сімвалічны філасофскі сэнс ад сцэнічных эфектаў выступае яшчэ больш ярка і выразна». А далей ён кажа: «Неабходна, каб асобы, якія загадваюць рэпертуарам рускіх тэатраў, не пакінулі без увагі багаты сцэнічны матэрыял, адлюстраваны ў драмах Кальдэрона»...

— Ты зноў пераконваеш мяне, што іспанская драма вартая рускай сцэны, а абяцаў пераказаць змест.

— Ну, слухай. Дзеянне адбываецца ў Палоніі, гэта, напэўна, сучасная Польшча. Але тады гэта была моцная дзяржава. Гэта драма пра чалавека, які памёр яшчэ да нараджэння, бо быў пракляты...

— Калі ён нарадзіўся мёртвым, то гэта, хутчэй, драма ягоных бацькоў.

— Ты ўсё разумееш літаральна... Сегізмунда быў сынам караля Польшчы. У начных снах і трызненнях яго маці шмат разоў бачыла адно і тое ж: на свет нараджалася пачвара, якая мела выгляд чалавека. Ён нарадзіўся пры такім жахлівым гараскопе, што крывавае сонца ўступіла ў бойку з белай поўняй. Адбылося такое зацьменне сонца, якога не было з дня ўкрыжавання Хрыста.

Ён адразу выказаў свой нораў, забіўшы сваім нараджэннем тую, якая давала яму жыццё. Астролагі прадказалі, што Сегізмунда будзе жорсткім тыранам. Кароль Паланіі вырашыў праверыць: ці не дадзена мудрым пераадолець уплыў лёсу і зор. Ён абвясціў, што інфант нарадзіўся мёртвым, а сына пасяліў у турэмнай вежы, далёка ў гарах. Кожнага, хто хаця б выпадкова бачыў прынца, чакала смерць. У вежы прынц-вязень меў настаўніка Клатальда, які выкладаў яму навукі і асновы каталіцкай веры.

Сегізмунда не мог выявіць ні сваіх добрых, ні дрэнных якасцяў, бо нават зоры, якія вызначылі ягоны лёс, ён бачыў праз турэмныя краты. А пасля караля Польшчы Басіліа наведала думка, што, замураваўшы роднага сына ў вежы, паступае ён не па-хрысціянску. Яму падалося, што, ратуючы сваю краіну і народ ад жорсткага караля-тырана, ён сам выступае як тыран у адносінах да свайго роднага сына. Так кароль Польшчы вырашыў праверыць свайго сына: аб чым марыў Сегізмунда за кратамі? Ці можа чалавек перамагчы свой лёс, ці можа Неба злітасцівіцца і змякчыць наканаванае? Ён дае магчымасць Сегізмунда выпрабаваць сябе.

Па загадзе караля настаўнік падмяшаў свайму выхаванцу соннага зелля. Пот халодны заструменіў па Сегізмунда, ён знерухомеў. І каб не ведаў настаўнік, што ён спіць, а сон — толькі прывід смерці, то мог бы сказаць: прынц мёртвы. Так, апанаванага глыбокім сном польскага прынца перавезлі ў палац, дзе ён прачнуўся сярод раскошы. Меркавалася, што калі зоркі прадказалі праўду і Сегізмунда будзе жорсткім і нястрыманым тыранам, то яго зноў усыпяць і ў стане летаргіі занясуць у вязніцу. Кароль лічыў, што такім чынам ён зможа «пакінуць злу свабодны выхад і даць яму магчымасць думаць: усё, што я бачыў — толькі сон».

Гэты мудры бацька кажа настаўніку: «І калі так ён будзе думаць, не памыліцца ён, Клатальда, бо ў гэтым свеце кожны — жыве і толькі бачыць сон». Так бацька даў свайму сыну магчымасць адчуцьсябе каралём, а пасля зноў апынуцца за кратамі.

— І што было далей?

— Тое, што прадказалі зоры: ён быў жорсткім і помслівым, забіваў людзей. Прыніжаў бацьку і настаўніка, хацеў іх таксама знішчыць. Ён помсціў бацьку за тое, што той выхоўваў сына як дзікага звера.

— І прынц зноў трапіў у вязніцу?

— Вядома... А сваю ўладу стары кароль вырашыў перадаць «герцагу Масковіі Астольфа». Той быў добры. Але народ узбунтаваўся, людзі не хацелі караля-чужаніцу, пачалося паўстанне. Сегізмунда быў зноў вызвалены з турмы. Ён змагаўся супраць свайго бацькі і перамог. Але нораў ягоны змяніўся — ён стаў ідэальным уладаром. Усе здзіўлены, а Сегізмунда кажа, што настаўнікам яго быў сон, што ён баіцца зноў прачнуцца і ўбачыць сябе ў турэмных мурах: «Я ведаю: зямное шчасце праходзіць усё, як хуткі сон». Вось такая драма — невычэрпная крыніца для роздуму.

— А твая роля?

— Мая? Паяц Кларын. Ён браў удзел ва ўсіх падзеях, а калі пачалося паўстанне, вырашыў схавацца між скалаў, каб «дзве дулі смерці паказаць».

— Паказаў?

— Толькі напаткаў сваю смерць — забіла шальная куля. А перад смерцю я... не я, а Кларын, — запнуўся і тут жа папраівіўся Ціхаміраў, — прамаўляе: «Няма дакладнага шляху, ад лёсу каб свайго схавацца, ад непазбежнага сысці». Акрываўленае цела паяца сімвалізуе бессэнсоўнасць змагання з вышэйшымі сіламі.

— А дзе гэта ўсё адбываецца? — перапытаў я.

— Я ж табе ўжо казаў, — тонам пакрыўджанага дзіцяці адказаў Ціхаміраў.

— А я ўжо забыў. Ты мне даруеш?

— Дарую... Дзеянне адбываецца пры двары караля Палоніі.

— Гэта значыць недалёка ад радзімы нашага Максіма, — адзначыў я.

— Чаму? — разгублена паглядзеў на мяне Ціхаміраў.

— А таму, што нарадзіўся ён у Беларусі. Ты хіба не ведаў?

— А што, хіба ёсць такая краіна?

— Такой краіны няма, але ён там нарадзіўся.

— Я быў упэўнены, што Максім нарадзіўся ў Ніжнім Ноўгарадзе, а яго маці была сястрой жонкі пісьменніка Максіма Горкага і рана памерла, — сказаў Ціхаміраў.

— Ты ўсё пераблытаў. Максім нарадзіўся ў Мінску, а ў Ніжні яны пераехалі, калі маці ўжо памерла, а Максіму было пяць гадоў.

— А сястра жонкі пісьменніка?

— Гэта другая жонка бацькі. Зразумеў?

Ціхаміраў кіўнуў і сказаў:

— Зрэшты, якая розніца? Кальдэрон сцвярджаў, што ўсё жыццё — памылка, а лепшы міг — калі чалавек не разумее гэтага...

— А бацька твой ужо ведае пра ўсе гэтыя справы?

— Не, — уздыхнуў Ціхаміраў, — але хутка даведаецца.

— Ты так думаеш?

— А хіба гэта можна схаваць?!

— І што ты будзеш рабіць? — спытаў я. Шчыра кажучы, я проста не ўяўляю, што будзе, калі ўсё гэта выплыве. А ўжо тое, што можа зрабіць Ціхаміраў... Мне было цяжка паставіць сябе на ягонае месца.

— А яшчэ лепш — прызнацца. Я скажу бацьку ўсё, як ёсць, а там...

— Чаму ты вырашыў, што нашыя родныя наогул здольныя зразумець нас? Я б на тваім месцы не рабіў гэтага... Не казаў бы нічога да апошняга.

— У кожнага — сваё месца, і кожнаму сваё, — сказаў мне на развітанне Ціхаміраў. — Але я веру ў сваю шчаслівую зорку. Сустрэнемся ў пячоры!

— Сустрэнемся!

— Ты не забыўся ўзяць кнігу?

Не, я не забыўся. «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў» былі са мною.

## *Глава 18. Перспектыва*

Беларусы лічаць цень нечым накшталт адбітку душы, як бы двайніком чалавека.
Адам Багдановіч

Кнігі з бібліятэкі Адама Багдановіча мелі вялікі ўплыў не толькі на Максіма, але і на яго сяброў.

Дзіядор Дзябольскі пісаў: *«Не адразу пасля нашага знаёмства ён распавёў мне, што піша вершы і на беларускай мове. Неяк, сустрэўшыся са мною ў шырокім калідоры гімназіі, ён працягнуў мне тоненькі сшытак; гэта быў толькі што атрыманы ім нумар «Нашай Нівы». Ён падаў яго разгорнутым, і я прачытаў:*

*Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун*
*Пачынае няголасна граць:*
*Пад рукамі яго, навяваючы сум,*
*Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,*
*Танкаствольныя сосны звіняць.*

*Мне спадабалася. У бліжэйшы ж дзень у мяне з'явіліся ўзятыя ўсё з той жа шафы невялікія, у зеленаватых вокладках кніжкі, некаторыя надрукаваныя лацінскім шрыфтам. Гэта былі кніжкі першых беларускіх пісьменнікаў. Так я пазнаёміўся з беларускай літаратурай, пра існаванне якой не меў да гэтага ніякага ўяўлення. З таго часу я стаў пастаянным чытачом «Нашай Нівы»».*

І я чытаў кнігу бацькі Максіма з захапленнем. Нічога не ведаў я тады пра Беларусь (не нашмат болей, здаецца мне, ведаю і цяпер), таму не выклікала ў мяне супраціву аўтарская прадмова: *«Беларускія сяляне*

*тлумачылі па-свойму выраз «западный край» — выраз, чужы для беларускай мовы. Яны перадавалі яго словамі «западлы край», г. зн. закінуты, захудалы. Хаця з філалагічнага пункту гледжання можна было выступіць супраць такога вольнага перакладу, але рэчаіснасць яго апраўдвае. І жыццё беларуса, і яго творчая дзейнасць рэзка адзначаны пячаткай неразвітасці, адсталасці, забітасці. Менавіта «западлы край», «западлы» народ...*

*Узяць хаця б беларускія песні, гэта агульнапрызнанае люстэрка народнай душы. І яны сведчаць аб той жа «западласці». Песень у беларусаў шмат, але змест іх бедны, вельмі аднастайны».*

Зрэшты, гэтыя словы маглі быць напісаны аўтарам дзеля выдаўцоў і цэнзараў. Я з дзяцінства звыкся з тым, што на прадмовы не варта звяртаць увагі. Трэба проста самастойна чытаць кнігу. Слова даходзіць да нас з мінулых эпох, мінулых пакаленняў, мудрасці стагоддзяў, трэба толькі ўмець знайсці і зразумець. Часам неабавязкова кнігу чытаць, дастаткова толькі ўзяць яе ў рукі і паглядзець. Максім Багдановіч пісаў:

Псалтыр, пакрытую няжорсткай бурай кожай,
Я ўзяў і срэбныя засцёжкі адамкнуў.
Перачытаў радкі кірыліцы прыгожай
І воску з ладанам прыемны пах пачуў.
Вось псальма слічная. «Як той алень шукае
Крыніцы чыстай, так шукаю Бога я».
Як вее свежасцю яе краса жывая!
Як радасна далей спяшыць душа мая!
І бачу я ў канцы няхітрую прыпіску,
Што «кнігу раб Божы, дзяк Гапон,
Дзеля душы пісаў у месце Ваўкавыску
У рок сем тысяч сто васьмы з пачатку дзён».

Мяне не кранула прадмова, апрача яе ў кнізе было шмат цікавага. Я чытаў перад сном у ложку, а пасля заснуў і ўбачыў сон. Гэты сон, які бачыў я тады ўпершыню, не пакідаў мяне ўсё жыццё. Ён вяртаўся да мяне.

Ноч, дарога, дрэвы паабапал дарогі. Вельмі цёмна. У чорным небе халодная белая поўня. А на зямлі так цёмна, што я не магу бачыць зямлю пад сваімі нагамі. Магу толькі адчуваць — шлях брукаваны. Я не ведаю, куды іду, але ж з кожным крокам душу маю апаноўвае няпэўны і невытлумачальны страх. Хачу ісці хутчэй, але з чым параўнаць маю хуткасць? Такое ўражанне — тапчуся на месцы. Ніколі раней не думаў, што бывае так страшна! Цемра суцэльная, і з кожным крокам расце ўпэўненасць: мне не выбрацца з гэтай цемры. Дарога пад урачыстай срэбнай поўняй — мой апошні шлях. І я ўжо чую ў цішыні шоргат кіпцюроў па бруку — мяне даганяе пачвара. Пачвара скача на мяне, валіць і раздзірае горла. Я задыхаюся ва ўласнай крыві, і апошняя мая думка: «Гэта не воўк, гэта вялізны сабака!»

Я падхапіўся ў жаху. Гэта была тая самая сітуацыя, калі адчуваеш сябе шчаслівым, бо ўсё, што адбылся, было толькі сном.

Я дацягнуўся да шклянкі з вадой, якая звычайна стаяла на тумбачцы ля майго ложка, папіў вады і павярнуўся на спіну.

«Дзякуй Богу, што я, прынамсі, не самнамбул, — падумаў я, — не хаджу ў сне, не лажу начамі па карнізе, не палохаю сваіх родных і блізкіх». Я стараўся супакоіцца, але страх не праходзіў. Апошняя акалічнасць мяне найбольш насцярожыла. Як такое магчыма: сон скончыўся, а страх застаўся? Да таго ж у час поўні не бывае такой суцэльнай цемры — усё цудоўна бачна.

У Максіма Багдановіча ёсць верш, які так і называецца — «Самнамбул».

Месяц выплыў над змрочнай, заснуўшай зямлёй,
І павёў яго ў цёмную даль за сабой,
І прывабіў да мглістай халоднай вады, —
Сэрца білася рыбкай у сеці тады.
Але месяц правёў праз раку светлы шлях.
І развеяўся з сэрца дрыжачага жах.
Зіхацела яна — серабра пуціна,
Увадзіла ў той край, дзе пануе вясна.
Доўга, доўга цябе ён чакаў і шукаў,
Але вось час жаданы нарэшце настаў...
І пайшоў ён па шляху, пайшоў аж да дна:
Агарнула яго цішына, глыбіна.

Я вырашыў, што мой сон — вынік размовы з Ціхаміравым. Я супакоіўся, заснуў і... зноў апынуўся на знаёмым брукаваным шляху пад поўняй. Толькі на гэты раз я ўсё цудоўна бачыў. Я вылез з пячоры на адкрытую прастору. Белая поўня заліла наваколле бліскучым святлом, я адрозніваю кожны малы каменьчык на дарозе. Я ўпэўнена стаю на сваіх чатырох нагах і назіраю за чалавечай постаццю, што ідзе, не разбіраючы дарогі. Я ведаю, што яму нішто не дапаможа... Я лячу ўслед за ім, скачу на спіну, дзяру горла і захлынаюся чужою крывёю.

Гэты сон быў страшнейшы за папярэдні. Я ўпэўніўся: лепей мне не спаць гэтай ноччу. Я ціхенька ўстаў, запаліў святло і ўзяўся за кніжку бацькі Максіма. Там я знайшоў цэлы раздзел пра сон: *«Беларусы яшчэ захоўваюць погляд, уласцівы першабытнай ступені разумовага развіцця, што падчас сну душа выходзіць з цела і наведвае розныя месцы, у тым ліку і недасяжныя, як, напрыклад, замагільны свет. Аднак яна не пакідае цела цалкам. Па меркаванні адных (у тым ліку і Рузалі Асьмаковай — знахаркі і тлумачальніцы сноў),*

*яна як бы выцягваецца з рота ў выглядзе нязмернай стужкі, якая адным канцом застаецца ў чалавеку, а другім можа быць, дзе хоча. Гэтым тлумачыцца, што цела падчас сну жывое. Іншыя ігнаруюць апошняе меркаванне і ўпэўнены, што душа выходзіць з цела цалкам. Але не выпускае цела з поля зроку, як бы далёка яна ні адлучалася. Калі целу пагражае небяспека альбо яго будзяць, душа спяшаецца вярнуцца на сваё месца. Як тыя, так і другія тлумачальнікі сноў згодныя ў адным, што моцны сон, калі чалавека цяжка пабудзіць, залежыць ад крайняй аддаленасці душы.*

*Сны — гэта мроі душы падчас яе падарожжаў. У рэальнасці гэтых мрояў беларусы нікольки не сумняваюцца. Толькі трэба іх, гэтыя мроі, разумець. Адсюль тлумачэнні сноў. Адно разумеецца проста, другое алегарычна альбо па аналогіях, а іншае тлумачыцца ў адваротным сэнсе.*

*Возьмем для прыкладу некалькі традыцыйных тлумачэнняў. Бачыць у сне папа — мець справу з нячыстай сілай; бачыць пахаванне — да вяселля; пажар — шчасце, багацце; бачыць бабы, гарох — ліць слёзы; вырваць зуб ці пазбавіцца якога-небудзь члена свайго цела — смерць блізкага чалавека (калі пры гэтым цячэ кроў — памрэ крэўны родзіч).*

*Асаблівае значэнне надаецца снам, у якіх фігуруе хто-небудзь з памерлых сваякоў. Тут трэба імкнуцца так ці інакш угадаць іх волю і выканаць яе. Нават сама назва сноў сведчыць пра адносіны іх да замагільнага свету. «Видеть во сне» — па-беларуску «трызніць». Гэта слова стаіць асобна ў беларускай мове, не мае аднакарэнных і вытворных. Нам здаецца, можна зблізіць яго са старажытным словам «трызна».*

*Прароцкі сэнс надаецца словам, сказаным у сне. Але з прычыны таго, што яны часта бываюць ма-*

*лазразумелымі, трэба, як толькі чалавек пачне трызніць, узяць яго адной рукою за мізінец, злёгку пагладжваць другой рукой ягоную руку і задаваць пытанні — тады адказы будуць талковымі, тады нельга будзе нічога схаваць. Між іншым, так раўнівыя мужы выпрабоўваюць вернасць сваіх жонак.*

*З папярэдняга вынікае, што беларусы ўяўляюць сабе душу як штосьці матэрыяльнае, але больш тонкае, чым адчувальныя рэчы. Душа, па іх тлумачэнні, — «дух», пара (як у лазні), якая можа бясконца мяняць форму і прымаць разнастайныя вобразы, а таксама быць нябачнай. Шмат хто сцвярджае, што бачылі, як у чалавека перад скананнем душа выходзіць з рота ў выглядзе пары. У нядаўнія часы, а ў некаторых мясцінах Беларусі і цяпер, адразу пасля смерці аднаго са сваякоў ставяць на стол місу з вадою і вешаюць перад абразамі ці ля акна чысты ручнік, каб душа магла ўмыцца і ўцерціся. У выпадку доўгай агоніі, калі «душы цяжка развітацца з целам», адчыняюць аддушыну, а часам выдзіраюць са столі дошку, каб даць душы свабодны выхад на вольнае паветра».*

Чытанне мяне не супакоіла, таму я адклаў кнігу і пачаў думаць пра новую сходку ў пячоры. Чытаць ці не чытаць мне там свае вершы? Да гэтага часу я напісаў яшчэ пару. Але што вершы! Хіба маглі яны выказаць усе мае адчуванні? Ці той жах, які я толькі што перажыў у сне? Ніхто і нішто не можа перадаць майго жаху!

* * *

Мы ўжо не пісалі адно аднаму цыдулкі на ўроках — могуць лёгка перахапіць і даведацца пра нашыя намеры.

Бяспечней зусім па-простаму падысці да сябра на перапынку і сказаць: «Вырашылі сабрацца сёння ў пячоры. Згодны?»

Усе былі згодныя. Прайшоў ужо час пасля першага пасяджэння, можна было падводзіць першыя вынікі самаўдасканальвання. Кожны меў што сказаць.

На перапынку Максім падзяліўся са мною сваімі вясновымі ўражаннямі. Ягонае ўспрыманне вясны вельмі моцна адрознівалася ад майго. Я ўжо казаў, што не люблю гэтую пару года. А Максіму здавалася, што вясна напоўніла яго новымі сіламі. Усхвалявала майго сябру чыстае, мяккае паветра, што ціха казытала лёгкія, *«забіраючыся ў самыя далёкія, ужо адвыкшыя дыхаць куткі»*, і не стрываў, *«...распластаўся ён на траве, і палілася яму ў душу салодкая ціхая лень, што тонкім хмелем плыла ў светлым, расплаўленым сонцам паветры, адбівалася ў вачах, у мяккай беспрычыннай усмешцы, — і заваражыў яго і дрымотай агарнуў неперарыўны ласкаючы вуха шум свежых лісцяў і невядома дзе пачынаўшыся і знікаўшы чысты звон; ціха дрыжэў ён у паветры, і немаведама было: ці то гладкія, белыя каменьчыкі грукацелі пад дзюрчашчай вадой; ці то пчолкі бруялі і ўторвалі ім конікі трэскам; ці далятаў з далёкага гасцінца невялічкі переразвон бомаў; ці то проста ў вушах звінела?.. Вакол схіліліся сцебялькі зёлак. Сіненькі цвяток над самай галавою павіс і вабіў спусціцца тоўстага, махнатага, чорнага чмеля з чырвоным задком. Вышэй круціліся рознакалёравыя мухі, хісталіся галіны клянку, і праз выразныя цёмныя лісты дубоў сінела далёкае неба; пад ім марудна праплывалі белыя хмаркі, гледзячы на каторыя можна было забыць аб руху часу...»*.

Я сказаў, што вясной не варта ляжаць на зямлі. Гэта толькі здаецца, што цёпла, а на самай справе зямля

яшчэ не прагрэлася. Да таго ж выглядаў ён няважна: твар бледны, з выразнымі чырвонымі плямамі, частае дыханне, здавалася, ён хоча ўдыхнуць як мага болей паветра. Максім адказаў, што сам цудоўна ведае ўсё, што я яму кажу, і нават болей за мяне, але ж на тое і створаныя забароны, каб іх парушаць. З апошнім я быў прынцыпова не згодны, бо быў упэўнены, што трэба жыць па правілах.

Максім вельмі ўсхваляваўся, даводзячы мне, што я памыляюся.

— Чалавек не шахматная фігурка, якую можна рухаць па дошцы. Жыццё не гульня, усяго нельга спланаваць.

— Можна, усё можна, — адстойваў я свае перакананні, — і ў жыцці, і ў гульні галоўнае — ведаць правілы.

— Можа, ты і маеш рацыю, — задумаўся мой сябра, — бо ў паэзіі правілы трэба ведаць, гэта дакладна. Не ведаючы асноваў вершаскладання, нічога добрага не напішаш.

Гэтая ідэя была выказана ім пазней у паэтычным «Лісце да пана В. Ластоўскага».

Халодным розумам праняўшыся, натхненне
Ён мусіў тым губіць, — так кажа абвіненне.
Сальеры ў творчасці усё хацеў паняць,
Ва ўсім упэўніцца, усё абмеркаваць,
Абдумаць способы, і матар'ял, і мэту
І горача любіў сваю свядомасць гэту.
У творчасці яго раптоўнага няма:
Аснова да яе — спакойная дума.

Максім сказаў, што гэтым разам збіраецца чытаць у пячоры свае беларускія вершы.

— Бо як толькі заходзіць размова пра насельніцтва Расійскай імперыі, звычайна згадваюць усіх: палякаў, латышоў, эстаў, літоўцаў... А дзе беларусы? — так гаварыў ён мне.

— Мусіць, у Беларусі, — выказаў я сваё, можа, не зусім дарэчнае меркаванне.

— Не ў тым справа, — махнуў рукою Максім. — Галоўнае, каб кожны раз, калі ворагі беларушчыны ці проста недасведчаныя людзі будуць казаць: «Дзе мова, дзе культура беларуская?», можна было б выхапіць з папкі верш і прачытаць. Гэта і будзе лепшым доказам існавання беларусаў. У мяне ўжо ёсць такія вершы, і я хацеў бы паказаць іх вам.

— Ці ўсім гэта будзе цікава? — засумняваўся я.

— Цікавасць узнікне тады, калі я спалучу свае ідэі з дасягненнямі сусветнай паэзіі.

— Якім чынам?

— Тваім любімым, з дапамогай правілаў, — сказаў Максім з выглядам чалавека, якому, нягледзячы ні на што, удалося вынайсці новую сакрэтную зброю. — Я хачу ўвесці ў беларускую паэзію тры тыпы аднастрофных вершаў з трайным паўторам пачатковага радка (ці двухрадкоўя, ці паловы радка): на пачатку, у сярэдзіне і на канцы верша. Гэта васьміpадковы трыялет, дванаццаціpадковы рандэль і пятнаццаціpадковае рандо. У трыялеце паўтараецца пачатковае двухрадкоўе, у рандэлі — пачатковы радок, у рандо — пачатковая палова радка (ці двухрадкоўя, ці паловы радка): на пачатку, у сярэдзіне і на канцы верша. Паміж паўторамі ў трыялеце — адзін і два радкі, у рандэлі — чатыры і чатыры, у рандо — сем і пяць.

Вось так. А я і не здагадваўся, што мой цяперашні сусед па парце мае такія глыбокія веды па тэорыі вершаскладання. Я думаў, усё значна прасцей.

Відаць, шмат хто так думаў, пакуль не разумеў. А Максімава няспынная праца здзіўляла ўсіх. Змітрок Бядуля пісаў: *«Сядзеў пры керасінавай лямпе штодня да 3–4 ночы. Галоўным чынам ён тады студ'яваў тэхніку вершаў. Па гэтай галіне ён здабыў сабе шмат кніг як на рускай, так і на іншых мовах. Ён меў спецыяльны тоўсты сшытак, які быў цалкам запоўнены матэматычнымі вылічэннямі і герогліфамі — узорамі розных памераў вершаў. Гэтыя герогліфы ён час ад часу ілюстраваў пробнымі вершамі, якія часам чытаў мне. Памятаю — чытаў ён тады вершы з японскай паэзіі, якія сваёй арыгінальнай формай зграбна выходзілі на беларускай мове. Рабіў ён доследы і метрыкі і рытмікі беларускіх народных песняў, аб якіх зноў жа пісаў таемныя гераліфічныя знакі»*.

Тое, што даецца лёгка, не цэніцца. Адам Багдановіч сцвярджаў, што паэт з Максіма атрымаўся дзякуючы цвёрдай волі, рэдкай мэтанакіраванасці і інтуіцыі. *«Займаўся ён у асноўным лежачы, уставаў і сядаў да пісьмовага стала, калі трэба было пісаць. У працы быў настойлівы і ўпарты. Паставіўшы нейкую мэту, ён цвёрда і няўхільна імкнуўся да яе ажыццяўлення. І гэта выяўлялася нават у дробязях. Калі яму было 11–12 гадоў, я памятаю, ён паставіў сабе мэту — напісаць «Ойча наш» у адзін радок. Доўга гэта ў яго не атрымлівалася. Але ён настойліва біўся больш за тыдзень, мяняў пёркі на ўсё больш і больш вострыя. Літары памяншаліся да мікраскапічных памераў, і, нарэшце, дабіўся свайго: напісаў у адзін радок. І, захапіўшы лупу, урачыста панёс дэманстраваць сваё дасягненне стрыечным братам і сёстрам Гапановічам, якія былі азнаёмлены з усім ходам гэтай дзіцячай задумы.*

*З той жа ўпартасцю ставіўся ён да вывучэння беларускай мовы і да напісання вершаў на ёй. Калі ўзяць*

*пад увагу стан здароўя, неабходнасць вучэння і ўсе абставіны жыцця, то нельга не прызнаць ягоную працу ў гэтай сферы велізарнай. І нельга не палічыць яго намер нават дзёрзкім. Бо не пайшоў жа ён па лініі найменшага супраціву: не стаў пісаць па-руску. Яго пераклады сваіх жа вершаў сведчаць, што ён і па-руску мог бы пісаць нядрэнныя вершы. Але ён гэты лёгкі шлях яшчэ ў дзяцінстве адвергнуў і смела вырашыў пераадолець вялізныя цяжкасці, каб авалодаць роднай мовай сваіх продкаў, і авалодаць настолькі, каб пісаць прыгожыя вершы і ўзбагаціць гэтую мову новымі мастацкімі формамі. Да гэтай апошняй мэты ён імкнуўся цалкам свядома. Яму хацелася паказаць, што ніякі памер, ніякая форма не чужыя беларускай мове. Якія цяжкасці ён пераадолеў на гэтым шляху, сведчаць ягоныя рукапісы і сшыткі: колькі там выпісак са слоўнікаў, зборнікаў і старадрукаў! Хто з паэтаў, якія ўсмакталі беларускую мову з малаком маці, падымаў гэтую цяжкую руплівую працу? А ён, слабагруды, хілы, падняў! І нёс яе цярпліва, упарта, і для мяне і для ўсіх астатніх незаўважна.*

*Ён рэдка звяртаўся да мяне па параду ці тлумачэнне. А больш не было да каго звярнуцца. Ён ды кніга. Гэта ў нас фамільная рыса. А кніг пад рукамі было колькі заўгодна і па ўсіх пытаннях, якія толькі ўзнікалі.*

*Але чым растлумачыць выбар, пастаноўку мэты? Перадусім унутранай, відавочна, неадольнай цягай, роднай стыхіяй, інтуіцыяй, атрыманай у спадчыну ад продкаў. Гэта не пустыя словы; і, можа быць, ён сам, што гэта не пустыя словы, — адзін з яркіх доказаў. Астатняе зрабіла цвёрдая воля і ўпартасць у працы.*

*Апрача цяжкасцяў падрыхтоўчай працы, я не думаю, каб пісанне вершаў, сам працэс творчасці давалі-*

*ся яму лёгка; для гэтага недастаткова валодаць прыродным дарам вершаскладання, здольнасцю да версіфікацыі, але яшчэ неабходна валодаць усім запасам мовы, усім лексічным матэрыялам, жывымі выслоўямі, гатовымі злучэннямі слоў, ужо адлітымі ў стыхійным працэсе народнай творчасці ў вобразныя формы.*

*Але яму нічога гэтага не было дадзена ў гатовым выглядзе: усяго гэтага ён мусіў дабівацца ў працэсе творчай працы. Як гэта павінна было расхалоджваць творчы працэс! Вось чаму некаторыя ягоныя вершы, можа быць, здаюцца вынікам не столькі натхнення, колькі мастацтва. Вось чаму і ён сам у ацэнцы значэння асноўных элементаў творчага працэсу — зменлівага натхнення і халоднай думкі — аддае перавагу апошняй:*

*І — помню я — тады жа ўперш*
*З маёй душы паліўся верш.*
*Ён там кіпеў струёй жывою,*
*Праз ХОЛАД МЫСЛІ працякаў*
*І ў цвёрдых формах застываў,*
*Як воск гарачы пад вадою,*
*Каторым трэба вам гадаць,*
*Аб чым той вершык меў казаць.*

*Сваімі вершамі — гэта можна сцвярджаць напэўна — ён ніколі не быў задаволены. Ён іх удасканальваў, апрацоўваў доўга, рабіў гэта нават на парозе небыцця. І — жыві ён дольш — усё б шліфаваў, абточваў, удасканальваў бясконца».*

Праўду пісаў мінскі знаёмы Максіма — Змітрок Бядуля: *«Ёсць песняры, якія, нягледзячы на свае высокамастацкія творы, на ўтончаную далікатнасць і неж-*

*насць тонаў у перажываннях, адмалёваных у лірычных вершах, — аднак у звычайным штодзённым жыцці, у адносінах да людзей гэтыя песняры бываюць сухімі, неадзыўчывымі натурамі, бываюць праз меру празаічнымі.*

*А ёсць такія песняры, у якіх паэтычныя творы гармануюць з іх уласным жыццём. Яны з'яўляюцца паэтамі і ў звычайным жыцці.*

*Да ліку апошніх і належыць загінуўшы на 26-м годзе жыцця наш пясняр Максім Багдановіч».*

Я хацеў распавесці Максіму пра свае паэтычныя спробы, а пасля перадумаў.

## *Глава 19. Чысты вобраз ціхай радасці*

Даўно ўжо знікнуў дзень,
Ўжо стаўні замкнуты, гарыць агонь, і сцень
Ад галавы маёй са сценкі мне ківае;
У чорных рамках там сувора выглядае
Пісьменнікаў чарга; з іх кожны — блізкі друг.
Максім Багдановіч. Ліст да п. В. Ластоўскага

Нельга давяраць уласнай памяці. Ніколі не варта ўпэўнена казаць: «Усё было менавіта так, як я памятаю». У мінулым усё магчыма. Памяць у кожнага чалавека — свая, аднолькавай не бывае. Але я ведаю, што гэта было, і ніхто не зможа пераканаць мяне ў адваротным.

Мы верылі ў сваю выключнасць, у тое, што адрозніваемся ад усіх людзей, якія жылі калі-небудзь на зямлі. Нашы фантазіі былі рэальнейшымі за саму рэчаіснасць. А больш за ўсё палохала адсутнасць уражанняў. Гэтыя настроі і перадаў Максім у сваім вершы.

Прыйдзецца, бачу, пазайздрыць бяздольнаму Марку.
Моладасць плыне, а следу няма ніякога.
Эт, і чаму ж нагадала суворую Парку
Нітку мне прасці гатунку такога благога?

Ціха гудзіць і пяе у яе верацёнца,
Цягнецца, цягнецца доўгая, шэрая нітка;
Цягнуцца шэрыя дні без прасвету, без сонца,
І не пабачыш, здаецца, ні шчасця, ні ўжытку.

Хоць бы ты чорную, толькі б не шэрую прала,
Гора ждаў бы, ды толькі каб поўную чарку;

Але і гора такога пазнаў я замала.
Прыйдзецца, бачу, пазайздрыць бяздольнаму Марку.

Памяць можа здрадзіць, а паэзія — не. Вершы як кветкі. «*Пэўна, любіце вы, пане, між страніц старых, пажоўклых кнігі, ужо даўно забытай, адшукаць сухі цвяток. Паблядненелі яго фарбы, ледзь трымаюцца лісточкі... Але колькі ён прабудзіць ў сэрцы кволым пачуцця! Чаго вы цвяток хавалі, што жадалася, збылося, — ўсё ўсплыве ў душы і збудзіць мілых згадак доўгі рой. Ў думцы зноў вы пражывеце беззваротныя часіны, і для вас каштоўным стане гэты высахшы цвяток*».

Мы стварылі тайны саюз, які ратаваў нас ад наплыву шэрых дзён. У мяне было такое адчуванне, што нехта з нас носіць на нябачным ланцужку залаты ключ ад шчасця і вечнага жыцця. Прыйдзе момант — і можна будзе адчыніць брамку і ўвайсці ў зачараванае царства. Часам мне нават здавалася, што ключом валодаю я. Цяпер ужо зразумеў: памыляўся. Усё адно — мне хацелася б вярнуцца ў той час...

Я пытаўся ў сябе, што сказалі б нам іншыя, каб даведаліся пра нашу таямніцу, — бацькі, настаўнікі? Усё ж я належаў да тых натураў, якім падпарадкаванне грамадскім законам і маралі дае супакой.

— Калі сустракаемся?

— Заўтра!

Мы сядзелі на сваіх месцах у напружаным чаканні — як у тэатры. Сабраліся ўсе, не хапала толькі Ціхамірава. Я не сумняваўся: ён прамяняў нас на іспанскую п’есу. Чакаць не мела сэнсу.

— Аднаго чалавека перастала ўжо цікавіць ваша задума, — адзначыў А. — Нельга шукаць тое, што не існуе. Ніякіх загадак у літаратуры няма. А ў жыцці здараецца featurescзнае — вось і ўся мудрасць. Наступны раз...

— Ты хочаш сказаць, што мы недалічымся яшчэ аднной асобы? І гэтай асобай будзеш ты? — перабіў яго Вася. — Ніхто не цябе тут трымае!

У гэты момант ён грэбаваў А. да такой ступені, што гатовы быў біць яго нагамі. А. адчуў гэта і злосна накінуўся на Васю.

— А ты толькі робіш выгляд, што цябе цікавіць літаратура. Табе галоўнае — схавацца ад бацькоў і настаўнікаў, каб брыдкасловіць і разглядаць непрыстойныя карткі. Цябе пакінуць на другі год абавязкова! Іспыты ты не здасі ніколі!

— Ты што — Настрадамус? Ці ты думаеш, што я буду з табой біцца?

Вася, здаецца, супакоіўся, але было зразумела, што ненадоўга.

— Ты сапраўды лічыш, што ў літаратуры няма загадак? — адно гэта з усяго сказанага здзівіла Максіма. — Памылковае ўяўленне. Вакол нас столькі ўсяго неспазнанага, да чаго ты проста ніколі не дакранаўся. Кожны з нас — загадка.

— Якую не варта разгадваць! Навошта выцягваць на свет Божы ўсё незразумелае, забароненае — цёмныя пачуцці і жаданні? З гэтым трэба змагацца, — А. загаварыў як па-пісанаму. — Нясцерпна цяжка стала нам жыць. Дзе спакой? Дзе былая радасць? Усе ходзяць панурыя, усе чакаюць новых бед і жахаў, і не бачна канца ім. Каго мы бачым і чуем? Аб чым штодзённа чытаем у газетах? Толькі і ёсць: беспарадкі, забастоўкі, рабаўніцтва, забойствы, падпалы, адкрытае непадпарадкаванне ўладам. Гімназісты і студэнты не жадаюць вучыцца, рабочыя — працаваць. Усе прад'яўляюць свае патрабаванні, указваюць на свае правы і нічога не хочуць чуць пра абавязкі. А варта помніць, што Расія перш за ўсё для рускіх. І ўсім рускім людзям без адроз-

нення саслоўяў трэба з’яднацца ў трывалы непарыўны Саюз за Веру, Цара і Айчыну. Гэта будзе Саюз міру і любові.

— Толькі для рускіх?! А ты ведаеш, колькі народаў насяляе імперыю?

— Гэтыя народы — толькі матэрыял, з якога, можа быць, калі-небудзь нешта і атрымаецца.

«Штосьці знаёмае, — падумаў я. — Зусім нядаўна я чуў гэтае слова «матэрыял» у адносінах да цэлых народаў. Дзе ж гэта было? Хто мог такое сказаць? Што за мода? Ці прыкметы блізкага павароту гісторыі, рэзкай змены напрамку развіцця грамадства». Я ведаў, што паваротныя моманты ў гісторыі ўзнікаюць у сувязі з сацыяльнымі і палітычнымі канфліктамі — вайной, рэвалюцыяй альбо правядзеннем радыкальных рэформ. Для такіх момантаў характэрна вялікая хуткасць пераўтварэнняў, імклівыя змены. Што ж нас чакае? Небяспека была побач. Тут я ўзгадаў — гэта бацька Ціхамірава казаў падчас вячэры: «Беларусы і маларосы — той матэрыял, з якога можна зрабіць рускіх, калі вельмі пастарацца». Вось у чым справа — гэта ўсё адна кампанія. Я ўзрадаваўся сваёй здольнасці разважаць лагічна. А між тым паваротныя моманты наспявалі не толькі на гістарычнай арэне. Паміж жыццём, якім жывеш, і жыццём, якое прадчуваеш, існуе нябачная мяжа.

* * *

— Мне вельмі шкада, што ты змарнаваў столькі часу на гэта, гэта... — бацька Ціхамірава ніяк не мог падабраць прыстойнага слова для вызначэння намераў сына. — Я не думаў, што ты зойдзеш так далёка ў сваіх,

у сваім... Ты не шкадуеш ні мяне, ні маці, ні самога сябе! Якая сцэна?! Ніхто з нашай сям'і ніколі не браў удзелу ў клаўнадах!

— Але я — наступнае пакаленне, новае, можа быць, мне наканавана тое, аб чым ніхто з вас не падазраваў! — бараніўся сын. — Я веру ў гэта.

Ён тут жа адчуў хватку ледзяных пальцаў.

— Табе наканавана Аляксандраўская вайсковая вучэльня! Гэта дакладна! — прыцягнуў яго да сябе бацька. — І калі раней у мяне яшчэ былі сумненні, то цяпер іх няма. Будзеш служыць Айчыне!

— Навошта ты так кажаш? — ледзь не плакаў Ціхампіраў.

— Я ведаю, што кажу! Я ніколі не ўбачу майго сына на сцэне! Чуеш? Ніколі! Сорамна мне... І сорамна ў першую чаргу за тое, што ты ганьбіш усю нашу сям'ю. Ты заўтра пойдзеш і скажаш, што адмаўляешся ад удзелу ў спектаклі!

— Чаму?

— Я што, недастаткова табе тлумачыў? — раз'юшыўся бацька.

— Не! Я не магу так зрабіць! — закрычаў Ціхаміраў.

Рэшткі спадзявання патанулі ў гэтым роспачным крыку.

— Заўтра ты скончыш гэтую камедыю! — нечакана роўным голасам сказаў бацька, пры гэтым моцна адштурхнуўшы ад сябе сына.

Ціхаміраў адляцеў на канапу. Бацька, не прамовіўшы болей ні слова, пакінуў пакой. Цяпер можна было не хаваць слёз. Не мела сэнсу. Ніхто не ўбачыць. Бацька распланаваў яго жыццё да самага канца. А сын не мае свабоды выбару. Цяпер нічога не мела сэнсу. Нічога. Ніякага. А які мог быць сэнс?! Што застаецца? Ён падумаў пра маці, якая, хутчэй за ўсё, таксама плача

недзе там, у далёкіх пакоях. Але і яна не здольная дапамагчы, не будзе нават спрабаваць. Ён уявіў пах матчынай парфумы.

— Камедыя скончыцца ўжо сёння! — слёз не было.

* * *

Небяспека страты нацыянальнай самастойнасці ўзнікае ў крытычныя моманты гісторыі. Культура становіцца своеасаблівым цэнтрам цяжару, які супрацьстаіць згубе. Нацыя захоўвае сябе праз культуру.

— Ты нагадваеш мне зараз ведаеш каго? — з цяжкасцю стрымліваючыся, спытаў Максім у А. З яго твару знікла звычайная лёгкая ўсмешка.

Я падумаў, што калі яны раптам пачнуць біцца, то пячора можа абваліцца і пахаваць усіх разам. Бязглуздая смерць!

— Каго?

Напэўна, А. спадзяваўся пачуць, што падобны на ўплывовага палітычнага дзеяча.

— На ваўкалаку!

— Што?!

— Так. На ваўкалаку, які сноўдаецца па дарогах і шукае, каго б яму задраць і напіцца крыві. Ты, як і ён, бачыш толькі адно — пажыўнае рэчыва. Народ — гэта людзі. Кожны народ, як і кожны чалавек, мае права на самастойнае развіццё!

— Мы дамаўляліся не займацца палітыкай, — нагадаў я. — Наш аб’ект — літаратура. А Максім сёння збіраўся пазнаёміць нас з узорамі вершаў на беларускай мове. Таму яго так узрушылі словы пра «матэрыял». Давайце суцішымся і прыйдзем да згоды. Пэўна, кожнаму з нас будзе цікава пачуць тое, што ніколі не чулі. Прыслухацца да гукаў невядомай мовы. Ці не так?

— З цябе можа атрымацца добры адвакат, — сказаў Дзіядор.

— Хочацца верыць! Я буду паступаць у Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй.

— А пракурорам быць не хочаш? — пацікавіўся Вася.

— Не. Пакуль не хачу.

Лёгкая, ледзь прыкметная ўсмешка зноў з'явілася на твары Максіма.

— Я прачытаю вам беларускі санет, — сказаў ён.

Мы сцішыліся, прыслухоўваючыся да гукаў дзіўнай мовы.

Хведар Імшэнік згадваў: *«М. Б. ведаў беларускую мову не зусім добра, ён прасіў мяне растлумачыць тыя ці іншыя выразы, прасіў папраўляць яго мову, якая блішчэла значнай колькасцю русізмаў.*

*Мова М. Б. была дзіўная; відно было, што ён вывучаў яе тэарэтычна і іншае слова вымаўляў так, як яно пісалася. Калі француз пачуў бы, напрыклад, імя «Paul», так, як яно пішацца, яму гэта было б дзіўна і малазразумела, так і я дзівіўся выразам М. Б. і цяпер усё ўспамінаю, што яму зусім не даваліся «падвойныя літары» «дз», «дж». Слова «Адраджэнне» вельмі дзіўна вымаўляў М. Б. Але, нягледзячы на гэта, М. Б. не траціў інтарэсу да беларускай мовы і прасіў мяне па некалькі разоў паўтараць трудныя для яго выразы. Ён моцна ўслухоўваўся ў саму гучнасць слова, стараючыся спазнаць яго марфалогію».*

Можа, мова Максіма і была дзіўная, але параўноўваць нам не было з чым.

Максім чытаў зусім не вясновы санет.

Замёрзла ноччу шпаркая крыніца;
Твая пара, зімовая нуда!

Цяпер няма ўжо руху ні сляда,
І нават зверху слоем снег лажыцца.
Ды ўсё дармо, бо там, пад ім, струіцца
Магутная, жывучая вада.
Чакай! Яе йшчэ прыйдзе чарада!
Здалее хваляў хор на вольны свет прабіцца.

Прыклаў я гэты сімвал да сябе,
Схіліўшыся ў надсільнай барацьбе,
І разгадаў прыроды роднай словы.
Як — прамаўчу, бо кожны з вас — паэт.
Рассейце ж самі лёгкі змрок прамовы,
Сваёй душы туды праліце свет!

Верш сваім дзіўным гучаннем нагадаў мне замову. Ён заварожваў.

— Мы бачым, што першыя восем строк санета скаваны між сабой ланцугом адзінакавых рыфм, знітаваны імі ў нешта цэльнае, звернуты ў нейкі паэтычны маналіт; а каб гэтая знітоўка была мацнейшай, каб пачатак верша не расслаіўся на два зусім незалежных куплеты, — канец першага з іх і пачатак другога маюць адзінакавыя рыфмы. Стаячыя ж далей ужо новыя рыфмы павінны зрабіць глыбокую трэшчыну паміж гэтым кавалкам і ўсім астатнім. Значыцца, санетная форма распадаецца на дзве асобныя часці, што вымагае і ад зместу кожнай іх як скончанасці, так і незалежнасці. (...) Такім парадкам, пэўна напісаны санет, быццам арэх-спарыш, павінен хаваць пад адной скарлупой два асобныя, хоць і шчыльна сціснутыя між сабою ядры. Углыбляючы сваё значэнне, гэтая будоўля верша адціснула ўласную пячаць і на характары зместу кожнай з дзвюх яго часцей. Паводлуг гэтага ў першых васьмі строчках развіваецца тэма санету, а ў астатнім —

заключэнне да яе; ставіцца пытанне і даецца адказ; малюецца абразок і выкладаецца паясненне да яго. А каб пабольшылася свежасць вытваранага такім парадкам санета, трэба, каб ні адна нітка з яго тканіны, ні адна цагліна з яго гмаху, ці прасцей кажучы, ні адно слова з яго не ўжывалася болей разу. Толькі пасля здавальнення ўсіх гэтых вымог здолее з'явіцца тая высокая краса, пры каторай, як кажа класічны верш Буало, «un sonnet sans défaut vaut seul un long poème» («пэўна напісаны санет варт цэлай паэмы»).

А. зрэагаваў імгненна.

— Ведаеш, што я скажу табе пасля ўсяго? — звузіўшы вочы, загаварыў А. — На ваўкалаку не я падобны, а ты! Ваўкалакі не хочуць паміраць, яны прагнуць несмяротнасці! Усе паэты і пісьменнікі робяць тое самае... Яны пішуць, каб не памерці.

— Як гэта?

— Яны працягваюць жыць за кошт сваіх твораў. Раманы чытаюцца, вершы вучацца на памяць. А чаму, скажыце вы мне, я абавязаны забіваць сваю галаву чужымі думкамі, словамі і пачуццямі? А калі я не хачу? Усё роўна мушу! Не вывучыш верш — атрымаеш дрэнную адзнаку, атрымаеш дрэнную адзнаку — пачнеш не паспяваць, пасля застанешся на другі год. Урэшце застанешся без належнай адукацыі і не зробіш кар'еры! А мёртвыя класікі задаволены. Яны глядзяць на нас са сцен аўдыторый, са старонак хрэстаматый... Ды зазірніце ў гэтыя вочы, там напісана толькі адно... Яны працягваюць сваё існаванне за наш кошт! Яны п'юць нашу кроў! І ты хочаш далучыцца да іх, — усё сваё абурэнне А. скіраваў на Максіма. — Ты ўпэўнены, што абраў слушны шлях? Беларуская літаратура не мае сваіх класікаў, і табе будзе лёгка патрапіць у лік несмяротных? Ты думаеш так? Толькі не спадзявайся,

што бедныя дзеці будуць вывучваць перад сном тваe санеты. Бо беларуская мова ніколі не будзе выкладацца ў школе, а тваe санеты не пераЖывуць цябе. Але ж усё адно — пісьменнікі падобны на ваўкалакаў, а чытачы — іх ахвяры!

Вацлаў Ластоўскі згадваў: «*М. Багдановіч верыў у інтэлект. Ён з запалам мроіў, каб з беларускай інтэлігенцыі ўзгадаваць запраўднага генія слова, які б паказаў свайму народу не толькі красу роднай мовы, але даў бы творы з агульналюдскімі каштоўнасцямі, каб веданне творчасці нашага генія было абавязковым для кожнага культурнага чалавека ўсяго свету. Інтэлігенцыя з народу і сама ў сабе народная, каторая будзе ў сябе ў сям'і гаварыць роднай мовай, будзе вучыць дзяцей дома спярша ў роднай мове, раней чым пасляць іх у чужую школу, — навучыць народ адносіцца з пашанай да яго пагарджанай усімі мовы; геніі ж слова павінны ўвекавечыць нашае нацыянальнае імя і паставіць яго нараўне са ўсімі іншымі культурнымі народамі свету.*

*Пераходзячы да тагачаснай беларускай пісьменнасці, М. Багдановіч казаў, што, не глядзя на ўсю яе беднасць, яна мае ў сабе зародкі новых дум, новых каштоўнасцяў.*

*Край беларускі лясісты і балоцісты. Вось нам і трэба стварыць паэзію лесу, паэзію дрыгвы. Украінская стыхія — стэп, у нас наша стыхія — лес і балота. Тут ёсць свая адменная краса, адменная рытміка, адменны чар. Трэба іх падгледзець, знайсці і вынесці на шырокі свет...*

*Ён цяпер яшчэ пэўней глядзеў у будучыню. Між іншым прывёз з сабой праект ацэны літаратурных твораў, прыдуманы ім у часе адпачынку. Ён шукаў матэматычна правільнага і вернага спосабу ацэны гэ-*

*тых твораў і прыйшоў да вываду, што такі спосаб можна знайсці, калі разлажыць твор на паасобныя абразы, звароты і словы. Адны абразы і звароты будуць належаць да катэгорыі збітых, выцертых ад доўгага ўжытку, як ходзячая разменная манета, другія будуць саўсім арыгінальнымі, не ўзятымі скульсьці, не запазычаныя ад другіх, а створаныя самім пісьменнікам; гэтая арыгінальнасць і становіць самае каштоўнае ў творчасці аўтара. Раўняючы творчасць двох аўтараў, трэба падлічыць суму створаных абразоў, зваротаў і думак, кожнага ў аддзельнасці, — і цыфравая розніца пакажа стасунковую вышшасць або ніжшасць аднаго і другога аўтара.*

*Пазней М. Багдановіч уносіў карэктывы да гэтых сваіх думак: ён вымагаў не толькі арыгінальнасці, але і апрацавання арыгінальнага, шліфоўкі, што выказаў у сваім «Апавяданні аб іконніку і залатару»...»*

У горад вярталіся па двое. Максім быў маўклівы, задуменны і зусім знясілены.

— Магло скончыцца і горш, — казаў я яму. — Ніхто ні з кім не пабіўся. Зразумей, што ёсць людзі, з якімі бессэнсоўна спрачацца. Усё адно нічога не давядзеш, толькі сам знервуешся. Такіх, як А., не пераробіш. Ён сёння нагаварыў табе шмат дрэннага, але ты павінен усвядоміць, што пачуеш яшчэ не такое, калі ўсур'ёз збіраешся займацца літаратурай. Тым болей беларускай.

— Я ўсё разумею, але лягчэй ад гэтага не робіцца... Усё роўна брыдка. Літаратура жыве па сваіх законах. Як складзецца лёс беларускай літаратуры, сапраўды невядома, але, прыглядаючыся да яе ўжо цяпер, *«можна лёгка прыкмеціць адно цікавае і карыснае з'явішча — яе аднакалёрны слой, што зліўся з сотняй пісьменнікаў, наследнікаў Багушэвіча, найчасцей знікаўшых*

*пасля аднаго ці двух твораў; гэты слой стаў патроху дзе-нідзе сцясняцца, у ім з'явілася колькі ядзер, сабраўшых у сябе ўсю яго яркасць, з кожным годам усё болей узрастаючых і ў сваім развіцці прымаючых больш-менш асабістыя колеры.*

*Значэнне гэтага руху вельмі важнае, бо толькі пры ім літаратура мае змогу не таптацца на адным месцы, а расці ўшыр і ўглыб. Не трудна зразумець, чаму гэта так. Усякі выясніўшыйся, абасобніўшыйся пісьменнік хоць бы праз аднаго стаіць на крок уперадзе пісьменнікаў-аднаднёвак, вабіць іх сваёй яркасцю, як аганёк матылькоў, і, прывабіўшы, гуртуе вакол сябе, творыць літаратурны кірунак. Так, у руху развіцця пісьменнасці адкладаюцца новыя наслаенні — пад колер тых глыб, што яркімі плямамі ўрэзаліся ў іх».*

— А ты сам хто — «глыба» ці «слой»?

— Час пакажа. Але тое, што людзі пішуць дзеля пасмяротнай славы — лухта. Жыццё толькі частка нашага вечнага шляху.

Белая поўня ўзышла над ракой. Срэбнае святло перанесла нас у свет забытых сноў. Далёкія гудкі зрэдку парушалі цішыню. Але і яны былі зусім нерэальныя, гучалі трывожна і папераджальна. Небяспека была побач. Толькі поўня была белая, а ўсё астатняе — чорнае. Рака, трава і дрэвы з чорным лісцем, як у пякельным лесе з паэмы Дантэ. Нашы цені выразна адбіваліся на зямлі. Я наступіў на цень Максіма і паспешліва адскочыў.

Ён заўважыў гэта і засмяяўся.

— Ты як першабытны чалавек.

— У кожным з нас дастаткова першабытнага. Страх без прычыны, трывога без прычыны. Без знешняй прычыны.

Я міжволі выдаваў свой унутраны стан.

— Часам прадчуванні ратуюць людзей. І мне здаецца, што ў вялікіх творах мастацтва ёсць элементы прароцтва. Лепшыя кнігі адлюстроўваюць жыццё не ў нерухомым, скамянелым выглядзе, а ў кругазвароце змен — нараджэнне, развіццё і знікненне дзеля новага нараджэння. І такія творы існуюць па сваіх законах. Ты, напрыклад, ведаеш рымскую легенду, якая тлумачыць, чаму паміж збожжам узраслі васількі?

— Не.

— Самому такое цяжка прыдумаць. Кветкі падобныя на вершы ці, дакладней, на песні. Няма падзеі сумнай ці вясёлай, дзе б іх не было. Яны сустракаюць чалавека пры нараджэнні і праводзяць у апошні шлях. Імі ўпрыгожваюць вяселлі і аздабляюць магілы. Васілёк — краса палёў. Цябе здзівіла тое, што існуе рымская легенда аб васільках? Але ж пра васількі, як і пра іншыя кветкі, ёсць шмат паданняў.

— А чаму ты спытаў у мяне менавіта пра рымскую?

— Таму што хачу распавесці яе табе. А калі б ты яе ведаў, то які сэнс?

Ён, як заўсёды, меў рацыю, а мне заставалася адно — слухаць.

— Багіня жніва і ўрадлівасці Цэрэра гуляла аднойчы па хлебных палях і цешылася з той удзячнасці, якую мела ад усяго чалавецтва. Раптам з гушчы каласоў дайшоў да яе жалобны голас васількоў: «О Цэрэра, навошта ты загадала вырасці нам сярод збожжа? Сын зямлі зверне ўвагу толькі на той спажытак, які прынясуць яму твае шыкоўныя каласы, і нават не кіне на нас добрага позірку! Дай жа нам такую вяршаліну, як у паніклых ад цяжару хлебных каласоў, альбо дазволь расці дзе-небудзь асобна, каб маглі пазбавіцца мы ад пагардлівых поглядаў людзей». На гэта багіня адказала сваім улюбёным кветкам: «Не, мілыя мае

дзеці, не для таго я змясціла вас сярод шумлівых каласоў, каб вы прыносілі нейкую карысць чалавецтву. Не, вашае прызначэнне вышэйшае, чым тое, што вы можаце ўявіць і якое ўяўляюць людзі: вы мусіце быць пастарамі сярод вялікага народу — каласоў. Таму вам і не належыць, падобна ім, шумець і хіліцца цяжкою галавою да зямлі. Наадварот, вы павінны вольна і вясёла квітнець і глядзець, як чысты вобраз ціхай радасці і цвёрдай веры, угару, на вечна-сіняе неба, дзе жыве бажаство. З гэтай прычыны дадзена вам блакітнае, колеру нябёсаў, пастырскае адзенне, каб адзначыць вас як служкаў неба, пасланых на зямлю прапаведаваць людзям веру, а багам — вернасць. Майце толькі цярплівасць, прыйдзе дзень жніва, калі ўсе гэтыя каласы ўпадуць пад рукою жнеяў. Тады вы, якія цяпер выглядаеце закінутымі і самотнымі, звернеце на сябе ўсеагульную ўвагу. Жнеі будуць шукаць і рваць вас, зьіваць з вас вянкі і ўпрыгожваць імі свае галовы альбо зробяць з вас букецікі і прышпіляць сабе на грудзі». Словы гэтыя супакоілі пакрыўджаных васількоў. Удзячныя, яны змоўклі і радаваліся свайму высокаму прызначэнню.

Пасля ў мяне была магчымасць прачытаць «Апокрыф» Максіма Багдановіча і параўнаць з рымскай легендай. Там ужо было інакш: «Ад Максіма Кніжніка пачатак... І калі скончылася сем тысяч год ад стварэння свету, Хрыстос ізноў зышоў на зямлю і хадзіў па ёй, каб споўнілася тое, аб чым сведчылі прарокі. І хадзіў Ён па ўсім Забраным Краі, і па Занёманшчыне, і па Задзвіншчыне, і па Бярэзінскай зямлі. І разам з ім святы Пётра і святы Юр'я. Але ніхто з людзей не пазнаваў Яго. Бо ішлі яны босымі нагамі з непакрытымі галовамі і былі адзетыя ў белы кужаль ды суконныя світкі, а не таго спадзяваліся людзі. Таму ніхто не ўзяў увагі на іх, калі

ў часе жніва праходзілі яны між працуючых людзей. Толькі Музыка, катораму цяпер не было чаго рабіць, падышоў да іх і сказаў: сорамна мне, бо сёння дзень працы і ўсе клапоцяцца каля зямлі; адзін я нікчэмны чалавек. І сказаў яму Хрыстос: не смуціся ў сэрцы сваім. Ці ж не твае песні спяваюць яны цяпер, у часе жніва! Таму не схіляй нізка галавы твае, не хавай аблічча ад вачэй людскіх. Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты — лішні на зямлі. Запраўды кажу я табе: надыдзе яму часіна горычы — і чым ён разважыць тугу сваю, апроч песні твае? Як у дзень смутку, таксама ў дзень радасці ён прызаве цябе. І адказаў яму Хрыстос: няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць той спажытак дзеля душы. І навучаючы іх, мовіў: агляніцеся навокал! Ці ж не ніва калыхаецца каля нас? Цяжка каля яе працаваў гаспадар і вось бачыць — паміж збожжа ўзраслі васількі. І сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі, бо паўнаважкія каласы маглі ўзрасці тут заміж васількоў. Але яшчэ з маленства красата іх прыйшлася мне да душы. І таму я не вырву з каранём іх і не выпляню, як усякае благое зелле. Няхай растуць і радуюць, як у маленстве, сэрца маё. Так казаў сабе гаспадар у сэрцы сваім! І не падняў ён рукі на васількі. Я ж і кажу вам: добра быць коласам, але шчасліў той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?»

## *Глава 20. «Магілы, сцень і прах»*

> Напэўна, сапраўды, усё, што адбылося, — на маю карысць, і быць не можа таго, каб мы правільна разумелі справу, кажучы, што смерць ёсць зло.
>
> Сакрат

— Ты не чуў нічога?

Я спаў так моцна, што нават сноў не бачыў. Мне было цяжка зразумець, дзе я і чаго ад мяне хочуць.

Маці будзіла мяне, а я ніяк не мог прачнуцца.

— Што?!

Глухая ноч, а ў маім пакоі святло ад поўні. Маці ўзрушаная.

— Выбух!

Я прыслухаўся. Але што я мог пачуць? Хіба рэха выбуху.

— Дзе? У нас?

— Недзе зусім блізка.

Маці хацела расчыніць акно, але я, ужо канчаткова прачнуўшыся, не дазволіў ёй зрабіць гэтага. Яе трывога передалася мне. За акном толькі прывіднае святло сумнай поўні.

— Ці мала што магло здарыцца...

* * *

Вестка аб смерці Ціхамірава была для нас нечаканасцю. Заняткі ў гімназіі адмянілі — жалоба. Было прызначана расследаванне абставін, якія папярэднічалі факту гібелі. Асаблівыя падазрэнні былі выкліканы тым, што самазабойства было здзейснена пры дапамозе дынаміту.

«Засталіся толькі вушы», — данёсся да мяне абрывак фразы. Усеагульны вэрхал. Гімназісты адпраўлены па хатах. Да часу.

— Ён узарваў сябе! — ціха прамовіў Вася. — Гэта ўсё з-за бацькі. Ён давёў яго да самагубства.

— Навошта казаць так? — запярэчыў А. — Ніхто нікога не можа давесці.

Я быў у жаху. Верыў у несмяротную душу, але цяпер душа нашага сябра аддзялілася ад цела і апынулася... Дзе? Яна разлучылася з целам часова? Да Страшнага Суда, калі паўстануць усе памерлыя? І ён з'явіцца на Суд вось так — без галавы? Немагчыма ўявіць, дзе цяпер наш сябра. Ён там, адкуль няма звароту. Ён зразумеў, што жыццё — гэта цяжар, які трэба скінуць. І цень яго знік у святле белай поўні. Цела, калі паміpae, губляе пачуцці і разбураецца; а душа самагубцы пазбаўляецца духоўнага святла і радасці, застаецца ў цемры, жалобе і пакутах. А можа, гэта не самагубства?

— А чаму ўсе кажуць, што ён забіў сам сябе?

Ніхто не зразумеў мяне.

— У якім сэнсе?!

Ад хвалявання мне было цяжка гаварыць.

— Я толькі падумаў... Я хацеў сказаць, што, можа, ён зусім не збіраўся забіваць сябе...

— А яго забілі?

— Зусім не так! Смерць магла быць выпадковай!

— Бог усё бачыць! — сказаў А.

— Можа, ён майстраваў бомбу? — Вася спасцігнуў ход маіх думак. — Ён хацеў выказаць свой пратэст...

— Якім чынам?

— Як ты цяпер даведаешся?

— Але мы павінны зразумець, што адбылося.

— У першую чаргу вы павінны ўсвядоміць сваю віну, — тон у А. быў пракурорскі.

— Як?!

— Так. Начныя сходкі, адрыў ад рэальнасці, захапленне літаратурай. Пад уздзеяннем такіх размоў і настрояў ён паставіў мастацтва вышэй за сваё жыццё, дараванае Богам.

Хто ведае, магчыма, у нечым ён меў рацыю. Ці не былі мы падобныя да тых неразумных істот, якія бачылі толькі адбіткі святла і красы?

Узор прыгожы пекных зор
Гарыць у цемні небасхіла;
Вада балот, стаўкоў, азёр
Яго ў глыбі сваей адбіла.
І гімн спявае жабаў хор
Красе, каторую з’явіла
Гразь луж; напоўніць мгла прастор,
І ўстане з іх гарашчы міла
Узор.

І сонца дальш клянуць, што скрыла
Луж зоры днём. І чуе бор,
І чуе поле крэхат хілы,
Ды жаб не ўчуць вышэй ад гор,
Там, дзе чыясь рука зрабіла
Узор.

Звыклая ўпэўненасць пакінула нас. Мне хацелася заснуць моцна і нічога не ведаць, спаць, як я спаў, пакуль не пабудзіла мяне маці, калі пачула рэха выбуху. Мне было страшна. Я не мог змірыцца з рэальнасцю, бо меў абмежаваны досвед. Я зразумеў, што да апошняга дня ўсе мы бачылі толькі зменлівыя цені, якія падалі ў нашу свядомасць ад нечага вялікага і неспазнанага. Ці ішлі мы сваім шляхам, ці збочылі ў цемры, і д’ябал зацягнуў нас у пячору?

Мы зноў сабраліся разам, і зноў не хапала аднаго чалавека. Толькі на гэты раз мы ведалі прычыну яго адсутнасці — смерць.

Усе захоўвалі сур'ёзнасць.

— Магчыма, нам прыйдзецца даваць паказанні ў паліцыі, — сказаў я.

— Гэтага нам не пазбегнуць, — уздыхнуў Вася. — Нават калі не ў паліцыі, то ў гімназіі ад нас усё адно запатрабуюць тлумачэнняў. Можа здарыцца так, што абвінавацяць у сувязях з тэрарыстамі.

— Ці ў стварэнні самастойнай тэрарыстычнай суполкі, — дадаў я. — А мы ж нават не ведаем, адкуль у Ціхамірава быў дынаміт.

Я добра помніў нашу апошнюю размову — мы гаварылі выключна пра тэатр.

— Галоўнае своечасова прызнацца! — настойваў А.

— У стварэнні тэрарыстычнай арганізацыі?!

— Надварот: у тым, што мы яе не стваралі...

Вось тут мною авалодала незвычайная рашучасць:

— Ніколі ў жыцці! — заявіў я. — Мы ні ў чым не будзем прызнавацца. Нам будзе горш, калі мы ўсё раскажам. Мы здрадзім сабе і не здолеем жыць са здрадай у душах. Мы проста не будзем нармальнымі людзьмі.

Агледзеўся — мяне слухалі ўважліва.

— Мы павінны паклясціся, — казаў я далей, — што нікому не выдадзім не толькі тое, што было, але і свае думкі і спадзяванні, і нават няздзейсненыя задумы і спадзяванні.

— Так! Мы паклянёмся! — падтрымалі мяне.

Толькі А. маўчаў, знерухомеўшы ў задуменнай паставе. Але магчымасць быць абвінавачаным у дачыненні да тэрарыстычнай арганізацыі відавочна напалохала яго.

Клятву прызначылі на гэты ж вечар.

У водблісках сіняватага святла спіртоўкі пячора выглядала нязвыкла. Я міжволі згадаў пякельны агонь. Сіняе ззянне змяніла і твары сяброў: яны сталі дарослымі. І цені нашы на сценах пячоры былі нейкія не такія — усё роўна як не нашыя — чужыя. Злавесныя. І я адчуў: штосьці мінула.

Час прыйшоў. Мы ўтварылі кола, нашы рукі сышліся над пастаўленай на скрыню спіртоўкай. Словы клятвы былі сказаны.

Мы паабяцалі захоўваць маўчанне (не лічыце мяне здраднікам — я заставаўся верным клятве усё жыццё. Але і маё жыццё падыходзіць да свайго завяршэння. Усіх астатніх няма ўжо даўно).

* * *

Дырэктар гімназіі склікаў надзвычайнае паседжанне педагагічнага савета.

— Трагічная падзея, якая прымусіла мяне склікаць савет, — пачаў дырэктар, — глыбока закранае асноўныя прынцыпы, якімі мы кіраваліся пры рабоце з даверанымі нам маладымі людзьмі. Падзея гэтая ўнесла дысананс у жыццё нашай установы. Я не сумняваюся ні на хвіліну, што ўсе мы павінны служыць адной і той жа любімай намі справе — выхаванню...

Дырэктар гаварыў, і твар яго патроху пакрываўся чырвонымі плямамі. Выкладчыкі знерухомелі ў напружаным маўчанні.

Дырэктар працягваў:

— Мы скіроўваем усе нашы намаганні да таго, каб абараніць дaручаных нам дзяцей. І я не пабаюся гэтага слова! Менавіта дзяцей! Абараніць іх ад усемагчымых непажаданых вонкавых уплываў. І да пэўнага часу

ў нас гэта атрымоўвалася. Але ці магчыма зберагчы іх ад таго, што яны могуць чуць і бачыць у сценах самой гімназіі? Якія меры можна прыняць супраць гэтага? Як папярэдзіць магчымасць паўтору аналагічнага факта? Як зберагчы душы нашых навучэнцаў?

Айцец Іван перахрысціўся: «Госпадзі, памажы!»

Амаль усе члены педагагічнага савета і некаторыя з членаў бацькоўскага камітэта былі глыбока перакананыя ў тым, што вучэбныя заняткі ў гімназіі ні ў якім разе не могуць працягвацца без шкоды для вучняў. Усе выказаліся за спыненне заняткаў, пакуль не будуць высветлены абставіны, якія папярэднічалі самазабойству. Былі выказаны меркаванні, што група гімназістаў належыць да «партыі беспарадку». І гэтая версія патрабавала разгляду.

Выклікалі па аднаму. Але вынікі допытаў былі нулявыя.

Сябры распавядалі пра тэатральныя захапленні Ціхамірава, адзначалі яго залішнюю эмацыйнасць і нервовасць. Галоўнае пытанне было такім: адкуль у Ціхамірава дома быў дынаміт? Адказу ніхто з нас сапраўды не ведаў. Урэшце следства ў гімназіі было спынена па просьбе бацькоў Ціхамірава. Дакладней, па просьбе бацькі.

Пахаванне нашага сябра не ператварылася ў грамадзянскую акцыю. Жалобная працэсія не ператварылася ў дэманстрацыю. На Лявонцьеўскіх могілках з'явіўся новы мармуровы помнік.

Амур і сумны і прыгожы
Стаіць з павязкай на вачах
Ля склепу. Часам лёгкі пах
Сюды даносіцца ад рожы.

Паўсюль крыжы, вянкі… Чаго ж а
Тут, дзе магілы, сцень і прах,
Амур і сумны і прыгожы
Стаіць з павязкай на вачах?

І ціха думаў я: быць можа,
Любоў, палёгшы у трунах,
Перамагла і смерці жах!
Спачніце ж! Вечна на старожы
Амур і сумны і прыгожы.

Самае дзіўнае, што з гімназіі нікога не выключылі. Навучальны год скончыўся, іспыты прайшлі незаўважна. А на вакацыі ўсе раз’ехаліся. Бацькі імкнуліся адправіць нас далей. І летнія месяцы разгарнуліся новыя старонкі нашага жыцця. Максім паехаў у Крым. Ці мог ён тады падумаць, што едзе туды, дзе праз восем гадоў спыніцца яго зямное жыццё?

Адам Ягоравіч Багдановіч пісаў: «*Напружаныя заняткі беларускай літаратурай і рэвалюцыяй (хаця апошняе было дзіцячай забаўкай) і чытанне для самаадукацыі не прайшлі бяследна для Максіма. Увесну 1909 года (калі я не памыляюся) у яго ў лёгкіх пачаў развівацца туберкулёзны працэс. Тэмпература павышалася, кашаль, кроў з горла.*

*Доктар Брэнт, які лячыў яго, хрыпаў у лёгкіх не чуў, аналіз не даў станоўчых вынікаў, але знешнія злавесныя сімптомы былі ў наяўнасці. Па парадзе дактароў я павёз яго ў Ялту і пасяліў у пансіён на малочнай ферме «Шалаш», места бліз Ауткі, месца на значнай вышыні, дастаткова спрыяльнае для сухотнікаў.*

*Ялцінскі доктар (прозвішча не памятаю) пацвердзіў, што туберкулёзны працэс у лёгкіх пачаўся, але ўсё яшчэ ў пачатковай форме: вылечыцца. Прапісаў лекі. З тым яго і пакінуў.*

*Жыццё ў пансіёне «Шалаш» было дастаткова вясёлае. Было шмат моладзі, у тым ліку маладая дзяўчына Кіціцына, містычна настроеная, з якой Максім тут упершыню пазнаёміўся і пасля з Яраслаўля падтрымліваў некаторы час ліставанне. Ён мне пасля некалькі разоў распавядаў пра яе і яе погляды... але цяпер я не помню.*

*Уладзіўшы ўсе практычныя пытанні (стол, бялізна і інш.), я раіў яму весці жыццё спакойнае, больш ляжаць у цяньку, нагульваць вагу, але, мяркуючы па яго лістах і аповедах, ён захапляўся агульным ходам жыцця ў пансіёне: хадзіў на шпацыры, асабліва ў так званую «леснічоўку» — лясную дачу ў гарах, пакрытых сасновым лесам; удзельнічаў у пікніках і наогул у забавах моладзі. Аднак знаходжанне ў Ялце значна яго аздаравіла: ні ялцінскі доктар, ні яраслаўскі не знайшлі нічога трывожнага ў лёгкіх, і выглядаў ён даволі добра».*

Верш «Цемень» Максім Багдановіч прысвяціў М. А. Кіц-най:

Я сяджу без агню. Я стаміўся, прамок.
Над зямлёю — імгла, у душы маёй змрок.
О, як пуста у ёй! О, як холадна жыць!
Але вось цераз цемень маланка блішчыць,
Асвячае мне вобраз Хрыста... яго крыж...
Ажываеш, здаецца, душою гарыш.
Але ж толькі чаму так малы гэты час?!
Зноў навокала цемнь. Свет зірнуў і пагас.
Не глядзіць на мяне ясны вобраз Хрыста.
Над зямлёю імгла, у душы пустата.

Шмат гадоў мяне мучыла пачуццё віны.

Я прачытаў шмат кніг, добрых кніг. Яны адчынілі перада мною цэлы свет, нявядомы, новы, цудоўны і велічны. Я зразумеў адно: Дабро і Зло — крыніца кругазвароту існавання. І няма нічога незвычайнага ў тым, што мы агульнымі намаганнямі шукалі красу, каб разгадаць яе таямніцу, а сутыкнуліся са смерцю.

Студзень–травень 1996 г.

# Змест

**Паліна Качаткова** (Сцепаненка) нарадзілася 26 лютага 1968 г. у Оршы. У дзяцінстве жыла ў Магілёве і Гомелі. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Падчас вучобы (1985–1990) удзельнічала ў дзейнасці нацыянальна арыентаваных моладзевых суполак. У 1990–1998 гг. працавала ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча ў Мінску. У жніўні 1998 г. перайшла на працу ў праваабарончы цэнтр «Вясна», да дзейнасці якога далучылася раней. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Адна з аўтарак дакументальных кніг «Трагедия на Немиге» (2000) і «Смяротнае пакаранне ў Беларусі» (2015). Аўтарка сцэнарыяў дакументальных фільмаў «Гастарбайтар» (2008), «Сыс пра Сыса» (2010), «Пустазелле» (2011), «Прычына смерці — прочырк» (2011), «Убыл по приговору» (2012), «Людвіка» (2013), «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання» (2013–2015). Друкавалася ў калектыўных зборніках «Перад маімі вачыма» (1990), «Жанчыны выходзяць з-пад кантролю» (2007) і «Пакахай мяне, калі ласка» (2009), а таксама «Матылі» (2012), «Зялёны сон» (2015, электронная кніга).

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Качаткова** Паліна

**Гняздо-2**

*Апаведы і аповесць*

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Вёрстка *Валерыя Шкляр, Яўгенія Багдановіч*
Дызайн *Яўгенія Багдановіч*
Карэктар *Алена Спрытніч, Лізавета Таран*

*На вокладцы карціна Сяргея Дзегцяронка «Гняздо-2»*
*Фота Андрэя Антонава*

Папісана ў друк 14.04.2016. Фармат 84×108/32.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. . Ул.-выд. арк. 11,35.
Наклад 300 ас. Замова 2602.

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Галіяфы».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных
выданняў № 1/48 ад 03.10.2013.
Пр. Партызанскі, 77А, 220107, Мінск.
E-mail: vish@bk.ru
www.halijafy.by

ТДА «НоваПрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных
выданняў № 2/54 ад 25.02.2014.
Вул. Геалагічная, 59, корп. 4, каб. 10, 220138, Мінск.